


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**7** (981)

*ЛІПЕНЬ*

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Алесь БАДАК

# КАМЯНІ

**1**

Я купіўся на тое, што там
Блізка лес і рака аж свіціцца.
І суседка — яшчэ маладзіца.
Ды такая — што выбраў бы сам.

Агарод. Бо які ж беларус
Без свайго, а хоць дзе, агарода.
Я купіўся — купіў яго.
Прадаў
Разам з хатай, вядома, і — плюс —

З тою самай празрыстай ракой,
З блізкім лесам,
Суседкай прыгожай
(Атрымалася, ясна, даражай);
Карацей, гэта прадаў мне той,

З кім не быў я знаёмы зусім.
— Не тутэйшы, — сказала суседка.
І жаночая болей разведка
Не сабрала нічога аб ім.

**2**

Што ж, займеў агарод — не стагні.
Я стараўся — да сёмага поту.

---

*__Бадак Аляксандр Мікалаевіч__ нарадзіўся 28 лютага 1966 года ў вёсцы Туркі Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1990). Працаваў у Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў Беларусі, у рэдакцыях часопісаў «Бярозка», «Полымя», «Маладосць». Цяпер — першы намеснік дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва»-галоўны рэдактар часопіса «Нёман».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Будзень» (1989), «За ценем самотнага сонца» (1995), «Маланкавы посах» (2004), кніг для дзяцей «Маленькі чалавек у вялікім свеце» (1995), «Верабей з рагаткай» (1999), «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» (2001) і інш.*

Але, як аказалася потым,
Лепш за ўсё там растуць камяні.

Камянямі зарос агарод,
Нібы зноў звар'яцела прырода.
Ну, а зрэшты — знайшлася нагода
Перакінуцца — хай цераз плот —

З той суседкаю словам-другім.
— Камяні, каб згарэла ўсё!
— Бачу! —
Засмяялася: — Што для вас дача?..
Нібы ў вочы патрапіў мне дым.

Праўда, я адмахнуўся спярша,
Як ад дыму, ад слоў яе жартам
(Якi тут паўтараць мне ці варта),
А пасля адказаў ёй:
— Душа!

— Вы купілі душу?
— Я купіў
Сам сябе ў прадпрымальнага часу,
Каб прыкметы вясковае расы
З ім дарэшты ў сабе не згубіў.

— Вы так любіце вёску?
— Люблю,
Але тую, што стала ўспамінам, —
Ён даўно па шчацэ сцёк слязінай.
З той хвіліны яго пазнаю

Па адным толькі паху — па тым,
Што паўсюль і з нічога ўзнікае, —
Гэта вёска за мною лятае,
Дзе б ні быў я на свеце і кім.

Выбраў месца ёй тут — як хацеў:
Блізка лес і рака аж свіціцца.
І суседзі ёсць. Побач сталіца, —
Каб магчымеў праведваць часцей.

Бы свае ў ёй шукаў карані —
Перакопваў лапатаю соткі.
І пасеяў — што сеялі продкі.
Дык чаму ж узышлі камяні?!

**3**

— Ці не лепш вам пра гэта спытаць
У вучоных, — сказала суседка. —
Хоць у вёсках убачыш іх рэдка,
Ды здалёку ўсё й так ім відаць.

Ну, а мы як жылі, так жывём,
І, як верылі, верым у тое,
Што зямлі сваёй кожнай вясною
Разам з семем сябе аддаём.

Без яе мы чужыя кругом,
І, для нас без яе ўсё чужое.
Мы настолькі зрадніліся з ёю,
Што даўно ў ёй сябе пазнаём.

Я кіўнуў:
— Не зямля ў вас, а рай!
А яна:
— Вось таму і адна я,
Бо з грахамі ў свой рай не пускаю,
А святых — хоць са свечкай шукай!

І стаяў я тады перад ёй,
Як на споведзі перад іконай.
Па зямных ці нябесных законах
Мне на сэрца сыходзіў спакой.

**4**

— …Што ж, пара ўжо збіраць камяні, —
Ці то ёй, ці сваім успамінам
Я сказаў перад тым, як пакінуць
Гэты храм без ніводнай сцяны,

І пачуў:
— А што толку збіраць,
Калі носіце іх вы на сэрцы,
Як свой боль, што віною завецца,
Як свой сум, што шкада праганяць…

**5**

Сярод ночы прыснілася мне
Тое ўсё, у чым днём спавядаўся.
І нібы да сябе я вяртаўся
Ад сябе. І наведаў у сне

Родны кут, дзе палын ды асот,
Але й гэтым да болю жывое,
Але й гэтым да слёз дарагое
І мілей за сталічны камфорт.

Я не бачыў яго ўжо даўно,
Бо купіўся на тое, што блізка
Не ад сэрца, мой Божа, — ад Мінска! —
Быццам сэрцу было ўсё адно.

І здалося, цяпер зразумеў
Я таго, хто мне збыў сваю дачу,
І, як ён, я жыццё перайначыць —
Як рукою махнуць — захацеў.

І махнуў: на пусты агарод
І на лес, на раку, што свіціцца.
Каля весніц махнуў маладзіцы.

**6**

Я ішоў. І са мною мой род.

Хто на гэтым быў свеце і тым —
Побач шумнай ішлі талакою.
І зліліся з людскою ракою
На вакзале.
І каса густым

Барытонам спытала: «Куды?»,
Не хаваючы ў голасе стому.
Я сказаў безуважна: «Дадому».
І білет атрымаў.
То сады,

То палеткі плылі за акном.
Мой вагонны сусед нелюдзімым
Мне падаўся. Адно ж *на радзіму*
Ён вяртаўся: як перад судом,

Тут было пра што думаць *здалёк*.
Рэдкіх фраз выпадковая роднасць.
Я з-пад Ляхавіч, ён — з-пад Гародні.
Кожны ехаў маўкліва ў свой бок.

Кожны вёз з сабой свой успамін.
За маўчаннем — і гэтак бывае! —
Не пачулі: цягнік прыбывае
На канечную станцыю — Мінск.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# СЕМ ГАДОЎ У ЦК[1]

*(раман-дзённік)*

## 1972

**1 студзеня.** Новы год сустракалі ў гасцях у Віктара Лапуця. Геолаг, адзін з адкрывальнікаў беларускай нафты на Палессі.

Атрымалі навагоднія віншаванні ад мамы і цешчы Веры Васільеўны, Віталіка, Іосіфа Скурко, Тадэвуша, ад Майсейчыка з Брэста, ад некаторых пісьменнікаў.

**2 студзеня.** Што прынясе 1972-гі? Дзіўная рэч, але пра будучыню я ніколі не думаў, жыў днём сённяшнім, які цалкам задавальняў мае маладыя, сціплыя жаданні. Сёння таксама нібы ўсё ідзе роўна. Але ёсць змены, мне здаецца, у грамадскай атмасферы. З'явілася паняцце «дысідэнт». Пачатак чагосьці новага адчуваецца. Магчыма, павінна пачацца новая «адліга». Ідэалагічны ціск быццам узмацняецца, але, нягледзячы ні на што, павевы чагосьці свежага відавочныя. У гэтых працэсах далёка не апошнюю ролю адыгрывае літаратура. Я бачу, як мяняецца яе паэтыка, асвойваюцца формы мастацкай умоўнасці, з'яўляецца шматпланавасць. 60-я гады адзначаны ростам пазнавальных магчымасцей літаратуры пафасам праўдзівасці. Гэты працэс чымсьці нагадваў змаганне з белымі плямамі, за паўнату мастацка-гістарычнага адлюстравання жыцця, што ў 70-я гады падхапіла ўжо новае пакаленне нашых маладых. Паглыбляецца сацыяльна-філасофская аснова літаратуры, пашыраецца паняцце сучаснасці, якое да гэтага часцей за ўсё разумелася, як толькі тое, што адбываецца сягоння, у гэтую мінуту. Сучасная беларуская літаратура — шырокая мастацкая панарама вобразаў і думак, глыбокіх пачуццяў і перажыванняў, у якіх знаходзіць выяўленне самасвядомасць савецкіх людзей — нашых сучаснікаў.

У Інстытуце літаратуры рыхтуецца да выдання васьмітомнік Кузьмы Чорнага, творчасць якога, у пісьменніцкім сэнсе, мае значную актуальнасць. Яна — сугучная часу.

У гэтым годзе будзе адзначацца 90-годдзе з дня нараджэння Купалы і Коласа. Аднаму і другому запланаваны помнікі ў цэнтры Мінска.

**4 студзеня.** Студзень — году пачатак, а зіме сярэдзіна. З 25 снежня мінулага да 16 студзеня гэтага года — Каляды. Здаецца, так? Настроіўся на пазітыўны лад. Усё, што адбываецца, паспрабую ацэньваць у пазітыўным ключы.

**5 студзеня.** Нарада ў кіраўніцтве СП з павесткай дня: «Як змагацца з п'янствам». На жаль, такая праблема існуе, але існавала яна і раней. У 1914 годзе

---

[1] Працяг. Пачатак у № 5, 6, 2011 г.

ў Расіі на перыяд вайны продаж спіртных напояў быў забаронены. Але ж недзе даставалі. Гналі самагон, рабілі бражку. Распуцін піў сваю любімую мадэру. Шмат пілі пасля Вялікай Айчыннай вайны, даганяючы ўпушчанае. Мне здаецца, гэта тады прыдумалі кактэль пад назвай «ёрш». Незабыўны Мікола Засім заходзіў у летняе кафэ на бульвары Міцкевіча (так званы «Голубой Дунай») і прасіў:

— Дзяўчына, налі мне, калі ласка, шклянку піва і куфаль гарэлкі!

— Што? Можа наадварот?

— Рабі, як чула. Сёння я напісаў моцны верш.

За прылаўкам, побач з прадаўшчыцай стаяла драўляная бочка з півам і жалезная — з гарэлкай, і дзяўчына рабіла, «як чула», у шклянку налівала піва, а ў куфаль — чарпаком — гарэлку. Мікола расплачваўся і выліваў піва ў куфаль з гарэлкай. «Ёрш» вяртаў паэту натхненне.

Сёння таксама дэфіцыт натхнення ліквідуюць моцнымі напоямі. Лідзіруюць паэты — Антон Бялевіч, Анатоль Астрэйка, Анатоль Вялюгін, Пятро Прыходзіка, Рыгор Няхай. Папулярнае моцнае віно — «чарніла». Барыс Іванавіч Сачанка расказвае, што Піліп Пестрак п’е перад люстрам. «Ну, будзь здароў, Піліпе!» — кажа свайму адлюстраванню, чокаецца з ім чаркай і выпівае. І з таго, залюстранога, боку чалавек робіць тое самае — чокаецца і п’е. Адзін другому кажуць: «З добрым чалавекам прыемна выпіць!» Прыемна!

Немалую даніну Бахусу сплачвае Сцяпан Гаўрусёў. Неяк, яшчэ раней, быў у яго ў гасцях, ён жыве ў Зялёным Лузе. Адну бутэльку «Вермуту» распілі, а другую, сардэчны, пакінуў на раніцу — апахмяляцца. Бо вельмі, прызнаўся, даймае смага, а вінныя аддзелы з раніцы зачыненыя.

Разумею, што расказваць плёткі (нават калі яны праўдзівыя) пра паважаных людзей — занятак рабоў, але часам неяк не атрымліваецца ўстрымацца.

**7 студзеня.** У лімаўскую дыскусію пра крытыку ўмяшаўся К. Крапіва. Цяпер чамусьці ўсе думаюць, што ўсё залежыць ад крытыкі. Перад К. Крапівой выступалі І. Мележ, Э. Гурэвіч, Дз. Бугаёў і інш.

Узор цвярозага мыслення для мяне Чэхаў. Дык вось як разважаў ён наконт літаратурнай крытыкі, гаворачы пра сучасных яму прадстаўнікоў гэтага роду дзейнасці:

«Скабичевский и К$^0$ — это мученики, взявшие на себя добровольно подвиг ходить по улицам и кричать: «Сапожник Иванов шьёт сапоги дурно!» и «Столяр Семенов делает столы хорошо!» Кому это нужно? Сапоги и столы от этого не станут лучше. Вообще труд этих господ, живущих паразитарно около чужого труда и в зависимости от него, представляются мне сплошным недоразумением. Что же касается того, что Вас обругали, то это ничего. Чем раньше Вас обстреляют, тем лучше» (Чехов, Собр. соч., т. 11. М., 1956, стр. 513).

Ацэнкі, здараецца, бываюць знішчальныя. Нядаўна прачытаў, што вядомы сатырык і дэмакрат Салтыкоў-Шчадрын назваў «Анну Каренину» Л. Талстога «Коровьим романом».

Адчуваецца, што сённяшняя крытыка ў разгубленасці, што страчана выразнасць крытэрыяў.

Вядома, ёсць у нас і сервільная крытыка, але дзе, скажыце, яе няма?

**11 студзеня.** У Саюзе пісьменнікаў сустрэў І. Чыгрынава. Хваліўся, што спрабаваў іграць з Аркадзем Аляксандравічам у шахматы, але прайграў недзе на сярэдзіне. Працягваць было бессэнсоўна, здаўся. Я параіў яму праштудзіраваць шахматныя партыі М. Батвінніка, асабліва яго гульню ў mittelshpili. Магчыма, тады ён адолее земляка.

**17 студзеня.** Адзначалі 80-годдзе Рыгора Шырмы. Вядомы фалькларыст, харавы дырыжор, грамадскі дзеяч. Для мяне Шырма — легенда міжваеннага дваццацігоддзя, легенда Заходняй Беларусі. У 1928—1937 гадах кіраваў Таварыствам беларускай школы (ТБШ). Рыгор Раманавіч — настаўнік рускага пісьменніка Гаўрылы Траепольскага. У бежанстве, у Варонежы.

**21 студзеня.** У «ЛіМе» артыкул А. Ліса пра Браніслава Тарашкевіча — да яго васьмідзесяцігоддзя — «Сейбіт і змагар». У 1918 годзе Б. Тарашкевіч распрацаваў і выдаў першую «Беларускую граматыку для школ», якая, на мой погляд, удала ўлічвала фоніку беларускай мовы.

Тарашкевіч — сімвал свайго часу і трагедыя беларускага лёсу.

**22 студзеня.** Прачытаў у «ЛіМе» заметку настаўніка з Маладзечаншчыны В. Міхасёнка пра верш М. Багдановіча «Зімой», дакладней нават пра два яго радкі:

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць...

Я, як і ўсе, лічыў, што мара — гэта нейкі прывід, здань, насланнё. Мара — імя пудзіла, якое спальваюць на вогнішчы ў ноч на Івана Купалу. В. Міхасёнак знайшоў — у гістарычным слоўніку, што мары ў старабеларускай мове маюць значэнні: смяротнае ложа, насілкі для нябожчыка. Семантыка — рэч плынная.

**24 студзеня.** Незадаволены «ЛіМам» Парватаў, курыць, пыхкае цыгарэтай і выгаворвае:

— Што гэта яны злоўжываюць вашымі выцінанкамі? Куды глядзіць Прокша?

Выцінанкі — гэта такія дасціпныя карункавыя выразкі з паперы, якія друкуе «ЛіМ». Чаму яны «нашы»? Парватаў знаходзіць «вопросы», як ён кажа, на роўным месцы, там, дзе іх няма.

Не, ацэньваць у пазітыўным ключы ўсё, што адбываецца, не атрымаецца.

**25 студзеня.** Збіраюся ў Маскву, дзе мае адбыцца пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, прысвечаны праблемам развіцця літаратурна-мастацкай крытыкі ў святле рашэнняў XXIV з’езда КПСС. Еду разам з Шамякіным і Макаёнкам.

Утварыўся, кажуць, «дэфіцыт крытыкі». Некаторыя крытыкі пераходзяць у іншыя жанры. Зменшылася актыўнасць і «баявітасць» крытычных выступленняў. Зрэшты, незадаволенасць крытыкай мела месца ва ўсе часы. Асабліва не любілі і не любяць яе пісьменнікі. Калі ў Аляксандра Дзюма папрасілі пяць франкаў на пахаванне вядомага крытыка, ён сказаў: «Атрымайце дзесяць — і пахавайце дваіх крытыкаў».

Крытык А. Тарасенкаў памёр рана. Пастарнак адрэагаваў: «Стаміўся ілгаць!»

У нашага Вялюгіна, я заўважыў, нейкая паталагічная злосць на крытыкаў (можа, што не пішуць пра яго?). М. Танк незадаволены Р. Бярозкіным, кажа: «Заблудзіўся ў трох соснах». Хто ж гэтыя тры сасны? Няўжо сярод іх няма Яўгена Іванавіча?

Партыя хоча, каб крытыка стала рычагом яе палітыкі ў галіне літаратуры і мастацтва.

**26 студзеня.** Пленум сабраўся ў ЦДЛ. З дакладам «Літаратурна-мастацкая крытыка і сучаснасць» выступіў мой даўні знаёмы, сакратар СП СССР В. М. Озераў. «Літаратурна-мастацкая крытыка, — канстатаваў ён, — не дастаткова актыўна ўдзельнічае ў фарміраванні новага чалавека. ...Атрымала распаўсюджванне «тэорыя» дэгераізацыі, прыхільнікі якой бачылі ў жыцці

пераважна цёмныя бакі і не заўважалі працоўных і ратных подзвігаў савецкіх людзей, значнасці іх духоўнага, маральнага вобліку».

Потым было абмеркаванне — «прения», як тут кажуць. Гаварылі — хто што. Мне прыгадалася, што сказаў калісьці пра крытыку У. Маякоўскі:

«Мы должны уметь соразмерять право на нашу критику с энтузиазмом и пафосом, который мы вкладываем в дело социалистического строительства. И если нет, то права на критику вы не получите. Это нужно иметь ввиду» (Полн. собр. соч., т. 12. М., 1959. С. 385—387).

**27 студзеня.** У другой палавіне дня хадзіў па Маскве. Зайшоў у Кніжную лаўку пісьменніка на Кузнецкім мосце, але нічога не купіў.

Завярнуў у «Детский мир». Вячаслаў Адамчык наказаў купіць вашчаных сшыткаў для сваіх сыноў-школьнікаў. Такія сшыткі — на ўсю краіну — ёсць толькі ў Маскве ў гэтым універмагу. Сшыткі купіў. Мы калісьці пісалі чарнілам з крушынавых ягад на газетных палях.

Ідучы па вуліцы Горкага, параўняўся з магутным, шматпавярховым домам, у якім жыў А. Фадзееў. Успомніў, як быў ужо раз на гэтым месцы, калі вяртаўся з Казахстана, з цаліны, у 1956 годзе глыбокай восенню. Мемарыяльная дошка вісела, а побач была «Рюмочная». Стаяла чарга. Можа, калі-нікалі і Аляксандр Аляксандравіч тут стаяў? Не, не стаяў — яму, я думаю, налівалі без чаргі. Тут не стаяў, а любіў, як расказваў калісьці Іван Гутараў (які быў тады сакратаром партыйнай арганізацыі СП), наведвацца ў падвал да знаёмага шаўца. Там яны выпівалі і вялі нетаропкія філасофскія размовы. Таму, хваліўся Гутараў, дзе шукаць А. А., калі раптам паклічуць у ЦК, ён ведаў.

Вярталіся з Масквы фірменным цягніком № 1. З білетамі пастаралася супрацоўніца Літфонду Валя Пашкевіч, наша беларуска. Дзякуй ёй.

Крыху выпівалі. Частаваў Макаёнак. Ён мае рахунак у маскоўскай ашчаднай касе. Хваліцца, што кінуў курыць і здаравей, лепш сябе адчувае, асабліва што тычыць жанчын.

**28 студзеня.** У газетах, а сёння і ў «ЛіМе», апублікавана пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». «Абавязак крытыкі, — паводле гэтай пастановы, — глыбока аналізаваць з'явы, тэндэнцыі і заканамернасці сучаснага мастацкага працэсу, усямерна садзейнічаць умацаванню ленінскіх прынцыпаў партыйнасці і народнасці, змагацца за высокі ідэйна-эстэтычны ўзровень савецкага мастацтва, паслядоўна выступаць супраць буржуазнай ідэалогіі» і інш. Ці не залішне вузка разумеюцца ў гэтай пастанове рамкі актуальнасці крытыкі? Крытыка — самасвядомасць літаратуры. Таямніца натхнення пісьменніка, таямніца яго творчага свету — вось што важна высветліць. Крытыка павінна бачыць у мастацкім тэксце, як таго патрабаваў М. Бахцін, складаную сістэму сувязей, рухомае і зменлівае адзінства, якое можна раскладаць на састаўныя часткі, разнімаць і аналізаваць, тлумачыць, але да дна вычарпаць немагчыма, таму што яго сутнасць — шматзначнасць.

Крытыка, у лепшых сваіх узорах, не хоча пастулацца творчым суверэнітэтам.

**29 студзеня.** Былі з Тамарай і Юзікам Скурко ў В. Лукшы. У яго новая жонка.

Купіў тэлевізар «Горизонт». Тамара любіць глядзець шматсерыйныя фільмы.

**1 лютага.** Споўнілася 60 гадоў Навуму Перкіну. Ездзіў (тралейбусам) у Інстытут літаратуры і павіншаваў юбіляра. Узнагародзілі Ганаровай граматай, хаця заслугоўвае большага. Выдатны літаратар, літаратуразнавец. За плячыма — вайна.

Даведаўся, што цяпер многія супрацоўнікі інстытута пачалі пісаць вершы, не ў маладым ужо ўзросце — М. Барсток, І. Ралько, В. Івашын... Да кніжак справа яшчэ не дайшла.

У мінулым месяцы споўнілася 50 гадоў маскоўскаму крытыку А. Аўчарэнку. Вельмі амбітны вучоны, лічыць сябе найбольшым спецыялістам па сацыялістычным рэалізме. Зрэдзь піша і выступае на нарадах па беларускай літаратуры. Навум Саламонавіч мне больш сімпатычны.

**5—6 лютага.** Ездзілі з Тамарай у Плешчаніцы. Цесць Іван Платонавіч жыве на Вароўскага, 13. Яшчэ не стары, падбіраецца да шасцідзесяці. Жыццё не песціла. За печчу на драўляным ложку грэе старыя косці бабуля Соф'я.

Вера Васільеўна (цешча) частавала блінамі і самагонкай. Ён і яна — удзельнікі партызанскага руху ў сваім краі, шмат перажылі.

Я сказаў цесцю, пра што даведаўся нядаўна, чытаючы гістарычныя летапісы (рыхтуе В. Чамярыцкі), што ў 1127 годзе, падчас Полацка-Кіеўскай вайны, сын кіеўскага князя Ізяслаў узяў штурмам Лагойск. Іван Платонавіч дзівіцца, не верыць.

Вярнуліся з Плешчаніц аўтобусам, добра стомленыя. Цяжка дастаць білет.

Каля дарогі на Плешчаніцы — мемарыял «Хатынь».

**8 лютага.** Праводзім сустрэчы пісьменнікаў з рабочымі, калгаснікамі. Такая ўстаноўка дадзена Кулакоўскаму — сакратару партарганізацыі Саюза пісьменнікаў.

Піліп Пестрак наведаўся ў калгас імя Гастэлы пад Мінскам. «Я быў у вялікім захапленні, — сказаў ён пра свае ўражанні. — Чытаў свае лепшыя вершы аб прыродзе». Піліп Сямёнавіч вельмі абазнаны ў гэтым пытанні. «Маці-прырода, — лічыць ён (надрукавана ў «ЛіМе»), — гэта адкрытая лірыка, і яна патрабуе душэўнай цеплыні паэта, памяркоўнага музычнага голасу, выключаючы ўсякія стукі і бразгаціну... Прыўнясенне мадэрна ў лірыку прыроды, мне здаецца, не ідзе на карысць якасці верша».

Я, калі прачытаў гэтае яго «крэда», падумаў: «Рэвалюцыянер («капэзэбовец»), а форму любіць спакойную, і «мадэрна», «гвалту над формай» не церпіць. Выходзіць, што нейкі надта законапаслухмяны рэвалюцыянер». У гэтым, відаць, асаблівасць беларускага менталітэту.

**9 лютага.** Прачытаў артыкул Паруйра Севака ў «Литературной газете» пра паэзію. Назва артыкула: «Поэзия никогда не рождается из мелочей». Ёсць цікавыя думкі. Напрыклад: «пісаць свабодным вершам цяжэй, чым рыфмаваным». Каштоўная — думка аб паэтычнай непаэтычнасці, скіраваная на развіццё паэзіі, уяўлення пра яе, на наватарства.

Яшчэ раз падумаў пра назву — «Поэзия никогда не рождается из мелочей». Г. Ахматава даводзіла іншае: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи...» Дык хто з іх мае рацыю? Пытанне не простае, але на яго адказвае сама паэзія са сваімі неабмежаванымі магчымасцямі эстэтычнага пераўтварэння і сінтэзу рэчаіснасці з яе супярэчнасцямі і супрацьлегласцямі. Усё, урэшце, упіраецца ў талент...

**12 лютага.** Памёр Мікола Лупсякоў. На 53-м годзе жыцця (нар. у 1919-м). Празаік — пантэіст. Прырода, адчуванне якой моцна адбілася ў яго апавяданнях, была яго стыхіяй. Ён адчуваў яе нутром. Любіў знаходзіцца каля людзей. Сціплы і непатрабавальны ў побыце: «Летам кожны кусцік начаваць пусціць», — яго словы.

**15 лютага.** Пленум нашага СП па пытаннях крытыкі. З дакладам выступіў І. Мележ. У дакладзе ўсіх успомніў, нават мяне. За ім выступілі: П. Дзюбайла,

А. Кулакоўскі, І. Навуменка, А. Аўчарэнка, Р. Шкраба і інш. Мележ паважае крытыкаў, асабліва тых, хто пра яго піша.

**16 лютага.** Прыслаў ажно з Масквы «цялегу» нейкі Васілёнак. Абвінавачвае Васіля Барысенку ў нацыяналізме. Ужывае самыя завостраныя прыметнікі: «ярый», «крупный», «застарелый» і інш. Зусім відавочна, што паклёп. Дaручылі займацца гэтаю справаю мне.

**18 лютага.** Мастаку М. Савіцкаму — 50. Незвычайная біяграфія (палон у час вайны). Пра яго расказваў мне В. Шматаў. Знайшоў свой шлях, звярнуўшыся да «суровага» стылю з прыцэлам на маштабныя філасофскія абагульненні. Імкнецца казаць праўду, арыгінальны. Мае апанентаў і нават праціўнікаў.

**19 лютага.** Быў у лазні, у гарачай пары. Вяртаўся — дождж са снегам, слата. Зайшоў да «Пекера» і выпіў піва. Выпіўшы, губляўся ў здагадках — піва гэта ці проста якая-небудзь каламуць. Відаць, разбавілі вадой, перабраўшы меру.

**22 лютага.** У Акадэміі навук адбылася нарада па пытаннях развіцця культуры беларускай мовы. З дакладам выступіў М. Р. Суднік. У спрэчках выступалі К. Крапіва, М. Бірыла, Я. Скрыган.

Я сустрэўся з Барысенкам, папытаў у яго, хто такі Васілёнак. Гэта, аказваецца, фальклярыст і няўдалы спецыяліст па беларускай літаратуры. Чалавек з нядобрага мінулага. Нічога дадатнага Васіль Васільевіч пра яго не сказаў. Спытаў, чаму я ім цікаўлюся. Я адказаў, каб не трывожыць В. В., што па даручэнні начальства.

**25 лютага.** Споўнілася 80 гадоў Канстанціну Федзіну — у «ЛіМе» артыкул І. Мележа «Наш вялікі сябар». Ці прачытае яго сам «сябар». Прачытае, дык пэўна здзівіцца. К. Федзін — Старшыня Саюза пісьменнікаў СССР, але ўсю «гаспадарку» даверыў К. Маркаву. Маскоўскія перасмешнікі сцвярджаюць, не без дасціпнасці, што яго профіль падобны на чучала арла.

**26 лютага.** Шэсцьдзясят гадоў празаіку і крытыку Уладзіміру Карпаву. У час вайны быў разведчыкам, наведваўся ў Мінск акупаваны, сустракаўся з падпольшчыкамі. Аўтар раманаў пра Мінск, але незычліўцы (а ў каго іх няма?) кажуць пра яго кнігі: «Не за сваё ўзяўся».

**28 лютага.** Зноў вярнулася зіма. Схавалася сонца, пайшоў снег. Потым, к абеду, — ізноў выбліснула сонца і ўжо нікуды не хавалася.

Сустрэў Еўдакію Лось. Міла пагаварылі. Помню, у 1965 годзе выйшаў чарговы яе зборнік лірыкі «Хараство», і захацелася напісаць пра яго. «ЛіМ» надрукаваў маю рэцэнзію пад назвай «Радасцю свет надзяліць». Здавалася, што мне ўдалося схапіць эстэтычную сутнасць яе паэзіі — непасрэднасць адчування свету, уласцівую ёй народнасць, высокую культуру мастацкага мыслення.

— Дзякуй за падтрымку, — сказала яна пры сустрэчы, — але не ўсё вы ў мяне зразумелі...

— Еўдакія Якаўлеўна, можа, так і павінна быць: паэзія па сваёй прыродзе невычарпальная... «У кожным імгненні паэзія ёсць, у кожным здзяйсненні — яе прыгажосць...»

— Дык вось гэту прыгажосць і крытыку добра было б бачыць! І ўвогуле, дабрэйшым трэба быць.

Еўдакіі Якаўлеўне немагчыма было адмовіць у слушнасці, яна, як сама паэзія, была, кажучы па-руску, права.

**1 сакавіка.** Мастак Стальмашонак падрыхтаваў для вялікай справаздачнай выстаўкі ў Маскве групавы партрэт дзеячаў рэвалюцыі на Беларусі — Жылуновіча, Мяснікова, Кнорына, Адамовіча, Чарвякова.

**3 сакавіка.** 60 гадоў адзначае Тарас Хадкевіч. У «ЛіМе» — юбілейны артыкул Макара Паслядовіча. У мяне была размова з Тарасам Канстанцінавічам, — цяжка, як вялікую несправядлівасць, перажывае няўвагу да сябе з боку крытыкаў. Бачыць у гэтым недаацэнку.

**4 сакавіка.** Міхаілу Савіцкаму далі ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ён, на маю думку, варты. У нашых творчых саюзах шмат народу, але па-маштабнаму працуюць адзінкі, якія, па сутнасці, і ствараюць вядомасць і славу беларускаму мастацтву, літаратуры. У літаратуры гэта — М. Танк, А. Куляшоў, В. Быкаў, І. Мележ, І. Шамякін, А. Макаёнак, У. Караткевіч, Р. Барадулін і некаторыя іншыя. Не так і мала!

Шырока ідуць у тэатрах краіны п’есы Макаёнка «Зацюканы апостал», «Трыбунал». Гумар і сатыра, сатыра і гумар. Нядаўна чуў ад яго дасціпны анекдот. «Адзін чалавек гандлюючы газіраванай вадой, здолеў пабудаваць сабе дачу. Яго пытаюць: «Як гэта табе ўдалося?» А ён кажа: «Калі дзяржава змагла на простай вадзе пабудаваць цэлыя электрастанцыі, дык чаму нельга на газіраванай вадзе пабудаваць дачу?»

— Думаю выкарыстаць у п’есе, — дадаў Андрэй Ягоравіч.

«Выкарыстоўвай, але як паглядзіць на гэта Галоўліт? — падумаў я, — Цяжка потым абараняць».

**8 сакавіка.** Міжнародны жаночы дзень. Купіў кветак (дэфіцыт), павіншаваў Тамару. Люты і сакавік у гэтым годзе без снегу. Відаць, павярнула на вясну. У паветры адліга, з’явіліся першыя праталіны і сокарух у дрэвах. «Сокарух» — гэта я пачуў ад садаводаў-навукоўцаў.

**10 сакавіка.** У цэху футаралаў Мінскага радыёзавода пад раніцу здарылася буйная аварыя. Загінула шмат рабочых. Сітуацыя надзвычайная, такога яшчэ не было.

Меў рацыю малады і мудры У. Караткевіч, калі пісаў (у адным з вершаў — «Баладзе»): «Трагедыі не знікнуць і пры Камуне...»

**11 сакавіка.** Шмат загінуўшых і параненых у цэху футаралаў. Трагедыя! Дастаюць з-пад завалаў. Пакуль што налічылі 82 чалавекі. Сэрца разрываецца.

У апошні час у нас стала болей розных ЧП, пажараў, паводак, землятрусаў, вывяржэнняў вулканаў.

**15 сакавіка.** Стала вядома, што ў цэху футаралаў загінула больш за 100 чалавек, звыш 200 паранена. Мы, партработнікі, ходзім па сем’ях, выказваем спачуванне, дапамагаем у пахаваннях.

З Масквы прыехаў член Палітбюро ЦК КПСС Дз. Ф. Усцінаў, загадаў выдаваць «пособия» сем’ям загінуўшых, а таксама грошы на пахаванне і на памінкі. Я чуў яго выступленне.

**16 сакавіка.** Ужо каторы дзень займаюся «палымянскай справай». Два супрацоўнікі «Полымя» даслалі ў ЦК ліст, у якім сігналізуюць, што кіраўніцтва часопіса вымушае аўтараў пакідаць у рэдакцыі частку свайго ганарару. Матывуецца гэта неабходнасцю падрыхтоўкі да юбілею: у снежні гэтага года часопісу «Полымя» спаўняецца 50 гадоў. Набываюць ужо посуд, чаркі, відэльцы...

Я да гэтага аднёсся спакойна. Спыніць гэтую «ініцыятыву» ды і ўсё. Начальства са мной не згодна. Справа набірае абароты. Выклікаю на гутарку тых, хто «аджалеў» грошы на юбілей.

Учора даваў тлумачэнні Алесь Асіпенка. Ён даў крыху, як сказаў, па ўласнай ініцыятыве. Алесь Харытонавіч хваляваўся, папрасіў вады. Наліў яму з сіфона шклянку газіраванай вады. Р. Бярозкін называе такую ваду сельтэрскай. Неяк заходзіў да мяне ў сувязі са сваім працаўладкаваннем.

Выклікаў Ілью Гурскага. Той прыйшоў і выклаў усё, як на духу: «Даў». Памаўчаў і патлумачыў: «Сказалі...» Паважаю Ілью Данілавіча. Ілья Данілавіч Гурскі — цікавы, па-свойму арыгінальны і самабытны пісьменнік. Мы ведаем яго п’есы, напісаныя на актуальныя тэмы, ведаем вялікі, эпапейнага плана раман «У агні», які расказвае пра суровыя і гераічныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Гэтым творам уласціва адна адметная, вельмі каштоўная асаблівасць: аўтарскае ўменне глыбока і ярка раскрываць характары, унутраны свет людзей.

Пагутарыў яшчэ з некаторымі, хто апошнім часам друкаваўся ў «Полымі». Разгляд справы рыхтуецца на Сакратарыяце ЦК.

**18 сакавіка.** Хмарна. З неба сячэ крупка. А сапраўднага снегу няма. Каб не вымерзлі азімыя, бо вельмі холадна, мароз.

**20 сакавіка.** Кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР ад Старобінскай выбарчай акругі вылучаны Пілiп Пестрак. Многія здзівіліся, што менавіта гэтак вырашылі «на версе». Я пазваніў, павіншаваў. Будучы дэпутат адказаў, што гэта яму не ўпершыню, што здаралася быць і дэпутатам СССР, так што са сваімі абавязкамі справіцца. Можам быць упэўнены.

**21 сакавіка.** Зняты з пасады, са страгачом, рэдактар «Полымя» Павел Кавалёў. На яго месца ідзе Кастусь Кірэенка. Сёння чакаў на прыём у прыёмнай Машэрава. Падтрымлівае яго Кузьмін, абодва заядлыя рыбакі.

Як на мой погляд, то Павел Кавалёў быў нармальны рэдактар, але так вось сталася. Знялі, ды яшчэ са строгай вымовай. Хто б мог падумаць?

**22 сакавіка.** Два дні ўжо сядзіць у прыёмнай Машэрава Кастусь Ціханавіч, чакае на гутарку.

**23 сакавіка.** Нарэшце Пётр Міронавіч прыняў, гутарыў гадзіны чатыры. На адваротным шляху Кастусь Ціханавіч, шчаслівы, завітаў да мяне. Я павіншаваў.

— Ну і аб чым гутарылі?

— Гаварыў ён, я маўчаў, слухаў.

— Варта было запісваць.

— Вот я пра гэта не здагадаўся, ды і паперы не было. А ён усё курыць і гаворыць, гаворыць і курыць.

— Вас не частаваў?

— Я ж не куру, кінуў.

**24 сакавіка.** Прачытаў у «ЛіМе» ўрывак «Пасля стрэлу» з новага рамана І. Чыгрынава. Гэта ўжо другі яго раман, які аўтар пакуль што вагаецца, як назваць. «Апраўданне крыві» — адзін з варыянтаў. На маю думку, не надта ўдалы, бо надта глыбакадумны. Якое апраўданне? Устанаўленне этнічнай тоеснасці? Як разумець? Ці апраўданне пралітай крыві? Ахвярнасць?

У надрукаваным урыўку палонны па імені Рахім забівае лася. Лось тут — вобраз сімвалічны, у якім тоіцца шматстайны змест.

**25 сакавіка.** Вечар Аркадзя Куляшова ў музеі Янкі Купалы. Было вельмі цікава. Куляшоў, без перабольшання, выдатны майстар слова, мастак высокай культуры, прадстаўнік лепшай часткі савецкай літаратуры.

Амаль да канца 50-х гадоў паэт маўчаў. Новае натхненне прыйшло не адразу, яно нараджалася ў пакутах, пра што расказана ў вершах пачатку 60-х гадоў «Чалавек юбілейнага ўзросту...», «Перад падарожжам» і іншых, сярод якіх такі шэдэўр, як «Элегія». Яна ўражвае багаццем унутранага жыцця аўтара, мужнасцю і бескампраміснасцю. Цытаваць «Элегію» фрагментамі, на маю думку, немагчыма. Напомню яе поўнасцю:

Жыццё маё — цяжкі з гадамі бой.
І чым далей, то ўсё даўжэй прывалы,
Буксуюць вершы, быццам самазвалы,
Ды знаю я: надыдзе момант той,

Калі не хвоі снамі баравымі
Атуляць мой дарожны неспакой,
А схіляцца зларадна нада мной
Мае гады з барадамі даўгімі.

Чаго прыйшлі, за цудамі якімі?
Якога мне яны жадаюць сну?
Яшчэ я ўстану, падапруся кіем,
Старэчыя бароды расхіну.

За ўсе гады вазьму з гадоў даніну,
З дарогай разлічуся рэштай дзён,
Астатнія, як костку, смерці кіну
За той парог, дзе векавечны сон.

Прыгадваецца пушкінскае: «Я жить хочу, чтоб мыслить и страдать...» Адзін вершаваны радок, а прастору — як у добрым рамане. Такі і Куляшоў — наследнік пушкінскай традыцыі, школы гарманічнай яснасці, любові да жыцця. Любові, якая перамагае:

— Адгукніся, вясна, мне зязюляй з-за рэчкі,
Дай яшчэ раз прыпасці да любай зямлі
І каштанаў сваіх незгасальныя свечкі
Над маёй адшумеўшай вясной запалі!

*(«Пра восень»)*

У канцы 50-х гадоў, у 60-я і зараз у творчасці А. Куляшова назіраецца шэраг дабратворных якасных змен — надзвычай пашыраецца яго паэтычны свет, узбагачаецца ўяўленне аб духоўных каштоўнасцях чалавека.

Куляшоў расказаў пра знаёмства з Купалам, пра сустрэчы і размовы з ім.

Шкада, што даўні (з часоў «Камсамольскага білета») прыхільнік таленту Куляшова — П. М. Машэраў не зразумеў паэму «Цунамі» і іншыя сучасныя рэчы паэта з уласцівым ім агульначалавечым поглядам на свет, на яго пагрозы.

**30 сакавіка.** Прыехаў з Масквы Алесь Рыбак — адказны супрацоўнік Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Сурганаў аддаў загад Марцэлеву ўладкаваць яго ў апарат Саюза пісьменнікаў Беларусі. Алесь Рыбак, кажуць, быў знаёмы з самім Варашылавым і часам нават пазычаў яму грошы. Нешта слаба верыцца. А можа?..

**2 красавіка.** Хораша ўзыходзіць над горадам сонца. Сапраўды «цар прыроды», як называў яго Пушкін. У дзяцінстве я мог глядзець на яго шырока расплюшчанымі вачыма, цяпер трэба цёмныя акуляры.

**7 красавіка.** У нас, у Мінску, прайшоў усесаюзны сімпозіум «Праблемы інтэрнацыянальнага выхавання ў дзіцячай літаратуры». З дакладам выступіў Васіль Вітка. Добры паэт і педагог. Вельмі законапаслухмяны. Калісьці, кажуць, напісаў не вельмі ўдалую п’есу пра Янку Купалу. Незадаволены быў Якуб Колас.

**10 красавіка.** Узмацянецца кніжны бум. Усе нясуць на прыёмныя пункты пукі макулатуры, каб набыць «Трох мушкецёраў», апавяданні пра Шэрлака-Холмса, іншыя папулярныя кніжкі. Здаюць нярэдка не толькі газетныя падшыўкі, а і творы Гогаля, Горкага, нават класікаў марксізму-ленінізму, што, вядома, не ўхвальваецца.

**12 красавіка.** Зноў снег. Ідзе і тут жа растае. Гэты час у Мінску звычайна такі. Подых вясны. Прыляцелі ластаўкі.

**17 красавіка.** Заходзіў у СП да А. Кулакоўскага. Кажа, што толькі што быў Пестрак. Пытаўся: «А што будзе, калі раптам згубіць партбілет?» Надта гэтага баіцца.

— Дык хай не носіць з сабой, — параіў я. — Хай дома трымае.

— Я яму сказаў: знайдзі схованку і трымай у схованцы. — Манія нейкая, — няўцямна пахітаў галавой Кулакоўскі.

Захацелася павярнуць размову на жарт:

— У яго ж яшчэ і дэпутацкае пасведчанне — дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. Пра яго нічога не казаў?

— Не, пра яго не ўспамінаў, — яшчэ раз на поўным сур'ёзе хітнуў галавой Аляксей Мікалаевіч.

**18 красавіка.** Увесь дзень ішоў дождж. Дарэчы: трэба наталіць зямлю вільгаццю. На гарадскіх дрэвах — каштанах, бярозах — запальваюцца зялёныя агеньчыкі — набухаюць і раскрываюцца пупышкі.

Адскочыла маладая травічка. Цяпер у вёсцы ёю ласуюцца куры.

Ажылі і затурбаваліся ўжо, пэўна, пчолы, збіраюць свой прапаліс.

Непаўторная пара!

Сустрэў Паўла Кавалёва. Упэўнены, што без яго «Полымя» выходзіць не зможа. Чакае, калі папросяць дапамагчы. Тады давядзецца ўсё паставіць на сваё месца.

Святая наіўнасць!

**18 красавіка.** Прынёс ліст Алесь Бачыла. Назваў яго «тлумачальнай запіскай». Аддаў у прыёмную Кузьміна, ад якога ліст трапіў да мяне.

«САКРАТАРУ ЦК КП БЕЛАРУСІ
таварышу КУЗЬМІНУ А. Т.

Паважаны Аляксандр Трыфанавіч!

Пішу гэтую тлумачальную запіску, як і было дамоўлена з Вамі. Вельмі прыемна, што ў рэспубліцы, згодна з рашэннем ЦК КПБ, так хараша было адзначана 80-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Паэт такую высокую пашану заслужыў сваёй выдатнай творчасцю.

І ўсё ж нашай літаратуразнаўчай навукай і даследчыкамі магло быць больш зроблена ў справе вывучэння жыцця і творчай дзейнасці паэта. Мы амаль не вывучылі асяроддзе і акружэнне паэта ў яраслаўскі перыяд, амаль не даследавана дзейнасць яго старэйшага брата Вадзіма, які сваёй рэвалюцыйнай дзейнасцю зрабіў вельмі вялікі ўплыў на паэта. Праўда, мы шмат чаго ўжо не здолеем высветліць, бо няма ў жывых тых, хто тады вучыўся разам з М. Багдановічам. Аднак, яшчэ жывуць некалькі чалавек, якія блізка ведалі паэта і маглі б сёе-тое ўспомніць. Нам неабходна арганізаваць запісы іх успамінаў. Усё гэта людзі пажылога ўзросту і адкладваць такую работу нельга.

Вось іх прозвішчы:

1. Войцік Людвіка Антонаўна (дзявочае прозвішча Сівіцкая, літаратурны псеўданім Зоська Верас), жыве ў Вільнюсе па праспекце Краснай Арміі, 180, кв. 22. Яна працавала з Максімам Багдановічам у ваенны час у 1916—1917 гадах у Мінску ў Камітэце помачы ахвярам вайны. Яна ведала не толькі Максіма Багдановіча, але і шмат каго з беларускіх пісьменнікаў, артыстаў і дзеячаў культуры. Магчыма, варта падумаць над тым, каб яе ўспаміны выдаць асобнай кніжкай.

2. Смоліч Аляксандра Ігнатаўна. Жыве ў Кіеўскай вобласці, п/а Міроцкае. Яе муж — блізкі сябар Максіма Багдановіча. Ён збіраў грошы, каб паслаць паэта лячыцца ў Крым у 1917 годзе, праводзіў паэта ў яго апошнюю паездку. У яе хатнім архіве відаць ёсць і некаторыя матэрыялы, якія могуць зацікавіць літаратурную грамадскасць Беларусі.

3. Акадэмік Т. Годнеў. Ён вучыўся ў той час у Яраслаўлі. Друкаваў свае ўспаміны пра паэта. Варта цяпер папрасіць яго пашырыць гэтыя ўспаміны.

4. Ванда Лявіцкая — дачка Ядвігіна Ш., перапісвалася з Максімам Багдановічам. (Жыла на Стаўрапальшчыне, цяпер памерла). Але ў іх сямейным архіве (была замужам за Я. Лёсікам) меліся цікавыя матэрыялы і дакументы літаратуразнаўчага характару. Пры арышце Лёсіка хатнія архівы былі канфіскаваны і цяпер павінны знаходзіцца ў Саратаўскім абласным КДБ. Варта было б пацікавіцца, што ёсць у тым архіве. Нам вядома, што Я. Лёсік — родзіч Я. Коласа, і там маглі быць матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю народнага паэта. Можа б, нашы адпаведныя органы запрасілі, калі не сам архіў, то хоць бы яго спіс, каб ведаць, што там ёсць.

5. Багдановіч Аўгуста Іванаўна, гор. Яраслаўль, вул. Юнасці, дом 9, кв. 48. Другая жонка малодшага паэтавага брата Паўла. Я двойчы ў іх быў, калі збіраў матэрыялы пра Максіма Багдановіча. У другі раз пасля ўжо смерці Паўла Адамавіча. Тады я прывёз і перадаў нашаму Цэнтральнаму літаратурнаму архіву вялікі альбом з фатаграфіямі і цікавыя дакументы (пра ўсё гэта напісана ў маёй кнізе «Дарогамі Максіма»). Але некаторыя рэчы там яшчэ засталіся. Я сам трымаў у руках сярэбраны юбілейны медаль, якім быў узнагароджаны Максімаў брат Лёва за паспяховае заканчэнне гімназіі, трымаў і разрыўную кулю, якой Лёва быў паранены ў часе Брусілаўскага прарыву. Там знаходзіцца і картонны куфэрак (такі ж быў і ў Максіма), у які складваліся рэчы. У такім куфэрку ляжалі і рукапісы паэта, калі бацька перадаваў іх Інбелкульту. Усё гэта не шкодзіла б забраць. Яно спатрэбіцца потым пры арганізацыі музея. Пакуль што хай бы яно захоўвалася ў нашым краязнаўчым музеі.

Варта было б запрапанаваць Інстытуту літаратуры АН БССР уключыць у свае планы навуковыя працы, прысвечаныя тэмам «Максім Багдановіч і яго акружэнне», «Сям’я Багдановічаў і М. Горкі», «М. Багдановіч — крытык, гісторык, публіцыст».

І ўсё ж для далейшага вывучэння і асабліва збірання матэрыялаў пра жыццё паэта нам патрэбна мець у Мінску мемарыяльны музей М. Багдановіча. Па вуліцы М. Горкага насупраць парку стаіць дом, у якім нарадзіўся паэт. Пра гэта гаворыць мемарыяльная дошка, прымацаваная на гэтым будынку. Вядома, дом цяпер мае крыху іншы выгляд. Зроблена надбудова трэцяга паверха. Раней дом быў двухпавярховы. Яго здымкі публікаваліся. Музей мог бы стаць не толькі цэнтрам збірання матэрыялаў пра жыццё і творчасць паэта, але і добрым прыкладам для выхавання ў наведвальнікаў патрыятызму, інтэрнацыяналізму і паказу вялікай дружбы паміж дзеячамі рускай, украінскай і беларускай літаратур. Там маглі б знайсці адлюстраванне сувязі Багдановічаў з Максімам Горкім, іх шматгадовай дружбы. Там магла быць паказана дзейнасць і старэйшага брата паэта Вадзіма, які ўдзельнічаў у рэвалюцыйнай рабоце сярод гімназістаў побач з такім выдатным дзеячам, як Якаў Свярдлоў. Вадзім меў сувязь і перапіску з Германам Лапаціным — перакладчыкам твораў К. Маркса на рускую мову, калі пісаў сваю манаграфію пра Г. Лапаціна. Там магла быць адлюстравана і шматгранная дзейнасць М. Багдановіча, як крытыка і публіцыста. Ён часта выступаў з артыкуламі пра рускіх пісьменнікаў, пра класікаў украінскай літаратуры, пра пісьменнікаў іншых літаратур былой царскай Расіі. М. Багдановіч высока ацэньваў творчасць Яна

Райніса. У музеі Яна Райніса захоўваецца экзэмпляр зборніка М. Багдановіча «Вянок», дзе нават зроблены пад вершамі падрадкоўнікі. Як сцвярджаюць латышскія даследчыкі, Ян Райніс збіраўся перакладаць вершы Багдановіча на латышскую мову.

М. Багдановіч першы ў беларускай крытыцы яшчэ ў дарэвалюцыйны час загаварыў пра вялікае значэнне рускай культуры для росквіту літаратур народаў Расіі.

У агульным літаратурным музеі, які плануецца мець у новым будынку Дома пісьменнікаў, усё гэта нельга будзе паказаць у поўным аб'ёме. Для такой вялікай паэтычнай фігуры, як Максім Багдановіч, патрэбен асобны музей. На першых часах ён мог бы быць філіялам Музея Янкі Купалы. Для гэтага трэба было б, каб Міністэрства культуры БССР знайшло тры-чатыры штатныя адзінкі супрацоўнікаў, якія б і пачалі назапашваць адпаведныя матэрыялы. А там праз гадоў пяць можна было б і адчыняць музей Максіма Багдановіча.

Сёння неяк дзіўна атрымліваецца: мы маем у рэспубліцы не толькі музеі Я. Купалы і Я. Коласа, але і іх філіялы на перыферыі (што вельмі добра), і не маем музея трэцяга нашага класіка, вядомасць якога далёка пайшла за межы не толькі рэспублікі, але і Савецкага Саюза. Ці не тлумачыцца гэта тым, што Я. Купала і Я. Колас жылі пазней і пра ўвекавечванне іх памяці паклапаціліся ў значнай ступені і іх родзічы. У Максіма Багдановіча такіх родзічаў не знайшлося, а тыя, што яшчэ жылі ў апошнія гады, не разумелі ў поўным аб'ёме значэнне М. Багдановіча для нашай і еўрапейскай культуры. Я дадаю слова «і еўрапейскай культуры», грунтуючыся на манаграфіі даследчыцы паэта ў Англіі, якая напісала ў сваёй працы, што ў пантэоне паэтаў свету Максім Багдановіч займае сваё месца, як роўны сярод роўных.

Хай жа стварэнне музея М. Багдановіча зробіцца і нашым клопатам, і хай гэтая тлумачальная запіска стане хоць невялічкім штуршком у ажыццяўленні гэтай патрэбнай справы.

З глыбокаю павагаю

*Алесь БАЧЫЛА,*
*засл. дзеяч культуры БССР.*
*18 красавіка 1972 г. Мінск».*

Прыемна было пераканацца, што Алесь Бачыла — чалавек сур'ёзны, нелегкадумны. Сярод створаных ім лібрэта беларускіх опер — «Зорка Венера» (музыка Ю. Семянякі), на сюжэт жыцця і кахання М. Багдановіча. Гэтую оперу я слухаў у 1970 г. Па лірызме яна блізкая да М. Багдановіча, аўтар глыбока пранікся духам Максіма. «Тлумачальная запіска» — вынік гэтага захаплення.

Аляксей Карпюк па-свойму вядзе дыялог з ЦК, Алесь Бачыла — па-свойму. І адно другога, відаць, не выключае, але на Карпюка пазіраюць як на дысідэнта.

**19 красавіка.** Рэзка пахаладала. Пайшоў снег. Настрой у прыроды мяняецца гэтаксама нечакана, як і ў начальства.

**22 красавіка.** Пайшлі на суботнік. Зырка свеціць сонца, але халаднавата. Некаторыя кажуць, што гэты холад як быццам нават прадугледжаны прыродай, каб пагінулі розныя садовыя шкоднікі.

Бетонныя работы. Зноў бетаніруем пляцоўку пад чарговы цэх на аўтазаводзе.

Настолькі адразу рэзка пахаладала, што ажно дзіўна. Ноччу — замаразкі.

Разам з намі працаваў Пётр Міронавіч са сваімі ахоўнікамі. Мы час ад часу пазіралі ў той бок, але блізка не падыходзілі.

**26 красавіка.** Падзея! Мележу прысуджана Ленінская прэмія за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Павіншаваў. Не ведаю, як будуць ацэньвацца гэтыя творы па часе, калі, напрыклад, памяняецца традыцыйная паэтыка рамана, а сёння гэта вельмі прыстойныя рэчы, і аўтар, здаецца, ідзе далей, у глыбіню праблемы, даследуе чалавечы характар.

**30 красавіка.** Скончыў шафёрскія курсы і здаў іспыт (тэорыя і практыка), атрымаў вадзіцельскія правы — пасведчанне вадзіцеля. Маю права вадзіць аўтамабілі, дазволеная максімальная вага якіх не перавышае 3500 кг (7700 фунтаў) і колькасць сядзячых месц якіх, апроч сядзення вадзіцеля, не перавышае васьмі. Засталося купіць аўтамабіль, што з маёй зарплатай не так проста.

З пісьменнікаў многія маюць і водзяць аўтамабілі: І. Шамякін, І. Мележ, А. Кулакоўскі («Запарожац»), Т. Хадкевіч, У. Карпаў, К. Кірэенка... М. Лужанін мае «Волгу», але шафёра наймае. І. Навуменку возіць жонка.

Днямі, ідучы праспектам, бачыў, як ад цырка да плошчы Перамогі разагнаўся і праімчаўся на задніх колах «Запарожац», падняўшы ўгору пярэднія. А я ці змог бы гэтак?

**31 красавіка.** На рабоце не затрымліваюся, вяртаюся пасля шасці. Яшчэ відна. Вось што значыць вясна.

Заўтра на дэманстрацыю не пайду.

**1—2 мая.** Рэха свята, якое адбываецца ў цэнтры, каля будынка ЦК, дасягае і маёй Фабрычнай. Калі раніцай выйшаў, каб схадзіць у гастраном «да Пекера», пачуў праз стук колаў цягнікоў водгукі палымяных лозунгаў і заклікаў. Святкаванне набірае «абароты».

Запрасіў у госці Лёню, які ўсё яшчэ халасцякуе. Пасядзелі разам. Добра, што заўтра выхадны.

Назаўтра — выхадны і дзень апахмелкі. Між іншым, будаўнікі савецкай краіны і савецкага ладу жыцця прадумалі і зрабілі правільна, улічыўшы народныя традыцыі, пайшлі насустрач пажаданням працоўных: якая можа быць праца 2-га мая? Галовы ва ўсіх цяжкія.

**4 мая.** У Кіеве выйшла ў двух тамах анталогія «Білоруська радянська поезія». Вельмі прыемная падзея. Заўсёды цікава, як сваё выглядае ў іншай вопратцы. У вершах з'яўляюцца новыя адценні сэнсу. Нешта, вядома, страчваецца. М. Лужанін кажа: «Арыгінал — віно, а пераклад — вада». Не, не заўсёды вада. Захоўваецца і віно.

**8—9 мая.** Былі з Тамарай у Плешчаніцах у яе бацькоў. Тут таксама ёсць невялічкі гарнізон (вайсковая аўташкола) і меў месца парад. За парадам прайшлі калектывы працоўных, са сцягамі і транспарантамі, але больш скавана ў параўнанні са сталічнай «разняволенасцю».

Мае цесць і цешча, Іван Платонавіч і Вера Васільеўна, — удзельнікі партызанскага змагання ў сваёй мясцовасці. Расказваюць шмат цікавага. Вайна, хоць да яе і рыхтаваліся, стала для ўсіх, ад радавога чалавека, шараговага байца да Сталіна, вялікай нечаканасцю — нечаканасцю па вераломнасці і нахабнасці нападзення гітлераўскіх войскаў на Савецкі Саюз, насуперак існаваўшаму дагавору, і ў сэнсе таго, якой яна аказалася.

Цесцю і цешчы (яны, маладыя, на той час яшчэ не пабраліся) давялося перажыць шмат страху і гора. У Плешчаніцах і вакол мястэчка, як і ўсюды на акупаванай тэрыторыі, разгарнуўся партызанскі рух. Ініцыятыва належала акружэнцам. Івана Платонавіча яны ўвялі як свайго разведчыка ў нямецкую ўправу ў Плешчаніцах. Ён аб усім папярэджваў, аб усіх планах немцаў. Вельмі небяспечная работа, за якую потым, у 1944-м, жорстка паплацілася сям'я. Вера Васільеўна таксама трымала сувязь з партызанамі, перадавала медыкаменты (яна працавала ў аптэцы).

Невыносна цяжка было ў блакаду. Асабліва, калі карнікі блакіравалі возера Палік, дзе ваявалі партызанскія брыгады і хаваліся-ратаваліся жыхары. Сядзелі па шыю ў халоднай вадзе, у балоце. Плакалі дзеці, немаўляты. Даведзеныя да адчаю людзі злаваліся, патрабавалі, каб яны змоўклі. Жах! Урэшце, у некаторых, дзіця і замаўкала... А потым пра такіх з пагардай гаварылі, зласловілі: «Яна дзіця сваё задушыла...»

Як перажыць гэтую траўму? І ці можна яе перажыць? Мусіць, з ёю і памрэш...

Вось і думаеш: для беларуса лес ды балота — сімвал жыцця, сімвал лёсу.

На плешчаніцкай пілараме ўсё яшчэ крышацца аб кулі і асколкі сталёвыя зуб'і піл, калі распілоўваюць былыя партызанскія, а цяпер леспрамгасаўскія сосны!

**12 мая.** Квецень і зяляніна на дрэвах усё гусцейшыя. Прыгадаў свой Кругель. Першым цвіце ў нас папоўскі сад — там шмат сліў. Соладка пахнуць квітнеючыя грушы. Ноччу п'яніць пах чаромхі. І халаднавата. Гэта — халады на першацвет, ці, як іх яшчэ называюць, чаромхавыя халады. А. Вялюгін нават назваў гэтак свой зборнік вершаў.

Калі вучыўся ў школе, пасля вайны, прывезлі аднойчы каляровы кінафільм «Жизнь в цвету» — пра Мічурына. Потым даведаўся, што гэта фільм А. Даўжэнкі. Дык у Кругелі вясной квецені бывае не меней, чым у тым кінафільме.

Сад — прыгожы ў любую пару, у любое надвор'е. Не ведаю, чые гэта словы: — «Жизнь — сад, плачущий после дождя». Кажуць, што гэтак разумеў паэзію Барыс Пастарнак, што гэта яго паэтычная канцэпцыя. Напэўна ж, у гэтай канцэпцыі ёсць філасофская падаснова. Можна сцвярджаць, што гэта жыццелюбівая філасофія. Адукацыю Пастарнак атрымаў у Германіі, у прафесара Коэна.

**13 мая.** А. Карпюка выключылі з партыі. Выключыў Гродзенскі абкам. А як на мой погляд, дык больш партыйнага сярод літаратараў і не было. Нездарма калісьці на Карпюкова вяселле прыйшоў сам Сяргей Прытыцкі і падарыў «Капітал» Маркса.

Да таго ж Карпюк — партызан з салідным стажам.

**17 мая.** Дзень нараджэння Тамары. Сабраліся сяброўкі. Шампанскае, торт, кава (растваральная, якую цяжка дастаць, толькі «па блаце»). Падпілі, пачаліся танцы. Цеснаватая кватэра. Медыкі, дарэчы, умеюць весяліцца.

**24 мая.** Чаромхавыя халады, здаецца, мінаюць. У кустах каля Свіслачы, за чыгункай, засеў нейкі ашалелы салавей і, адчуўшы цяпло, несціхана пускае ў наваколле свае галасістыя трэлі. Нягледзячы на тое, што яго глушаць паязды, якія праязджаюць міма.

**26 мая.** Адбылася сустрэча балгарскіх і беларускіх пісьменнікаў. З боку гасцей выступілі Н. Вылчаў, Д. Ангелаў, І. Давыдкаў і інш. Я пашкадаваў, што сярод іх не было Георгія Вылчава, з якім я блізка знаёмы.

**31 мая.** Дацвітаюць каштаны. Заўтра — пачатак лета, але па тэмпературы гэта яшчэ не адчуваецца.

Завяршаюцца работы па ўзвядзенні помніка Я. Купалу ў скверы каля яго дома-музея.

**8 чэрвеня.** На старонках «ЛіМа» чарговая дыскусія — пра паэзію. Нічога, здаецца, новага. Але часам варта нагадаць, паўтарыць і вядомыя ісціны. Тую, скажам, што не варта рэзка дзяліць паэзію на «асабовую» і «грамадзянскую». У любым выпадку паэт зыходзіць з уласнага характару, ён заложнік сваёй біяграфіі.

Намеціўся зрух у жанры паэмы (А. Куляшоў, А. Русецкі і некаторыя іншыя). Паэма — жанр асабліва цяжкі, тут патрэбна, як хтосьці сказаў, філасофская сістэма.

**9 чэрвеня.** Субота. Здавалі нормы на значок «ГТО». З гэтай мэтай ездзілі на стадыён «Ураджай». Увесь калектыў апарата ЦК. Не было толькі сакратароў і загадчыкаў аддзелаў.

Да нас на гэтым стадыёне здаваў нормы «ГТО» апарат Саўміна. Колькі ў нас аднак чыноўнікаў! Зрэшты, я і сам чыноўнік. Нормы «ГТО» здаў.

**14 чэрвеня.** Пазваніла Ева, сказала, што бацькі разводзяцца і што мне трэба прыехаць. Мама ў роспачы.

Першым пачуццём, якое адчуў, быў сорам. Па шэсцьдзясят гадоў і разводзяцца. Але паеду. А можа, ўладжу? На выхадныя. Д’ябал бацьку ў рабро казыча ці што? У вайну ж не мала страху глынуў. Гестапа два разы арыштоўвала, а потым і фронт прайшоў. Досвед багаты і павінен схіляць да чалавечнасці, але, відаць, не надта схіляе...

**16—17 чэрвеня.** Быў у Брэсце. Наведаў маму. Бедная, яна ўжо жыве на сваёй палавіне — ад вуліцы. Яна ўжо быццам і звыклася з новым сваім становішчам, не заўважае яго. Надта яе шкада. Мама — равесніца Кастрычніцкай рэвалюцыі, нарадзілася ў лістападзе 1917 года. Бацька на пяць гадоў старэйшы. Кахалі ж адно аднаго! Любіліся, — як у нас кажуць. А цяпер разводзяцца. Непрадказальны чалавечы лёс.

Нас, дзяцей, у бацькоў чацвёра — тры сыны і дачка. Не ўсё было складна ў жыцці, але ж жылі...

Сустрэўся з бацькам на яго палавіне. Маўчыць, а потым кажа: «Лёс такі...» Раніцой зноў хадзіў. Паспрабаваў паразмаўляць з ім яшчэ, адгаварыць ад разводу, — маўчыць. Жыла б бабуля Фёкла, яна б яму паказала, як разводзіцца! Дзед Лявон такога ўплыву на яго не мае.

Наведаў свайго хроснага бацьку, «хрышчонага», як кажуць у нас у Кругелі, Сямёна Гардзеевіча Жука. І ён мяне пазнаў, і я яго, хоць, калісьці свежыя і пукатыя, шчокі хроснага ўпалі, абвастрыліся шырокія яцвяжскія скулы, абцягненыя сухой абветранай скурай.

— Маё шанаванне! — сказаў ён, адчыніўшы дзверы. Сямён Гардзеевіч, як заўсёды, колькі яго помню, пры гальштуку, завязаным вялікім шчыльным вузлом. Быццам і не развязвае яго, і спіць з ім.

— Як жыццё? — пацікавіўся я.

— Жывём, не наракаем.

На стале з’явілася пляшка гарэлкі, каўбаса, нарэзаная тонкімі кружочкамі, талерка з белым налівам — раннімі яблыкамі. Прыгадалася даўняя парада бедалагі Пілатовіча (гэта было калісьці на дачы ў Макаёнка — як хутка бяжыць час!): перад тым, як піць гарэлку, з’еш кілаграм яблыкаў і не будзеш п’яны.

Выпіўшы чарку, Сямён Гардзеевіч стаў смелым і сказаў:

— Камунізм — гэта, хоба на яго, бязбожная вера. — А потым дадаў: — Без Бога — гэта ўсё адно як ісці па лесвіцы без парэнчаў. Абавязкова пакоцішся ўніз.

Яшчэ пра сёе-тое пагаманілі. Малым я верыў, што ёсць разумныя, мудрыя людзі, здольныя разабрацца ў жыццёвых складанасцях. Цяпер бачу, што такіх людзей або зусім няма, або яны вельмі рэдкія. Мой хросны — з іх, пэўна, ліку.

«Хрышчоны» прызнаўся, што больш за ўсё любіў назіраць за пчоламі, легчы каля вулею і глядзець, як яны снуюць — то вылятаюць з лёткі, то вяртаюцца назад. Вулей ажно гудзеў ад іх бесперастаннага клопату.

Сямён Гардзеевіч і ў савецкай турме сядзеў (двойчы) і ў нямецкай. Вызваліўся з лагера ў Казахстане ў 1952 годзе, а поўнасцю рэабілітаваны толькі ў 1963-м.

— Голад быў такі, братка, што срака да шкілету прыліпала. Ой!..

Сямён Гардзеевіч наліў, і мы зноў выпілі.

— Але што добра ў Расіі, гэта, братачка, хоба на яго, на кожнай станцыі табе кіпяток. Бяры і пі ад пуза!

На развітанне хросны падарыў мне Біблію. Падарыў і сказаў:

— Каб на спажытак!

З брэсцкімі сябрамі-літаратарамі не сустракаўся.

**23—24 чэрвеня.** Летняе сонцастаянне. Купалле. Адзначаюць яго цяпер хіба толькі на Палессі!

Чытаю Біблію, падораную хросным. Сустракаюся з ёю, вядома, не ўпершыню. Яшчэ з дзяцінства запомніў паданне пра Майсея, якое, уздзеўшы на нос акуляры, чытаў нам, яшчэ нават не падлеткам, аднавясковец Анатолій Мельнічук. Баптыст, ён меў Біблію і захапляўся Пяцікніжжам. Але цяпер, зразумела, успрыманне гэтай кнігі інакшае, нібы больш блізкае. На некаторых мясцінах спыняюся, хочацца выпісаць:

«Судей не злословь и начальника в народе твоем не поноси» (Исход, 22, 28).

Натрапіў на такое павучанне: «Чти отца и мать, и будешь долголетен на земле» (Исход, 20, 12).

**26 чэрвеня.** Пішам для Машэрава прамову на адкрыццё помніка Янку Купалу. Заданне не простае, бо як прымірыць паэта з савецкай уладай? Уладай, ад якой ён столькі нацярпеўся. «Глядзіце, каб не перагнулі палку!» — папярэдзіў Кузьмін. Што ён гэтым хацеў сказаць, для мяне было незразумела. Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч — сакратар па ідэалогіі, лічыць, што над ідэалогіяй трэба больш працаваць, чым над эканомікай, аднак чалавек ён дабрадушны.

**30 чэрвеня.** Многае з Купалавай спадчыны не выдаецца з 20-х гадоў — вершы, паэмы, п'еса «Тутэйшыя», публіцыстыка. Забаронена і знаходзіцца ў спецсховішчы. Ёсць, такім чынам, два Купалы — дазволены і недазволены, савецкі і антысавецкі.

Даклад (прамова), вядома, пра Купалу савецкага.

**4 ліпеня.** Нарэшце прамова гатова. Перадалі наверх. Што скажа П. М. Яму выступаць з ёю на адкрыцці помніка.

На Купалаў юбілей з'язджаюцца госці. Прыехалі пісьменнікі з Узбекістана, Таджыкістана, паведамілі аб прыездзе яшчэ — з Грузіі, Украіны, Літвы...

**5 ліпеня.** Машэраў адмовіўся выступаць з нашай прамовай — перадаверыў выступленне Старшыні Савета Міністраў Кісялёву. Па матэрыялу аднак у Пятра Міронавіча заўваг няма. Ціхан Якаўлевіч Кісялёў да вайны працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Яму, пэўна, будзе прасцей арыентавацца ў гэтым пытанні.

**6 ліпеня.** Раніцай быў у Саўміне, паклікаў Ціхан Якаўлевіч. У яго ўжо сядзеў Броўка, пра нешта гаманілі. З маім прыходам прыступілі да прамовы, унеслі некаторыя, нязначныя, папраўкі. Броўка прапанаваў уставіць вядомыя радкі пра «Камуну»:

З Масквы, з Крамля, хадою ўдумнай,
Усенароднай, чалавечай,
Праз поле, поплавы, буруны
Ідзе, таварышы, камуна
На свеце шчасце ўвекавечыць.

Бачу, што Ціхан Якаўлевіч мнецца, шкрабе за вухам, азадачаны. Гаманкі Пётр Усцінавіч запэўнівае:

— Добра, добра...

**7 ліпеня.** 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У Мінску пастаўлены выдатны помнік работы скульптара А. Анікейчыка. Усё гатова да адкрыцця. Купалаўскі сквер (каля дома-музея) з раніцы стаў напаўняцца людзьмі — мінчане, госці сталіцы, пісьменнікі з братніх рэспублік, што прыехалі на свята. Помнік занавешаны белым прасцірадлам. Дзесяць гадзін. Слова для прамовы з нагоды адкрыцця помніка Янку Купалу далі... старшыні гарвыканкама Васілю Іванавічу Шарапаву. Крыху накульгваючы, ён падышоў да мікрафона. Сумленна, толькі зрэдчас блытаючыся ў націсках, ён прачытаў прамову і апусціў прасцірадла.

Помнік атрымаўся вельмі прыгожы, велічны.

У 17.00 — урачыстае пасяджэнне ў оперным тэатры. Адкрыў уступным словам М. Танк. Выступалі госці. Арыгінальна, вынаходліва. Рускі паэт М. Луконін сказаў, што беларусы — самы лепшы народ у Савецкім Саюзе. Яму вельмі апладзіравалі. Грузінскі літаратуразнавец Б. Жгенці з бляскам прааналізаваў верш Купалы «Генацвале», даказаўшы, што і верш дасканалы, і яго стваральнік — постаць надзвычай узнёслая і высакародная. Рэгламент — 10 мінут — перабраў удвая, літаральна зачараваўшы прысутных, у тым ліку і высокі прэзідыум.

**14 ліпеня.** Не перастаю думаць над тым, чаму Машэраў і Кісялёў адмовіліся выступаць з той прамовай. Адказ знаходжу адзін — параляк перад абвінавачваннем у нацыяналізме. Гэтага ўсе баяцца як агню. Ужо адно тое, што паставілі помнік нацыянальнаму паэту, дае падставы для «пудлівых» думак. Кажуць, што Купала знаходзіўся пад пастаянным наглядам, што сярод яго гасцей часта можна было бачыць нейкага Сікорскага, які, па чутках, працаваў у следчым аддзела ГПУ.

**16 ліпеня.** Нармальны летні дзень. Градусаў, відаць, дваццаць, а можа, і больш. Цвітуць на алеях ліпы. Адна, я заўважыў, цвіце і плача — напала тля. Ліпавае лісце ў расе, і з яго сочыцца і капае на тратуар нейкая вадкасць.

**19 ліпеня.** Надрукаваны Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні ганаровага звання «народны пісьменнік» Беларусі Івану Мележу і Івану Шамякіну. Два Іваны, два празаікі ў адной запрэжцы.

Як на мой погляд, дык гэтыя званні — «народны пісьменнік» і «народны паэт» — састарэлі. Яны ж, адзін і другі, сучасныя празаікі, мадэрныя, як кажуць на Захадзе, а не акыны якія-небудзь, стваральнікі абагульнена-безасабовага эпасу, эпасу «на ўсе часы». Томасу Ману ці У. Фолкнеру такога звання ніхто не даваў, хоць яны пісьменнікі будзь здароў якія! Іншая справа — заслужаны работнік, заслужаны дзеяч, кандыдат або доктар навук. Гэта зразумела і карэктна.

Але цягнуцца да гэтых званняў нашы паэты і пісьменнікі абедзвюма рукамі.

**21 ліпеня.** А ў Брэсце справы ідуць сваім парадкам. Пазваніла Ева. Адбыўся суд. Развяліся. Памяняліся палавінамі. Бацька перасяліўся ў палавіну ад вуліцы, мама, як і хацела, у палавіну ад агарода.

**24 ліпеня.** Панядзелак. У Беларусі праходзяць Дні савецка-польскай дружбы і польскай культуры. Сёння быў прыём у Саюзе пісьменнікаў, былі М. Танк, Я. Брыль, А. Кулакоўскі, В. Жукроўскі, Р. Вацлаўскі і інш. В. Жукроўскі — выдатны празаік, тое-сёе яго я чытаў. Захапляецца творамі В. Быкава.

Прыём прайшоў на прыстойным узроўні, зусім па-сяброўску. Далёкая і блізкая гісторыя нашых адносін не простая, аднак на паверхню гэта, дзякуй богу, не выходзіць.

**1 жніўня.** Ужо каторы дзень гарачыня. Днём тэмпература паднімаецца да 35 градусаў. З дня ў дзень такое надакучвае.

Паслаў дзядулю ў Кругель свой вельветавы касцюм: пінжак і нагавіцы. Хай прабачае, што не новы. Крыху панасіў. Але яму будзе дарэчы.

**3 жніўня.** Таварыства «Веды» прапанавала турпаездку ў Балгарыю ў складзе групы, у другой палавіне жніўня. Кошт пуцёўкі — палавінны, 140 руб., другую палавіну аплачвае само таварыства. Згадзіўся. Вядома, за кошт адпачынку.

**9 жніўня.** Славуты на ўвесь свет італьянскі кінарэжысёр Ф. Феліні сказаў, што калі б ён ставіў фільм пра рыбу, то ён таксама быў бы аўтабіяграфічны. Гэта я вычытаў у часопісе «Искусство кино». Падобную думку наш Р. Бярозкін выказаў гадоў дзесяць назад у кнізе «Спадарожніца часу» (1961), разважаючы пра паэзію М. Лужаніна: «Добрыя, яркія вершы пачатку трыццатых гадоў сталі б яшчэ лепшымі, калі б сам паэт увайшоў у іх з усім, што яму блізка і дорага: з роднай вёскай на Случчыне, з бацькам на агародзе».

Фактычна адно і тое ж, па-рознаму выкладзенае. Над аўтабіяграфічным пачаткам у творчасці варта задумацца. Тут шмат спосабаў і форм.

**12 жніўня.** Лёня, Юзік і Мікола, а таксама я з Тамарай, ездзілі электрычкай у Заслаўе паглядзець гэтае мястэчка. Цяжарнасць Тамары крыху ўтаймавалася, яна ўжо не кволіцца і ахвотна падтрымала прапанову наведаць Заслаўе. Месца — гістарычнае. Сюды калісьці, у канцы мінулага тысячагоддзя, вялікі князь кіеўскі Уладзімір («Красное Солнышко») саслаў сваю жонку палачанку Рагнеду разам з сынам Ізяславам. Уладзімір і пабудаваў гэты горад, назваўшы ў гонар сына Ізяслаўлем. Памерла Рагнеда ў 1000-м годзе. Легенда расказвае, што перад смерцю Рагнеда заплакала, і ў ваколіцах горада забіла адразу некалькі крыніц, якія і цяпер часта называюць «слёзы Рагнеды». Каля адной з такіх крыніц, якая сочыцца з-пад каменя, мы былі, пастаялі. Тамара дастала з рэчмяшка шклянку, і мы пакаштавалі «слязу Рагнеды». Смачная, несалёная.

Ізяслаў толькі на год перажыў маці. У пантэоне, які шануюць нашы калабаранты, Рагнеда займае пашанотнае месца як гераіня і патрыётка.

Калісьці, недзе з XI стагоддзя, тут існаваў акружаны вадой замак. І цяпер стаіць закінуты храм, пабудаваны на тэрыторыі замка ў XVI стагоддзі, у эпоху Рэфармацыі. Пабудавалі яго кальвіністы як свой сабор (пра што сведчыць і архітэктура храма). Кальвіністы — беларускія пурытане, «божыя абраннікі». Тэма, ці, лепш сказаць, з'ява беларускага кальвінізму, дарэчы, абсалютна недаследаваная. У наступным стагоддзі, у перыяд Контррэфармацыі, у спрэчцы з кальвіністамі пераважылі каталікі і з кальвінісцкага сабора ў Заслаўі зрабілі касцёл, а ў сярэдзіне XIX стагоддзя гэта была ўжо праваслаўная царква.

У Заслаўі ёсць музей, дзейнічае, дарэчы, паравы млын. На цяперашні час гэта рэдкасць. Помню такі млын, у часе вайны, у маім Камянцы.

Скончыўшы агляд, наведалі кафэ, а потым яшчэ сядзелі на беразе Свіслачы. Вярнуліся пад вечар.

**14 жніўня.** На тым тыдні купіў у ГУМе туфлі і сёння ў парадку рэкламацыі аднёс назад, скрозь адсталі падэшвы. Дрэнны клей ці што? Узяў іншую пару. Можа, з гэтымі пашанцуе. Абутку шмат, але дрэнны, а прымаць назад не надта хочуць: «Вы ж іх насілі».

**16 жніўня.** Забіты Лявон Баразна. Як некалі Хадановіч. Трагедыя. Хадановіча я ведаю менш. Лявона — больш. Выступаў рэцэнзентам на абароне яго дыпломнай работы ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Вышытая

карціна. Дыван. Сюжэт — міф пра заснавальніка старажытнага Мінска асілка Мянеска.

Чаму так здарылася?

**17—31 жніўня.** Паездка у Балгарыю. Да Масквы цягніком, а адтуль самалётам. У палёце частавалі балгарскім каньяком — «Плиска», 50 грамаў. Прызямліліся ў сафійскім аэрапорце і размясціліся ў гасцініцы «Rodina». Нас трое: грузінскі паэт Шалва Парчхідзе і алтайскі бурат Бабабаеў. Шалва цікава гаворыць пра грузінскую паэзію, сцвярджае, што яна такая выкшталцоная, што немагчыма прыдумаць нічога новага. Буйны талент прыдумае, пераверне ўсё! — кажу я яму, і грузін незадаволена матляе галавой, здзіўляючыся, што я не магу ўцяміць гэткай простай ісціны.

Бабабаеў называе сябе протабалгарынам і едзе, паводле яго слоў, да нашчадкаў.

Назаўтра вазілі нас па балгарскай сталіцы. Горад надзвычай прыгожы. Стаіць непарушна помнік рускаму цару Аляксандру III. Ён у балгар у вялікай пашане. Гэтаксама, як генерал Скобелеў.

У маўзалей Георгія Дзімітрава чамусьці не вадзілі. Былі затое ў велічным храме Аляксандра Неўскага, у якім, у падвальным паверсе, сабрана незлічонае багацце абразоў, якія нагадваюць і ўвасабляюць сабой духоўны патэнцыял балгар.

Сустрэўся з сваім даўнім знаёмым — літаратурным крытыкам Георгіем Вылчавым (ён калісьці прыязджаў у Мінск, і я ім крыху апекаваўся, жылі ў аспіранцкім інтэрнаце). Разам наведалі пісьменніцкі клуб. У нас у Мінску такога няма. Усе размовы і перамовы ў кафэ. Народу поўна. Гэта — пісьменнікі. Гамоняць, п’юць каву і нешта больш моцнае і шмат кураць. Славутыя цыгарэты «БТ». Георгій пачаставаў мяне слівовіцай.

Я не надта знаёмы з балгарскай літаратурай, але чытаў класіка І. Вазава «Под игом», з сучасных — Д. Дзімава (раман «Табак»), тонкага стыліста Я. Станева, А. Гуляшкі, які чымсьці падобны на нашага Шамякіна, і інш. Папулярная — Георгій увёў мяне ў курс справы — проза Камена Калчава, асабліва яго кніга «Сафійскія апавяданні».

Балгарскую паэзію ведаю, можа, нават і лепш. Неблагі перакладчык балгарскіх паэтаў — Н. Гілевіч. Калісьці захапляўся зборнікам яго перакладаў з балгарскай — «Ад стром балканскіх».

Паездзілі па краіне. Наведалі Плоўдзіў, Дзімітраўград, Вяліка-Тырнова, Шумен. Асабліва сімпатычныя малыя дамкі, накрытыя чырвонай чарапіцай. Усюды шмат помнікаў далёкай і блізкай гісторыі. Скульптурныя выявы легендарнага Аспаруха. Доўгі час тэрыторыя Балгарыі знаходзілася ў складзе хітрай Візантыі, потым была заваявана Асманскай імперыяй. Незалежная Балгарыя — з 1908 года.

Шмат сустрэч з людзьмі, якім я, выступаючы, расказваў пра Беларусь («Прыгожая назва», — адзначалі мае слухачы), пра яе сучасны дзень, пра літаратуру і дружбу беларускіх і балгарскіх пісьменнікаў.

Балгараў я здаўна ўспрымаў як родзічаў. Знешне, аднак, на беларусаў яны мала падобныя, больш, здалося мне, на армян. Смуглыя, чорнавалосыя, гаманлівыя і шмат кураць. І кухня ў іх бліжэйшая да армянскай: вострыя стравы з бараніны, рыбы. Іхнія — чоп-кебаб, гювеч, плоў, перац, фасоля, брынза.

Шалва — чалавек ужо немаладога веку, паджылы, але не дурань выпіць. Выпіўшы, аднак слабее, абмякае і мае патрэбу ў дапамозе. Яго перасталі браць на прыёмы, не запрашаюць. Шалва, натуральна, незадаволены. Бабабаеў — той мацнейшы (нездарма лічыць сябе протабалгарынам).

Перад ад’ездам яшчэ раз бачыўся з Георгіем Вылчавым. Ён пад сакрэтам расказаў пра норавы мясцовых урадаўцаў і партыйных бонзаў, якія маюць свае персанальныя рэчкі, дзе ловяць стронгу. Я быў здзіўлены. У нас Белавежскую пушчу яшчэ, здаецца, не дзеляць. Палююць разам.

Перад ад’ездам нам падарылі па салідным цяжкім альбоме «Георги Димитров наш съвременник» (Выдавецтва «Наука и изкуство», София).

Купіць нічога не купіў, ды і на тыя левы, што нам далі, нічога надта не купіш. Набыў толькі некалькі лыжных шапачак, на сувеніры.

**2 верасня.** Запрасіў у госці Аляксей Гардзіцкі, які развёўся, але з таго часу так і не ажаніўся. Жыве адзін. Былі ў яго з Тамарай, слухалі песні Булата Акуджавы і Аляксандра Галіча. «Облака плывут в Абакан...»

Перадаў Аляксею прывітанне ад Г. Вылчава.

**10 верасня.** У колерах прыроды яшчэ пераважае зелень, аднак уступае ў свае законныя правы восень. Ночы сталі халодныя. Ідучы на работу, адчуваў, як у твар пругка дыхае вецер. «Жыццё — спешка», — як любіць нагадваць паэт і літаратуразнаўца Алесь Барскі. Я чалавек флегматычны, спешкі не люблю. Іду заўсёды разглядаючыся па баках. Помню лацінскае прыслоўе: «Спяшайся не спяшаючыся».

**11—16 верасня.** Тыдзень літаратур народаў СССР. Прыехалі вядомыя і невядомыя пісьменнікі, здалёк і зблізку: В. Закруткін, Д. Кугульцінаў, В. Бокаў, У. Жукаў, Б. Камалаў, Г. Шукрай, А. Малдоніс і інш. Групамі раз’ехаліся па ўсіх абласцях рэспублікі. Выступленні, выступленні, выступленні... Апарат нашага СП меў клопатаў, падключаны былі абласныя аддзяленні, актыўны ўдзел прымалі беларускія літаратары. Усё прайшло, здаецца, без нечаканых здарэнняў. Не пашкодзіла і тое, што было выпіта шмат гарэлкі.

Гэтым дням добра спрыяла залатая беларуская восень.

**17 верасня.** 60 гадоў народнаму паэту Беларусі Максіму Танку. Ушанаванне паэта прайшло ў тэатры Я. Купалы, адкрываў вечар І. Мележ. Было запрошана шмат гасцей, пісьменнікаў з-за межаў Беларусі, з іншых рэспублік.

М. Танк — паэт вышэйшай пробы. Прагрэсіўная беларуская і польская крытыка ўжо ў 30-я гады вельмі высока ацаніла яго творчыя магчымасці: «Зямля Нарачы і Нёмана з часоў Міцкевіча не мела такога вялікага паэта» (Е. Путрамант). У маладой заходнебеларускай літаратуры М. Танк быў не адзінокі. Побач з ім працавала цэлая плеяда маладых таленавітых паэтаў: М. Васілёк, М. Машара, П. Пестрак, В. Таўлай, Н. Тарас, М. Засім, А. Іверс і інш. Аднак творчая індывідуальнасць М. Танка сярод іх ужо тады была вельмі самастойнай. Ён быў прызнаным лідарам заходнебеларускай паэзіі, чыя творасць вылучалася шырынёй сацыяльнага і чалавечага зместу і незвычайнай яркасцю вобразнага мыслення.

Звоніць аб камень
Сталёвы нарог.
Конь упіраецца, скібы цяжкія...
Глянь! На ўсходняй старонцы —
Іскры! Барозны затлелі зарою.
Выарам хутка і сонца!

Гэта паэт пераломнай эпохі, эпохі пераходу ад старой, сялянскай цывілізацыі (па сутнасці сярэднявечча) да цывілізацыі індустрыяльнай, якая ў XX стагоддзі замаячыла і перад Беларуссю.

І ад астрога да астрога плятусь —
Беларусь ты мая, Беларусь!

*(«На этапах».*
*Вільня. 1936. С. 104).*

У паэме «Нарач» (1937) ён апеў паўстанне рыбакоў, жорстка падаўленае польскімі ўладамі.

Мяне захапляюць танкаўскія верлібры:

Дрэвы паміраюць,
калі перастаюць пазнаваць
змены года
і не адгукаюцца рэхам...
Чалавек — калі страчвае здольнасць
здзіўляцца і захапляцца
жыццём.

Самы вясёлы ў Саюзе пісьменнікаў — Максім Танк. У яго заўсёды напагатове жарт, свежы анекдот, а між тым усе ведаюць, што ў яго хранічная арытмія і здароўе далёка не бездакорнае.

М. Танк «неадвязна» (слова П. Пестрака) звязаў сябе з партыяй, аднак умее захаваць раўнавагу паміж лозунгам і жыццём. Вось верш, напісаны ў пачатку 60-х:

Я ўпэўнены, што ля ўваходу
У камунізм спытаюць:
— З чым прыходзіце вы,
Які знаеце танец?

Танец жывата?
Вы не індус, здаецца,
А іграеце? На там-таме,
А не на жалейцы?

Ну, а страву якую
Прынеслі вы з дому?
Шашлык — гэта не ваш,
Усім добра вядома.

А якія вы маеце ўборы,
Узоры тканінаў?
Не, самбрэра і кенты
Не з вашай краіны.

А спяваеце песні
На мове якой?
Кажаце, што на многіх,
Толькі не на сваёй?..

І мне здаецца,
Адправяць ад парога
Не аднаго давучыцца
Дзівака такога...

Мой навуковы кіраўнік Леанід Мікалаевіч Навічэнка, калі я прачытаў яму гэты верш у яго кіеўскай кватэры, быў надта ўсхваляваны і здзіўлены: «Хто гэта? Дужа гарній вірш!» — «Максім Танк!» — адказаў я з гонарам, як бы напісаў гэтыя радкі сам.

Ой, відаць, нялёгка яму («І дурны ж ты, Квэк, што згадзіўся стаць над цыганскім табарам каралём...»)

[…]

На досціпы наш брат-літаратар вялікі майстар.

**18 верасня.** Учора адзначаў (нават калі і з’ехаў куды на сваім чырвоненькім «Масквічы») свой дзень нараджэння шаноўны Уладзімір Калеснік. Танку — 60, а яму — 50. Аўтар цікавага даследавання «Паэзія змагання» —

кнігі пра маладога Максіма Танка і заходнебеларускую паэзію давераснёўскага перыяду. Калеснік прааналізаваў станаўленне паэта і яго светапогляду, прасякнутага філасофіяй гістарычнага матэрыялу.

Я быў і ў Сіняўскай Слабадзе на Нёмане, дзе ён нарадзіўся, і ў Карэліцкіх лясах, у Налібоцкай пушчы, дзе партызаніў у Вялікую Айчынную вайну. Пасля падзей верасня 1939 года У. Калеснік становіцца студэнтам Наваградскага педвучылішча, і ў ім умацоўваецца ідэя сацыялізму, якой ён, трэба сказаць, сімпатызаваў, па асабістым прызнанні, з юначых гадоў. Тут меў значэнне ўплыў роднага дзядзькі капэзэбоўца-падпольшчыка Арсеня Балабановіча, але не толькі аднаго яго, а ўсяго сацыяльна-гістарычнага кантэксту, з якім быў звязаны юнак. У педвучылішчы яго напаткала каханне да прыгожай дзяўчыны, таксама студэнткі, Зіны Маслоўскай, у якой ён убачыў свой ідэал — духоўнае багацце ў спалучэнні са знешнім харастовом. Гэтая падзея, думаецца, паклала глыбокі адбітак у яго душы і мела ўплыў на ўсе кругі яго жыцця. Зіна Маслоўская загінула ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Алёша Майсейчык, які працуе з Уладзімірам Андрэевічам на адной кафедры, расказвае, што яго ў 1944-м, пасля вызвалення, паставілі дырэктарам Мірскага спіртзавода. У абавязкі дырэктара ўваходзіла кожны раз пасля атрымання гатовай прадукцыі здымаць пробу. Гэтага Уладзімір Андрэевіч не вынес і падаўся ў Баранавічы, у студэнты. Там быў настаўніцкі інстытут.

Калеснік — геній размовы і прамовы. Любіць яго слухаць Янка Скрыган. Слухаць і каменціраваць:

«Уладзімір Калеснік, выступаючы неяк на сходзе, сказаў: «Па нашых творах рысы сучасніка выглядаюць часам расплывіста». А практыка абмяжоўваецца толькі адным, далёка не лепшым словам: расплыўчата.

Ён жа, гаворачы пра нейкую каларытную фігуру, сказаў: «Не так разумны, як нюхлівы».

Якая яркая перадача вобраза!»

Зараз У. А. Калеснік чытае гісторыю беларускай літаратуры і фальклор у Брэсцкім педінстытуце.

Мне імпануе яго роздум:

«Гармонія — гэта залаты плён кавання супярэчнасцей. Яна выступае як свята жыцця, як момант, калі пазнаннем, змаганнем і працай пераможана процьма злыбед, калі адолены адны жыццёвыя супярэчлівасці, а іншыя не паспелі завязацца».

«Паэт шукае гармонію Сусвету ў прыродзе і ў сабе, ды неўпрыцям сам становіцца Сусветам».

Ад Калесніка я ўпершыню пачуў пра нашага філосафа Ігната Канчэўскага.

**21 верасня.** Росквіт бабінага лета. У паветры плавае пяшчотнае павуцінне. З неба, з туманістай далечыні, чуецца жураўлінае «кру». Пачынаюць залацець дрэвы.

**22 верасня.** Была Еўдакія Лось. Скардзілася, што не заўважаюць. Не згодзен. Толькі што выйшла кніжка паэзіі «Лірыка», чытачы ставяцца з павагай. Еўдакія Якаўлеўна між іншым сказала:

— А я магла б і «Бярозку» рэдагаваць. Як вы думаеце?

— Дык вакансіі няма.

Паэтэса пакрыўдзілася:

— Мусіць, не дачакаешся ад вас…

Не выходзіць з галавы тэракт супраць ізраільскіх спартсменаў на XX летніх Алімпійскіх гульнях у Мюнхене. Свет становіцца ўсё больш жорсткім.

**25 верасня.** Чую адмоўныя водгукі на раман А. Савіцкага «Тры непражытыя дні». […] Панікаваць, вядома, не трэба, трэба пастарацца ўлічыць крытыку.

**29 верасня.** Доўжыцца Тыдзень беларускай літаратуры на Чарнігаўшчыне. Паехалі туды асобы не першага раду, а хутчэй сераднячкі. Прыходзяць весткі, што крэпка налягаюць на гарэлку.

**3 кастрычніка.** П. Броўку прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Даведаўшыся, пазваніў яму дадому.

— Віншую, Пётр Усцінавіч, з высокім званнем!

Ён падзякаваў і з хваляваннем у голасе сказаў:

— Але адказнасць якая! Уявіць сабе: Герой Сацыялістычнай Працы! Ведаеце, пра што я зараз падумаў? Учора аднёс у «ЛіМ» сем новых вершаў, а сёння адзін усё ж такі забяру назад.

— Нашто?

— Не той узровень. Для Героя Сацыялістычнай Працы ён слабаваты.

— А можа, толькі здаецца?

— Забяру.

**6 кастрычніка.** Час ад часу заглядаю ў падараную хросным Біблію. Дзіўныя рэчы знаходжу. Напрыклад: «Не будь слишком строг, и не выставляй себя слишком мудрым; зачем тебе губить себя?» (Эклезиаст: гл. 7, радок 16).

Кніга Эклезіяста, напісаная царом Саламонам дзве тысячы гадоў таму, ні на грам не страціла сваёй праўдзівасці. Возьмем хоць бы гэткую мясціну:

«И обратился я и видел под Солнцем, что не проворные побеждают в беге, не храбрым достаётся победа, не мудрым — хлеб, не у разумных — богатство, и не искусным — благорасположение, но время и случай для всех их. Ибо человек не знает своего времени...»

«Чалавек не ведае свайго часу» — як глыбока сказана.

**10 кастрычніка.** Ніксан — хітры: і з Кітаем добры, і з Масквой. Кітай ён палохае Масквой, а Маскву — Кітаем. Гэта пачуў ад лектара ЦК КПСС, які прыязджаў у Мінск.

**13 кастрычніка.** У Саюзе пісьменнікаў была сустрэча з пісьменнікамі В'етнама. Ад нас прысутнічалі М. Аляксееў, В. Рудаў, Г. Бураўкін, А. Асіпенка, М. Кругавых, М. Гамолка, Л. Прокша, А. Рыбак і інш. Гэтай краіне цяжэй, чым каму.

**28 кастрычніка.** Пазваніў М. Прашкевіч. Стаў пытацца, ці чытаў я ў апошнім «ЛіМе» яго артыкул пра фільм рэж. Рубінчыка «Магіла льва». Артыкул, прызнаўся, не чытаў і фільм не бачыў. Мікола пашкадаваў, ён знайшоў шмат неадпаведнасцей у сюжэтных калізіях паміж фільмам і паэмай Я. Купалы і ўказаў на гэта Рубінчыку і іншым стваральнікам кінаверсіі. Правільна. Класіку трэба паважаць.

Добра, што Мікола працуе над сабой і пашырае свой старажытніцкі кругагляд.

Не ўтрымаўся ад успаміну, як калісьці Мікола, як і я, бедны малодшы навуковы супрацоўнік, купіў на Камароўцы кароўе вымя, доўга яго варыў і потым частаваў мяне са Сцяпанам Міско. Мяса ці то не ўварылася ці то само па сабе было цвердаватае, хрумсцела на зубах, але на маладое здароўе прыдалося.

**30 кастрычніка.** Пераход ад кастрычніка да лістапада. Паўсюль цішыня. Час духаў. Дзяды.

Святыя дзяды, завем вас,  
Хадзеце да нас!..

Помню пра гэтае свята сустрэчы з продкамі па фальклорных лекцыях Калесніка.

**3 лістапада.** 90-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа. Адкрыты помнік работы З. Азгура.

З падрыхтаванай намі прамовай выступіў на гэты раз міністр культуры.

Класікі — сучаснікі ўсіх эпох. Гэткі і Колас. Мне ён дарагі тым, што ўмацаваў у беларускай літаратуры павагу да ўнутранага свету чалавека, з яго аўтаноміяй, уласнымі параметрамі душы.

Колас — першы ў нашай літаратуры, хто перанёс акцэнт таго, пра што расказвае, на тое, што вымаўляе. Значэнне Коласа як глыбокага мастака-чалавеказнаўцы для станаўлення рэалізму ў беларускай літаратуры надзвычай вялікае. Дзякуючы яму, а таксама яго паплечнікам, беларуская літаратура пачала даволі хутка, «паскорана» ўсведамляць сябе, сваё месца ў свеце, узнімаючыся да такога ўзроўню, які ўжо не мог не выклікаць цікавасці да яе з боку іншых народаў. «У творчай эвалюцыі свае сімпатыі да селяніна Якуб Колас пашырыў, — адзначае А. Лойка, — да чалавека ўвогуле». І не толькі Колас — іншыя таксама. Гэта быў знамянальны працэс: як-ніяк, цэлы народ — беларусы, перад якімі рэвалюцыя расчыніла дзверы ў будучыню, — уключаўся праз родную літаратуру ў сусветную плынь быцця, уваходзіў у кола народаў свету.

Усім гэтым мы абавязаны нашым пісьменнікам-пачынальнікам, пачэснае месца сярод якіх па праву належыць Якубу Коласу.

Праўда, азгураўскі помнік падабаецца не ўсім.

**6 лістапада.** Атрымаў у размеркавальніку прадукты. Указ па барацьбе з п’янствам адбіўся і на нашым размеркавальніку: болей адной бутэлькі не даюць. Але ў звычайным магазіне не купіш і гэтага. Хто бывае ў Маскве, валачэ адтуль прадукты.

Вечарам адбылося ўрачыстае пасяджэнне ў гонар Кастрычніцкай гадавіны.

**7 лістапада.** Як звычайна, парад і дэманстрацыя працоўных. На гэты раз не хадзіў, таму што кожны раз фактычна адно і тое ж.

**14 лістапада.** Аб’яднаны пленум творчых саюзаў Беларусі (пісьменнікі, кампазітары, мастакі) і тэатральнага аб’яднання з нагоды 50-годдзя ўтварэння СССР. Уступнае слова К. Крапівы. Даклад М. Танка «Ідэйная якасць, высокае майстэрства».

Мы часта карыстаемся магічнай формулай: <u>дэманструем, прадэманстравалі</u> і г. д. Аднак тое, што мы <u>дэманструем</u>, часцей за ўсё адна бачнасць: нашы дасягненні, дружба народаў, ідэйнае адзінства, перавага над праціўнікам і г. д. Гэтай рыторыкай у поўнай меры начыніў свой даклад (з дапамогай кансультантаў) Яўген Іванавіч.

Пішам даклад Машэраву да 50-годдзя ўтварэння СССР. Усё гэта будзе і ў гэтым дакладзе. Перад гэтым ён нас збіраў у сваім кабінеце і доўга інструктаваў, курачы амерыканскія цыгарэты «Fillip Morris».

Кіруе нашай групай Юрый Пятровіч. Адчувае мелодыку машэраўскай мовы, інтанацыю шэфа. Мець такога памочніка — вялікая ўдача.

**15 лістапада.** У наступным месяцы — паўстагоддзя часопісу «Полымя». Першы нумар выйшаў у снежні 1922 года. Параіліся з А. Т. Кузьміным і дамовіліся прасіць ЦК КПСС узнагародзіць часопіс ордэнам «Дружбы народаў». Вечарам паслаў дакументы ў Маскву.

**17 лістапада.** Кожны вечар гуляем з Тамарай па Фабрычнай пад ліпамі. Позняцца нешта нашы роды. Хвалюемся, і яна, і я.

**20 лістапада.** У мяне нарадзіўся сын. Раніцай пабег у раддом праведаць. Перадаў запіску і — дурань — свежыя газеты. У адказ атрымаў вымову: «Я есці хачу, а ты мне газеты...» Я тут жа выправіўся, наладаваў пакет бутэрбродамі, купіў на Камароўцы яблыкаў. Хлопчык — здаровенькі.

**22 лістапада.** Новыя клопаты. Як назваць? Тамары падабаецца імя Кірыл. У перакладзе са скандынаўскага Кірыла — сонца. Пакуль што нашу перадачы ў шостую клініку, дзе ён нарадзіўся.

Мяне бацька назваў у гонар Леніна. Было гэта пры «панскай Польшчы».

**23 лістапада.** Заказаў «Волгу». Заўтра куплю кветкі. Уцяпляю кватэру. Заткнуў шчыліну ў покуце. Буду забіраць з раддома.

**25 лістапада.** Уцяпліў вокны і дзверы на балкон. Малы штодня прымае ванны з марганцоўкай. Купіў яму ложак. Асабліва завіхаецца вакол сыночка маці. Паведамляем родзічам.

**28—29 лістапада.** Прымаем наведвальнікаў. Віншаванні. Ліецца гарэлка.

**1 снежня.** Анатолю Вольнаму (паэту, фельетаністу, кінасцэнарысту) споўнілася б 70 гадоў. Жыццё абарваў 1937-мы. Артыкул С. Шушкевіча ў «ЛіМе». Подобныя памінальныя згадкі гучаць як своеасаблівыя трэны. Часта, на жаль, напісаны яны па-казённаму суха. С. Шушкевіч пра тое-сёе ўспомніў, але няма, напрыклад, аповеда пра ўзаемаадносіны Анатоля з Верай Харужай, якую ён кахаў, а потым паміж імі нешта адбылося. Што? У лістах Веры пра гэта ёсць.

**4 снежня.** М. Гамолка падарыў новую сваю кнігу «Девушка шла по войне». Цікава. Характар гераіні праяўляецца ў выпрабаваннях, добра паказана яе эмацыянальна-псіхалагічнае жыццё, вернасць у каханні і дружбе. Мікола сказаў мне, што прататыпам стала яго жонка. Я яе крыху ведаю: прыходзіла да нас ў аддзел па кватэрным пытанні. Баявая. Размаўляла, мякка кажучы, на павышаных танах. Парватаў ад яе кудысьці схаваўся, а потым пытаў: «Кто такая?»

**14 снежня.** Прыязджалі плешчаніцкія — дзед, баба, Пеця і іншыя родзічы — адзначыць нараджэнне яшчэ аднаго ў сваім родзе. Навезлі самагонкі («паравой» — як кажа цешча, якая яе і цісне), вяндліны, салцісонаў і іншых прысмакаў, на якія Вера Васільеўна вельмі здольная. Нездарма ў яе прозвішча Кухаронак.

У кватэры цёпла. Малы ляжаў голенькі ўпоперак ложка, круціў галоўкай і сукаў ручкамі і ножкамі. Скончылася застолле вечарам. Госці былі на добрым падпітку, раз’язджаліся, гаманілі, цягнулі нястройнымі галасамі нейкую песню.

**20 снежня.** Урачыстае пасяджэнне ў гонар 50-годдзя ўтварэння СССР у Палацы спорту. З гучным дакладам — Пётр Міронавіч. Пасяджэнне вітаюць, арганізаваныя супрацоўнікамі нашага аддзела, асабліва заслужаныя прадстаўнікі працоўных — ад рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі, камсамола, піянераў і ў тым ліку ад камуністаў-ветэранаў. Гэта — М. Арэхва і інш. (арганізоўваў якраз я). М. Танк не ўтрымаўся, каб не пажартаваць:

— О-о, старыя камуністы ўзялі ўладу!

Жарт гаркаваты, у яго падтэксце можна знайсці ўсё.

Даклады Пётр Міронавіч чытае, як мастацкі чытальнік, мяняе інтанацыю. Многія, трэба прызнаць, ім захапляюцца. І для гэтага ёсць падставы. Пётр Міронавіч — новы тып партыйнага дзеяча, які не абмяжоўваецца палымянымі прамовамі, як, да прыкладу, Іван Фролавіч, і не толькі ставіць мэту, а імкнецца знайсці шляхі і сродкі для яе рэалізацыі.

**26 снежня.** Прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Уступаць прапанаваў — Барыс Іванавіч, ён жа даў і рэкамендацыю, а яшчэ далі А. Асіпенка і Дз. Бугаёў. У гэтым годзе выйшла мая кніга «Традыцыі і наватарства» (тыраж прыстойны — 2500 экз.), што і дае мне такое права. Прайшоў прыёмную камісію (закрытае галасаванне), і цяпер пытанне вынеслі на Прэзідыум. Максім Танк, пагартаўшы паперы ў маёй асабістай справе, пажартаваў у сваёй дасціпнай манеры:

— Дык у яго сёння двайное свята, яшчэ і дзень нараджэння!

Адказаў на зададзеныя пытанні. Галасаванне на Прэзідыуме таксама тайнае, закрытае. Прагаласавалі — за.

Ведаю, што трэба шмат працаваць над сабой, даставаць з сябе ўсё, што падорана прыродай, продкамі.

Ну што ж «упярод і з песнямі!», як загадваў калісьці мой старшына роты Прахарэнка.

**27 снежня.** Убачыў нарэшце свет сёмы том Кароткай літаратурнай энцыклапедыі. Якое глыбокае вызначэнне філалогіі даў у ім С. Аверынцаў!

«Одна из главных задач человека — понять другого человека, не превращая его ни в поддающуюся «исчислению» вещь, ни в отражение собственных эмоций. Эта задача стоит перед каждым отдельным человеком, но также перед каждой эпохой, перед всем человечеством. Филология есть служба понимания и помогает выполнению этой задачи».

**28 снежня.** Заходзіў Якаў Герцовіч. Скаргі, што забылі, значыць, не патрэбны. А потым прызнаўся, што і сапраўды пяро прытупілася, горш стаў адчуваць ідэйныя арыенціры. Прасіў падказваць, каго трэба ўзяць пад крытычны прыцэл.

Герцовіч — крытык са сваім густам, хай ім і кіруецца.

Навагодні Дзед Мароз. Закурыў цыгарэту, пыхнуў дымам, бліснуў шкельцамі акуляраў.

— Вы пішаце пра паэзію. На вялікі жаль, у апошнія гады наша лірычная паэзія многае страціла ад сваёй грамадзянскасці, сваёй блізкасці да народнага жыцця.

Я не стаў спрачацца. Ён дакурыў цыгарэту і пайшоў, насунуўшы на галаву шапку.

**29 снежня.** Па тэлебачанні паказвалі, як пагрозліва дыміць на Камчатцы вулкан Алаіт. Прачнуўся і дыміць, выкідае з чэрава чырвоную магму.

У нас лёс грозна напомніў аб сабе выбухам у цэху футаралаў на радыёзаводзе.

**31 снежня.** Год прайшоў, мне здаецца, у цэлым не марна. З’явіўся, насупраць думцы Герцовіча, — шэраг, я сказаў бы, выдатных кніг П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Лужаніна, В. Віткі, К. Кірэенкі, А. Пысіна, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, В. Зуёнка і інш. І ў кожнай з іх ёсць яркія, па-сапраўднаму змястоўныя творы, якія і падводзяць пэўныя вынікі, і адначасова ў многім вызначаюць новыя перспектывы развіцця нашай паэзіі — у сэнсе арыентацыі на свежыя ідэйна-тэматычныя пласты рэчаіснасці, новыя спосабы яе асэнсавання, паказ шматмернасці духоўнага свету сучаснага чалавека.

***Працяг будзе.***



## Валянцін ЛУКША

### ДАРАВАЛЬНАЯ НЯДЗЕЛЯ

Люты завяршыў пару мяцеліц,
Пакаціўся з масленічнай горкі…
Рупна Даравальная нядзеля
Крыўды спрытна скідвае у торбу,

Каб яны ні ў чым не заміналі
Ні прызнанню,
Ні світальнай песні,
Вёснам,
Што дакладна абуджалі
Сокам набрынялае узлессе,

Думкі не стрыножвалі лянотай,
Сонечныя,
Светлыя памкненні…
Хай добразычлівы дзень турботны
Нам крынічкай жваваю струменіць…

Раніцай кажу:
— Даруйце, людзі!.. —
І схіляю галаву сівую…

Мне адказам дабравесным будзе:
— Вернікам Хрыстовым
Бог даруе!..

---

***Лукша Валянцін Антонавіч*** *нарадзіўся 16 лістапада 1937 года ў Полацку. Скончыў аддзяленне друку Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС (1976). Працаваў у мясцовых і рэспубліканскіх СМІ. У 1980—1998 гг. — дырэктар выдавецтва «Юнацтва».*

*Аўтар кніг паэзіі «Гарады нараджаюцца сёння» (1964), «Атава» (1969), «Споведзь» (1973), «Белыя берагі» (1981), «Сляды памяці» (1986), «Агонь і попел» (1989), «Покліч лёсу» (1997), «І родны дом, і цэлы свет» (2006) і інш., шматлікіх зборнікаў вершаў і казак для дзяцей, п'ес, пастаўленых на тэатральнай сцэне, радыё і тэлебачанні, тэкстаў многіх папулярных песень.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

## СТУДНЯ

Прасохлы журавель рыпіць над студняй,
Адорвае вадою круглы год, —
Цяплом зямлі сагрэтаю у студзені,
У ліпені — халоднаю, як лёд.

Над вёскай ціхай журавель крыляе,
Як птах, якому вышыні стае, —
У неба ранкам сонца падымае,
Увечары — прадонню аддае.

Ля студні камлачок зямлі, як плошча, —
Тут тайну можна людзям давяраць,
Тут праўдай па вачах зласліўцам хвошчуць
І шлях надзейны могуць падказаць.

Спрадвеку студня, нібы храм Гасподні, —
Усіх прымірыць, возьме пад крыло,
Каб абмінуў зласлівы лёс бясплодны,
Каб трапіў ён у чортава сіло.

## ПЕРАД МАСЛЕНІЦАЙ

Адчайна звоняць капяжы,
І вельмі хочацца паверыць:
Хоць снег на ўзбочыне ляжыць,
Свяжак вясне расчыніць дзверы.

Вясна нястрымная, як гром,
Яна зіхоткая, як свечка.
Як касалапы, крыгалом
Варочаецца ў стылай рэчцы.

Крыху — і жураўліны клін
Рассыпле шчасны кліч над краем,
Бо сонца — масленічны блін —
Дзень-залацень распачынае.

## ДРЫБІНСКІЯ ШАПАВАЛЫ

Матуля неаднойчы мне казала:
— Настойлівасць — зайздросных спраў зарука…
У дрыбінскіх славутых шапавалаў
Дзядоў дарунак — залатыя рукі.

Міргае каганец, ці ззяе поўня,
Да ладу распачатае даводзяць, —
З паўсцінкай кожнай у сумёце воўны
Паразуменне поўнае знаходзяць.

Ім роднае валянне і катанне,
Сакрэты таямнічыя аздобы,
Бо вырабы пазначаны прызнаннем
Тавару самай найвышэйшай пробы.

І хоць цяпер брылі, і хоць магеркі
Змянілі на бейсболкі ці банданы,
Дагэтуль грэе ногі, цешыць сэрцы
Абутак, шапаваламі зваляны.

Няхай мароз калядны крэкне звонка,
Пахрумствае салодка пад абцасам,
А дрыбінскія слынныя валёнкі
Заўжды у згодзе з модай,
Згодзе з часам.

## ВЫЦІНАНКА

Здзіўляе часам, быццам промнік ранкам,
Што спрытна працярэбіцца праз хмары,
Знаёмая да болю выцінанка —
Маленства развярэджаная мара.

Бялюткі, чысты аркушык паперы
Адкрые свет глыбокі і багаты,
Калі ў яго уклалі частку сэрца
І прадчуванняў водгулле крылатых.

Наструніліся, быццам воі, пеўні
На прывідным дамку з забытай казкі…
Яшчэ хвіліна — зазіркочуць, пэўна,
Іх грэбні, быццам вогненныя каскі.

Вунь лебедзі мілуюцца на люстры
Вады маўклівай возера глухога…
Сава ўзнялася і крыляе шустра —
Злавіць імкнецца галубка ляснога.

Дзяцінства непаўторныя карункі
У сціплых выцінанках ажываюць…
І снамі чорна-белымі малюнкі
Гадоў далёкіх нада мной лунаюць…

## ЦАРСКАЕ ПАЛЯВАННЕ Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

У пушчы трубіць паляўнічы рог,
Крывавае пазначылася ранне.
Вяльможаў клічуць скразнякі дарог —
Іх царскае чакае паляванне.

З травы знікалі дыяменты рос,
Узлесак схамянуўся азалелы, —
І сцежка, што прабіў грудасты лось,
Азвалася сухім смяротным стрэлам.

Зуброў касіла градам злосных куль.
Ікластых вепрукоў свінцом касіла,
Звер падаў, як з калёс набраклы куль,
Бы колас, надламаны чорнай сілай.

Натоўпам паляўнічыя ішлі,
Хвалілі царскі спрыт, і густ, і трапнасць…
Калелі іх набыткі на зямлі,
Ашчэрыўшы акамянела храпы…

Плыло ракою хмельнае віно,
Сквірчэла смачна на вуголлі мяса,
Ганчак круціўся порстка каля ног —
Ён да пачосткі паляўнічай ласы.

Туман паляну шумную спавіў,
Дзе віраваў нястрымны баль вясёлы…
А сонца буйнай кропляю крыві
За лес шчарбаты ападала долу.

## ЛОТАСЫ Ў ДЭЛЬЦЕ ВОЛГІ

За кветкаю пунсовай доўга-доўга
Ісці і дзень і ноч на край зямлі…
Я сведкам дзіва быў:
у дэльце Волгі
Спякотным жніўнем лотасы цвілі.

Спачатку, быццам сціплае цяпельца,
Над прывіднай вадой запунсавеў,
Світанак развінуў пялёсткі смела,
І стаў пунсовым навакольны свет.

Цвіў лотас і цнатліва, і спакусна,
І валгары дзівіліся красой.
У рэшце рэшт заружавеўся густа
Над плыткаю вірліваю вадой.

Я двое сутак не садзіўся ў лодку.
Калі ж паплыў праз дзіды трыснягоў,
Убачыў на вадзе збялелы лотас,
Як белы пух між стромых берагоў.

За перакаты адплывала лета,
Туман ухутваў азалелы лог.
Удалечы знікала дзіва-кветка,
Нібы жар-птушкі лёгкае крыло.

## АМУДАР’Я

Як бегам змораная кабыліца
З гарачай пенай стомы на баках,
Амудар’і гаючая вадзіца
У прывідных пясках прыцішыць шлях.

Яе чакалі мужна і цярпліва
Сасмяглыя спрадвеку кішлакі,
Пасушаныя злоснай спёкай нівы,
Збялелыя, як снег, саланчакі.

Чакалі і дарослыя, і дзеці
Насычаны ледавіком струмень.
Што для пустыні даражэй на свеце
За сонца, і ваду, і лёгкі цень?

Бо недарэмна  кажуць у народзе:
З вадой схлынае чорная бяда,
І не зямліца у пустыні родзіць,
А родзіць жыццядайная вада.

Стаю ля Каракумскага канала, —
Плюскоча рукатворная рака,
Якая пад арчою залюляла,
Бы светлага анёлка, хлапчука.

## ШКОЛА ЖАБРАКОЎ

Лёс выйсце ўсім зняверaным даводзіць
З прыцемненых жыццёвых тупікоў…
Мне выпала на гаманкім Усходзе
Наведаць неяк школу жабракоў.

Там навучэнцы з гарадоў і вёсак
Глытаюць мудрасць тайную вякоў:
Як падшыванцу выглядаць дарослым,
Ацэньваць вартасць слізкіх медзякоў,

Трымацца як на «службе» бездакорна,
Слязу з прахожых шчодра выкрасаць.
Калі ж манетак вымкнецца пагорак,
То непрыкметна у рыззі схаваць.

Ніколі не засвечвацца у крамах —
Бо крамы на зямлі не для такіх…
На вуліцы шпурляе школа прагных,
Намуштраваных шкаляроў сваіх.

Тут кожны знойдзе месца па прызванні
І будзе свой каваць уласны лёс…
Трапечацца асмужанае ранне
Пад векавечным позіркам нябёс.

## КУЗЬМІНКІ

Лістапад лагодзілі Кузьмінкі —
Ёсць у свята місія свая.
І крыштальна-чыстыя ільдзінкі
Берагі услалі ручая.

Іклы хмызнякі драпежна шчэраць,
Камлакамі сцелецца туман,
Быццам коўдрай ахінае шэрань
Парудзелы восеньскі дзірван.

Птушкі рупна на спачын аднеслі
Песні непаўторныя свае.
Зноў вятрам у голым полі цесна —
Ім заўжды прасторы нестае.

Кволыя іскрынкі павуцінкі
Зіхацяць, як прывідны падман,
Па удзячнай восені памінкі
Ладзяць кавалі Кузьма-Дзям’ян.

Цвік заб’юць лядовы у дарогу —
Толькі б каляіну не згубіць, —
І, малітвай ухваліўшы Бога,
Сцежкі для Піліпаўкі адкрыць.

**Уладзімір ЛІПСКІ**



# МУЖЫК[1]

***Дакументальная аповесць***

## ПАЛЕТАК СІНЯЙ СІНІЦЫ

## V. Што аддаў — тое і тваё

(НЭП другі — новая эканамічная палітыка)

*Без идеалов, то есть без определенных хоть сколько-нибудь желаний лучшего, никогда не может получиться никакой хорошей действительности.*

Фёдар Дастаеўскі

### 1. Санаторый для кароў

У запісных кніжках Аляксея Скакуна, як з руды, «вымыў» залацінку старажытнай мудрасці. Дзе ён яе пачуў, вычытаў і занатаваў — невядома. Ды гэта і не вельмі істотна. А павучальнасць афарызма вось у чым: «Таму, хто не ведае, у якую гавань плыць, няма спадарожнага ветру».

Аляксей Скакун аднойчы і назаўжды выбраў сваёй гаванню беларускую зямлю, матку нашу, якая ўсіх нас корміць і поіць, якой чым кланяемся ніжэй, тым да хлеба бліжэй. А ў той прыстані хрышчонай ён, гаспадар абраны і прызнаны, правільна вызначыў найважнейшыя месцы для сваіх стратэгічных «крэйсераў». Дык вунь чаму камандзіру сельскай эскадры ў «Астрамечаве» заўсёды спадарожнічае вецер.

Пад надзьмутымі ветразямі стаяць у той гавані элегантныя караблі-фермы, сапраўдныя фабрыкі малака. Спачатку іх у кааперэтыве было адзінаццаць, цяпер — усяго шэсць. Але якіх!

У архіўных справаздачах калгаса «Памяць Ільіча» за першую пасляваенную пяцігодку захаваўся ўрачысты рапарт: за год астрамечаўскія даяркі атрымалі ад сваіх кароў ажно трыццаць тон малака. Цяпер жа, у снежні 2010 года, на фермах СВК «Астрамечава» кожны дзень маюць па сорак тон малака. Уяўляеце, зімовым днём, калі завейна і зялёная паша накрыта снежнай коўдрай, астрамечаўскія рагулькі радуюць усіх сваімі рэкорднымі надоямі. А скакуноўцы цешацца: жывёла — у цёплых кароўніках, кармоў удосталь, малако — гатунку «экстра».

Сядзяць праўленцы на ранішняй нарадзе, якая заўсёды а палове восьмай, і гудзяць, як бухматыя чмялі, перабіраюць лічбы, працэнты, называюць нечыя

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 1—3, 6 2011 г.

прозвішчы. Мужыкі задаволеныя сваімі набыткамі, а мне, свежаму навічку, карціць ведаць пра іх клопаты, падрабязней.

— Пра што гаворым? — апярэджвае маю цікаўнасць намеснік Скакуна па вытворчасці Віктар Герасімовіч Козіч. — А во мяркуем пра перспектыву.

Пакой дыспетчарскай на першым паверсе раптам затросся ад такога рогату, што, думаецца, людзі ва ўсім будынку праўлення чуюць яго. Я ў разгубленасці, нічога не разумею, а Козіч пачынае баіць жарт пра «перспектыву»:

— Гэта ж, кажуць, даўней у лышчыцкім калгасе адной зімой каровам не было чаго есці. Хочаш малака — падаі быка. І вырашылі каровы пайсці ў лес, пашукаць пад снегам якога-небудзь корму. Клічуць сабаку Шарыка, каб павартаваў іх там ад ваўкоў. А Шарык адказвае: «Не, рагулькі, ідзіце адны ў лес, у мяне перспектыва ёсць». — «Якая?» — «Я раніцай чуў, як у кабінеце старшыні калгаса казалі: «Кароў няма чым карміць, самім няма чаго есці, у перспектыве — будзем смактаць Шарыкаву лапу».

Астрамечаўскія мужыкі разам са Скакуном зноў апетытна смяюцца. А мне забаўна бачыць іх гуллівымі, усцешанымі. Яны раным-рана весяляцца, ды «чаму ж ім не гудзець, калі ў іхняй хатачцы парадачак ідзець». На нарадзе галоўны заатэхнік Мікалай Міхальчык спакойным голасам аб’явіў:

— Учора зноў атрымалі сорак тон малака. Уся прадукцыя здадзена вытворцам сортам «экстра»…

Каб зразумець гэты будзённы, астрамечаўскі рапарт, трэба вярнуцца ў маленства Аляксея Скакуна. Вось ён з дзедам Васілём абкошвае каля крынічкі кусты, і яны нясуць сваёй карове-карміцельцы ношачкі свежай травы. Вось ён з сябрам пасвіць статак кароў, ганяецца за імі, каб не залезлі ў чый агарод, каб не зазыкавалі дамоў. Вось ён ідзе на бацькаву ферму і бачыць, як даяркі дояць худых, галодных кароў і вёдрамі носяць малако ў бітоны. Ён дапамагае віламі ачысціць калгасны хлеў ад гною, падае кароўкам на сняданак сечку з саломы і буракоў. Тыя рыкаюць, як бы плачуць з-за свайго лёсу, нібы ведаюць, што павінны не толькі з’есці выдзелены ім паёк, але і даць паболей малака.

Дастоеўская бабуля Хрысціна, былая даярка, перад тым, як прыгадаць сваю працу на ферме, перахрысцілася:

— Госпад праведны, кароў падымала — ночы не спала. Дзяцей не так глядзела, як калгасны статак. Але ні я, ні каровы не зрабіліся сталінскімі стаханаўкамі…

Словы «мама» і «му-у-у» Алёша Скакун прамовіў амаль адначасова. Пасля мамінага малачка, іх Зорка першай частавала хлопчыка сваім сырадоем. Яна, як і мама, ласкава пазірала на дзяцей, цёпла дыхала. Ды карову ў двары Скакуноў і называлі мамкай. Яна дапамагала і малым узмацніцца і старым не страціць сілы.

Ва ўсіх сваіх далейшых сельскіх пасадах Аляксей Скакун вылучаў галоўную надзею — жывёлагадоўлю. А ў ёй — атрыманне малака, самага жыўільнага, гаючага напою на белым свеце. Праблем тут заўсёды хапала, ды Аляксей Сцяпанавіч браў ношу па сабе, каб не падаць пры хадзьбе.

Рашэнне прыняў адназначнае — рэфармаваць малочныя фермы. Але як, за якія сродкі, па якім метадзе? І вырашыў Скакун праскакаць са сваімі спецыялістамі па замежных краінах, падшліфаваць свой аграрны курс.

У Германіі пабывалі на малочным аб’яднанні «Рынмільх-Фербунд». Што за дзіва? Удойнасць кароў у дзесяць тысяч кілаграмаў — звычайная норма. Адна даярка абслугоўвае 250 асобін. Няўжо астрамечаўскім маладзіцам такое не пад сілу?

«Трэба нам аднойчы прачнуцца і засаромецца, і ўзлавацца на саміх сябе, — вырашыў Аляксей Сцяпанавіч. — З дапамогай разумных прынцыпаў

выйсці на эфектыўны аграрны шлях. Рашуча адмовіцца ад заскарузлай савецка-калгаснай практыкі, калі сямёра стаяць на стозе, а адзін падае ім сена, калі садзяцца есці — пацеюць, а як пачынаюць працаваць — мёрзнуць…»

Па вяртанні з Нямеччыны Аляксей Сцяпанавіч абабіў парогі высокіх кабінетаў, узяў на гаспадарку вялікія крэдыты, што аж пазайздросціў яму сусед, старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» Уладзімір Бядуля. Але Скакун супакойваў усіх сваёй рашучасцю: «Паверце астрамечаўцам, і яны дакажуць, што не горшыя гаспадары за немцаў».

Так на малочна-таварных фермах у Астрамечаве, Лышчыцах, Марозавічах, Вялікіх Зводах, Яцкавічах з'явіліся сучасныя даільныя комплексы «Вестфалія», «Паралель», «Ёлачка». Сенсацыя: дзве тысячы сто кароў пачалі даіць усяго трынаццаць даярак!

З паездак у Злучаныя Штаты Амерыкі і Данію астрамечаўскі рэфарматар прывёз новыя ідэі. Усе ведалі, калі Скакун загарэўся нечым новым, — не патушыш венікам, не астудзіш лёдам, не супыніш аніякім святлафорам. Яго палымяная прамова на сходзе спецыялістаў сталася факелам, які асвяціў дарогу далейшым рэформам на фермах.

— Давайце ўлічым, што карове патрэбна ў хлеве не проста стойла, а кубічная прастора. З гэтай мэтай мусім праводзіць капітальную рэканструкцыю будынкаў, — тлумачыў Аляксей Сцяпанавіч. — Кароў нельга трымаць на ланцугу. Ім трэба такія ўмовы жылля, каб адчувалі спакой і ўтульнасць. Створым для іх «шведскі стол» з вітаміннымі кармамі. Паела ўдосталь, адпачыла на залацістай саломе і — на дойку….

Той-сёй называў Скакуна казачнікам. Не ўлічвалі, што ён ядавіты да работы, як мураш упарты.

Прапусцім у гісторыю яго бяссонныя ночы, у якія ён спаў як пан на хамуце, яго незлічоныя паклоны ў кабінеты чыноўнікаў і банкіраў, яго нястомную муштру сваёй каманды, і зробім экскурсію на цяперашнюю Лышчыцкую ферму.

Яшчэ здаля бачны светлы будынак, як бы карабель пад ветразямі. Вакол — зялёныя прасторы пасеваў, пад дыхтоўнымі дахамі катэджы. А тут, за лёгкай агароджай, па словах Аляксея Сцяпанавіча, — жывая фабрыка малака, санаторый для кароў. Перад фермай — самаробная альтанка, з густам аформленая мясцовымі майстрамі. Каля яе — лаўкі для адпачынку. На адной з іх «сядзіць» крыху задуменны, але ў добрым гуморы тутэйшы жывёлавод. Яго драўляную выяву «зваялі» самадзейныя разьбяры па дрэве. Кажуць, гэта загадчык фермы сядзіць і думае, як павялічыць надоі.

Каля фермы — кветнікі. Заходзім у прасторны корпус, і зусім няма адчування, што ты апынуўся ў хляве са спецыфічным пахам для такога памяшкання. Чыста, утульна, аб'ёмна. Пасярэдзіне кароўніка, быццам «вуліца», на якой і ёсць шведскі стол для чорна-пярэстых рагуль. Тэхніка пастаўляе ім корм. Падыходзь і ласуйся, як кажуць, ад пуза, колькі захочацца. Але ж сама карова лішняга не возьме, а які ёй патрэбен рацыён, пра гэта добра ведаюць спецыялісты.

Каровы спакойна паводзяць сябе — прывыклі да экскурсантаў. Адны адпачываюць на сухой саламянай пярыне, другія даядаюць сваю норму, а трэція проста дзівяцца, хто ж сёння завітаў да іх на экскурсію.

У кожнай каровы свой бокс, нібыта свая аднапакаёўка. Яна не прывязаная ланцугом, як гэта было шмат гадоў у старых фермах. Таму і адчуванне, што жывёла тут гаспадар, ёй — увага і павага, а ўзамен — малако.

Два разы ў суткі, у шэсць раніцы і ў шэсць вечара, кароў запрашаюць у даільную залу. Кожная ведае там сваё месца, а калі забудзецца, ёй падкажа аса-

бісты камп'ютар-ашыйнік. Даяркі (па-цяперашняму — аператары машыннага даення) Галіна Зданевіч і Вольга Данілюк аднаразовымі сурвэткамі кожнай карове апрацуюць вымя, падключаць да яго даільны апарат. Далейшы працэс бярэ пад кантроль камп'ютар. Ён устаноўлены за шкляной перагародкай.

Уявіце: у даільнай зале гучыць спакойная, класічная музыка. Пад яе мелодыю каровы аддаюць малако ў халадзільную камеру. У гэты час камп'ютар фіксуе да грама рэкорды кожнай рагулі. Іх прадукцыю тут жа даставіць у Брэст супермалакавоз. А галоўны заатэхнік Мікалай Міхальчык, як нешта звычайнае, аб'явіць на ранішняй лятучцы праўленцам:

— За мінулыя суткі на фермах атрымана сорак дзве тоны малака.

Даяркі з гэтай нагоды складаюць свае прыпеўкі, пажаданні. Маляўнічую насценную газету з такімі творамі ўбачыў на Астрамечаўскай ферме. Яе аўтар Мальвіна Наўцэвіч напісала:

Будзьце жывы і здаровы,
Жадаюць нам малочныя каровы.
І кахайце, і любіце,
Жыццю радавацца спяшыце.
Каб кожная буронка
Прывяла па два цялёнкі,
А малочная рака
Размывала берага!

Даруем вясковай паэтэсе хібы верша, але ён падслуханы сэрцам, напісаны шчыра, з душэўным зычаннем, каб малочная рака СВК ніколі не мялела, а наадварот падмывала берагі, павялічвала рэчышча. Для гэтага тут ёсць усё. А галоўнае — ёсць гаспадар Аляксей Сцяпанавіч Скакун, які за навінкай гатоў ляцець на край свету, для якога «Астрамечава» і ёсць яго жыццё. Усім падабаецца яго мужыцкі прынцып: калі хваляць, не ганарыся, бо дарога да поспеху далёкая; калі лаюць, не сярдуй — памылак у кожнага шмат, і помні — сябар не той, хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа.

Сказаць праўду пра малочную эканоміку прашу знакамітую на ўсю Беларусь даярку, Героя Сацыялістычнай Працы Лідзію Дзмітрыеўну Брызга. Яна ў свой час часта бывала ў маскоўскім Крамлі, на з'ездах КПСС, у мінскім Доме Урада, дзе засядалі народныя дэпутаты.

Ад астрамечаўскай адміністрацыі да яе шыкоўнага катэджа — усяго некалькі сотняў метраў. Я адольваю іх з хваляваннем. Сказалі, што Лідзія Дзмітрыеўна хварэе, нікога не прымае, але мяне ўважыла. Зараз убачу чалавека-легенду!

Дзверы расчыняюць дочкі гаспадыні Ірына і Лена. Абедзве працуюць у СВК «Астрамечава» — ветурач на ферме і начальнік аддзела кадраў. Праводзяць у прасторны пакой.

У мяккім крэсле сядзіць мажная, стомленая жыццём і таблеткамі жанчына. Побач — кіёчак, яе памочнік пры хатняй хадзьбе. Вітаемся. Пакуль шукаю патрэбныя словы, Лідзія Дзмітрыеўна сама распачынае гаворку, ціхім, даверлівым голасам апавядае:

— Вельмі хвалю, што вы ўзяліся пісаць пра Скакуна. Пра яго плоха не скажу. Хадзяін! Чалавек дзела. Паболей бы такіх мужыкоў!..

Лідзія Дзмітрыеўна, бачу, збіраецца яшчэ аб нечым прызнацца, словы ёй даюцца цяжка, і я цярпліва чакаю.

— Аляксей Сцяпанавіч мяне сюды заманіў. Я ж у калгасе імя Жданава рабіла. Мама там была даяркай, бацька ў вайну загінуў, дык я, лічыце, на ферме і вырасла. Дапамагала маме, а тады і замяніла яе. Як надаіла па пяць тысяч літраў на карову, Героя далі…

— А як жа Аляксею Сцяпанавічу ўдалося вас да сябе перамaніць?

— Хэ, тады ж і ў яго на фермах не было, як цяпер, даільных залаў, аўтаматыкі. А яму хацелася, каб я паказала, як трэба ставіць рэкорды ў звычайных умовах. З мужам Мікалаем узяліся даіць, даглядаць ажно сто кароў на ферме ў вёсцы Рудавец. Вой-вой, прыйдуць карэспандэнты браць інтэрв'ю, а я ім кажу: «Дзетачкі, пачакайце, нам з мужам трэба во ету гару буракоў, амаль тры тоны, раздаць жывёле. Вечарам пайду да іх з вёдрамі, каб малаком аддзячылі…»

Лідзія Дзмітрыеўна скупа ўсміхнулася, а пасля зноў пасур'ёзнела:

— Добра напішыце пра Скакуна. Ён вельмі харашэнны чалавек. Умее ўпраўляць! Не абідчывы. Бывала, прыедзе на ферму, я паскарджуся. Выслухае і абавязкова выканае мае просьбы… Напішыце, што на цяперашніх фермах салома на падсціл лепшая за тую, якой мы кармілі худобу. Не, пра Скакуна нічога плахога не скажу. Ён — наш астрамечаўскі герой! Так і напішыце ў кнізе…

Лідзія Дзмітрыеўна Брызга крышку памаўчала і сказала апошняе:

— Скакун — дальнавідны хадзяін. Ён жа не толькі мяне сюды пераманіў. Цяпер у яго працуюць мае дочкі, іх зяці, унук. Сястра мая тут рабіла, яе дзеці засталіся ў Астрамечаве…

Нашу размову ўважліва слухаў белы кот Барс. Раптам ён падняўся, выгнуў спіну, зірнуў на мяне, і я зразумеў: далей мучыць роспытамі гаспадыню не варта. Мы развіталіся з надзеяй, што я зайду ў гэты дом яшчэ раз, але толькі з кнігай «Мужык».

Уладарыў шыкоўны зімовы дзень. Дрэвы стаялі ў срэбных каронах, у іскрыстых кафтанах. Вока цешылі бялюткія палеткі. Адпачывае зямля, але не спіць. Яна зацяжарана рунню, травамі. Неба шэрае, але не ціснe, не прыніжае, не прыгінае астрамечаўцаў да зямлі, наадварот, заманьвае ўвысь.

На плошчы, каля праўлення, сустракаю Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Адчуваю, машына і гаспадар ацяжэлі ад дзённых клопатаў. Расказваю пра сваю сустрэчу з Брызгай. Вочы старшыні бліснулі дзіцячай радасцю:

— Во што ёй трэба было паказаць, — Аляксей Сцяпанавіч дастае з кішэні раённую газету «Заря над Бугом», а там амаль на ўсю старонку — адны лічбы. — Вы толькі зірніце: нашы 2295 кароў далі за адзінаццаць месяцаў па 7113 кілаграмаў малака. І яно амаль усё гатунку «экстра»…

Скакун з лічбамі на плошчы, яго вясёлыя вочы, усмешка і снежная пульхная покрыўка наўкол, — усё гэта асела ў маёй душы і памяці, як мастацкае палатно, як класічная музыка, як кранальная песня. Мой тадышні рамантызм перапыніў Аляксей Сцяпанавіч нечаканай прапановай:

— А ці не кінуць нам пару разоў у дурня?

— Не супраць, але хіба можна ў вас выйграць?

— Гэта як пашанцуе…

І тут да мяне, свядома і ясна, дайшла сялянская мудрасць Скакуна: «паваляць» дурня можа толькі той, хто зарабіў на гэта права.

## 2. Кампанейскія бычкі

У бацькоўскай хаце Скакуна ў Дастоеве аднойчы пачуў жарт на грузінскі манер, але з мясцовай мудрасцю:

— Пінскі князь аб'явіў, што аддае замуж сваю дачку. Той стане мужам, хто на кані-скакуне пераскочыць бездань і на грудзях дачкі шабляй рассячэ яблык. Але пры гэтым нельга дачыркнуцца лязом да дзявоцкага цела. Шмат

знайшлося ахвотнікаў стаць зяцем князя. Мноства галоў паляцела далоў, бо кавалеры не выконвалі ўмову. І вось адзін смяльчак маланкай пераляцеў бездань, рассек яблык на грудзях князёўны і не параніў яе. Але і ён пазбавіўся галавы. «За што?» — цікавіліся ўсе. А за кампанію!

Калі я першы раз трапіў на жывёлагадоўчы комплекс у Астрамечаве, чамусьці ў вушах гучаў менавіты гэты жарт. У адкормачніках за кампанію стаялі нагуленыя, сытыя, дураслівыя бычкі. Яны прыкмецілі мяне, свежага чалавека, і кожны па-свойму пачаў праяўляць сваю цікаўнасць. Адны надрыўна рыкалі, другія прасоўвалі з загародкі рагатую галаву і паказвалі свае шырокія языкі, трэція проста пазіралі і, відаць, ацэньвалі мэту майго візіту, чацвёртыя апетытна ўпляталі корм, стараючыся выканаць дырэктыву праўлення — за суткі набраць кілаграм і сто грамаў новай вагі.

Не, вы толькі ўявіце сабе мясную эканоміку гэтай жывой фабрыкі: гадзіннік накручвае дваццаць чатыры абароты і кожны (!) з васьмі тысяч бычкоў, дадае кілагарам і сто грамаў да сваёй вагі. Бычкі за кампанію, адзін перад другім, тлусцеюць, нарошчваюць мяса і ўсе, хто набярэ шэцьсот кілаграмаў, дружна паедуць на мясакамбінат. Кампанейскія бычкі дый толькі!

У мясцовым архіве за 1982 год сустрэў апісанне ўрачыстасці з нагоды датэрміновага адкрыцця буйнога комплексу па адкорме бычкоў у Астрамечаве. Было гэта ў ліпені, а Скакун, нагадаю, прыступіў тут да працы ў сакавіку. Значыць, ён прыйшоў не на гатовы комплекс, як лічаць некаторыя, а ў самы адказны момант завяршэння аб’ёмнага дзяржаўнага аб’екта. Яго ўзводзілі чатырнаццаць будаўнічых арганізацый Беларусі.

Было ўсё: мітынг і прамовы, прывітанне ажно ад ЦК КПСС і чырвоная стужка, якую перарэзалі намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Міхаіл Кавалёў і другі сакратар Брэсцкага абкама партыі Уладзімір Грыгор’еў. Старшыні калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» Аляксею Скакуну будаўнікі ўручылі сімвалічны ключ. Прамову Скакуна запомнілі многія, бо яна была кароткай і канкрэтнай:

— Вы датэрмінова пабудавалі, мы — датэрмінова асвоім!

Гэты абавязак патрабаваў не парушаць тэхналогію адкорму жывёлы, правільна яе сартаваць па вазе, росце, масці, даваць высокакаларыйныя кармы. І ўжо праз год калектыў мясной фабрыкі далажыў: ёсць па 720 грамаў штосутачнай прывагі бычкоў!

Яшчэ праз год скакуноўцы атрымалі вельмі высокую па тым часе ўзнагароду — пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР. Упершыню чысты даход склаў — 2 мільёны 725 тысяч рублёў. На грошы таго часу — сума прыстойная.

Гэту падзею Аляксей Сцяпанавіч Скакун вырашыў адзначыць па-свойму. Сабраў трыццаць пяць лепшых даярак, жывёлаводаў, механізатараў і павёз на экскурсію ў Еўропу. Пабывалі ў Празе, Браціславе, Высокіх Татрах, наведалі сельскія гаспадаркі, падобныя на астрамечаўскую. Натхнёныя, але задумлівыя вярнуліся дамоў. Яшчэ раз усвядомілі: не прыстойна лічыць чужыя грошы, лепш пабіць свае вошы, трэба самім каваць сваю долю, калі працаваць не любіш — чалавекам не будзеш.

У асаблівым роздуме быў старшыня Скакун. Поспехі комплексу, пакуль ён новы і не мае канкурэнтаў, радуюць, але ж, калі толькі цешыцца імі, то вельмі нечакана можа напаткаць расчараванне. Прыгадалася бацькава прымаўка пра каня. Як ён цягне, валачэ, то лічыцца, што і дурань вязе, а як стоміцца, прыстане, то і разумны дурнем стане.

Трэба ператварыць комплекс па вытворчасці мяса ў прамысловы канвеер, як на трактарным заводзе, там усё пачынаецца з металічнай рамы, рухаецца

яна, абрастае патрэбнымі дэталямі і на выхадзе — атрымлівай вёска трактар! Так і на астрамечаўскім жывым патоку, — разважаў Скакун, — усё да дробязі павінна быць збалансаваным. Паступілі цяляты ў памяшканні для першага перыяду вырошчвання, трэба ўсё зрабіць так, каб роўна праз 186 дзён перавесці іх з «дзіцячага сада» ў памяшканні для другога перыяду. Адтуль праз 343 дні з нагуленым мясам адправіць у падарожжа да спажыўцоў — атрымлівай, чалавек, астрамечаўскі ласунак!

Спрытна казка баецца, ды не хутка справа робіцца. На гэту прыгаворку ў Аляксея Сцяпанавіча свая адгаворка:

— Ці можа слон нажыць грыжу?

— Можа, калі адзін возьмецца ўздымаць сельскую гаспадарку.

Вось чаму Скакун да любой вяршыні скача не адзін, а са сваім войскам, са сваёй надзейнай камандай, кемлівай і апантанай. Дзе трэба, тузане за лейцы, наструніць іх, а калі спатрэбіцца — прымяняе бізун альбо пернік. У вопытнага вершніка сотні варыянтаў, як узняцца на Алімп.

Старажылы помняць, як каля жывёлагадоўчага комплексу стаялі і паблісквалі на ўсё наваколле сваімі купаламі дваццаць чатыры сянажныя вежы. Бетонна-блочныя «цыгары» ўваходзілі ў праект будаўнічага аб'екта. Яны па тым часе былі моднымі ў перадавікоў-аграрнікаў. У іх пад надзейнай герметызацыяй захоўваўся сянаж. Адтуль ён лентачным транспарцёрам падаваўся ў кармацэх, змешваўся з канцэнтратамі і падаваўся ў будынкі да бычкоў-другачкоў па пнеўматычных лініях, а да клетак-стойлаў — скрабковым транспарцёрам.

Дзе ўсё гэта падзявалася?

Разбурылі скакуноўцы-рэфарматары. Падлічылі, што такая ёмістая, растратная сістэма эканамічна не спрыяе атрыманню таннай гавядзіны. Сянажныя вежы амерыканскага паходжання сталі цяжкімі гірамі для комплексу. Там, за акіянам, даўно адмовіліся ад іх, а нам усучылі «навінку». Знешне прывабныя вежы і тэарэтычна як бы выгадныя, а на практыцы, па сутнасці, падарвалі эканоміку калгаса.

Астрамечаўцы вельмі хутка разабраліся, што ў вежы бессэнсоўна закідваць сянаж на вышыню 33 метры, а пасля, замерзлы корм, выкалупваць адтуль. Расход чалавечай і электрычнай энергіі быў такі, як у народнай прымаўцы, — аўчынка вырабу не варта.

Пліты сянажных вежаў пайшлі на добраўпарадкаванне вуліц у вёсках, на будоўлю дамоў, а сянаж пачалі закладваць у доўгія, ажно на паўсотню метраў, поліэтыленавыя мяхі-каўбасы ды ў земляныя траншэі. Рэканстукцыя праходзіла пад лозунгам Скакуна: «Усё зрабіць пад самую сучасную тэхналогію!»

Адну з навінак Аляксей Сцяпанавіч прывёз з Маскоўскай вобласці. Там ён убачыў цуд-кормараздатчык, які змайстравалі мясцовыя віртуозы. Старанна перамаляваў, сфатаграфаваў незвычайны механізм. А дома тэрмінова сабраў інжынераў, механікаў, слесараў:

— Пра такі раздатчык кармоў можна толькі марыць, — сказаў Аляксей Сцяпанавіч і паставіў пытанне рубам. — Няўжо нашы рукі і галовы горшыя, чым у людзей?!

Галоўны інжынер Уладзімір Уладзіміравіч Аскірка заверыў старшыню:

— Зробім свой агрэгат!

І вельмі хутка на комплексе з'явіўся самаробны, астрамечаўскі раздатчык кармоў. Яму далі касмічную назву «Буран». Каб зразумець яго рэвалюцыйнасць, варта толькі ведаць, што з прыходам гэтай тэхнікі ў памяшканні для адкорму жывёл, сталі непатрэбнымі сорак транспарцёраў, кожны даўжынёй па 160 метраў. Уяўляеце, амаль шэсць з паловай кіламетраў транспарцёрнай

стужкі круцілася, рухалася ад рання да вечара, каб падаць бычкам кармы. Палову транспарцёраў у год рамантавалі, асобныя мянялі. Цяпер гэту складаную працу выконваюць тры самаробныя «Бураны». Дзіва, дый толькі!

Скакуноўская рэканструкцыя комплексу зменшыла расходы электраэнергіі ў пятнаццаць разоў. Пяць чалавек абслугоўваюць 2,5 тысячы бычкоў. Знізіліся затраты на рамонт абсталявання, а ў выніку — павысілася сутачная прывага жывёл. За год тут атрымліваюць звыш 4, 5 тысяч тон мяса.

Канешне, каб мы складалі чыноўніцкую справаздачу, то пакарысталіся б сотнямі параўнальных лічбаў, якія пацвердзілі б выгаду тэхналагічных змен на мясной фабрыцы. Але ж мы ствараем партрэт адчайнага аграрніка, заступніка буйных калектыўных гаспадарак Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. На прыкладзе рашучай рэканстукцыі комплексу якраз і праявіўся яго характар.

Гэта засведчана ў дзяржаўнай тэлеграме з нагоды яго юбілею: «Мы ведаем Вас, глыбокапаважаны Аляксей Сцяпанавіч, як самаахвярнага, таленавітага арганізатара вытворчасці. Вашы талент, творчае гарэнне, уменне арганізаваць людзей бачны ў Вашых добрых справах — шырокім укараненні ў практыку прагрэсіўных тэхналогій, высокіх паказчыках гаспадарання, у перайначаных вёсках. Ваша праца адзначана многімі высокімі ўзнагародамі, ганаровымі званнямі. Але наперадзе ў Вас вялікае і плённае жыццё. Няхай множацца Вашы добрыя справы на карысць і радасць людзям!»

А калегі і сябры па працы склалі свайму старшыні паэтычнае віншаванне:

Очень нужно для счастья здоровье,
Очень нужно для дома тепло.
Мы желаем, чтоб в Ваш день рожденья
На душе у Вас было светло.

Мне здаецца, на душы ў Аляксея Сцяпанавіча светла не толькі ў дзень імянінаў. Святло саграває яго і ў будні, і ва ўсе дні зямных турбот. Ён сам запаліў тое сонейка ў сабе, энергіі якога хапае і яму, і тым, хто вакол яго. Але падпускае на той агеньчык далёка не кожнага сустрэчнага-папярэчнага.

Шмат разоў ён падвозіў мяне да комплексу, у якім гадуюцца бычкі. Воддаль ад Астрамечава, ужо бачны здаля, цэлы гарадок для жывёл. Даўно мне карцела пабываць там. Але Скакун не спяшаўся завезці туды. Усё наўкол калясіў. То ў кафэ жывёлаводаў завядзе і спецыяльна прыпыніцца каля лозунгаў «Без хлеба няма абеда», «Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы». То прапануе наведаць лазню з басейнам для жывёлаводаў ды «пакаштаваць» сялянскага парку. То захоча, каб я пабыў у пакоі адпачынку комплексу, дзе тэлевізар, більярд, шахматы. А то проста запросіць пасядзець каля прахадной комплексу, у ценю кашлатых дрэў, каля гарбатага мосціка цераз штучнае азярцо, пад наглядам драўляных птушак і звяркоў, вырабленых з дрэва мясцовымі майстрамі.

І калі я ўжо ўнутрана быў гатовы да наведвання комплексу, Скакун даручыў упраўляючаму Яўгену Мікалаевічу Шыбуну правесці для мяне экскурсію. Мы апранулі на сябе зялёныя аднаразовыя накідкі і праз прахадную прайшлі на фабрыку жывога мяса. Раней на такіх фермах працавалі толькі даглядчыкі жывёлы. Цяпер на комплексе свае прафесіі — аператар па вырошчванні, аператар па адкорме, слесар-наладчык, слесар-сантэхнік, дэзінфекатар, заатэхнік, ветурач, інжынер.

Заходзім у адзін з будынкаў. У жалезных загарадках, а іх тут усяго сорак, стаяць па пятнаццаць сытых, задаволеных бычкоў. Убачылі нас, вітаюцца, хвастамі віляюць, як бы здароўкаюцца, дэманструюць і сваю цікаўнасць, і сваю сілу — высоўваюць з клеткі рогі і тоўстыя пысы.

А вось і знакаміты «Буран». Ён падае, развозіць бычкам два разы на дзень сакавітыя кармы.

— Дваццаць гадоў працаваў у нас камбікармавы завод, — распавядае не вельмі гаваркі Яўген Мікалаевіч. — І ўсё было добра. Не трэба вазіць зерне на дзяржзавод, адтуль — гатовыя кармы. Самі рабілі іх і для бычкоў, і для дойных кароў, і для цялят. Прамая эканомія — амаль паўтара мільёна тона-кіламетраў. Але ўсё ж тэхналогія кормазавода была складанай і дарагой. Працавалі вялікія сушылкі, драбілкі, масіўныя агрэгаты для сарціроўкі, змешвання кампанентаў, цэлая павуціна транспарцёраў. І вось Аляксей Сцяпанавіч недзе нагледзеў мабільную ўстаноўку для нарыхтоўкі кармоў. Ён жа сам не спаў і нам усім не даваў спакою, пакуль мы не набылі яе. Не паверыце, тую ўстаноўку мы змантіравалі на базе грузавога аўтамабіля «Мерсэдэс». Яна замяніла нам груваскі і ўстарэлы кормазавод…

Калі Яўген Мікалаевіч пра ўсё гэта расказваў мне, бычкі збіліся ў гурт каля нас, прыціхлі і як бы па-дзіцячы зацікаўлена слухалі аповед. Мне захацелася, каб менавіта ў прысутнасці незвычайных сведкаў, сытых і дагледжаных, іх упраўляючы Шыбун сказаў свае слова пра галоўнага мужыка ў СВК «Астрамечава» Скакуна.

— Я тут ужо ветэран, — прызнаўся Яўген Мікалаевіч і прадоўжыў. — Аляксей Сцяпанавіч — нармальны кіраўнік. Любіць ўсё новае, сучаснае і нас прымушае шавяліцца, вывучаць вопыт лепшых аграрнікаў. Сумаваць з ім не даводзіцца. Але ж і давярае. Паставіць задачку і лішні раз не тузае, не перашкаджае творча думаць…

З комплексу мне захацелася не ехаць, а прайсці да Астрамечава. У памяці стаялі кампанейскія бычкі, якія ўмела слухалі размову, радаваліся свайму здароваму целу, як бы ведалі, што яны і ёсць галоўная грашовая крыніца скакуноўцаў.

Вочы мае цешылі лагодныя краявіды: роўныя палеткі-палігоны, люстэрка рыбнага возера, светлыя дахі кіслароднай станцыі, фермаў, складоў. І як кінуць позіркам — вёска Астрамечава з катэджамі самай рознай архітэктуры. Ішоў быццам насустрач жывой яве і з галавы не выходзіла Скакунова прыгаворка: на старых калёсах аўтамабіль не абгоніш.

### 3. Футра для заслужанай артысткі

Мне здаецца, усе Скакуновы НЭПы нарадзіліся на кухні яго жонкі Валянціны Іванаўны. На яе рабочым месцы ёсць усё-ўсё, каб штораніцы, у 6 гадзін, пасадзіць свайго дарагога мужа Аляксея Сцяпанавіча за накрыты і сервіраваны стол. Тут яму — свежая кашка і запечаная бульбачка, катлетка і вяндлінка, кава і мёд, сялянскае масла і клінковы сырок, яблыкі астрамечаўскія і грэцкія арэхі з дрэва, якое расце пад акном іхняга дома.

У той кароткі міг, калі Валянціна Іванаўна корміць свайго мужа, яна можа на хвіліну прысесці побач, памаўчаць з ім, паўзірацца ў яго стомлены твар і сказаць усяго два словы:

— Беражы сябе.

Калі Аляксей Сцяпанавіч апране куртку і возьмецца за шапку, Валянціна Іванаўна падыдзе да яго і падасць загорнутыя ў паперкі патрэбныя таблеткі. На адной з іх будзе напісана «абед», на другой — «вячэра».

Я быў сведкам, калі Аляксей Сцяпанавіч, будучы ў мінскай камандзіроўцы, пераблытаў таблеткі, і як школьнік ажно заружавеўся.

— А-а, Бог з імі, абы перад Валянцінай быць чыстым, — сказаў нібыта самому сабе і пракаўтнуў лекі ўсе разам, якія былі і на дзень, і на вечар.

Валянціна Іванаўна ніколі не ўмешваецца ў справы свайго мужа. Ёй даволі і таго, аб чым захоча паведаміць сам Аляксей Сцяпанавіч. Яе спрадвечны клопат, каб ён дома адчуваў сябе спакойным і змог адпачыць, каб ён заўсёды быў у чыстым, адпрасаванай вопратцы, каб ён адчуваў, што дзеці і ўнукі пад цёплым бацькоўскім крылом, каб ведаў, што яго ў любую гадзіну сутак чакаюць і рады яму ўсе дамачадцы: і жонка, і цешча Ганна Пятроўна, і Валіна сястра Ала, і кашлаты, нястомны вартаўнік двара Рэкс.

Вось з такім надзейным тылам ідзе ў бой за свае НЭПы адчайны ваяр Скакун. Ён даўно-даўно ўсвядоміў, што ў аграрнай бітве важна любая дробязь. Упусціш яе і можаш прайграць, можаш быць пабітым, выкінутым за борт.

У сапраўднага гаспадара павінна быць усё, каб сям’я была сытай, адзетай, сагрэтай, забяспечанай. Калі бульба не ўрадзіла — кароўка выручыць, малаком напоіць. Калі ў градах неўраджай — курачкі траўкі пашчыплюць, зярнятак пазнаходзяць — яйкамі пачастуюць. Калі ягняты не ўзгадуюцца — парасяты затлусцеюць.

Так і ў вялікай, калектыўнай гаспадарцы, якая і ёсць СВК «Астрамечава». На зямельнай плошчы ў 11476 гектараў павінна быць усё, каб людзям тутэйшым добра жылося, каб Беларусь мела прыбытак. Пра гэта штодзённа дбае зямельны руплівец Аляксей Сцяпанвіч Скакун. Запусціўшы на поўныя абароты два сельскія рухавікі — малочны і мясны — ён вырашыў дадаць да гэтай двухкрылай індустрыі яшчэ і звераводства. Эканоміка павінна заўсёды мець надзьмутыя ветразі і рухацца ў тым накірунку, дзе пануюць самаакупнасць працы, сабекошт прадукцыі, прыбытак вытворчасці.

Звераводства, задуманае Скакуном, занятак і новы, і модны для астрамечаўцаў, і не заўсёды прыбытковы, але ж вельмі неабходны ў шматвектарнай дзейнасці сельскага кааператыва.

Чаму?

Аляксей Сцяпанавіч папулярна патлумачыў:

— Хочаш не хочаш, а ў асяродку нашага жывёльнага статка бываюць нечаканыя страты. Як у той прымаўцы: не шукай бяды, яна сама прыйдзе. Страты здараюцца ад хвароб, раптоўных здарэнняў, няшчасных выпадкаў. Афіцыйна нават дапускаецца пэўны працэнт падзяжу жывёл, іх адбракоўкі. Гэта ж добра, калі мяса такіх жывёл можна прадаць спажыўцам. А калі яно непрыгоднае для чалавека, куды дзяваць? Не паверыце, гэта вялікі галоўны боль быў для мяне. У лес не выкінеш, у зямлю не закапаеш. Вазілі тое мяса па ўсёй вобласці, каб хто прыняў. І я вырашыў арганізаваць норкавую ферму, дзе можна было б спакойна скормліваць падзёжных бычкоў, кароў, цялят…

Каму што, а пеўню бойка.

Так і ў Скакуна, надумаўся стварыць новы вытворчы цэх на сяле, дык чухай чупрыну, мазгуй — з кім, з чым і як кінуцца ў бойку. Ведаў адно: новая справа — як дзіцё малое, ды з ім гора толькі пакуль на ногі стане, а там пойдзе ўсё само сабой.

Найперш угаварыў пераехаць у Астрамечава свайго былога аднакурсніка па Гродзенскім інстытуце Вальдэмара Казіміравіча Пырскага. Ён ужо меў вопыт звераводства на Гродзеншчыне.

Воддаль ад вёскі Кашылава, каля лесу, адвялі пад звярыны гарадок больш за два дзясяткі гектараў зямлі. Свае майстры парабілі клеткі для норак. Тут жа збудавалі дом-кухню, нізкатэмпературны халадзільнік, як ангар, для захоўвання мяса-рыбных адыходаў, цэх пярвічнай апрацоўкі шкурак.

Першых норак у астрамечаўскі гарадок завезлі з Украіны. Шукалі іх у звераводаў Беларусі, Расіі, Польшчы, Германіі. Так стварыўся свой статак у восем з паловай тысяч галоў.

Уявіце сабе дзяржаву норак, у кожнай з іх свой двухпакаёвы катэдж. У першым пакоі — спальня-адпачывальня. Яна закрытая, як і належыць, ахоўваецца тайна інтымнага жыцця. А ў другім пакоі — сталоўка-пагулянка. Тут можна паназіраць, як пушныя звяркі лоўка бегаюць, віхляюць сваімі моднымі футрамі. І вельмі ж хочуць палашчыцца з гасцямі, панюхаць іх пальчыкі. Толькі не ўздумайце падсоўваць іх прывабным звяркам, бо ў іх вельмі ж вострыя зубкі і кіпцюры. Кажуць, адна цікаўная варона села на клетку. Норка ўчапілася ў яе нагу і паступова, па частках уцягнула яе ў сваю хатку. От і быў у яе незапланаваны абед з дзічыны.

Норкі невялікія і вельмі прывабныя звяркі. На футры ў іх поўсць густая, бліскучая, а галоўнае — самых розных колераў. Астрамечаўцы разводзяць восем масцей: цёмна-карычневых, пастэль, паламіна, сапфір, сканблэк, сканблаўн, белых, вельвет. У адных «вопратка» чорная, у другіх — з лімонным адценнем, у трэціх — з саламяным. Іншыя адрозніваюцца колерам вачэй — чырвоныя, чорныя. Усе гэтыя тонкасці дасканала ведаюць звераводы. А калі Аляксей Сцяпанавіч праводзіць тут экскурсію, то звычайна сур'ёзную размову пераводзіць на вясёлы лад.

Аднойчы ўзяў ды сказаў высокім гасцям:

— Усім работікам зверафермы мы даём па шапцы.

Дэлегацыя ажывілася, пасыпаліся ўдакладненні:

— Калі даяце: летам ці зімой?

— За якія заслугі адорваеце?

— Усе атрымліваюць ці толькі ўдарнікі?

Скакун хітравата ўсміхнуўся:

— Ды не, сябры, вы мяне не так зразумелі. Даём па шапцы, значыць, строга патрабуем, каб норкі былі сытыя, каб выраслі хутка, каб у сакавіку — месяцы любові, самцы не заленавілся прадоўжыць патомства…

У гэтым месцы экскурсанты звычайна зысыпаюць Аляксея Сцяпанавіча пытаннямі. Ім цікава, як праходзіць гон, ці праўда, што самкі ўжо праз тры месяцы могуць абрадзіцца, а па колькі дзяцей маюць, як яны, сляпыя, кормяцца?

Аляксей Сцяпанавіч ведае, што на ўсе гэтыя пытанні дадуць вычэрпныя адказы яго спецыялісты, а ён дазваляе сабе «падпусціць смалянога пеўня» ў размову і выдаць любімы жарт:

— Было гэта на нашай звераферме, каля клетак з белымі норкамі. Я паведамляю, што самец падчас любові па пяць-шэсць разоў выконвае свой шлюбны доўг. Раптам адна маладзіца штурхае пад бок свайго мужа: «Чуй, Іван, як у норак бывае!» А той Іван, не дурань, перапытвае пры ўсіх у мяне: «Скажыце, старшыня, пяць разоў у дзень звярок з адной і той жа сустракаецца?» — «Ну што вы, — адказваю яму, — безумоўна, з рознымі». — «Запомні, Маня, які ў норак парадак!..» — павесялеў мужык.

Аляксей Сцяпанавіч ведае, што пасля такога жарту залівісты смех пачуюць жыхары ўсіх норкавых клетак. І нават вартавыя сабакі, якія бегаюць па адведзенай мяжы вакол зверафермы, весела забрэшуць на ўсё наваколле.

Сур'ёзнасць у размову пра звераферму ўносіць галоўны эканаміст кааператыва Жанна Сяргееўна Гарустовіч:

— Першыя гады зверагадоўля была самай высокарэнтабельнай галіной. Сярод кароў і бычкоў нашы норкі ўсім у навіну. Нават у далёкім акружэнні мы не мелі канкурэнтаў. На жаль, сітуацыя на рынку пушніны змянілася не на нашу карысць…

Але пра норкавы гарадок у Астрамечаве пайшла добрая слава па ўсім свеце. У сельскіх звераводаў з'явіліся гандлёвыя партнёры сярод буйных фір-

маў Грэцыі, Англіі, Польшчы, Амерыкі, Расіі. Чвэрць стагоддзя прадукцыя Скакуновай фермы прадстаўлена на рынках іншых замежных краін, блізкіх і далёкіх.

Я бываў у цэху па пашыве футравых вырабаў. Тут усё сваё: і шкуркі норак мясцовай фермы, і майстрыцы не прыезджыя, а са сваіх вёсак, і дызайнеры не ад Юдашкіна, а тутэйшыя самародкі. Не чуваць тут спеваў швейных машынак, бо толькі ніткі і іголкі ў руках майстрыц. Яны ўжо асвоілі звыш дзвюх сотень відаў прадукцыі: мужчынскія і жаночыя шапкі, шалікі, футры, паліто, жакеты, безрукаўкі, сумачкі-муфты, чахлы для сотавых тэлефонаў…

Астрамечава, можа, адзіная ў Беларусі вёска, у якой ёсць два магазіны, дзе ў продажы шырокі выбар тавараў з норак. Самі сяляне выгадавалі пушных звяркоў, без пасрэднікаў вырабілі іх шкуркі і без прыезджых краўцоў задавальняюць просьбы самых патрабавальных і капрызных заказчыкаў. Так і хочацца сказаць: вось дык Скакун, вось дык сельскі стратэг!

Нездарма ходзіць па Астрамечаве міф, што абрэвіятура СВК (сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў) складзена з трох мужыкоў: ад Аляксея Скакуна ўзята літара «С», ад Вальдэмара Пырскага, які быў стваральнікам і першым упраўляючым зверафермы — літара «В», ад Віктара Козіча, намесніка Скакуна па вытворчасці, ветэрана гаспадаркі, — літара «К». На вялікі жаль, пра Вальдэмара Казіміравіча даводзіцца ўжо гаварыць «быў». Незагойнай ранай для ўсіх стаўся яго заўчасны адыход у Царства Нябеснае. Але справа бацькі ў надзейных руках сына Яраслава Вальдэмаравіча Пырскага. Цяпер ён, выпускнік Маскоўскай акадэміі, узначальвае калектыў астрамечаўскіх звераводаў. Мне хацелася ведаць, што ён скажа пра Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. І па словы яму не давялося лезці ў глыбокую кішэню, выдаў тое, што блізка мясцілася ў душы:

— Аляксей Сцяпанавіч — гэта markdown-less розпланавы гаспадар, бацька наш. Не баіцца ставіць маладых на адказныя пасты. Любіць інавацыі і ўсё новае. Мае інтуіцыю, з’яўляецца там, дзе нешта здарылася, дзе ён патрэбен. Эканоміка наша ў надзейных руках рулявога!..

Слухаў я маладога Пырскага і думаў, што з адыходам яго бацькі кааператыў захаваў сваю абравіятуру СВК: Скакун — Вальэмаравіч — Козіч. Добрая прыкмета!

Размову пра эканоміку звераводаў можа падтрымаць заслужаная артыстка Беларусі Ірына Дарафеева. Два разы яна прыязджала з канцэртамі ў Астрамечаўскі Палац культуры. Уражаны яе голасам, мелодыямі, натхнёным настроем, Аляксей Сцяпанавіч захацеў здзівіць спявачку сваім цудам. Павёз яе ў царства featureснакаляровых норак, а пасля — у свае «пушныя» магазіны. Заслужаная артыстка запляскала ў ладкі, як і ёй горача пляскалі ў сельскім Палацы, і заказала сабе абноўку.

Так у Мінску з’явілася яшчэ адно беласнежнае футра астрамечаўскага крою. А па Брэстчыне, калі не па ўсёй Беларусі, са згоды артысткі быў распаўсюджаны шыкоўны насценны каляндар на 2010 год. На ім — любіміца публікі Ірына Дарафеева ўся ў белым: у белым астрамечаўскім футры, у белай зімовай шапцы. І на гэтай крыштальна чыстай, пушыстай белі — яе іскрыстыя блакітныя вочы і сонечная ўсмешка. Для тых, каму і артыстка, і яе новы ўбор станецца даспадобы, паведамляўся паштовы і электронны адрас СВК «Астрамечава», яго таварны знак: у жоўта-чырвоным авале — зялёны пялёстак, над ім як бы карона з дэкаратыўных рагоў.

А кропку ў нашай размове пра норкавую галіну эканомікі паставіла Валянціна Іванаўна Скакун. Аднойчы я даверліва спытаў у яе:

— Ці прынёс вам муж калі-небудзь футра ад мясцовых майстроў?

— Не, вы што?.. Ён вельмі шчодры чалавек, але не за кошт калгаснага… Калі я працавала бухгалтарам у дзіцячых садках, тады пачалі вырабляць з норак першыя шкуркі. І нам выдзелілі некалькі на ўсіх работнікаў дзіцячых садкоў у Астрамечаве, Лышчыцах, Яцкавічах. Мы цягнулі паперкі з паметкай «норка». Мне пашанцавала, бо мне перапала карычневая шкурка. Як і належыць, я заплаціла за яе і заказала пашыць шапку-падманку. Яна быццам мужчынская, толькі вушкі шчыльна прышыты… Во як займела падарунак ад зверафермы. Вой, што вы, Скакун раўніва і строга аберагае агульную капейчыну. І хоча, каб усе гуртам, дружна гэтак дбалі. А дзе дружна, там і хлебна…

## 4. Ключы ад раю

Рай, лічыць Аляксей Сцяпанавіч Скакун, — гэта тое месца, дзе жыве чалавек. А яго сябар касманаўт Пётр Ільіч Клімук удакладняе:

— З далёкай вышыні бачыш Зямлю — яна і ёсць рай для людзей. Падлятаеш бліжэй — перад табой кантынент Еўропа, а на ім — наша Айчына Беларусь. У кожнага беларуса свая родная вёска ці горад. А ў іх — хата, кватэра, ці катэдж, дзе раюе яго сям’я.

Калгаснік Скакун і касманаўт Клімук адзінадушныя ў сваім меркаванні: як бы праблемна ні жылося чалавеку, яго бытаванне на белым свеце — рэальны рай. Бывае, што і шчасця таго з жабіны прыгаршчы, і даўгоў, як у сабакі кляшчоў, але ж кожнаму лепей раяваць тут, чым адлятаць туды.

Гэту жыцейскую ісціну Аляксей Сцяпанавіч найперш і меў на ўвазе, калі аб’яўляў у сваім кааператыве новую эканамічную палітыку. Разважаў так: што для чалавека важней — зарплата ці кватэра? Безумоўна, у ідэале ўсё патрэбна, але ж відавочна, калі ў селяніна прыстойнае жыллё, то ён і працуе больш натхнёна, адказна. Дык жа і вынікі тады стануць важкімі, і зарплата прынясе свае прыбыткі. Значыць, пераконваўся ў сваіх развагах Скакун, трэба стварыць сваю будаўнічую індустрыю і ўзводзіць для людзей утульнае жыллё.

Так з астрамечаўскіх мужыкоў арганізавалі будаўнічы камбінат. У ім на першым этапе працавала звыш чатырохсот чалавек. Майстравых сялян сабралі з усіх сямнаццаці вёсак кааператыва. Займелі сваю цагельню, растворабетонны вузел, асфальтавы завод. Набылі піларамы, пад’ёмнікі, краны, іншую тэхніку, патрэбныя механізмы. І загрымела на ўсё наваколле слава тутэйшых будаўнікоў.

За што толькі не браліся ўмельцы?

Рамантавалі і ўцяплялі кароўнікі, рабілі рэканструкцыі і дабудоўкі ў сялянскіх дворышчах, пракладвалі дарогі, ладзілі агароджы. Калгасныя будаўнікі ўзяліся вырабляць сталярку, гіпсавыя пліты, кераміку, узнік цэх дрэваапрацоўкі. Яны ў адначассе сталі самымі запатрабаванымі майстрамі.

Але сельскі наватар Скакун ужо абмазгоўваў новую ступень занятасці сваіх будаўнікоў. Яму ўдалося пераманіць у Астрамечава галоўнага архітэктара раёна Аляксандра Качаноўскага. Той-сёй палічыў гэта дзівацтвам старшыні, але сам Аляксей Сцяпанавіч быў перакананы: вопытны архітэктар для будаўнікоў — гэта іх павадыр, узаконнік новых стыляў, сучаснай еўрамоды ў збудаваннях. Пра гэта ведалі даўней хіба што буйныя памешчыкі-земляўласнікі, калі ладзілі свае маёнткі. Ды вось жа наступіў райскі час і для нашых мужыкоў.

Эстафету архітэктурнай школы падхапіў зямляк Скакуна — Міхаіл Аляксандравіч Губараў. Мы ходзім з ім па пакоях праектантаў. На рабочых сталах — камп’ютары, чарцяжы. А калі зазірнуць у вокны, то бачна катэдж-

ная вёска Астрамечава. Ёсць у ёй хаты і даўнейшая, але яны так ухарошаны, падрамантаваны, пафарбаваны, што не выглядаюць «бяльмом у воку», а ўпісаны ў агульны ансамбль вёскі. Ды якая, даруйце, гэта вёска, калі ў ёй ужо шаснаццаць вуліц, а катэджаў на іх — звыш трыццаці фасонаў. Хоць выстаўляй на сусветны фестываль архітэктурнай моды.

Зразумела, што ўсё гэта вынік працы і галоўнага архітэктара, і будаўнікоў, і нават саміх гаспадароў, якія часам прадстаўляюць свае чарцяжы сямейных маёнткаў. Але ж усе пры гэтым згадваюць галоўнага праектанта, аграрнага нэпаўца Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Вось і Міхаіл Губараў не ўтрымаўся, прапанаваў:

— Так і запішыце: Аляксей Сцяпанавіч — наш матор, рухавік, няўрымслівы характар. Хоча і патрабуе навізны ва ўсім!..

Пра тое, як старшыня Скакун любіць навізну, вельмі ж пераканаўча згадваў кіраўнік вытворчага ўчастка «Астрамечава» Уладзімір Станіслававіч Гуцько:

— Я рабіў у калгаснай майстэрні, калі да нас прыслалі Аляксея Сцяпанавіча. Былі і сумненні: гаспадарка вялікая, складаная, а ён малады, прыгожы. Ці пацягне? І вось першы раз заходзіць у нашу майстэрню. Усё пільна агледзеў. На ўмывальніку заўважыў трэшчыну і кажа: «Трэба замяніць». Я кіўнуў галавой у знак згоды, а сам думаю: «Нічога, яшчэ доўга паслужыць нам тая ракавіна». І вы не паверыце, праз два дні зноў прыехаў, зірнуў на ўмывальнік, і я не пазнаў старшыню. Твар яго пасуравеў, ён моўчкі ўхапіў нейкую жалязяку і разбіў ушчэнт нашу мыйку. Мы ў той жа дзень паставілі новенькую. Во як ён змагаўся за элементарны парадак, а значыць, — за эканоміку…

Мне расказалі яшчэ адзін неардынарны выпадак, які адбыўся на будоўлі катэджа ў Новых Лышчыцах. Заехаў туды Аляксей Сцяпанавіч, бачыць на рыштаваннях стаіць брыдка аброслы, доўна не голены цясляр. Ён, як кажуць, зняў яго з вышыні і адправіў дамоў, каб прывёў сябе ў парадак. А майстру патлумачыў:

— Хіба можа чалавек якасна рабіць, калі сам неахайны?..

Давярай ды правярай — такі кіраўнічы прынцып старшыні Скакуна. Ён умела ўмешваецца і ў архітэктурныя планы прывязак новабудоўляў, і ў самі праекты, і ў дызайн аб’ектаў. Ён не дыктуе спецыялістам гатовыя рашэнні, не навязвае сілком сваю волю, а ўмела падказвае, маючы за плячыма багаты вопыт будаўніцтва пры ранейшых пасадах.

Паехаў аднойчы старшыня з архітэктарам у Лышчыцы, каб вызначыць месца будоўлі магазіна. Думкі іх разышліся, нязгодныя адзін з адным, як агонь з вадою. Тады Аляксей Сцяпанавіч прапанаваў Губараву:

— А давай мясцовых людзей спытаем, дзе яны хочуць мець свой магазін?

— Хэ, дык яны безумоўна падтрымаюць ваш варыянт, — хмыкнуў архітэктар. — Хто захоча супраць ветру пляваць?

— Слухай, Міхаіл Аляксандравіч, а зробім так, — прапанаваў Скакун. — Збяром людзей, я буду агітаваць за твой варыянт, а ты, наадварот, будзеш абараняць мой.

Так і паступілі.

Жыхары захацелі будаваць магазін у тым месцы, дзе рэкамендаваў архітэктар. А то ж, па-праўдзе, была прапанова старшыні. Вось так выйграў Скакун чарговы раўнд свайго аўтарытэту.

Неяк мы прагульваліся з Аляксеем Сцяпанавічам па вуліцах Астрамечава, душа яго свяцілася, быццам зыркі ліхтар пад парасонам неба, і ён выдаў адну вельмі важкую сентэнцыю:

— У вёсцы, — як мне думаецца, — здаўна закладзены падмурак і народнай культуры, і характару беларуса. А яны, культура і характар, мусяць з часам узбагачацца, набываць новыя рысы. Вось і наша Астрамечава са сваёй архітэктурай, з сучаснымі катэджамі і людзьмі ў іх, чым не вынік такога ўзнясення?..

Як жа не пагадзіцца з гаспадаром вялізнага каап填ратыва, які навідавоку ўсяе Беларусі перакройвае аблічча сельскіх паселішчаў, які ўдыхае ў іх жыхароў купалаўскую веру: «Я буду жыць, бо я — мужык!»

І вось я еду да мужыкоў, аб'яднаных у будаўнічы камбінат. Перад брамай устаноўлены камяні-валуны. Каля альтанкі-адпачывальні дрэварэзчыкі зладзілі помнік буслу, як сімвал таго, што і будаўнікі — птушкі, якія пералятаюць з аб'екта на аб'ект, але жывуць сярод людзей, і для людзей.

Кіраўнік камбіната Сяргей Васільевіч Янюк адрываецца ад стога чарцяжоў, адключае тэлефон, бо «не дадуць пагаманіць», і найперш, пачынае загінаць пальцы, пералічваць аб'екты сваёй вытворчасці:

— Узводзім пяць прэзідэнцкіх домікаў, цэлы аграгарадок у Астрамечаве. Перарабляем корпус на адкормачным комплексе, будуем новы цялятнік у Кашылаве, рамантуем тры жылыя дамы ў Лышчыцах, кантору ў Зводках…

Сяргей Васільевіч безнадзейна махае рукой:

— Ай, каб пералічыць усе здадзеныя аб'екты з того часу, як я тут, — рук не хопіць ва ўсіх астрамечаўцаў. Я ж пачаў працаваць у тым годзе, калі Скакун узначаліў наш калгас-камбінат. Прайшоў у будаўнічай арцелі амаль усе пасады — рабочы, брыгадзір, майстар, інжынер. Цяпер — упраўляючы, а сын мой Яўген працуе ў нас на кране. Гэта Скакуноў наказ: выгадуй у сваёй сям'і дзіця, якое хацела б служыць зямлі!

Слухаю няхітры аповед Янюка, а з памяці не выходзяць яго словы, агучаныя напачатку размовы:

— Будаўніцтва — дзецішча нашага Аляксея Сцяпанавіча. Ён нам і сваё плячо падстаўляе, і натхняе, і не дае драмаць, і не дазваляе сёння працаваць па-ўчарашняму. Дык чаму ж не маліцца на яго?..

Вечарам я гасцяваў у адным са свежых катэджаў Астрамечава, каб яшчэ раз пераканацца, якім чынам у новых умовах вясковага быцця фарміруецца культура і характар сучаснага мужыка.

Як толькі з гаспадаром Вабішчэвічам увайшлі ў прыхожую, пачалі разувацца. Уяўляеце, каб даўнейшы селянін у сенцах пачаў здымаць лапці, ды яго б куры засмяялі. У мужыка часам і боты былі новыя, а пяты голыя, але не меў ён панскага нораву кожным разам агольваць ногі перад уваходам у хату.

У прыхожай маёнтка Вабішчэвічаў я не ўстрымаўся ад вясковага дзіва. Кафляная падлога прыемна цяпліла падэшвы.

— У нас такі кайф і на кухні, і ў ваннай, і ў туалетным пакоі, — як пра нешта звычайнае, абыдзеннае сказаў Фёдар Рыгоравіч і павёў вандраваць па хаце.

Мы пабывалі на прасторнай кухні, абстаўленай усімі неабходнымі прадметамі для сучаснай гаспадыні. На першым паверсе наведалі сталоўку, зазірнулі ў дзве адпачывальні. У зале затрымаліся каля шафы з посудам і бібліятэкай, уключылі адзін з навейшых мадэлей плоскіх тэлевізараў.

Шырокая лесвіца вывела нас на другі паверх. Там — спальня, гасцявая, камінны пакой, більярдная. Мне хацелася даклікацца да нябёсаў, сабраць у гэту астрамечаўскую хату сваіх былых шоўкаўцаў, каб яны параўналі рай у вечнасці і рай зямны. Хай бы ўбачылі, як цяпер жывуць тут вяскоўцы, ледзь не мыюць курам ногі перад седалам.

— У нас ячшэ ёсць сучасны хлеў, гараж, склеп. Маем пятнаццаць сотак зямлі. Гадуем свіней, трымаем курэй, — быццам між іншым прызнаўся Фёдар Рыгоравіч, калі мы вярталіся ў сталоўку.

На стале было ўсё, чым багата зямля, але мяне найбольш зацікавілі сямейныя здымкі. На іх — малады, вясёлы Скакун з перавязаным накрыж ручніком.

— Аляксей Сцяпанавіч, наш старшыня, сватам гуляў у нас на вяселлі, — патлумачыла гаспадыня Раіса Канстанцінаўна.

— Пры ім наша вяселле сталася першым, — дадаў яе муж. — Мы першымі ў Астрамечаве атрымалі ключы ад кватэры. І адбылося гэта 28 жніўня 1983 года…

Фёдар і Рая пад'ехалі тады да новага дома на ўпрыгожаным фаэтоне, запрэжаным паркаю коней. У ганаровым эскорце — юныя коннікі на калгасных скакунах са спартыўнай школы. Аляксей Сцяпанавіч Скакун, як і належыць свату, сустрэў младых сваіх падарункам. Уручыў ім ключы ад дома з чатырох пакояў на двух узроўнях. А мясцовыя кавалі — сімвалічны, на сем кілаграмаў, ключ ад шчасця. Вось так распачалі сямейнае жыццё загадчык майстэрні Фёдар Вабішчэвіч і яго маладая жонка Раіса.

Цяпер у іхняй першай хаце жыве са сваёй сям'ёй дачка Таццяна. А Фёдар Рыгоравіч і яго жонка Раіса Канстанцінаўна — справілі наваселле ў новым катэджы. Заўважым і падзівімся, якія прафесіі-пасады займела сучасная вясковая сям'я ў СВК «Астрамечава»: Фёдар — кіраўнік вытворчага ўчастка «Зводы», Раіса — інжынер-мікрабіёлаг, іх дачка Таццяна — інжынер па стандартызацыі і метралогіі. А іх сын Іван — аспірант БНТУ ў Мінску.

Сапраўды, сям'я Вабішэвічаў трымае ў сваіх руках ключ ад раю. Ім дапамог яго раздабыць шчодры ключнік Аляксей Сцяпанавіч Скакун. А калі ўлічыць, што на рахунку будаўнічай індустрыі кааператыва звыш дваццаці буйных грамадскіх памяшканняў і гаспадарчых аб'ектаў, больш за трыста катэджаў, дзіцячыя сады, школы, Палац культуры, Дом шлюбаў, магазіны, то можна ўявіць, колькі ашчаслiўленых сялян жыве ў тутэйшых вёсках. Вельмі ж па душы ім паэтычныя радкі Якуба Коласа: «Мой родны кут, як ты мне мілы…»

### 5. Астрамечаўскі вальс

Сад — тварэнне Бога.

Помніце, Ён даў жыццё Адаму і Еве, а перад гэтым стварыў для іх райскі сад. Там было ўсё, каб жыць і цешыцца хараством прыроды, каб наталяцца яе дарамі. Карыстайся ўсім, чым душа пажадае, але не руш забароненага, д'ябальскага плода. Ну, ды хіба Бог чалавеку ўказ. Вось і выгнаў ён іх са свайго раю ў поле.

Адам здабываў хлеб потам і мазалямі, а Ева ў пакутах нараджала дзяцей. Горка плакалі яны, шкадавалі, што паслухаліся д'ябла. З таго часу людзі навучыліся маліцца, з надзеяй пазіраць у неба:

«Божа, дай сіл і здароўя. Навучы, Божа, на зямлі Тваёй адчуць райскае жыццё. Пажамы, Божа, не дапусціць да спакусы нашых дзяцей».

Кожны па-свойму ўслаўляе тое месца, на якім выпала яму спазнаць прыгажосць жыцця і сябе самога. Беларуская паэтка Алена Руцкая перадала свае пачуцці ўзнёсла:

Здавён, пакуль вякі вялі
І не было дзяржаў у паміне,
Усе пакланяліся зямлі
Як самай лепшай са святыняў.

Аляксей Сцяпанавіч Скакун рана навучыўся пакланяцца зямлі, як святыні, і яна быццам вуснамі самога Ісуса, з блаславення Айца Нябеснага падказвае яму ў патрэбны час адзіна правільныя рашэнні. Так было, лічыць ён, і з вытворчым садам, як асобнай эканамічнай адзінкай кааператыва.

Калі стварылі гаспадарку з чатырох розных калгасаў, у кожным з іх меўся свой сад. Але яны былі невялікімі па плошчы і абслугоўвалі ў асноўным старшынь ды іх акружэнне. І вырашыў Скакун карэнным чынам змяніць статус тых садоў. А для пачатку загадаў выкарчаваць іх і падабраць зямлю для садавітага раю.

Наслухаўся ён тады пра сябе самых розных плётак:

— Бач ты, на грош справы — на рубель прыправы. Хоча, каб зямля стала голай, як галава ў чорта лысага.

— Хіба ён садзіў тыя дрэвы, вот і няшкода вырываць.

— Мо шалёная муха яго ўкусіла за вуха? Навошта крыўдзіць яблыні, якія яшчэ родзяць і жыць просяць?..

Нехта нават чыркануў ананімку самаму галоўнаму камуністу вобласці Яфрэму Сакалову. У ёй гаварылася пра самадурства маладога старшыні калгаса Скакуна. Яго выклікалі «на ковёр» у Брэст.

Аляксей Сцяпанавіч прыехаў да першага сакратара абкама партыі з тоўстай папкай разлікаў аб перспектыўным плане развіцця прамысловага садаводства ў гаспадарцы. Яго эмацыянальная прамова была і пераканаўчай, і пераможнай:

— Мы не можам, таварышы, далей займацца кустарным, аматарскім садаводствам. Сад — гэта навука, якая патрабуе глыбокіх ведаў. Каб атрымаць плод, якім можна карыстацца ад Спаса да Спаса, трэба ведаць, як мінімум, дзе і як пасадзіць яблыню, якога сорту, як пазбавіць яе ад нашэсця шкоднікаў і як пасля захаваць яблык ва ўсёй красе, як гэта ўмеюць рабіць нашы суседзі палякі.

— А што, астрамечаўскі рэвалюцыянер Скакун правільна гаворыць, — агучыў сваю думку Яфрэм Яўсеевіч. — Ёсць прапанова даць яму волю паставіць свой эксперымент. Бізуна яму ўкапнуць мы заўсёды паспеем…

Атрымаўшы высокую падтрымку, Аляксей Сцяпанавіч кінуўся ажыўляць садовы праект. Галаму, як казаў яго дзед Васіль, сабрацца — толькі падперазацца. Ён даўно быў готовы да новых клопатаў.

За вёскай Кашылава, па правы бок ад шашы на Брэст, выдзелілі трыста гектараў зямлі. Скакуновы ганцы раз’ехаліся ва ўсе канцы Беларусі, Расіі, Украіны, дзе ўжо квітнела дзяржаўнае садаводства. Сам Аляксей Сцяпанавіч наведаў польскі Інстытут садаводства і кветкаводства ў Скеравіцах. Адтуль прывёз дамову на закупку такіх сартоў яблынь, пра якія астрамечаўскія аматары і не чулі, — «айдарэд», «пінова», «глосцер», «джона-голд». Атрымлівалася як у той мясцовай прымаўцы: «Каціўся яблык вакол агарода, хто яго падняў, той і ваявода».

Як ваявода, Скакун у любым сваім пачынанні браў усю адказнасць на сябе. Хто ж паверыць, што задумаўшы стварыць садовую індустрыю, ён не перачытаў стос кніг, падручнікаў, інструкцый, як наладзіць справу? Хто ж паверыць, што бяссоннымі, кароткімі начамі ён не перабраў у памяці кожнага свайго спецыяліста, прыкідваючы, каму даручыць лёс яблыкавай эканомікі? Рашэнне наспела адно: сад павінен узначаліць не чужак, а свой энтузіяст, які падзяляе і разумее старшынёву зямельную палітыку.

Браліся энтузіясты стварыць садовы рай, але іх увішнасць заканчвалася тады, калі неба не спрыяла дрэвам, калі не хапала спрыту ўбраць ураджай і

захаваць плады. Яны апускалі рукі, і старшыня без шкадавання адпускаў іх з саду, падбіраў ім іншую работу.

І вось, урэшце, прафесійны нюх кіраўніка вывеў Аляксея Сцяпанавіча на заатэхніка фермы ў Астрамечаве Надзею Сцяпанаўну Крывалевіч. Яму стала вядома, што яна па спецыяльнасці — аграном, і хацела б свае здольнасці раскрыць у гэтым накірунку. Больш таго, муж яе Сяргей — таксама аграном, а робіць брыгадзірам паляводчай брыгады. Вырашыў старшыня надаць гэтай пары галубкоў новыя крылы, свежае дыханне, малады азарт. Паехаў на паклон да іх.

— Вось што, Надзея, — пачаў размову Аляксей Сцяпанавіч. — Хочаш мець добрую працу, выходзь з дэкрэта. Тэрмінова патрэбен кіраўнік саду. Сяргея перавядзём да цябе. Дома слухаецца, і ў тваёй камандзе не падвядзе. А малышню — у дзіцячы садок. Хай вучацца быць калектывістамі…

— Ці спраўлюся? — занепакоілася Надзея Сцяпанаўна.

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Веру ў цябе! — запэўніў Аляксей Сцяпанавіч.

Надзея Крывалевіч пераехала ў Астрамечава ў тым годзе, калі гаспадарку ўзначаліў Скакун. І яна ведала, што гэты рашучы кіраўнік любое сваё рашэнне глыбока абдумвае і не любіць людзей, якія сумняваюцца, залішне асцярожныя. Таму, вытрымаўшы кароткую паўзу, сказала:

— Калі давяраеце, не падвяду вас.

Так у астрамечаўскім садзе з’явілася сапраўдная гаспадыня. Яе душа і веды плюс падтрымка праўлення кааператыва вывелі садаводства ў адну з самых прыбытковых галін сельскай вытворчасці, якая дынамічна развіваецца.

А цяпер уявіце, што натхнёная садаводка, сабраўшы, як руплівая пчолка, усе фарбы квітнеючых яблынь, груш, алычы, сліў, вішань, парэчак, сабраўшы восеньскія фарбы пладоў, пачынае маляваць партрэт Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Менавіта мастачкай уяўлялася мне Надзея Сцяпанаўна, калі апавядала пра сад. І пра што б яна ні гаварыла, за кожным словам мне бачыўся і адчуваўся нястомны мужык-шчырун, на якім, папраўдзе, усё і трымаецца.

— Не паверыце, я плакала штодзённа ў садзе, — прызнаецца Надзея Крывалевіч. — Але ж хіба паспрачаешся з нашым Аляксеем Сцяпанавічам. «Не ўмеюць, — кажа ён, — толькі тыя, хто не хоча вучыцца». І я для пачатку тады падышла да кожнага дрэўца, дакранулася рукой, як бы павіталася і папрасіла: «Не падвядзіце». А начамі чытала ўсю магчымую літаратуру. Мяне паслалі па вопыт да лепшых садаводаў Беларусі. Пабывала ў Польшчы. Зразумела спаўна павучанне Аляксея Сцяпанавіча: «Саду патрэбны не мускулы, а глыбокія веды». І праўда, дрэвы і кусты пладовыя патрабуюць увагі на ўсіх этапах свайго жыцця — ад закладкі пітомніка, высадкі ў глебу і да спелага ўзросту.

Мы ідзём па садовым царстве, і кіраўніца не без гонару кажа:

— Я гатова тут дняваць і начаваць. Кожнае ранне лячу сюды, як на свята. І так ужо шаснаццаць гадоў. Паглядзіце наўкол, нас акружаюць класічныя сарты яблынь, як у Канадзе, Амерыцы, Англіі, Галандыі, Чэхіі. Усіх нас вучыць Аляксей Сцяпанавіч: «Умейце зразумець, што мы не горшыя гаспадары на зямлі, чым у хвалёным замежжы. Дык давайце і вынікі адпаведныя!» Мы і стараемся…

Мовай лічбаў гэта старанне вызначаецца ў пяць тысяч тон садавіны ў год. Уяўляеце, кавалькаду машын, загружанах жоўта-зялёна-чырвонымі яблыкамі, даўжынёй у некалькі дзясяткаў кіламетраў. І гэта ўсё астрамечаўскія дары!

З Надзеяй Сцяпанаўнай падыходзім да арыгінальных садовых альтанак. Тут прыладкаваны нават нейкія музейныя калёсы, побач «жыве» драўляны бусел. Лаўкі, сталы, дахі — усё выраблена з мастацкім густам. Ёсць разеткі і самавары. Рабочыя саду, механізатары маюць усе ўмовы для адпачынку.

— Наш Аляксей Сцяпанавіч дазваляе нават згуляць тут вяселле, калі маладыя пажадаюць. Лепшага кафэ і не прыдумаеш. Застолле на святочнай прыродзе. Яблыні наўкол пахнуць свежасцю, а прыгажосць, як вокам кінуць, проста райская. І тосты нараджаюцца ўзнёслыя, — Надзея Сцяпанаўна папраўляе чарнявую касу, сціпла ўсміхаецца. — А ў нас, садаводаў, свой, нязменны тост: «Каб не было паршы і каб здохлі ўсе мышы». Па дванаццаць разоў апырскваем садовыя дрэвы і баімся мышэй, каб не завяліся ў карнявішчах.

Пра што б ні расказвала Надзея Сцяпанаўна: ці пра тое, як абразаюць сад, ці пра развядзенне новых сартоў, ці пра будаўніцтва спецыяльных сховішчаў для яблык, а ўсё роўна ў размове ўвесь час як бы прысутнічаў сам Аляксей Сцяпанавіч Скакун.

— Ён жа — першапраходзец нашага саду, — сцвярджае Надзея Сцяпанаўна. — У любы час можа зазірнуць з праверкай, але заўсёды з дабрынёй. Любіць парадак, ды ўсё-такі ўмее даць волю ў працы, таму я і адчуваю сябе гаспадыняй тут. Але ніколі сама сабе не дам патурання: не спазнюся, не прасплю, не дапушчу, каб старшыня рабіў мне заўвагі. Не дай Бог, каб падвесці яго. З ім лёгка рабіць. Я, бывае, не стрымаюся, пачну крычаць на рабочых, пасля кусаю сябе: «Надзея, раўняйся на Скакуна, ён жа ніколі не лаецца, не ўздымае голас на людзей». Іншы раз думаю, от бы такога старшыню ды ў кожную сельскую гаспадарку Беларусі, дык мы б сапраўды дагналі б і перагналі б хвалёнае замежжа…

З Аляксеем Сцяпанавічам я праязджаў міма саду ў розныя поры года. Едзем зімой, пачынаецца доўгая, белая агароджа, а за ёй — снежны дыван з іскрыстымі кронамі дрэў. Прыгажосць неапісальная!

Едзем вясной — трыста гектараў зямлі ў белай, шалёнай квецені. З душы Аляксея Сцяпанавіча заўсёды вырываецца адна і тая ж фраза:

— Можна ў гэта царства прадаваць турыстам пуцёўкі!

Едзем летам, прыпыніць машыну, паходзіць ад дрэва да дрэва і парадуецца: наліваюцца плады, набіраюцца сілы і жыццёвых сокаў. Будуць у астрамечаўцаў свае вітаміны на ўсю зіму!

Едзем восенню — сад зацяжараны, вось-вось абродзіцца.

Аляксей Сцяпанавіч выхоплівае з машыны фотаапарат і яго ў гэты час нельга нічым турбаваць. Ён увекавечвае чырвоныя знічкі на яблынях, атаўсцелыя, сакавітыя грушы. Плады адзін у адзін — наліўныя, чыстыя, апетытныя. Іх — пяць тысяч тон!

І ў гэты час, здаецца, над усім садам, над усёй навакольнай прасторай гучыць «Астрамечаўскі вальс» на словы паэта Уладзіміра Сітухі:

Остромечеву свыше намечено,
Предначертано яркой судьбой,
В нашем крае певучем и песенном
Увлекать и вести за собой…

### 6. Жывая капейка

У народзе кажуць: абы добры тавар, то купец знойдзецца. Атрымліваецца, як у дзіцячай лічылцы:

Каціліся торба
З высокага горба,
А ў той торбе — хлеб, пшаніца,
З кім ты хочаш падзяліцца?

Прадукцыя сялян-мужыкоў адвечна патрэбная, і слава Богу, ёсць з кім дзяліцца. Спажыўцы аднолькава хочуць есці, як у горадзе, так і ў вёсцы. Але чаму мы, задумаўся Аляксей Сцяпанавіч, павінны бясплатна карміць гандляроў, пасрэднікаў паміж нашым таварам і пакупніком?

Пра гэта ён аднойчы смела заявіў на рэспубліканскай нарадзе, на якой абмяркоўваліся задачы па павышэнні эфектыўнасці работы аграпрамысловага комплексу. Яго ўважліва слухаў і каменціраваў Прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

— Дзяржаве мы прадалі за год тры тысячы тон мяса і каля васьмі тысяч тон малака. Гэта вытворчасць па сутнасці асобнага раёна. Да таго ж мы прадалі тры тысячы тон пшаніцы. Восем тысяч тон цукровых буракоў. А грошай няма. Парадокс: чым больш выдаём прадукцыі, тым глыбей пагружаемся ў даўгі, — Скакун адарваўся ад падрыхтаванай паперы і звярнуўся да Прэзідэнта. — Аляксандр Рыгоравіч! Я на такой вялікай трыбуне ўпершыню, і першая просьба да Вас — пазычце станок па друкаванні грошай хаця б на пару гадзін…

Аляксей Сцяпанавіч у свой час намаляваў для сябе калёсы сельскай эканомікі. Усе чатыры яе колы пачыналіся з літары «с»: самастойнасць, самаакупнасць, самакіраванне, самафінансаванне. Змазкай гэтых колаў павінна стаць жывая капейка. Дзе яе ўзяць? Трэба развіваць сваю прамысловасць і гандаль сваім таварам. На гэту тэму прайшло не адно бурнае пасяджэнне праўлення.

— Сябры, толькі ведайце, — папярэдзіў Аляксей Сцяпанавіч сваіх калег, — як толькі мы рыпнемся ў новым накірунку, тут жа з'явяцца табуны кантралёраў, будуць шукаць крымінальную капейку. Усё ў нас павінна быць празрыстым. Чакаць больш спрыяльных момантаў мы не можам. Час — катэгорыя эканамічная. Сёння спознімся — заўтра не дагонім…

Найперш Скакун прапанаваў збудаваць цэх па перапрацоўцы сельскай сыравіны. Сэрца яго разрывалася, калі бачыў, што жывёле скормліваюць яблыкі, а то і гуркі, капусту, кабачкі.

Той цэх вяскоўцы назвалі кансервавым заводам і вельмі ж ганарыліся ім. Казалі: «А ў нашай вёсцы свой завод, а ў ім — прафесіі гарадскія». Там спачатку наладжвалі выпуск самай рознай прадукцыі, каб толькі заняць рабочыя рукі, каб тавар даваў гаспадарцы жывую капейку.

Пачалі з прымітыўнага — нарыхтавалі пяцьдзясят тон бярозавага соку, закаталі дваццаць пяць тысяч слоікаў гуркоў. Прынялі ад сялян каля чатырох тон чорных парэчак і, працёртыя з цукрам, заклалі ў шкляную тару. А яшчэ зрабілі 280 тысяч слоікаў яблычнага соку. Лічбы, як бачым, не зусім кустарныя, не для гаспадара-аднадворца.

Сенсацыя! У Астрамечаве пачалі здабываць кумыс. У бутэлькі закаркоўвалі не заморскае, а сваіх кабыліц малако. Аляксею Сцяпанавічу ўсцешна было частаваць гасцей экзатычным напоем мясцовага разліву. Ім ён задумаў здзівіць нават свайго касмічнага сябра Пятра Ільіча Клімука.

Якраз жа падвярнулася камандзіроўка ў Маскву. Скакун узяў з сабой цэлую скрыню астрамечаўскага кумысу, бо ведаў, што ў Зорным гарадку зямляк не будзе каштаваць яго адзін, абавязкова збярэ каманду сваіх сяброў.

Пётр Іліч, паблісквочы залатымі зоркамі Героя Савецкага Саюза, сам сустрэў на пероне Скакуна. Прыехалі ў гарадок касманаўтаў, падняліся ў кабінет Клімука. Сядзяць, прыгадваюць родныя мясціны. Пётр Ільіч цікавіцца, колькі каровы даюць малака і пад якую музыку. Аляксею Сцяпанавічу хочацца ведаць, як пачуваюць сябе чарговыя касманаўты на высокай арбіце. І раптам куляй улятае ў кабінет Клімука дзяжурны. Твар белы, як аркуш меланай паперы:

— Таварыш генерал, у вашай машыне, на якой вы прыехалі з госцем, нешта ўзарвалася. Па трывозе ўзнята ўся ахова…

Той дзень у Маскве выдаўся надта спякотным. Астрамечаўскі кумыс не захацеў спакойна сядзець у бутэльках і ўздумаў узляцець у адкрыты космас.

Так у арсенале жартаў Аляксея Сцяпанавіча з'явілася маскоўская быліца, як ён кумысам зрабіў перапалох у Зорным гарадку. За гэта, кажуць, Пётр Ільіч завёў яго ў трэнажорны зал, дзе праэкзаменаваў свайго мужыка-земляка на трываласць. А ў басейне Скакун адважыўся скокнуць з касмічнай вышкі. Праўда, крыху пацешыў абслугу, бо прывадняўся не рукамі ці нагамі, а сялянскім пузам.

У калгасным цэху ў Астрамечаве чаго толькі не выраблялі. Адсюль выходзілі да спажыўца каўбасы з гавядзіны — «Палеская», «Панская», «Мотальская». Яны мелі не толькі прывабныя назвы, але і водар гаючых ніў, з якіх збіраўся корм для бычкоў-кормнікаў. Тут у свой час пяклі са сваёй мукі хлеб «Дамашні». Тут выраблялі яблычны сідр, кампоты, саленні і варэнні. Ды кожны раз Аляксей Сцяпанавіч патрабаваў у эканамістаў поўныя разлікі: ці прыбытковая прадукцыя, ці прыносіць яна ў касу жывую капейку. І калі лічбы не вытанцоўвалі па выгаднай формуле, прымушаў думаць усіх, і сам не спаў начамі.

Цяпер, калі пішу гэтыя радкі, у вытворчым цэху стаіць канвеерная лінія, на якой робяць яблычныя чыпсы. Само слова «чыпсы» вядома сучасным дзецям і ў горадзе, і ў вёсцы. Яны любяць пахрумсцець бульбянымі забаўкамі. А вось астрамечаўскія вынаходнікі вырашылі здзівіць усіх. З яблык са свайго саду выштукоўваюць «Залатыя лустачкі», якія ўжо адзначаны дыпломам на рэспубліканскай выставе сельскай прадукцыі. Вясковыя вытворцы ўжо распрацоўваюць новыя віды «фрусцяшак» — са смакам мяты, мёду, апельсіна, чорных парэчак.

З намеснікам Скакуна па вытворчасці Віктарам Козічам, начальнікам цэха Ірынай Шапавалавай абходзім прасторны будынак. У асобным, бы на ганаровым месцы, стаяць, дрэмлюць да пары да часу вялізныя брадзільныя чаны. У іх нагульвае адметны смак віно «Астрамечаўскі вальс». Так і хочацца, каб тут гучала павольная, душэўная мелодыя, якая перадасца пасля ўсім, хто будзе спажываць хмельны напой.

Скакуновы вінаробы пусцілі ўжо ў людзі і «Вячэрнюю расу», і «Старое танга», і «Алесю». Хочуць вывесці на арбіту віно «Астрамечаўскія Лявоны». Так называецца іх любімы фальклорны ансамбль, які ведаюць ці не ўся Беларусь і блізкае замежжа. Ёсць надзея, што і віно з іх брэндам набудзе ўсяленскі запыт, такі ж, як і ў вёсцы Кашылава.

Сваю сялянскую тайну выдала мне адна тутэйшая векавуха:

— Наша вёска, слухай сюды, памірала. Дык, слава Богу, наслалі нам ратавальніка Скакуна. Ён платы нашы гнілыя спаліў, новыя ўстанавіў. Вуліцы параўняў, хоць бокам каціся. Хаты ўсе падрамантавалі, крышы пазаменьвалі. Вой-вой, людзі пачалі сюды вяртацца з гарадскога асфальту…

Бабця Ганна хітравата прыжмурыла вочы:

— А самае галоўнае, слухай сюды, збудаваў для нас магазін. Называецца «Каля саду». Ага, дак там, галубок, што хочаш можна ўзяць. Можна нават пасядзець за столікам, вады папіць, шашлык заказаць. Мужыкі нашы ажывіліся. То, бывала, майго не ўгаворыш карове сена кінуць, напаіць, а то, слухай сюды, сам просіцца: «Пайду, кажа, кароўцы муражку падкіну, дам папіць». І так на дні па некалькі разоў. Калі ж я агледзелася, дак сцежачка ад нашай хаты пратаптана напрасткі да Скакуновага магазіна. Упадабаў там вінцо астрамечаўскае. Але ж затое і кароўка сытая…

Цяпер на балансе кааператыва ўжо дзесяць гандлёвых кропак. Яны ў вёсках Астрамечава, Новых Лышчыцах, Яцкавічах, Зводах. Ёсць нават і ў самім Брэсце. Для іх збудаваны спецыяльныя памяшканні, а ў асартыменце нямала мясцовых тавараў: вырабы з пушніны на ўсе густы, чыпсы з яблычнай лусты, малако, смятана, тварог «Астрамечаўскія прасторы», яблыкі не з-за мора, а са сваёй каморы. А тая «камора» — аб'ёмная, сучасныя склады, у якіх яблыкам прывольна ад восені да новага лета.

На сяле ёсць нават сваё кафэ «Ніва» і шыкоўны бар у Палацы культуры. Абслуга хвацкая, вышкаленая ды не забіяцкая. Яны кормяць і мясцовы люд, і высокія дэлегацыі, і механізатараў у гарачую пару сяўбы, уборкі. Тут прыдумалі стравы, якіх няма болей нідзе. І прыгатаванне іх трымаецца ў сакрэце.

Адна з тых фірменных страў называецца «Астрамечаўская юшка». Яе, ходзяць чуткі, рыхтуюць з нейкіх частак цела бычкоў нагулёных. І рыхтуюць той навар на маленькім агеньчыку шмат гадзін запар. Так гэта ці не нават Скакун па вялікім сяброўстве не прызнаецца. Толькі любіць юшку смакаваць ды гасцям яе наліваць.

— Можа, дабаўкі хто хоча? — заўсёды перапытае Аляксей Сцяпанавіч і сам паказвае прыклад. — Лініце, дзяўчаты, яшчэ чарпачок, каб замарыць чарвячок, каб прагнаць стому, з настроем вярнуцца дадому…

Будзённага і клопатнага ў галіне перапрацоўкі сельскай прадукцыі і гандлі — хоць адбаўляй. Ды вынікі абнадзейваюць, усцешваюць. Астрамечаўскія гандляры атрымліваюць гадавой выручкі каля пяці мільярдаў рублёў. Вось якую жывую капейку ўносяць у агульную капілку кааператыва.

Ад гандляроў Аляксей Сцяпанавіч вывеў яшчэ адно правіла ўнутранага рэжыму для ўсіх катэгорый працаўнікоў:

— Помніце, таварышы, у дзевяць ноль-ноль — не прыход на работу, а пачатак работы. У васямнаццаць — не адыход з работы, а заканчэнне работы.

Пры гэтым дэмакратычны старшыня Скакун помніць: нават вярблюд не бярэ праз сілу. Калі адчуе, што на яго занадта нагрузілі, то кладзецца на зямлю і не ўстае.

Рэфарматар Скакун ведае: у аграрыяў цуды сустракаюцца рэдка. А новыя крокі ў заўтра — гэта проста змена інтарэсаў і накірункаў. Прыкладам таму астрамечаўскія эканамічныя высілкі ў галіне вытворчасці і гандлю.

## 7. Споведзь шафёра

Валерый Бабій возіць Аляксея Сцяпанавіча Скакуна дваццаць гадоў. Прыручоны, нязменны шафёр. Блізкі чалавек. Амаль радня. Во хто зможа ацаніць Скакуна, яго эканоміку!

Але ж як падступіцца да маўчуна? Як пачуць ад яго споведзь, калі ён ніколі не мае часу на доўгую размову? А гаворыць, бы крыху гугнявіць у нос, быццам знарок глытае словы, каб іх не разабраць. Грэшнай справай, я і думаў напачатку, што ён, хітрун, так робіць спецыяльна, каб ніхто не прыставаў з роспытамі. Нешта, бывала, скажа, бліснe ўсмешкай-маланкай і — коўзь у машыну.

Іншым разам думаю, як Скакуноў «джып» вытрымлівае такія нагрузкі? За рулём — то нястомны Валерый, то яго падменшчык Фёдар, то сам старшыня. Здаецца, машына, як і чалавек з завязанымі вачыма, сама бегае па дарогах ад фермы да фермы, ад вёскі да вёскі, ад раёна да сталіцы. І толькі адзін Бог ды крыху Скакун ведаюць яе маршрут. От і ходзіць пагаворка пра Аляксея Сця-

панавіча: «Ён усё бачыць вакол сябе, і паяўляецца заўсёды там, дзе яго аніяк не чакаюць. Ён, кажуць, бачыць на сем сажняў пад зямлёй і гайдачыць па палетках, як стэпавы конь».

Мне жадалася супыніць калі-небудзь таго каня-скакуна ды няспешна пагутарыць з яго наезнікам-шафёрам Валерыем. Аднойчы ўсё-такі пашэнціла ехаць на Скакуновай машыне з Астрамечава ў Мінск. За рулём — Валерый. Нас двое ў салоне. Шаша Брэст—Масква з ціхім шапаценнем намотвалася на колы хуткакрылай машыны. І мы павялі нетаропкую гаману пра Астрамечава, яго гаспадара і сённяшнюю жытку на сяле.

Прызнаюся, я і не думаў, што Валера такі завадны субяседнік. Паціху-паціху, ён распаліўся, раскачагарыўся, як вясковая печ ад бярозавых дроў. А я толькі зрэдку падкідваў у размову свае пытанні-«паленцы», каб агонь яго споведзі палыхаў з новай сілай.

— Ведаеце што, мужыкі ўсюды ёсць, а парадак — не ўсюды, — пачаў свой філасофскі роздум шафёр Валерый Бабій. — Я знаў аднаго мужыка ў нашым сяле, дык ён любіў без запрашэння хадзіць у госці, а пасля кожнаму сустрэчнаму даводзіў: «От у Івана каўбаса смачная, а калі на дурніцу — дык і зусім». Частавацца на дурніцу і жыць на дурніцу — вельмі ж багата ахвотнікаў. Дак вот у Астрамечаве Аляксей Сцяпанавіч робіць пастаянную «прапол-ку» такіх людзей. Вырывае з карэннем, як пустазелле, п’янтосаў, лянотнікаў, халтуршчыкаў. Не любіць пустабрэхаў, хітруноў і хлусоў… Капец!..

— А па якім прынцыпе ён вас выбраў сваім шафёрам?

— Хэ, мой кум яго раней вазіў. Сам перайшоў рабіць на аўтобус, а мяне параіў. Я ж з Украіны, але калі цераз балота перайсці, то гэта кіламетраў трыццаць ад Астрамечава. Выклікаў Аляксей Сцяпанавіч, пагаманілі, я і ўпадабаўся яму.

— Кажуць, начальнік і яго шафёр — гэта адзін чалавечы арганізм. Што ў вас агульнага са страшынёй?

— О, энергія!.. Капец!.. Ён набірае яе ў свой акумулятар, а пасля ўсім раздае. Дык і я ж не сплю, як і ён. У чатыры раніцы — ужо на нагах. Сонца трэба сустрэць, дойку праверыць, па палявых дарогах праехаць. Гэта ён цяпер крыху паспакайнеў. Усё ладам ідзе, можна і да шасці паспаць. А раней — капец!.. Наперад птушак прачынаўся. Шустры, як экстрасэнс, — Валерый раптам зарагатаў, ледзь руль не выпусціў з рук, а я цярпліва чакаў, бо ведаў, нештачка дзіўнае прыгадаў.

Мы праехалі яшчэ адзін дарожны ўказальнік, і Валерый пачаў тлумачыць свой смех:

— Заязджаем аднойчы на мехдвор. Сцяпанавіч да загадчыка майстэрні і расстрэльвае яго ў лоб: «Хлопцы п’юць?» — «Не-а» — «А мне здаецца, выпіваюць». Пагаварылі, паехалі. Толькі мінулі вароты, едзем уздоўж бетоннай агароджы, Аляксей Сцяпанавч кажа: «Тармазні». Я не паспеў азірнуцца, а ён перамахнуў цераз высокую белую пліту і — у майстэрню. А там рамонтнікі, заспакоеныя, што Скакун паехаў, разлілі бутэльку па шклянках і толькі-толькі хацелі чокнуцца. Аж тут голас Сцяпанавіча, як з неба пярун: «Я ж казаў, выпіваюць!..» Капец тым майстрам, на праўленні прачысцілі мазгі…

— А як гэта робяць?

— Ціха і спакойна. На першы раз — прынароднае папярэджанне. На другі — здымаюць льготы, прэміі. Калі і далей папаўся — выганяюць з кааператыва. На яго месца ёсць чаргавікі. Капец, як строга!..

Мяне цікавяць астрамечаўскія льготы, страціць якія страшней, чым ваўка ў лесе спаткаць. Валерый папулярна тлумачыць:

— От у маёй сям'і чатыры члены кааператыва: я, жонка, сын Ігар, нявестка. Дак мы на кожнага працуючага атрымліваем у месяц бясплатна — па восем літраў малака, па паўкіло смятаны і па чатыры кіло мясных вырабаў. Толькі распішыся і бяры, калі не парушыў ніякай дысцыпліны і працаваў сумленна. Капец, як добра!.. А яшчэ ж можна ўзяць льготных яблыкаў, зерня, сена… Табе працягваюць руку дапамогі ва ўсіх выпадках жыцця, толькі будзь жа і ты чалавекам…

Не хочацца выпускаць Валерыя з гэтай тэмы, і я распытваю яго пра новыя астрамечаўскія льготы. І ён папулярна тлумачыць:

— От мой сын Раман закончыць вучобу ў Мінску і прыедзе дамоў — малады спецыяліст. Палучай паўмільёнчыка, што вярнуўся, дзякуй, што пра свой кут не забыўся. Жэнішся ці выходзіш замуж — палучай дапамогу мільён рублікаў, радуйся. Бацькі, чые дзеці задумалі вяселле, могуць наперад атрымаць месячную палучку. Нарадзілася дзіцё — на табе разавую салідную падмогу — адзявай, кармі спадчынніка. А задумаеш будавацца, бяры матэрыяльную дапамогу адразу тры мільёнчыкі. Капец!.. — Валерый сказаў сваё брэндаўскае слова, змоўк, а я здагадваюся, якая бура эмоцый цяпер у яго душы, ён як бы нанова пераацэньвае сваю астрамечаўскую жытку, а заадно дае ацэнку Аляксею Сцяпанавічу Скакуну, з якім поруч у будні і святы. — Мы ўжо прывыклі, што да Дня работнікаў сельскай гаспадаркі, Новага года, свята Перамогі, Дня жанчын, Дня абаронцаў людзі атрымліваюць канверты з грашыма альбо прадукты. Праўленне падтрымлівае сем'і, якія гадуюць дзяцей ажно да шаснаццаці гадоў. Пенсіянеры, інваліды не ў крыўдзе. Ім нават абрабляюць прысядзібныя ўчасткі. Ды ўсім нам бульбу вырошчваюць у полі, толькі забяры ўраджай. Дзе і калі такое было? Капец!..

Машына коціцца. Думкі абганяюць яе, сягаюць то назад, у Астрамечава, то ў Мінск, які наперадзе. Мяне з Валерам, адчуваю, агортвае адно ўзнёслае пачуццё: мы ведаем чалавека па прозвішчы Скакун, мы паважаем і цэнім яго, ён з намі ў дарозе, як анёл-ахоўнік, як добрая аўра, з імі і дарога не ў цяжар, і на душы лёгка-радасна.

Калі Валерый распавядаў пра льготы свайго СВК, нястомна паўтараў адну і тую ж фразу: «Усё будзеш мець, калі добра працуеш, калі не парушаеш дысцыпліны». І толькі цяпер мне стаў глыбока зразумелым любімы жарт Аляксея Сцяпанавіча:

«Астрамечавец, якога на праўленні звольнілі з кааператыва, пайшоў на возера лавіць рыбу. Трэба ж неяк карміцца ды сям'ю ўтрымліваць. І трапілася яму на кручок залатая рыбка. Просіцца: «Адпусці мяне, астрамечавец». А той цану набівае: «Выканай маё жаданне, тады волю дам». — «Прасі, што хочаш», — пагадзілася рыбка. «Хачу, каб у мяне было ўсё!» — загадаў рыбак. Залатая рыбка выслізнула з яго рук і перад самай вадой крыкнула: «Мужык, у цябе ўжо ўсё было, ды з-за тваёй неахайнасці сплыло».

Я бываў на праўленні, дзе пад старшынёўствам Скакуна праводзілася пасяджэнне па ўсіх будзённых пытаннях. Разбіралі «па костачках» і штрафнікоў. Давалі вымовы, вызвалялі з пасады, пазбаўлялі льгот. Аляксея Сцяпанавіча было не пазнаць — рашучы, рэзкі, катэгарычны. І ніхто з пацярпелых не асмеліўся аспрэчыць рашэнне, бо яно было праўдзівым і прадказальным. Усе ж ведаюць адно Скакунова патрабаванне: «Не парушай дысцыпліну і строга выконвай свае службовыя абавязкі — і ты ніколі не падвядзеш ні сябе, ні сваю сям'ю, не будзеш мець галаўнога болю».

— Наш Сцяпанавіч такі! — як бы хваліцца і адначасна ганарыцца ім шафёр Валерый. — Ён як сапраўдны скакун, цягне без стомы сялянскі воз.

Людзей бачыць, нібыта на рэнтгене. І калі каму паверыць — душу аддасць, а засумняваецца — смела агучыць гэта. Неяк прыводзіць да яго адна маці свайго сына, просіць: «Дапамажыце яму вучыцца бясплатна ў інстытуце, хоча стаць аграномам». Сцяпанавіч запрасіў у кабінет толькі сына. Няспешна з ім гутарыў. Тады маці аб'явіў сваё рашэнне: «Ведаеце што, мамаша, не выйдзе з вашага сына агранома. Яму больш валасы доўгія даспадобы, чым зямля. Шукайце іншую прафесію…»

Валерый раскрыў сваю душу наросхрыст, пачаў расказваць пра сваё маленства: як маці-даярцы дапамагаў на ферме, як карове сена рыхтаваў, як соткі ўзорваў, як цялят калгасных пасвіў.

— Я і цяпер люблю ўсё рабіць. Прыйдзе ўборка, прашуся ў Сцяпанавіча на камбайн. Бывае і ноччу працую. Калоссе гнецца перад табой, зерне залацістае сыплецца ў бункер. Капец, як прыгожа!.. А раніцай трэба ехаць у Мінск. Сцяпанавіч садзіцца за руль, я — сплю. Назад яго вязу. Вяртаюся ў свой дом з сямі пакояў. Сваімі мазалямі збудавалі. У кожнага ў калгасе — свая работа: жонка-лабарант у амбулаторыі, сын-ветурач, нявестка-эканаміст. Меншы сын вывучыцца — і сюды, у Астрамечава. Чаму б не жыць, зарплату даюць, льготаў поўна. Капец!.. Але ж усе мы працаголікі. Адзінаццаць сотак зямлі каля дома абрабляем, сад свой. Паркет самі паклалі, плітку ў душавой самі наклеілі. Трусоў трымаем. Цікава іх гадаваць. На веласіпед, і еду траву ім касіць. Не магу без працы. І дзяцей прывучыў рабіць. У нас ёсць усё, але гэта ўсё мы самі і зарабілі. Хто працуе, той і мае! Канец!..

Гэтым словам «канец» Валерый нібыта падводзіў вынік размовы, яно гучала, як «капец». Сапраўды, размова, адчуваў, завяршался, але ж да Мінска яшчэ заставаўся ладны кавалак дарогі, і хацелася што-небудзь новае выведаць пра Аляксея Сцяпанавіча. Валерый па слова ў кішэню не шморгаўся:

— Людзі за яго — гарой! Дапаможа любому, толькі не любіць фальшу. От западозрыў, што механізатары мала робяць рэйсаў з сіласам. Сам сеў за руль самазвала і цэлы дзень шнураваў з поля да сіласнай ямы. Пасля сабраў усіх і ўваліў па самую рукаятку. З ім — капец!..

З намі ў машыне як бы ехаў сам Скакун. Ва ўсялякім разе ён некалькі разоў перазваніў, клапаціўся пра дарогу, пра настрой, пра нашу бяспеку на хуткаснай шышы. У гэтым яшчэ раз праявілася яго добрая, клапатлівая, шчодрая душа. І неардынарная. Яго рашэнні бываюць непрадказальныя.

— Едзем аднаго разу ў Мінск, спяшаемся, — прыгадвае Валерый. — Вытыркаецца міліцыянер, махае палкай. Прыпыніліся. Што такое? Перавысілі хуткасць. Аляксей Сцяпанавіч тлумачыць, што спазняецца на сесію Нацыянальнага сходу. Службіст як бы і не чуе, забраў мае правы і павёў у сваю будку. Выходзім адтуль пасля афармлення штрафу, а машыны няма. Сцяпанавіч сеў за руль і паехаў у Мінск. Капец!..

У калейдаскоп успамінаў увайшлі розныя згадкі Валерыя пра Скакуна. Хай яны кароценькія, як сечка саламяная, хай імгненныя, як бліскаўкі салютныя, але ж маюць пэўныя фарбы і па-свойму дамалёўваюць партрэт старшыні:

— Трэба ў Астрамечаве так працаваць, каб мець права ў карты гуляць.

— Астрамечаўцы моцна думаюць перад тым, як ход зрабіць, каб у дурнях не застацца.

— Сучара — гэта паклёпнік. Ён злыднічае, як камар. От жа іх Сцяпанавіч не любіць — капец!..

— Палякі хваляцца, што каўбасой дзверы прывязваюць. Ім мы на гэта: а ў

нас коней каўбасой путаюць. І вынайшлі граблі, якія самі, як магніт, шукаюць грошы і грабуць у склад.

— Выклікае Сцяпанавіч аднаго выпівоху, прачышчае яму мазгі ды й кажа: «Грыша, у цябе такая дабрэнная жонка, пашкадаваў бы яе». Мужык падхопліваецца з крэсла: «Сцяпанавіч, вазьміце яе да сябе. У вас харошая жонка, будзе дзве харошыя». — «Не, Грыша, давай будзем трымацца кожны сваёй!» Крута ўмее чысціць кадры. Капец!..

— Людзі прыкмецілі: Скакун пазней за ўсіх кладзецца, раней за ўсіх устае. Ад яго не схаваешся. От і пачалі рабіць на калгасным полі, як на сваім.

— А водпускі ў іх ўсё-такі два. Адзін законны, зароблены, а другі — Скакуноў, калі ён едзе адпачываць, а гаспадарку давярае сваім намеснікам…

Капец, уязджаем у Мінск. Сталічны мурашнік паглынае астрамечаўскую машыну. І мы ўжо ў віхуры гарадскіх аўто, ліхтароў, ілюмінацый, сучасных гмахаў і старых пабудоў. Прыехалі ад умалотных жытнёвых палеткаў, ад раскошнага саду, а тут іх дары ў вітрынах.

Прыехалі ад мурожных сенажацей і поймаў палескіх рэк, дзе гаспадарліва паходжваюць буслы, а тут над горадам — жалезныя краны-буслы.

Па-новаму ўзіраюся ў твары мінчан. Колькі ж сярод іх разумнікаў, інтэлігентаў, творцаў, рабацяг і бамжоў! І ўсе, чым бы ні займаліся, хочуць есці і хочуць усяго таго, чым багата наша зямля.

Пасля вандроўкі па астрамечаўскіх прасторах і вёсках, пасля сустрэч з Аляксеем Сцяпанавічам Скакуном і яго працаўнікамі мінчане ўбачыліся крыху іншымі. Яны, як дзеці маці-зямлі, з маленства да старасці карыстаюцца яе прысмакамі. Дык, можа, і ў прадуктовыя магазіны трэба заходзіць, як у храмы сялян? Капец, як захацелася, каб усе мы навучыліся маліцца за вяскоўцаў, якія стаяць на варце жыццёвай бяспекі кожнага з нас.



## Валянцін СЕМЯНЯКА

### ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

Там, дзе дух займае водар чабароў,
Дзе зубры жывуць у засені бароў,
Там, дзе дзьмуць сівых паданняў скразнякі,
Ёсць адно, якое помняць праз вякі.
«Кажуць людзі: на Купалле, уначы,
Трэба ў пушчы кветку-папараць знайсці.
І таму, хто зможа кветку адшукаць,
Будзе ўсё жыццё бясконца шанцаваць.
Ды адкрыецца не кожнаму яна,
Бо за шчасце трэба заплаціць спаўна:
Збіць на сцежцы ранняй звонкую расу,
Каб знайсці ў дуброве кветчыну-красу,
І царам лясным зямны паклон адбіць,
З ведзьмакамі карагоды павадзіць.
А яшчэ — і тое ўсім патрэбна знаць, —
Каб яе убачыць, варта пакахаць».
…Вось чаму я рады, што цябе знайшоў,
І гляджуся ў вочы, любыя мне, зноў.
У іх зрэнках бачу велічны агонь,
І лясоў пушчанскіх запаведных сон,
І загадкавы, такі таемны сум,
Што зганяе тлум і дорыць крылы дум.
А твой голас! Ён — і шум азёр лясных,
Ён — і шэпт дубоў зялёных векавых!
Ты — як папараць, як кветка для мяне!
Хай Купальская нас ночка ахіне!

---

***Семяняка Валянцін Міхайлавіч*** *нарадзіўся 10 ліпеня 1963 года ў вёсцы Лыскава Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў фізічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы (1985), Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (2003). Працаваў у сістэме адукацыі Зэльвенскага раёна. Цяпер — намеснік старшыні Зэльвенскага райвыканкама.*

*Друкаваўся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Маладосць», у калектыўным зборніку вершаў «Зоры над Зальвянкай» (2008).*

## ЦЕРАХАВІЧЫ

Між лугоў квяцістых рэчачка бруіцца,
Побач з ёю — сцежка ў мурагах густых.
А за рэчкай вёска — успамін дзяцінства.
Тут Церахавічы — край дзядоў маіх.

На крутых пагорках — хаты-маляванкі,
У садах вяргіні гнуцца пад расой,
Бусел прывітае клёкатам з буслянкі,
А падворак кожны дыхае красой.

Як заўсёды, буду на хаду няшпаркім,
Тут мяне прызнаюць хутка за свайго,
Будзе стол накрыты, з’явіцца і чарка,
І да чаркі, пэўна, шмат яшчэ чаго.

Як вада ў рачулцы, паплыве гаворка
Аб навінах свежых і часах былых.
У праменным ззянні цішы адвячорка
Шчэ радней мне твары родзічаў сівых.

А як сон дрымотны ахіне даліну
І загляне з неба ў студню маладзік,
Дружным хорам песню завядзе радзіна
Аб шчаслівай долі нiваў залатых.

…Адзвінелі песні, адцвілі вяргіні.
Паз’язджалі ў горад дочкі і сыны.
А бабулькам грэюць сэрца прыпаміны,
Ды яшчэ — чаканне новае вясны.

## У КАМЯНЦЫ

У Камянцы над камяніцай
Дух вечнасці сівой лунае.
Тут небу хочацца маліцца,
Якое вежа падымае.
Рака падковай абдымае
Вялікі востраў самабытны,
А побач з горадам гуляюць
Зубры у пушчы старажытнай.
А ў галаве ад думак цесна —
Тут продкаў постаці блукаюць,
Як быццам місіі пачэснай
Каменных сцен дапамагаюць.
Прайшлі віхурамі крутымі
Стагоддзі над пушчанскім краем,
І толькі сведкамі нямымі
Муры на горад пазіраюць.

## СУСТРЭЧЫ

***І. Г. Варашковай***

Здараюцца часам сустрэчы ў жыцці:
Яны нас цяплом саграваюць
І цяжкай дарогай без стомы ісці
Заўсёды нам дапамагаюць.
Ёсць дні, калі сонца з-за хмар не відно
І дожджык пануры ліецца,
А ўспомніш аб тым, каго знаеш даўно, —
І песняй душа адзавецца.
Забудзецца раптам і роспачны сум,
І крыўды адыдуць далёка.
І, скінуўшы цяжар праблемаў і дум,
Ты зноў уздыхаеш з палёгкай.
Нічога няма даражэй на зямлі,
Чым гэтых хвілін адчуванне —
Як першыя зёлкі на цёплай раллі,
Як песні птушыныя ўранні.
Хоць крызісы міма не хочуць прайсці,
Хоць страсці навокал палаюць, —
Здараюцца часам сустрэчы ў жыцці:
Яны нас цяплом саграваюць.

* * *

Сагрэе ў непагадзь цяпло тваёй усмешкі,
Асветліць цемру, дасць надзею жыць.
Блакіт вачэй тваіх, як акіян бязмежны,
Што кліча марыць, верыць і любіць.

Пяшчота рук ласкавых вабіць асалодай
І прымушае ўсё наўкол забыць.
Пах валасоў, нібы вясновых кветак водар,
Бесперастанку хочацца мне піць.

Любімых вуснаў смак! Не наталіць мне смагу!
А прыгажосць твая заве ізноў,
І я спяшаю жыць, каб аддаваць павагу
Рэальнасці, што стала марай сноў.

Ніколі я табой здзіўляцца не стамлюся
І адчуваць твой велічны спакой.
Пакуль жыву — люблю, пакуль люблю — малюся,
Каб быў заўжды са мною вобраз твой.



Ганад ЧАРКАЗЯН

# АПАВЯДАННІ

## ГРУЗЧЫК УСЁ МОЖА…
## (З нядаўняга мінулага)

Аднойчы я завітаў у мэблевы салон перад самым яго адкрыццём.

— Кніжная паліца з антрэсоляй ёсць? — пытаюся ў прадаўшчыцы.

— Не, — чую тое, што і чакаў, — былі ўчора вечарам.

Сумнаваты, іду дамоў, маючы намер завітаць сюды вечарам.

Ужо добра абнадзеены, прыходжу вечарам:

— Кніжная паліца з атрэсоляй ёсць?

— Не, — адказвае тая самая прадаўшчыца. — Былі раніцой.

Яшчэ многа разоў наведваў я той самы салон, пытаючыся і чуючы ў адказ адно і тое ж.

А потым прысніў сон, які і вырашыў усе мае праблемы. А снілася вось што.

Заходжу я ў салон перад самым яго адкрыццём. Белым сняжком зубоў ва ўсмешцы расплываецца прадаўшчыца.

— Кніжная паліца з антрэсоляй ёсць?

— Няма, — учора былі, — чую адказ. А твар прадаўшчыцы робіцца сумным. І тут падыходзіць дырэктар, чалавек з надта ўражлівай паставай, задаволены і сур’ёзны.

— Таварыш дырэктар, памажыце мне, — звяртаюся да яго, — дома ўвесь мой кніжны дэфіцыт марнуецца, ужо няма куды складваць…

---

*__Чарказян Ганад Бадрыевіч__ нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсэ Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001),«Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей «Казкі дзеда Ганада» (1996), «Пумпур у калясцы» (2004).*

— Разумею, — кажа, — але памагчы не магу. Запішыцеся на чаргу. Магчыма, пашанцуе…

Я чалавек цярплівы, але ж не да такой ступені. Рашаюся на апошні шанец. Падыходжу да грузчыка і шапчу яму на вуха:

— Кніжная паліца патрэбна… з антрэсоляй.

— Добра, зразумеў. Зробім. Давай адрас.

— Колькі? — пытаюся разгублена.

— Такса — дзесяць працэнтаў ад пакупкі.

— Згодзен…

І гадзіны не прайшло, як паліца мая была на месцы. Яе нават на кватэру даставілі.

Прачнуўся я не ў лепшым настроі. Але сон прыдаў мне рашучасці, і я зноў пакіраваўся ў салон.

— Кніжная паліца з антрэсоляй ёсць?

— Не, раніцой апошнюю прадалі, — пачуў я знаёмае, і як было напісана ў сцэнары майго сну, паплёўся да дырэктара.

Адказ быў той жа, прыснёны:

— І рад бы памагчы. Я ж вам раіў запісацца на чаргу, а вы не паслухалі мяне…

— Калі ж мне запісвацца? Я ж так рана на працу спяшаюся, — пачынаю апраўдвацца перад дырэктарам.

— Усім трэба на працу, — адказвае ён. — Але ж вам паліца трэба…

Далей у мяне па сцэнары грузчык.

— Кніжная паліца? — светла ўсміхаецца ён. — Такая дробязь… Давай адрас і рыхтуй грошы.

— Колькі? — ад нечаканасці чырванеючы, пытаюся я.

— Кошт паліцы самой, плюс дзесяць працэнтаў, ну, і паслугі за транспарт…

Я, вядома, згаджаюся і ледзь не цалую грузчыка. А ён слова сваё стрымаў… Вечарам я ўжо раскладваў на паліцу кнігі.

Нават радаваўся, што ўсё так добра атрымалася. Аднаго толькі не мог зразумець, навошта ў тым салоне дырэктар, загадчыца секцыі, прадаўшчыцы ўрэшце, калі з усім тым, чым яны павінны займацца, лёгка спраўляецца звычайны грузчык. З дастаўкай на дом, з усмешкай… і з дзесяццю працэнтамі. Гэта і надзейна, і зручна, і прыемна, не трэба стаяць у чарзе, афармляць, злавацца і хвалявацца. Я проста не разумеў, што дзесяць працэнтаў у маштабе салона — гэта надта вялікія грошы, і іх дырэктар не змог бы справядліва размеркаваць. А грузчык на гэта быў майстра.

Але часы памяняліся. Кніжныя паліцы сёння не запатрабаваныя, урэшце — як і самі кнігі. Ды і сны сёння людзі сняць зусім іншыя.

## КОЖНАЯ ЎДЗЯЧНАЯ СПРАВА…

…Час не стаіць не месцы, прыспешвае і сябе, і ўсё жывое навокал. І з кожным годам усё цяжэй і цяжэй выжыць на зямлі. Найвялікшыя харчовыя запасы схапілі тыя, хто і дачынення да гэтага не мае. А тое, мізэрнае, што засталося для большасці жывёл, нават падзяліць цяжка. Так і нараджаюцца малыя праблемы вялікай харчовай праграмы… Так думалі і думаюць жыхары пушчаў і палеткаў нашых…

Як убачылі і зразумелі гэта жывёлы вялікай зямлі нашай, дык у адрозненне ад людзей, занепакоіліся адразу пра свой заўтрашні дзень. Бо ўсім жа патрэбна ежа.

Слон паклікаў адразу на нараду Льва і Тыгра. І Мядзведзя, каб той не пакрыўдзіўся, і многа іншых жывёл. Нарада тая і пачыналася, як у людзей:

— Я паклікаў вас, каб па-людску вырашыць нашы праблемы. Перш за ўсё нам, самым магутным і вялікім, трэба вырашыць праблемы харчавання на будучае. Інакш, пазбавіўшы магчымасці харчовага падсілкавання слабейшых, да такога ж становішча мы давядзём і нас саміх, мацнейшых. Сёння мы запрасілі яшчэ кітоў і акул, аднак, у сувязі з кліматычнымі ўмовамі, яны не могуць тут прысутнічаць. Зараз яны, відаць, плачуць у салёных водах акіяна, што не трапілі на гэты важны для выжывання форум. Хай паплачуць. У іх там поўная аўтаномія. Праблема гэта няпростая. Яны адтуль яе лепш бачаць.

Аднак, пра галоўнае. Даўно не сакрэт, што больш за ўсё стараюцца мурашы, пчолы, вавёркі, хамякі, мышы… З імі прасцей. Але самыя складаныя праблемы з вялікімі жывёламі. Жыць жа трэба.

Слон расхваляваўся, не мог працягваць, відаць, быў недастаткова адукаваны, зрэшты, як і ўсе вялікія істоты. Але таму, што ён дужэйшы за ўсіх астатніх, яго цярпелі, і ніхто не мог паправіць Слана. Ён быў занадта прамалінейным. Ісці супраць Слана — гэта значыць ісці супраць сябе самога. І Слон працягваў:

— Што б ні здарылася, наш прамы абавязак стварыць рэзерв правіянту на выпадак сухмені і розных стыхій, якія нам могуць паслаць людзі. Мы ведаем, што здольныя яны на ўсё… Мы тут параіліся і прыйшлі да высновы, што стварэнне вялікага сховішча-рэзерву патрабуе сур'ёзнага падыходу. Запасы мы, безумоўна, створым. Але галоўная праблема — як іх захаваць у маштабах усёй планеты. Стагоддзямі разумныя людзі не могуць стварыць механізм абароны ад спакусы красці. Нам неабходна абраць галоўнага кладаўшчыка. Інакш, як і ў людзей, усё знікне, і вінаватых будуць шукаць па ўсім свеце, пакуль не знойдуць крайняга.

— Тады хай галоўным кладаўшчыком будзе Слон, — падхапілася Ліса, загадзя ведаючы, што Слон не пагодзіцца на гэту, надта клопатную і адказную пасаду. Так хітравалі і людзі, калі неабходна было прапіхнуць свайго чалавека.

— Не, — сказаў Слон, — я ніколі не гляджу пад ногі і магу кагосьці растаптаць. Лепш ужо мне быць вярхоўным наглядчыкам. — Слон быў справядлівым, і жыццёвых хітрыкаў не ведаў.

Ліса прамаўчала, але засталася задаволеная, што хоць гэтак заявіла пра сябе. Галоўнае — засвяціцца. Слон працягваў:

— Ільвы і тыгры надта занятыя сваімі праблемамі, будзем паважаць урэшце іх традыцыі. Без традыцыі ж няма цывілізацыі. І наогул, хто-небудзь бачыў калі тыгра ці льва ў ролі кладаўшчыка?

— Не, не бачылі, — падала зноў голас Ліса, — таму прапаную кладаўшчыком выбраць Мядзведзя.

— Не прымаецца, — запярэчыў Слон, — пакуль Мядзведзь будзе зімой спаць, усе запасы раскрадуць…

Лісу гэта таксама задавальняла.

— У першы год кладаўшчыком будзе Удаў, — сказаў Слон. І з гэтым усе пагадзіліся.

Сам Удаў пратэставаў хвастом, але хвост быў вельмі далёка і ніхто не заўважыў яго пратэсту. Ды і яму было прыемна — ніхто ж ніколі падобнага яму не даручаў.

Слон у заключэнне форуму падвёў вынікі.

Яго словы гучалі як загад:

— Спрэчак многа, а зразумела адно — род Удаваў спрадвеку быў вядомы сваёй вернасцю ў захаванні ўсялякіх скарбаў, а правіянт — гэта наш скарб. Сустрэнемся праз год. Тады і пабачым вынікі.

Удаў працаваў сумленна, нікога не пускаў у кладоўку, сам нічога не чапаў, а тых, хто прыходзіў штосьці папрасіць, тут жа глытаў жыўцом. У выніку ўсе пасланцы зніклі, а харчы сапсаваліся. Потым на выніковай нарадзе Слон згадаў рыжую Лісу, нездарма тая так старалася, — і кладаўшчыцай прызначыў яе.

Праз год у наваколлі зніклі ўсе куры, а ў сховішча пранiклі шакалы, яны і расцягнулі ўсе прадукты. Ліса ўмела толькі адно — красці.

Слон жа зусім з’ехаў з глузду і прызначыў галоўным кладаўшчыком Воўка. Той як быццам добра адчувае сваю адказнасць і красці не будзе. Але, як вядома, усе зладзеі не ваўкі, але крадуць, як ваўкі.

Воўк быў стары і галодны. А яшчэ меў процьму такіх жа, як сам, родзічаў. Воўчая зграя за год апустошыла ўсё сховішча і беспакарана падалася ў лес. Кажуць, пасланцы Слана да гэтага часу шукаюць ваўкоў, але яны сышлі так далёка, што знайсці іх ужо немагчыма.

Тут Слон задумаўся і тупнуў нагой так, што зямля затрэслася. Так здалося. І ўсе пачулі яго апошняе слова:

— Слухайце, пакрыўджаныя і зняважаныя! Тыя, хто днём і ноччу працуе на гэтай зямлі. Як мы ні стараліся жыць па справядлівасці — не выходзіць. Уся наша жывёльная справядлівасць заўсёды заканчваецца па-людску. Адно да аднаго, як у людзей. Што ні стварай — самая каштоўная справа будзе загублена. Такое жыццё. І наш брат ва ўнісон свайму свядомаму брату таксама, не саромеючыся, крадзе. Хто і калі ўсталяваў гэты няпісаны закон жыцця? І ці знікне ён калі? На гэта няма адказу. Таму я застаюся сам-насам з прыродай — жывіце так, як падказвае сумленне… А калі яго няма — і слон не паможа.

## ШЭРШАНЬ

Даўно ўжо ішлі размовы, што неўзабаве высекуць добрую дзялянку лесу і на гэтым месцы пачнуць будавацца. Было зразумела, што хутка сюды нахлынуць так званыя дачнікі, якія недзе ў горадзе маюць свае кватэры, а тут пабудуюць дамы для свайго летняга адпачынку.

Карахан перажываў гэта цяжка. Ён разумеў, што насоўваецца няўмольная цывілізацыя і з ціхім і спакойным жыццём маленькай вёсачкі давядзецца развітацца. Гэта яму падказвала само чуццё чалавека, які ўвесь свой век пражыў на зямлі. Але з другога боку, ён спадзяваўся і на нейкія змены да лепшага, а можа, і не да лепшага, але на штосьці такое, што павінна было зыначыцца ў манатонным жыцці вёскі.

І ён не памыліўся — з’явілася незнаёмая Карахану новая магутная і бязлітасная тэхніка, і ледзь не ў адно імгненне знік стары, багаты на грыбы і ягады, добры загон лесу. Як толькі прыціхла адна драконападобная знішчальная тэхніка, адразу з’явілася іншая, ужо больш спрытнейшая, і праз вёску да свежавыкарчаванай дзялянкі пачала падступаць новая асфальтавая дарога. Нават тыя, хто яшчэ нядаўна на чым свет лаяў незгаворлівых варвараў-лесарубаў, умомант прымоўклі. Бог з ім, з тым лесам, гэтага багацця на нашай зямлі яшчэ хапае, добра што далі жыццё новай дарозе. Адразу адпала патрэба сварыцца з мясцовым начальствам, якое зусім забылася на сваіх падначаленых…

Хто-хто, а Карахан добра ведаў, што такіх вёсачак, як яго Сасноўка ў краіне нямала і ўвагі на кожную з іх ва ўлады заўсёды будзе не хапаць. Тым больш, калі не зусім дальнабачныя кіраўнікі ў чарговы раз разбурылі старое, а ўзамен новага так нічога і не пабудавалі. Нібыта праклянцце наслаў Бог на гэтыя землі. То адна вайна пакінула пасля сябе руіны ды попел, то яшчэ страшнейшым прасам прайшлася другая. А потым і свая родная негаспадарчасць прычыні-

лася. Згасла ў народзе вера ў існаванне справядлівасці. Карахан наіўна думаў, што такога проста не можа быць, каб чалавек, якога прызначылі кіраваць усім тым, што належыць многім, забыўся пра ўсё гэта і пачаў думаць толькі пра сябе. Але ж такое не схаваеш. Так вось і з'яўляюцца багатыя і бедныя.

Дарогу пабудавалі, і Карахан чакаў, што будзе далей, дасць Бог — дачакаецца. Цікавасць брала верх, аднойчы Карахан не выцерпеў, пайшоў у разведку: а раптам там нафту якую знайшлі… Бо цяпер жа яе ўсюды знаходзяць. Сорамна казаць, мучыў сябе разважлівы Карахан, зараз усяму свету галоўны бог — труба з нафтаю. Хоць яна і самая смярдзючая ў свеце. Відаць, прыйшоў час кожнаму выбраць сабе бога, хто якога пажадае. Калі няма душы ці яна згублена, тады і трубе можна адвесці боскую ролю. Такі зараз час.

І ўсё ж Карахан, насуперак усім спадзяванням, нічога незвычайнага не ўбачыў на месцы зніклага лесу. Калі не лічыць доўгага радка калкоў, убітых у зямлю, і нацягнутай на іх вяроўкі, а ля самага лесу адзінага абазначанага пляца, куды і вяла новая асфальтоўка. Усё было абгароджана рознакаляровымі стужкамі, падобна да таго, што нам часта паказваюць па тэлевізары, калі здараюцца нейкія катастрафічныя сітуацыі.

Побач з тым, ярка абазначаным участкам, Карахан заўважыў і другі, нейкі гарыста-няроўны. Тут і сустрэў мужчыну, што, не разгінаючыся, махаў рыдлёўкаю.

— Памагай Бог! — як свайму даўняму знаёмаму, гукнуў Карахан.

— Дзякуй! — тут жа разагнуўся мужчына. — Ну як вам новая дарога?

Карахан адразу ж улавіў нейкі прыхаваны сэнс у яго пытанні і адказаў так:

— Калі не будзе залішняга шуму, калі пакінуць у спакоі лес — тады нічога.

Незнаёмец адразу Карахану спадабаўся.

Такія людзі, думаў ён, і здольныя на дабро, і робяць дабро.

Тут жа заўважыў:

— Толькі вось начынне вам бракуе. З адной рыдлёўкай тут не ўправішся. Не пашкодзіць і кірка. Па-старому трэба, тапор патрэбен…

— Вы праўду кажаце, але цягаць столькі начыння адразу цяжкавата. Ды і няма дзе пакінуць. Так што пакуль — рыдлёўка ды мае рукі.

— Ну чаму няма дзе пакінуць? — паспачуваў яму Карахан. — Пакіньце ў Карахана і бярыце, што трэба. Вось пасля вайны мы ўсю вёску талакой будавалі…

— Людзі тады іншымі былі. Беды збліжаюць людзей, робяць іх спагадлівымі, добрымі, бясхітраснымі, такімі, якімі яны і павінны быць. Зараз усё не так, усё па-іншаму…

Карахан пагаджаўся са словамі незнаёмца. Здавалася, ён паўтараў яго даўнія, набалелыя думкі.

Развітваючыся, Карахан даў некалькі парад, цяпер ужо свайму новаму знаёмаму:

— Падмурак рабі глыбокім, тут тарфянік. Капай да пяску. Тады твой дом будзе стаяць надзейна.

— Дзякуй, брат Карахан, за добрыя парады. Маё імя Працаўнік.

— О, — здзівіўся Карахан, — такое нязвычнае імя!

— У даўнія часы кожны насіў тое імя, якое заслугоўваў. Вас, шаноўны Карахан, звалі б Добрым ці Мудрым.

— Так, вельмі хораша ты, Працаўнік, сказаў пра даўніну… Пакуль чалавек памятае сваё мінулае, ён адолее любыя цяжкасці, а цяжкасці не пакінуць чалавека ніколі. Гэта крыж, які несці чалавеку па самы апошні дзень. І ўсё ж ты, Працаўнік, заходзь да Карахана, Мудрага і Добрага, можа, што спатрэбіцца…

— Дзякуй, брат Карахан Мудры, аднаму заўсёды цяжка. Дзякуй. Спяшацца не буду. Спешка — з сябе насмешка, казалі мае продкі. Паслухаюся і іх, і цябе.

Карахан вяртаўся дамоў, ступаючы па свежым асфальце і радаваўся, што, аказваецца, не толькі ў тэлевізары бываюць разумныя людзі. Разумныя ёсць усюды. Яны і падвышаюць дрэва нашага жыцця. Ім заўсёды цяжэй, чым астатнім. Як гэтаму вось, яшчэ маладому чалавеку ў параўнанні з Караханам, які ўзяўся будаваць свой дом.

За лета Працаўнік вывеў высокі падмурак, добра заглыбіўшы яго ў зямлю. І зрабіў усё так акуратна, што сам потым любаваўся сваёй работай. Неяк незаўважна, нібыта самі па сабе, выраслі і сцены дома, з'явіўся дах.

Карахан пасябраваў з Працаўніком, і цяпер на гэты зменлівы свет глядзеў зусім па-новаму. Аднойчы, калі Працаўнік завіхаўся на даху свайго сціплага дома, нарэшце з'явіўся гаспадар суседняга ўчастка. За ім хадзіла цэлая світа людзей, яны нанова перабівалі калкі, нацягвалі каляровыя стужкі і, відаць, вырашалі, як мусіць стаяць дом на вялізным участку. Шыкоўна апрануты мужчына, які нагадаў Працаўніку шэршня, падышоў да яго і, бліснуўшы чорнымі акулярамі, прабубніў:

— Вы будзеце маім суседам!

І Працаўнік адразу зразумеў, што яго маленькі кавалачак зямлі з'явіўся тут, дзякуючы Шэршню. Ён тут галоўны. Нават суседзяў сабе прызначае. А суседствам сваім ён нібыта падкрэслівае нейкую меру грамадскай стабілізацыі. Шэршня часта паказвалі па тэлевізары, і гэта забаўляла Працаўніка.

Хутка на ўчастку ў Шэршня закіпела праца. Працаўнік, якому так дапамагала парада Карахана, хацеў падзяліцца ёю і з багатым суседам. Брыгадзір, што кіраваў усёй работай на будаўнічай пляцоўцы Шэршня, з усмешкай выслухаў яго довады і абыякава сказаў:

— Ведаеш што, кожны робіць сваю справу. Ты працуеш на сваім участку, а я камандую тут. У мяне ёсць праект. А там усё распісана: і глыбіня, і вышыня, і ўсе параметры. Якая глыбіня ў праекце — я такую мушу і гнаць. Таму што мае рабочыя атрымліваюць грошы за канкрэтную работу… Глыбіня наша канкрэтная, а не да пяску. На гэта і бетону адпускаецца патрэбная колькасць…

— Даруйце, я проста падказаў, — ледзь не пакрыўдзіўся Працаўнік. — Воля ваша. Капайце. Але зямля наша жыве без ніякіх праектаў тысячагоддзямі. Яна любіць, каб з ёй лічыліся.

— Усё зразумела. Але ў мяне праект, — ужо нібыта злуючыся, кінуў брыгадзір. — У мяне тэрмін. Астатняе — справа гаспадара ды тых, хто начарціў гэты праект…

Працаўнік больш не ўмешваўся ў Шэршневу будоўлю. Бог з ім. Ён паціху працягваў даводзіць да ладу свой дом, набліжаючы той час, калі яго сям'я заселіць гэтае ўтульнае гняздзечка, якое ён будаваў сціпла, без вялікага размаху, але шчыра, з любоўю.

Восенню Працаўнік пасадзіў некалькі яблынь, кусты парэчак, думаючы, што на наступны год возьмецца і за гарод. Хай усё робіцца сваёй чаргой.

Зімой Працаўнік з'ехаў у горад, а Карахан Мудры, як і абяцаў свайму новаму сябру, ледзь не кожны дзень наведваў яго ўчастак, назіраў, як будуецца дом Шэршня (падабалася яму і трапная мянушка — Шэршань) і гэтак жа часта хадзіў на пошту, каб патэлефанаваць Працаўніку аб усіх дачных навінах. На днях Карахан паведаміў, што ў суседа Шэршня ўжо выраслі тры паверхі, а вакол дома з'явілася двухметровая цагляная агароджа.

Зіма таго года выдалася незвычайна снежнай. А вясной, ледзь толькі адтала зямля, палілі зацяжныя дажджы. Неяк Працаўнік выбраўся ў дарогу,

каб паглядзець, як перазімаваў яго дом, як ён пачуваецца пасля такіх праліўных дажджоў. І жахнуўся. Усё вакол стаяла ў вадзе. У вадзе схавалася нават бетонная дарожка да дома, якую яму параіў пракласці ўсё той жа Карахан. Працаўнік падняўся наверх і адтуль глянуў на высокі плот суседа Шэршня. Нават спалохаўся адразу. Тое, што ён убачыў, нагадала яму кадры з рэкламы, дзе на мірных марскіх хвалях, як у люстэрку, пакалыхваліся дамы і палацы Венецыі. У яго зашчымела ў грудзях. За чужое дабро, за чужую працу. Яму захацелася схапіць рыдлёўку, абуць гумовікі і кінуцца да суседскага дома, прабіць той цагляны плот і даць выйсце вадзе. Але перадумаў. Не яго гэта справа. Ён прыгадаў брыгадзіра, размову з ім пра глыбіню падмурка, махнуў рукой і мокраю асфальтоўкай падаўся да вёскі. Працаўнік аддзячыў Карахану за яго зімовыя дачныя турботы і вечарам вярнуўся ў горад.

А дажджы ўсё лілі і лілі, пагражаючы зямлі небывалым патопам. Працаўнік наш думаў пра свой сціплы дом, пра тое, як многа ўклаў ён старання ў яго будаўніцтва і не ведаў, што яму рабіць. У рэшце рэшт што будзе, тое будзе. Хіба можна тут што-небудзь зыначыць, перамяніць? Усё быццам зроблена ім, як належыць, ён нават пракапаў канаўкі для сцёку вады, нічога яго дому не пагражае. Працаўнік урэшце зразумеў, што яго трывога хутчэй звязана з домам Шэршня. Навошта чалавеку была гэта Вавілонская вежа? Каб вылучыцца сярод іншых, падкрэсліць і сваю высокасць? Навошта?

Працаўніка нават не засмучала тое, што тры паверхі Шэршня схаваюць, пазбавяць сонца ўвесь мізэрны ўчастак ягоны, разам з домам. Не будзе сонца, не будзе святла і цяпла… Хоць па-чалавечы Шэршань павінен быў падумаць і пра гэта. Але дзе там. У яго свая філасофія, свае адносіны да бліжняга.

Тэлефонны званок Карахана гэтай раніцай быў нечаканым для Працаўніка:

— На вялікі жаль, Вавілонская вежа рухнула. Рухнуў і плот. Засталіся стаяць толькі металічныя вароты… Відовішча жахлівае…

Працаўнік з Караханам, прыспешваючы крок па мокрым асфальце, падыходзілі да месца крушэння вежы Вавілона. Каля жалезных варот сабраўся цэлы натоўп людзей. Кожны гаварыў на свой лад, але пра адно і тое ж: як магло такое здарыцца?.. У гэты час на дарозе з'явіліся чорныя з адлівістым бляскам і таніраваным шклом шыкоўныя машыны. Людзі з цікавасцю назіралі за паводзінамі Шэршня. Працаўнік ужо шкадаваў, што прыдумаў яму такую мянушку. Як быццам і яна мела нейкі ўплыў на тое, што здарылася. Але папраўіць ужо што-небудзь было немагчыма. Нават каб Працаўнік назваў гаспадара не шэршнем, а чмялём.

Шэршань падышоў да жалезных варот, злосна піхнуў іх нагою. Вароты нахіліліся і марудна папаўзлі долу. Шэршань разгнявана адышоў убок, накіраваўся да чалавека, які яго суправаджаў. Яны пра нешта гаварылі, а потым Шэршань махнуў рукой і падаўся да машыны. Пакуль ён ішоў, на вочы яму трапіліся Працаўнік і Карахан, што сціпла стаялі на дарожцы каля доміка. Шэршань падышоў да іх.

— Здароў, сусед, — абыякава кінуў ён. — Бачыш, як атрымалася. Твой хляўчук выстаяў, а мой палац не…

Карахан не вытрымаў. Старыя людзі часта кажуць тое, што думаюць.

— Шаноўны… Калі вы навучыцеся да чужога адносіцца з той жа павагай, як і да свайго, вас чакаюць поспехі і ўдачы… Вы ў тэлевізары бываеце і надта разумным, але жыццё — гэта не тэлевізар… Выстаяў, як вы сказалі, хляўчук вашага суседа толькі таму, што ён ад падмурка і да канька на даху зроблены яго рукамі. Потам і працаю. Днём і ноччу. Вы не будавалі, будавалі вам. Без душы, без сэрца, без галавы — толькі па паперы. Жыццё гэтага не церпіць. У жыцці свае ўласныя разлікі. Свой дом кожны павінен будаваць сабе сам.

Шэршань ужо не чуў гэтых слоў. Ён сеў у чорную машыну — і яго толькі бачылі… Але ў галаве ўсё яшчэ круціліся словы старога: «Свой дом кожны павінен будаваць сабе сам…»

Гэты дзень для Шэршня быў дрэнным днём. Хутка ён страціў работу з вялікімі рычагамі кіравання і пра яго ўсе забыліся. Толькі Карахан не забыў, і Працаўнік не забыў.

Шэршань потым доўга разбіраў свае руіны, быў заўсёды хмурым і незадаволеным. Ён так і не разабраў цэглу з разбуранага дома…

Сумна, калі адыходзіць чалавек, так і не пабачыўшы плёну сваіх задум і мараў. Ад Шэршня засталіся руіны разбуранага дома як сумны вынік яго жыцця, і харошая дарога для дзяцей, хоць яна будавалася, дзякуючы яму і для яго… самога…

## АКАЛІЧНАСЦЬ

Віктара Масалікіна ў нашым калектыве называлі Ціхонем. І не таму, што калегам ён здаваўся занадта ціхім. Проста ён ходзячы спаў. Вядома, спаць ён не мог ходзячы. Гэта так бачылася людзям, што назіралі за ім. А сам ён, як кажуць, у шапку не спаў. І гэта пасля пацвердзілася, калі стала вядома, што галоўбух, недатыкальная Надзя, якой у нашай арганізацыі баяліся, як агню, чакае ад Ціхоні Масалікіна дзіця. Ну і Ціхоня, ну і герой!.. Вечна хадзіў няголеным, непрычэсаным, у пакамечаным касцюме, зусім недагледжаным дзецюком. А тут, на табе! — з такімі дадзенымі спакусіў не каго-небудзь, а саму непрыступную Надзю. Няма і сапраўды, відаць, у свеце такой сілы, якая б магла спыніць жанчыну ў яе выбары, калі на тое з'яўляюцца пэўныя акалічнасці. Відаць, у Надзі з Віктарам з'явіліся гэтыя акалічнасці тады, калі яны доўгімі зімовымі вечарамі заставаліся адзін на адзін для зверкі справаздач, якія рыхтаваў Віктар Масалікін. Насуперак усяму Віктар жыў сваім розумам. І наогул ён лічыў і потым даказаў гэта, што ў жыцці не заўсёды ўсё вырашаюць такія рэчы, як прыгажосць, багацце, прэстыжнае знаёмства ці нешта іншае, звышнатуральнае. Галоўнае, напэўна, — гэта ўсё ж лёс чалавека. А каханне… Кажуць, і галубок гукае, калі пары шукае. Невядома, як тут супрыдачынілася каханне, а вось шанцаванне ды акалічнасці зрабілі сваю справу. Надзя потым па кар'ернай лесвіцы ўзнялася і надта высока. А ў жыцці Віктара Масалікіна знешне памянялася многае, ён пачаў цудоўна апранацца, кожны дзень галіўся, займеў нават модную, да твару, прычоску. Але ён не змяніўся, застаўся, якім і быў, знутры. Якім ты быў, такім ты і застаўся, як спявалася некалі ў вядомай песні. Зрэшты — кожнаму сваё.

Можа б і забыўся я на Віктара Ціхоню, каб не выпадак. Ён тады яшчэ працаваў майстрам на будоўлі і нічым асаблівым не вылучаўся.

Тады раптоўна памёр рабочы, яго падначалены. Страта аднаго чалавека — гора для ўсяго калектыву. І правесці чалавека ў апошні шлях — гэта ж святы наш абавязак. Купілі вянок, кветкі, да дробязей прадумалі ўсе дэталі развітання, і камусьці ў галаву прыйшло развітальнае слова даручыць Масалікіну. Ён і сказаў яго там, на могілках. На наступны дзень усе толькі і цытавалі развітальныя словы майстра-будаўніка. «Дарагія сябры, — казаў Масалікін, — шкада, што Іван памёр. Ён працаваў у нас не так і доўга, працаваў добра, але ж мог працаваць яшчэ лепш». Паставіўшы кропку, Масалікін абвёў усіх уважлівым позіркам і яшчэ дадаў: «хай ён (нябожчык Іван) скажа яшчэ дзякуй за тое, што я не расказаў, як ён пастаянна краў цвікі, забраў сабе дрыль і не вярнуў яго…»

Тады ўсе пераглянуліся і зразумелі, што Віктара мала турбуе Іванава смерць. Той ужо не зможа запярэчыць ці апраўдацца. А ўсё, што ён казаў, адрасавалася ім, жывым.

Потым думалася, што кожнаму ў гэтым жыцці даюцца свая планка і свае рамкі. Вышэй ад планкі не скочыш, а за рамкі свае таксама не выйдзеш. А галоўнае — гэта лёс. Ён нясе цябе па цячэнні жыцця, але застаецца з табою. Брудны ты ці чысты, разумны ці дурань. Іншы раз варта і памаўчаць, таму што ніхто не пранікне ў мазгі чалавека, не перайначыць яго. Нават калі будуць такія магчымасці. Нават Надзя не змагла ўмяшацца ва ўнутраны свет Віктара. А ён, кажуць, ужо тройчы бацька…

## КАРОВА

Час кладзе свой адбітак на ўсё, нават на людскую памяць. І час выбірае тых, чые ўчынкі і паводзіны можна данесці да нашчадкаў, каб нават праз дзесяцігоддзі павесяліць і пасмяшыць іх. А больш за ўсё жывучымі бываюць учынкі, якія здараюцца зусім нечакана, самі па сабе. Людзей, з кім усё гэта здараецца, называюць то смешнымі, то няўдаліцамі. А сёй-той нават палюе за імі дзеля ўласнага смеху ды забавы. У гэтым пошуку, вядома, мала смешнага, але тое, што ў кожным калектыве рана ці позна з’яўляецца чалавек, здольны рассмяшыць, дзіўнага няма нічога.

Пра Аскарэ Пір да нас дайшлі толькі лічаныя забаўныя гісторыі, ісцінай якія можна назваць толькі з нацяжкай, але тое, што яны мелі месца, ніхто ўжо не можа сумнявацца.

Кажуць, што Аскарэ Пір па-свойму здзекаваўся з наіўнасці людской. Можа, так яно і было. Хто сёння зразумее таемныя яго намеры, тым больш, што самога ўжо даўно няма, а, можа, і не было ніколі.

Час, пра які ідзе гаворка, быў супярэчлівым. Але ён быў, і мільёны людзей жылі, працавалі, нараджалі дзяцей, весяліліся і сумавалі. Так, як гэта дазвалялі тыя ўмовы. Зрэшты, чалавек спрадвеку сам стварае ўмовы, у якіх ён жыве. Кажуць, што Аскарэ Пір быў мужным і смелым чалавекам, хоць гэта адно і тое ж. Але калі ўзяць пад увагу ягонае сацыяльнае паходжанне, Аскарэ ўсё ж цяжка было залічыць у нейкія прастачкі. Згадваюць, як аднойчы восенню яму дужа не пашанцавла. Тады Аскарэ Пір адказваў за статак кароў, якія пасля трохдзённай дарогі, павінны былі вярнуцца ў свае стойбішча. Ужо адразу пасля вяртання ваявілася, што ў статку не хапае адной каровы. Каб справа не перарасла ў нешта больш сур’ёзнае, Аскарэ Пір згадзіўся сам адправіцца на яе пошукі, паколькі лепш за яго ніхто не ведаў той самай дарогі. І пайшоў ён на пошукі прапажы. Праз тыдзень родныя забілі трывогу: цяпер ужо не толькі карова, прапаў і сам чалавек. Але кіраўніцтва гаспадаркі іх супакоіла, сказала, што турбавацца не трэба, што Аскарэ Пір вернецца ў час, дарога ж немалая.

Мінула яшчэ колькі дзён, і калі наступіў дзясяты, у двор праўлення ўехаў на белым асле брыгадзір Аскарэ Пір. Ён тут жа прывязаў асла да дрэва, тое ж самае зрабіў і з каровай, на шыі якой вісеў важкаваты званочак.

— Яна абяцала мне больш не губляцца, — усміхнуўся брыгадзір. — А гэта, — паказаў ён на асла, яшчэ двух бараноў і казу, — трафей.

Казалі, што загадчык фермы адразу ж кінуўся да біркі на вуху каровы і тут жа радасна выгукнуў:

«Дальбог — наша!»

А вось што рабіць з аслом, яшчэ двума баранамі і казой, задумаліся. А потым даручылі Аскарэ Пір прыглядаць за гэтым багаццем да таго часу, пакуль не аб'явіцца гаспадар яго.

Можа б, і забыліся ўсе пра тую гісторыю. Але некалькі гадоў счакаўшы, Аскарэ Пір усё ж прызнаўся знаёмым, як яно было на самай справе.

Той восенню яго пляменнік павінен быў жаніцца. І ўсе дзесяць дзён брыгадзір правёў у сястры, рыхтаваў вяселле і зладзіў яго як належыць. Ведаючы, што адпачынку на вяселле ў начальства не дапросішся, усю праблему ён вырашыў самастойна. Асла, яшчэ двух бараноў і казу ён пазычыў у сястры. Ну а карову з летняй пашы сам жа і пакінуў у сястры. Вось і ўся яго хітрасць.

Кажуць, што старшыня, калі даведаўся пра гэта, хацеў пакараць Аскарэ Пір. Але добрыя людзі адгаварылі. І на самай справе, за што яго караць? Карова вярнулася ў гаспадарку. Аскарэ Пір за сваю адсутнасць працаднёў не атрымліваў. А вось асёл, яшчэ два бараны і каза вярнуліся да сваёй гаспадыні.

## ПАРАШУТЫСТ

Упершыню П. П. з'явіўся ў нашай канторы ў панядзелак. Ён прысеў за столік, дзе звычайна шчыравалі наведвальнікі: запаўнялі нейкія бланкі, пісалі заявы, а то і злосныя скаргі. Якой-небудзь іншай творчасці столік не памятае. Пакой быў невялікі, але на цеснату яго чамусьці ніхто не скардзіўся. Нават супрацоўнікі, у абавязкі якіх і ўваходзіла ўлагоджваць і ўслугоўваць тым самым наведвальнікам. Тыя прыходзілі і адыходзілі: хто мірна, з добрай спадзеўкай на лепшае, а хто і зласнавата, з пагрозлівай бурклівасцю. П. П. уважліва назіраў за ўсім, але сам нідзе не ўмешваўся. Яго не зусім звычайныя паводзіны бянтэжылі супрацоўнікаў, але нікому не хапіла адвагі запытацца, што гэта ўсё азначае. Мне чамусьці прыйшла ў галаву думка, што чалавек гэты, магчыма, падасланы органамі і прызначаны сачыць за намі. Такое ў старыя часы здаралася нярэдка. Такія шчыроўцы звычайна з'яўляліся па сігнале саміх грамадзян, і, як умелыя шукальнікі, пачыналі адсочваць, дзе можа быць той самы корань зла.

Тады я ўзяў чысты ліст паперы і падышоў да П. П., зусім не цямячы, хто ён такі, і вельмі заклапочана запытаўся:

— Можа, вам паперы трэба? А, можа, памагчы чым?

П. П. разгубіўся і не змог нічога сказаць. Ён нават заружавеўся, як чалавек, якога злавілі на нечым непрыстойным.

— Не, дзякуй, я думаю… — Ён з няёмкасцю ўзяў з маіх рук аркушык паперы, і я заўважыў, што той у яго руках затросся, бо трэсліся самі рукі. Але што тут такога, калі чалавек хвалюецца? Ці варта думаць пра нешта іншае, зусім адваротнае? Я мог бы пашукаць нейкія словы, каб прадоўжыць нашу размову, але П. П. адразу ж падняўся і пакінуў пакой. «Дзіўны нейкі наведвальнік», — адразу ж пераглянуліся супрацоўнікі. Але ўсё стала на сваё месца, калі назаўтра раніцой П. П. з'явіўся ў суправаджэнні дырэктара нашага прадпрыемства. Дырэктар адразу з парога выпаліў:

— Гэта П. П., ваш новы загадчык. Каму што не зразумела?

Чаму ж, усё нам было зразумела: значыць, учора прыглядаўся, а сёння за лейцы ўзяўся. Для самога П. П. дні міналі вельмі сумбурна, яго прысутнасць амаль не заўважалася. Але хутка яму знайшлі кабінет, і ён, задаволены, зачыніў за сабой дзверы. За гэты час мы даведаліся, што новы загадчык — былы партыйны служака і да нас трапіў не па сваёй волі. Нехта з нашых супрацоўнікаў дасціпна назваў яго парашутыстам, якога з дапамогай парашута шпурнулі

на вызваленую пляцоўку. Дарэчы ён такі няблага прызямліўся. Хоць па ўсім было відаць, што «парашут» свой новы начальнік надоўга пакаваць не збіраецца. А, магчыма, гэта плацдарм для новага, больш удалага скачка. П. П. не дужа надакучаў супрацоўнікам сваёй увагай, нейкім умяшальніцтвам, зрэдку падпісваў патрэбныя дакументы, падоўгу ў адзіноце сядзеў у сваім маленькім кабінеце. А вось таблічку на сваіх дзвярах прымацаваў адразу. Вялікія чорныя літары важнасці новай асобе дадавалі мала, хутчэй за ўсё гэта была інерцыя былога партакрата. Але калі ёсць кабінет, а ў кабінеце ёсць тэлефон, ці так гэта ўжо мала для начальніка яго рангу?

Наогул, як зразумелі мы потым, пра лепшага начальніка і марыць не варта было. П. П. паводзіў сябе ціха, нікому не дакучаў сваімі прыдумкамі, нікога не ўшчуваў. Сядзеў сабе за сваім сталом, чытаў газеты і многа курыў. Неяк дзіўна толькі паводзіў сябе наш начальнік падчас абеду. Ён ніколі не хадзіў разам з намі ў сталовую. Але калі мы вярталіся адтуль, дык заўважалі, што чалавека нібы падмянілі. Вочы яго свяціліся нейкім занадта вясёлым святлом, ён хадзіў па нашым пакоі, чмокаючы пры гэтым губамі і калупаючы ў зубах запалкай. Апошняе, вядома ж, не дадае чалавеку павагі. Але гэта, як кажуць, не наша справа. Хоча, дык няхай калупае. Урэшце ён наш начальнік, а мы яго падначаленыя.

Аднойчы давялося затрымацца на працы, і я не пайшоў на абед. Але тут да мяне падышоў П. П. і прапанаваў прагуляцца. Я адразу ж пачаў апранацца. Хіба адмовіш начальніку? У той дзень я і даведаўся пра галоўны сакрэт П. П. Нічога не кажучы, ён адразу павёў мяне ў вінна-гарэлачны аддзел. За адзіны рубель, які знайшоўся ў яго кішэні, ён купіў бутэльку віна і коржык. «Гэта ўсё, што выдзяляе мне штодзённа жонка», — нечакана прызнаўся ён.

Не ведаю чаму, але П. П. быў са мною шчырым і адкрытым дарэшты. Ад яго я даведаўся, што да пенсіі яму засталося некалькі гадоў, што зарплата наша для былога партработніка зусім мізэрная. Хутка ён і сапраўды звольніўся і зноў накіраваўся на партыйную работу ў Цюмень.

Больш з П. П. мы не сустракаліся.

Парашутыст прызямліўся ў нас толькі часова. Гэтак сябры па духу хавалі ад мас яго цягу да выпіўкі. Да новага скачка, да новага прызямлення, да блізкай пенсіі…

## РУЖЫ

Размовы аб тым, што на гэтым лапіку зямлі пачнуць будаваць сучасную гасцініцу, ішлі даўно, ды задумшчыкі ўсё чамусьці не маглі вызначыцца з тэрмінамі грандыёзнага будаўніцтва. Можа, нават сумняваліся ў мэтазгоднасці самой гэтай задумы веку? А можа, што іншае было прычынай такой будаўнічай нерашучасці? Ніхто нічога пра гэта не ведаў. Але ўжо вясной, калі ніхто і не чакаў, з'явіліся забудоўшчыкі. І ўсё адразу закруцілася-завярцелася. Калі ад'ехалі першыя самазвалы з катлавана пад фундамент, усе зразумелі, што вялікія перамены ў гэтым раёне непазбежныя. Аграмадны катлаван хутка схаваўся за высачэзным дашчаным плотам. Напачатку было шмат хаосу і неразбярыхі, чаго ніколі не выключае маштабная будоўля. Наспех збітыя вароты, што вялі на будаўнічую пляцоўку, як заўсёды, заставаліся без прыгляду, а хутка і зусім аказаліся непатрэбнымі.

Праз гэтыя вароты аднойчы раніцой, не спяшаючыся, прайшоў чалавек з вядром, напалавіну запоўненым вадой. Напэўна, дарога гэтая яму была знаёмай, таму што крочыў ён даволі ўпэўнена, а ўсё, што рабілася навокал, яго

зусім не цікавіла. І вось нечакана на яго шляху ўзнікла тое, дзеля чаго ён сюды ішоў. За шчыльнымі дошкамі агароджы ледзьве праглядвалася пышнаватая клумба з ружамі. Ён паставіў на зямлю вядзерца і пачаў прыглядацца да агароджы. Дошкі ў ёй былі збіты надзейна. Праз большую шчыліну зазірнуў на клумбу і ўбачыў, што ружы яго не кранутыя. Ён паволі абышоў усю агароджу, але выйсця да ружаў так нідзе і не ўбачыў. Доўга не думаючы, выліў ваду, што была ў вядзерцы пад агароджу і сумна пакіраваўся па нахільнай дарозе, што вяла да моста, дзе ён і чэрпаў ваду. Потым зноў вяртаўся да клумбы з ружамі, спыняўся ля агароджы, апаражняў вядро. І так некалькі разоў… Нарэшце моўчкі абвёў вачыма глыбокі катлаван і марудліва, увесь час аглядаючыся, паплёўся дахаты.

…На наступны дзень ён паўтарыў тое ж самае, чэрпаў і насіў да агароджы ваду. І тут шлях яму нечакана перагарадзіў аброслы, не адным днём гадаванай шчэццю, з неспакойнымі вачыма, мужчына:

— Тут хадзіць забаронена, — сказаў мужчына, верагодней за ўсё, часовы вартаўнік, які назіраў за гэтай пляцоўкай.

— Я да ружаў, — адказаў чалавек з вядром, спадзеючыся на разуменне незнаёмца.

— Ідзі дамоў, дзед, тут будоўля… Небяспечна тут. А ружы твае, даруй, ім будзе капец. Калі-небудзь які-небудзь ліхач на самазвале паваліць гэты плот і… Так часта бывае. А ты яшчэ пад агароджу паліваеш… Думаеш, вада дойдзе да карэння? Ідзі дамоў. А то за твае ружы і мяне пагоняць адсюль.

— Вада абавязкова дойдзе да карэння… Я ўсё жыццё гадаваў гэтыя ружы, — тлумачыў чалавек, ледзь не плачучы. — Я, як дзяцей, песціў іх і любаваўся імі. Любаваліся гэтай красой людзі… І навошта ты схаваў іх ад людзей? Няўжо кветкі трэба адгароджваць ад людзей?

— Начальнік загадаў. Я тут ні пры чым.

— Можа, ён ружаў не любіць? Можа, ён каменны і не адчувае нічога?

— Напэўна, ён не любіць. Але любіць яго жонка. Гэта я дакладна ведаю.

— Дык навошта тады хаваць ружы ад людзей?

— Яго жонка, начальніка, значыцца, жонка адначасова начальніка начальнік, вельмі любіць ружы. Толькі заморскія… Ідзі, дзед, дамоў, бо не дай бог, наскочыць бос… Ты не ведаеш, якія яны зараз. У адным воку — даляры, у другім — еўра…

Дзед, напэўна, ужо і не збіраўся адыходзіць. Ён паволі падышоў да агароджы і нібыта растварыўся ў сваіх словах:

— Бачу, ты не дрэнны чалавек. Усё зразумееш… Ты толькі глянь: кожны бутон і сцяблінка маюць сваю форму, сваё імя… Яны, як людзі, нарадзіліся ў розны час. Але кожная кветка па-свойму непаўторная. Я хачу, каб ты на гэтыя ружы паглядзеў маімі вачыма. Тады ты зразумееш мяне. Яны такія ж, як мае дзеці і мае бацькі… Разумееш? Вось гэта Алесь, а гэта Васіль, а вось мама. А тут тата, мая суседка цётка Вера… Усіх адразу і не ўспомніш. А вунь смуглявая ружа, я сам прыдумаў яе — гэта хлопчык Зяма, габрэй. Бачыш, колькі іх тут, але яны розныя. Я гадаваў іх, і яны — мая сям'я. Ужо многа гадоў. Не ўсе разумеюць, што мая сям'я шмат перажыла…

Стары абарваў сваю гаворку і ціха пакінуў пляцоўку.

Вартаўнік, праводзячы яго здзіўленым позіркам, падумаў, ці не страціў той розум. У старых такое бывае. У апошні момант ён чамусьці крыкнуў яму наўздагон:

— Ты прыходзь яшчэ, дзед… Дзеці твае без цябе засумуюць…

Стары спыніўся, змераў яго позіркам, нават прапусціў міма вушэй іронію, што была ў пачутым і адказаў так:

— Я яшчэ буду… Пакуль сям'я мая пад пагрозай. А мая сям'я вельмі вялікая. І ўсім пагражае небяспека. І на цябе, мілы чалавек, хопіць бутона. Я павінен развітацца з імі. Так трэба…

І, аддаляючыся, ён зноў пачуў голас вартаўніка:

— Даю слова, я прыгледжу за тваёй сям'ёй… Ах, Божа мой… Трэба ж так…

Наступныя некалькі дзён бесперастанку лілі дажджы. Катлаван напалову заліло мутнай вадой. Усе работы на будоўлі часова прыпыніліся. І нават паламаныя вароты зачынілі на нейкі час, але ненадоўга.

Стары з'явіўся нечакана неяк раніцой, калі ўжо здавалася, чакаць яго было дарэмна. Вартаўнік нават абрадаваўся, калі яго ўбачыў. Галоўнае, што ён памятае дзеда, і гэта ўжо добра.

Стары, як заўсёды, быў з вядром, напалову запоўненым вадой.

— З поўным мне цяжкавата, — нібыта апраўдваўся ён. — Вось так памаленьку і буду насіць.

— Не трэба насіць здалёку ваду, — суцешыў яго вартаўнік. — Вунь у нас ёмістасць з вадой. Яе там на ўсіх хопіць…

— Дзякуй, — адказаў стары. — Але мае ружы прывыклі да рачной вады. Там няма ні хлоркі, ні хімікатаў.

— Памыляешся, дзед. Цяпер усюды атрута і хімія. Гасне паступова жыццё на планеце. Людзі забываюць сваё мінулае. Гэта блага.

Стары згадаў самую першую сустрэчу з гэтым чалавекам, і яму зрабілася няёмка, што ён дрэнна падумаў пра яго.

— Я вельмі баюся за ружы свае… Катлаван надта блізка ад іх, — паскардзіўся стары. — Я чую небяспеку…

— Яно так, — адказаў вартаўнік, — нарабілі тут, выкарчавалі ўсе дрэвы. А яны так доўга раслі…

— Няма разумення. Новыя гаспадары без тармазоў. Яны бачаць толькі грошы. Усё астатняе для іх няважна.

— Чаму ж? Паплаціліся… Выгналі і боса, і яго жонку. Натварылі тут бед…

— А я пераконаны быў, што ўсё беспакарана…

— Супадзенне гэта, што іх прагналі. Таму што іхні сыночак аказаўся наркаманам. Заадно і гандляваў гэтай атрутай.

— Новая бяда прыйшла ў наш дом, мілы чалавек… Ад вялікага багацця людзі Бога страцілі ў сэрцы. Ад гэтага і церпяць. Адны не маюць сына і скардзяцца на лёс, што ад гэтага пакутуюць. Другім даў Бог сына, а паводзіць ён сябе так, што бацькі таксама пакутуюць. Наша жыццё было каштоўнае тым, што жылі мы справядліва і той заразы, што зараз хлынула на нашы галовы, тады не было. Мы былі рады таму, што мелі… Гэтага зараз няма. Мы таму спакойна і спалі. Я пражыў усё жыццё там, каля моста, дом нумар 10. Толькі з аднаго боку дома. Калі-небудзь зайдзі… Бачу, што ты добры чалавек. Прыходзь, многа чаго цікавага даведаешся.

Вартаўнік прызнаўся:

— Лёс быў не літасцівым у адносінах да мяне. Так яно ўжо атрымалася. А быў я не вартаўніком, а гісторыкам. Застаўся без працы. Выходзіць, што наша гісторыя ўжо не наша… І мы не патрэбныя. Не патрэбна нікому і тое, як мы жылі, працавалі, як любілі. Як ваявалі. За што ваявалі. Запаўзла ў наша жыццё тая самая зараза бездухоўнасці, хлусні, недаверу… Даруй, Госпадзе!..

Яны глядзелі адзін на аднаго і маўчалі. Напэўна, кожны думаў зараз пра сваё. Потым стары загаварыў:

— Пайду я ўжо. Прыйшоў час… Пакіну вядро. Яно, відаць, больш ужо мне не спатрэбіцца. Будзеш мець час — заходзь. Будзе аб чым падумаць. Бывайце, мае дзеці родныя, суседзі і проста людзі… Мае ружы… Я пайду, і нічога ў жыцці не зыначыцца, ніхто нічога не заўважыць. Паплача жаласлівая жанчына, і ўсё скончыцца.

Ён павярнуўся тварам да агароджы, паглядзеў уважліва на свежыя, гатовыя ўжо распусціцца, бутоны і моўчкі пайшоў па знаёмай дарозе.

Зноў лілі зацяжныя дажджы. Зноў, у які ўжо раз, да краёў заліло брудна́й вадой катлаван, і паступова рушыліся пад націскам вады слаба замацаваныя сцены…

І аднойчы, купіўшы тры заморскія ружы, былы гісторык, што шмат за гэты час перадумаў, адправіўся праведаць свайго дзіўнага і незабыўнага старога. Не цярпелася падзяліцца з ім і апошнімі навінамі, аблегчыць душу і папрасіць прабачэння. Калі такое можна. За ўсе беды, якія абрынуліся на нашы галовы, што нагадваюць той катлаван з незамацаванымі сценамі, калі не ведаеш, што ад яго можна чакаць заўтра. Якія новыя ахвяры ўцягне ён у сваю мутную ваду? Ён знайшоў двор, абнесены плотам з прымацаваным на ім нумарам 10. Адчыніў старыя, але яшчэ прывабныя, веснічкі. Далей была невялікая пустка і абрыў, дзе цякла, перабіраючы хвалі, мутная і марудная рачулка.

Вартаўнік вярнуўся да веснічак і заўважыў бабулю, што з цікавасцю і здзіўленнем назірала за ім.

— Што вы тут шукаеце? — спытала яна.

— Па гэтым адрасе павінен быў жыць чалавек, які вырошчваў ружы вунь там, дзе будуецца новая гасцініца.

— А-а-а! Вы пра дзеда Грышку, відаць… Дом яго стаяў на беразе рэчкі, на самым абрыве. У час паводкі дзесяць гадоў назад яго знесла ракой, падмыла падмурак, і ранкам ні Грышкі, ні дома яго ніхто больш не бачыў… Добры і душэўны быў чалавек, любіў рабіць людзям дабро і з клумбай той усё жыццё валаводзіўся. На гэтым месцы фашысты знішчылі ўсю яго сям'ю, суседзяў за тое, што яны хавалі хлопчыка-габрэя. Ды і не толькі за гэта… Фашысты ёсць фашысты… Ім усё роўна было, каго забіваць, а за што — яны б знайшлі прычыну. Пасля дзеда Грышкі кветкі даглядалі тыя, хто мог… Зараз ужо, відаць, няма каму глядзець тую клумбу…

Вартаўнік прысеў каля веснічак, памаўчаў, падумаўшы пра нешта сваё. А потым прыладзіў ружы на веснічках і моўчкі пайшоў…

Бабуля крыкнула яму наўздагон:

— Хто вы будзеце яму? Сваяк?

— Не, не сваяк. Хаця, як казаў дзед Грышка, усе людзі могуць быць родзічамі. Учора ў мутны катлаван рухнула клумба дзеда Грышкі. А ён так баяўся за яе. Ён быў там нядаўна…

— Яго няма ўжо дзесяць гадоў, — сказала здзіўленая жанчына, — гэтага не можа быць…

— Можа быць, можа, адказаў вартаўнік з гістарычнай адукацыяй, — у нашым жыцці ўсё можа быць, і не толькі такое… Мы з вамі гэта добра ведаем… Як бы пражыць так, як жыў дзед Грышка… Каб з таго свету вярнуцца…

На веснічках маркоціліся заморскія ружы… Але не такія, як у дзеда Грышкі. Прыгожыя, ды халодныя. А яшчэ без імён, якія дзед Грышка пазычаў у родных і блізкіх… Нават у незнаёмых яму людзей.

## СУСТРЭЧА

Доктар спачувальна змераў позіркам Алана Грэка, разгладзіў яго пакамечаны каўнерык і ціха прамовіў:

— А наогул прэпарат гэты вельмі эфектыўны… Але, як кажуць, усё харошае мае і адваротны бок. Арганізм засвойвае яго даволі цяжка. Звычайнае лякарства прымаюць гадзіны за дзве… А гэта — амаль за чатыры… Вы павінны былі падрыхтавацца… ну, схадзіць, там, у прыбіральню, тое ды сёе…

— Тады я пайду рыхтавацца, — сумна, але згодна сказаў Грэк, разумеючы, што чакае яго нешта сур'ёзнае.

— Гэта яшчэ не ўсё, — хацеў штосьці дадаць доктар.

— А што яшчэ? — не даў яму дагаварыць Алан Грэк, чакаючы яшчэ горшага.

— Пасля кропельніцы ў Вас будзе адчуванне, нібыта вы ўчора адсвяткавалі дзень нараджэння цешчы… А наогул, лепш за ўсё пасля гэтай працэдуры заснуць, — усміхаючыся дадаў доктар і па-сяброўску паляпаў па плячы хворага. — Трымайцеся…

Уся гэта размова ўсплыла ў памяці Алана Грэка крыху пазней, калі яго арганізм адчуў сілу хвалёнага прэпарата. Яму здалося, што, сапраўды, хтосьці прымусова наліў яму ў рот нейкага моцнага хмелю.

Алану Грэку нечакана зажадалася ўсміхнуцца медсястры, што на хвіліну мільганула і знікла з яго вачэй. Але ўсмешка згасла, так і не з'явіўшыся. Праз нейкі час лякарства заявіла пра сябе яшчэ больш настойліва. Павекі пачалі налівацца цяжарам, і ён не мог іх заплюшчыць, як ні намагаўся. Проста Грэк не мог больш кантраляваць свой арганізм. Язык яго ў роце стаўся цяжкою гірай, ён не мог паварушыць вуснамі. Потым яму здалося, што даўганогая медсястра адключыла яго ад кропельніцы. І ён марудна і цяжка пачаў правальвацца ў нейкую бездань. Паступова яму рабілася гарачэй і гарачэй. А потым — святлей і святлей. Было такое адчуванне, што ён ляжыць на дне нейкай разгайданай лодкі… Пачуў яшчэ пяшчотныя галасы, якія яго кудысьці вялі. Далей Алан Грэк адчуў лёгкі дотык чыіхсьці лагодных рук на сваіх і падумаў, што ён памёр. А гэтыя анёльскія галасы вядуць яго, куды трэба, і ляжыць ён хутчэй за ўсё ў труне…

Ён выразна пачуў, як адзін з анёлаў сказаў:

— Паехалі, паплылі, сёстры, яму там будзе добра…

І Алан Грэк зразумеў, што памёр. І зараз адбываецца яго перасяленне ў іншы свет.

Не было ў Грэка ні кроплі шкадавання і ніякага супраціву таму, што адбываецца. Ён цалкам даверыўся анёлам. І тут зноў пачуўся голас:

— Асцярожна, адчыняйце вароты. Не дай бог не паспеем…

Алан Грэк як праз туман бачыў, што яго вядуць чацвёра белакрылых анёлаў. Неба ўсё аж калыхалі белыя аблокі… Плылі перад вачыма не казачныя птушкі, а нейкія прадаўгаватыя істоты незразумелай формы. Грэку яны нагадвалі трубы, якія даводзілася бачыць у падвале іхняга дома. Не, людзі зусім нічога не ведаюць пра той свет, думалася Грэку. Зрэшты, можа, гэта і добра.

Алан Грэк раптам адчуў: яму падабаецца тое, што дзеецца навокал. Закон адмаўлення проста знік, і ён з усім, што адбываецца, згаджаўся. З'явілася адчуванне нейкай незвычайнай сустрэчы з кімсьці. І тут зноў пачуліся галасы анёлаў:

— А ён нічога сабе… Зараз трэба яго берагчы…

Алан Грэк згадаў сваё нядаўняе мінулае, і зразумеў, што тут, напэўна, не трэба нават нікому плаціць, каб з табой абыходзіліся як з чалавекам. Але зноў пачуліся галасы анёлаў:

— Вось мы і прыляцелі, дарагія…

Яны лёгка паднялі яго з таго месца, дзе ён ляжаў, і асцярожна паклалі на беласнежны ложак.

— Хай адпачне перад сустрэчай…

Алан Грэк баяўся, што ўсё ж яму давядзецца з'явіцца перад кімсьці зусім голым. Яму здавалася, што зараз злятуцца ўсе вольныя анёлы і захочуць убачыць яго, у чым маці нарадзіла. Цікаўных заўсёды і ўсюды хапае.

Успыхнула асляпляльнае святло, і ён улавіў гукі абцасікаў.

«Бачыш ты, абцасы ўсюды гучаць аднолькава», — падумаў ён, і свядомасць яго разам са святлом згасла.

Потым зноў бліснуў прамень святла разам са свядомасцю. Нехта катурхаў яго за плечы:

— Прачынайся! Прачынайся ты!..

Ён адчуў лёгкі дотык анёла, які намагаўся ўсімі сіламі вярнуць яго, невядома ў які свет, — у той ці гэты. Алан Грэк адчуў, што яго павекі адтаялі, але ледзяны налёт на іх яшчэ захаваўся. Ён нібыта з глыбокага калодзежа ўбачыў невыразны твар анёла:

— Зараз ён у мяне ачуняе…

Твар анёла знік, так больш нічога і не сказаўшы. І тут жа растварыўся ў снежнай белізне. А над тварам Грэка нечакана навіслі доўгія белыя валасы. А потым узнікла незвычайная барада невядомай красы і вочы — празрыстыя-празрыстыя… А яшчэ незвычайна блакітныя.

— Прачынайся! Пара прачынацца! — да Грэка ледзь даходзілі словы, прамоўленыя, відаць, барадатым…

Ён яшчэ не ведаў, чый гэта голас.

«Вось я і перад тварам Божым», — падумаў Алан Грэк.

Вядома ж, ён не чакаў такой сустрэчы. Здавалася, што ўсё адбываецца ў нейкім тумане. «Відаць, яно так і павінна быць», — пагаджаўся Грэк і даўняя звычка яго ўсё адмаўляць знікла канчаткова.

«Усе дзеці Бога павінны быць паслухмянымі, — казаў ён сам сабе. — Я прыйшоў сюды тым самым шляхам, якім прыходзяць і ўсе астатнія. Іншых шляхоў няма…»

Тым часам белая плёнка халоднага туману рассеялася. І ён ужо выразней убачыў твар, схілёны над ім. Белая барада казытала яго падбародак. Калі яна на момант прыпаднялася, Алан Грэк убачыў свайго старэйшага брата. «Няўжо і ён памёр?», — здзівіўся Грэк. А калі той пакінуў тармасіць яго за плечы, Грэк здзіўлена спытаў:

— А ты што тут робіш? Ты ж быў зусім здаровы, не хварэў…

Старэйшы брат не зразумеў яго пытання.

Адкуль яму было ведаць, што Алан Грэк рыхтаваўся да сустрэчы з Богам, а сустрэўся з ім. Магчыма, гэта было самае найбольшае расчараванне для Грэка за апошнія шмат гадоў. Ніхто не ведае таго. Тады ён падумаў: «Трэба ў жыцці быць гатовым да ўсяго. Можа, яно так і павінна быць, калі заміж «таго» свету на гэтым цябе сустракаюць самыя блізкія людзі…»

Ён заўважыў, што даўганогая медсястра зноў мітусіцца вакол яго. Але яна ўжо не была падобнай на тых белакрылых анёлаў, што праводзілі яго ў іншы свет… «Якія яны былі цнатлівыя», — падумаў Грэк і тут жа заплюшчыў вочы, каб зноў убачыць анёлаў…

## СВАБОДА

У мудрага Карахана падрасталі тры сыны. Старэйшы, сярэдні і малодшы. Карахан думаў, што сыны вырастуць аднолькавымі, падобнымі адзін да аднаго, а таму гадаваў іх у аднолькавых умовах. Па гэтай самай прычыне і назваў іх, як павялося між людзей, — Старэйшы, Сярэдні і Малодшы.

Раслі сыны аднолькава працавітымі і кемнымі. Так казалі ўсе, хто ведаў Карахана. Можа, яно так і было, але сам Карахан добра ведаў, што нават агуркі на градцы пры аднолькавых умовах растуць вельмі розныя.

Прыйшоў час, і Карахан ажаніў старэйшага сына. Потым ажаніў сярэдняга і апошнім — малодшага. Усе яны жылі разам і мусілі быць задаволенымі, бо працавалі, як маглі, дапамагалі бацьку, а таму і жылі ўсе аднолькава. Але па меры таго, як сыны сталелі, мяняліся і іх адносіны да жыцця.

І вось аднойчы, ці перад гэтым дамовіўшыся, ці так само па сабе атрымалася, сыны заспрачаліся, і пайшлі за парадай да бацькі-мудраца.

Старэйшы сын сказаў:

— Тата, хоць мы і прыйшлі разам, але кожны са сваімі думкамі і перакананнямі. Ты гадаваў нас, глядзеў як мог, уклаў у нашы душы ўсё разумнае, чым сам быў багаты. Ты, магчыма, самы лепшы на свеце бацька. Лепшага і не трэба. Але застаецца адно пытанне, якое нас непакоіць. Мы будзем, як і раней дапамагаць табе, рабіць усё так, каб ты не адчуваў сваёй адзіноты. Але мы, як гэта лепш сказаць, хацелі б атрымаць ад цябе свабоду. Ты так шмат гаварыў нам калісьці аб вялікасці свабоды, што нам хацелася б яе паспрабаваць…

Сярэдні сын сказаў:

— Тата, ты так шмат казаў нам аб карысці адзінства. І нікому ў галаву не прыходзіла аспрэчваць твае словы. Але хацелася б хоць крыху аблегчыць тваю ношу. Ты надта многа даў нам, і мы разумеем, як цяжка несці табе тваю ношу, трэба і меру ведаць. Дык не шкадуй нам свабоды, а мы будзем разам. І адплацім табе тым жа дабром, якога ты не шкадаваў нам.

Малодшы сын сказаў:

— Тата, гэта не змова. Проста мы жылі ў зусім аднолькавых умовах, у адзінстве дабрыні і мудрасці, і думкі пра свабоду ўзніклі ў нас адначасова. Рана ці позна сям'я наша мусіць разрасціся. Але ж няма такога дома, дзе маглі б жыць столькі Караханаў адначасова. Наш дом — гэта наша зямля, і на ўсё твая воля і воля Бога. Як скажаш — так і будзе. Бо ты наш бацька, ты галоўны… І каб не плакала маці, а сям'я наша надалей жыла мірна і згодна, з любоўю і павагай, як ты і вучыў нас, дай нам свабоду. Я малодшы і буду жыць побач, крыху далей будзе жыць сярэдні брат, а старэйшы далей як усе. Ты нас так і вучыў.

Сыны выказаліся і разышліся па сваіх справах. А мудрэц Карахан не спаў начамі, яны цягнуліся для яго месяцамі, а станоўчага адказу даць не мог. Не знаходзіў і сілы, каб выказаць нязгоду сваю. Хоць добра разумеў, што рана ці позна прыйдзе дзень, і птушаняты-арляняты яго набяруцца вопыту і выпырхнуць кожны насустрач свайму лёсу. Позна ці рана, а так будзе.

Доўга ўзважваючы ўсе «за» і «супраць», Карахан урэшце вырашыў агучыць сваё слова. Ён паклікаў сыноў і сказаў:

— Сыны мае, вы часціна жыцця майго. Якім я быў для вас, пакажа само жыццё. Як вы ведаеце, у нас ёсць свая зямля, і я вырашыў падзяліць яе паміж вамі. У бліжнім доме будзе жыць Малодшы, і там жа будзе яго зямля. У сярэднім будзе жыць наш Сярэдні, частка яго зямлі там. А яшчэ далей у сваім доме будзе ладзіць сваё жыццё наш Старэйшы, і там будзе яго зямля. Я прадбачыў, што надыдзе такі дзень і рыхтаваўся да яго. Паміж старэйшым сынам і мною будзеце жыць вы, два браты. Гэта і будзе вам урок на выжыванне, кемнасць

і мудрасць… Вы жылі і гадаваліся ў аднолькавых умовах, але ведайце, што жыццё не церпіць нічога аднастайнага, яно падкідвае чалавеку свае мудрыя задачкі. Вось і паглядзім, як вы зможаце рашаць іх. Вы будзеце жыць, як захочаце, а я толькі буду ўважліва назіраць за вашым жыццём. Праз два гады мы зноў збяромся разам і пабачым, як вы распарадзіліся сваёй свабодай. А перад гэтым кожны з вас атрымае мяшок зерня. Гэты мяшок — і ёсць шлях да свабоды. Вось і жывіце. Я не ў крыўдзе. Бо для кожнага бацькі шчасце і ўдача дзяцей — самая вялікая ўзнагарода.

Кожны з сыноў ускінуў на плечы свой мяшок, і яны разышліся.

Праз два гады мудрэц Карахан зноў сабраў сваіх сыноў, якія сапраўды нібы растварыліся ў клопатах жыцця, у дбанні пра дом ды сям'ю. Карахан чакаў прызнання, як жа яны абышліся з той свабодай, якая была ім падаравана.

Старэйшы сын сказаў:

— Тата, я дзякую табе за падарунак. Ён да гэтага часу ляжыць у свірне, некрануты. Я гэты мяшок буду захоўваць да канца жыцця свайго, каб перадаць яго сваім сынам.

Сярэдні сын сказаў:

— Тата, шмат вады ўцякло з таго часу. Мяшок, які ты назваў Свабодай, я паклаў побач з тымі, якія ты раней паклаў у свіран другога дома. Але, на жаль, потым яго згубіў. Таму, што ўсе мяшкі, якія там ляжалі, былі аднолькавыя…

Малодшы сын сказаў:

— Тата, ты мне падарыў жыццё і яшчэ мудрасць свайго жыцця. Відаць, умовы жыцця мяняюць і розум. У двары стаіць воз, на ім мяшкі з зернем. Гэта ўраджай, які я атрымаў, калі пасеяў дараваны табой мяшок, сказаўшы мне, што гэта не толькі зерне, але і знак свабоды. Я зрабіў інакш, чым мае дарагія браты, але зрабіў па-свойму…

Тады Карахан сказаў:

— Дарагаія мае сыны! Людзі заўсёды казалі, што хлеб — усяму галава. Гэта і дастатак, гэта і прыбытак, гэта і ёсць сама свабода. Як бачыце, аднолькавыя ўмовы пражыцця не заўсёды даюць аднолькавыя вынікі. Не можа быць аднолькавых сыноў, як няма і аднолькавых агуркоў наградзе. Бачу, вы і самі пераканаліся ў гэтым на сваім прыкладзе. А воз з зернем я падзялю паміж вамі. Працуйце з Богам! Хай будзе ў вашых сем'ях болей дастачы і болей свабоды. Нават калі гэта свабода ў мяшку з зернем…

## У ГАСЦЯХ

Старэйшы сын Карахана даўно жыў у горадзе і ўсё ніяк не мог угаварыць бацьку пагасцяваць у яго. Карахан быццам і згаджаўся на сынавы ўгаворы, але ўсё не мог адважыцца на далёкую дарогу. У рэшце рэшт згадзіўся завітаць, але і то пасля таго, як яго прыстрашылі, што не пусцяць летам да дзеда ягонага любімага ўнука. Хай лепш той з'ездзіць у аздараўленчы лагер. Усё гэта нагадвала Карахану шантаж, ён нават пакрыўдзіўся на такую заяву сына, але выгляду не падаў. Пагадзіўся. Ну, вядома, там, у горадзе, цывілізацыя, думаў Карахан, але з другога боку, надта мала радаснага: раніцой хоць і ўстаеш разам з сонцам, а дарога ў чалавека адна — кухня ды туалет. Няма прастору, няма свабоды. Ды і які можа быць прастор, калі паветра людзям не хапае. Нават няма магчымасці з суседам пагутарыць, абаперціся на стары нефарбаваны плот, выліць, калі набаліць, некаму сваю душу, каб потым вечарам давесці стомленай жонцы, што парсючка вясной ім зусім неабавязкова купляць, трэба пачакаць восені. Усё зараз як быццам страціла свой сэнс, таму што ўсе пра-

дукты людзі пачалі купляць толькі ў магазіне. Трэба яшчэ падумаць, якой яны там свежасці.

Карахан быў упэўнены, што ў горадзе дамы падобныя ўсе як адзін, а суседзі зусім не суседзі — чужыя. Калі не вітаюцца, значыць, чужыя, значыць, няма павагі. Ну як жа так можна жыць побач, сем'ямі і «дзеньдобры» суседу не сказаць? Штосьці, відаць, сталася з людзьмі, калі яны пазбягаюць адзін другога…

— Ды ты, сынок, можаш сабе такое ўявіць, што выйшаўшы на вуліцу роднай вёскі і сустрэўшы чалавека, не павітаешся з ім, пройдзеш адвярнуўшыся?

— Бацька, — мякка, каб не пакрыўдзіць старога, патлумачыў сын, — у свеце даўно ўжо ўсё памянялася. Значыць, і людзі памяняліся. На жаль…

— Паслухай мяне, сынок, ты павінен гэта запомніць на ўсё жыццё, — настойваў на сваім Карахан, — чалавекам трэба заставацца заўсёды. Як бы там ні было, што б ні здарылася. Калі ты з раніцы сустрэў некага і пажадаў яму дабра, значыць і табе ад некага пяройдзе тое дабро. Усё ў жыцці ўзаемазвязана… Каб атрымаць — трэба ўмець аддаць…

— Так. Ты маеш рацыю, бацька, — заўсёды згаджаўся сын, ведаючы што ў сваёй праваце бацьку не пераканаеш, у таго свае погляды на жыццё і на месца чалавека ў гэтым жыцці.

Праз хвілін колькі сын зноў звяртаўся да бацькі:

— Радуйся, бацька, хутка да нашай вёскі электрычка пачне хадзіць, лягчэй стане…

— Не, сынок, лягчэй не стане, уся гарадская нечысць папаўзе, хлыне туды, мы страцім спакой, і ўсё абрынецца ў прорву.

У словах бацькі заўсёды быў свой мудры сэнс, сын гэта разумеў і амаль ніколі з ім не спрачаўся. Так што не ўсё адназначна наконт тае цывілізацыі і выгод. Недзе будзе лепш, а дзесьці — наадварот.

— Во, сынок, хто мог падумаць, што дзякуючы той жа цывілізацыі амерыканскія жучкі-«шпіёны» праз мора і акіян з роднага Каларада дапаўзуць і да нас. Жылі раней без гэтай хвалёнай цывілізацыі і гора не ведалі… А што, акрамя разбэсты, дае вось гэты твой вялікі тэлевізар? Ён большы, чым прасціна экрана ў нашым вясковым клубе… Я ўсё разумею, але маё сэрца баліць за твайго маленькага сына, майго ўнучка… Ён жа ўсё бачыць… Не заткнеш яму вушы і не завяжаш вочы… Так вось, сынок, магчыма ты і прывык хадзіць па гэтых бетонных халодных сцяжынах, дзе даўно ўжо не адчуваецца зямлі… А можа, зусім няма яе ў вас, той зямлі? Вы жывяце на штучным востраве. Тут, дзе стаіць твой дом, раней шумеў лес. А дзе сёння тыя дрэвы? Што адбываецца з людзьмі, сынок? Як яны будуць жыць далей?

— Неяк будуць, бацька… Усё не так проста. І ты разважаеш правільна. Час зараз такі — у кожнага свая праўда. А рака часу цячэ, і спыніць яе немагчыма… не толькі ты так думаеш. Гэта сусветная бяда, бацька…

Вечарам Карахану ўжо было нецікава павучаць сына і ён пераключыўся на ўнука. Якраз прыйшоў са школы сямігадовы Тарас. Для сваіх гадоў Тарас быў надта разумным і кемлівым хлапчуком, у кішэню па слова не лез. Разважаў па-даросламу. Дзед Карахан з захапленнем расказваў пра сваё дзяцінства, але Тарасіку гэта было нецікава. Потым Карахан пачаў расповед пра дзяцінства бацькі Тарасіка. Хлапчуку і гэта не было цікавым. І, відаць, прытомлены расповедам ды і роспытамі дзеда, Тарас нечакана ашарашыў Карахана такім пытаннем, што адразу паставіў у тупік не толькі старога, але і бацьку, і вядома ж, маму. Тарас спытаў:

— Дзед, калі няма бяссмерця, то калі ты памрэш?

Дзед доўга думаў, як адказаць. Але не мог жа ён пакінуць без адказу ўнукава пытанне.

— Як табе патлумачыць, мой дарагі ўнук… Кожны чалавек, каторы нарадзіўся, абавязкова некалі памрэ… Нехта раней, нехта пазней. Каму як пашанцуе. Не трэба быць несмяротным і сваім выглядам палохаць астатніх. Усё ў рэшце рэшт старэе, стамляецца, згасае, як вялікія і маленькія свечкі… Пасля чалавека застаюцца яго добрыя справы, калі яны ў яго былі. Як табе яшчэ растлумачыць, Тарасік? Я, вядома, таксама памру… Але тады, калі памрэ твой тата, ён тады забудзе пра мяне, і я для яго памру. Потым, калі памрэш ты, я таксама яшчэ раз памру, таму што ў тваёй памяці памрэ дзед Карахан. Усё, што тут сказана мной, надта жорсткае і страшнае, але ўсё гэта праўда — чалавек памірае канчаткова, калі паміраюць людзі, што яго памяталі. Вось, даражэнькі мой… Больш такіх пытанняў не задавай. Цяжкіх пытанняў не задавай…

Тарас прыўстаў, узяў дзеда за руку і сказаў:

— Мне таксама не патрэбны цяжкія пытанні. Пойдзем, я табе на камп'ютары нештачка пакажу. Яно маё. А ты паможаш, параіш… Толькі ты… Без цябе — ніхто… Нават камп'ютар…

— Няўжо? — здзівіўся дзед. — Пойдзем-пойдзем, унучак…

— Глядзі, дзядуля! Гэта мой з татам і мамай падарунак табе. Не ўсё так і дрэнна, як ты кажаш, — надта ж сур'ёзна, не па-дзіцячы даводзіў унук. — Зараз ты ўбачыш на экране дрэва нашага роду. Уважліва агледзь усе яго галіны…

Карахан вяртаўся з горада ў добрым настроі. У руках ён беражліва трымаў скрутак паперы, дзе яго сямігадовы ўнук па крупінцы, па галінцы намаляваў радаслоўную сям'і. Карахан купіў рамку, і неўзабаве радаслоўнае дрэва ўпрыгожыла сцяну яго дома. Распавядаючы жонцы пра сваё гасцяванне ў сына, Карахан вінавата прызнаўся:

— Мы, старыя, часта думаем, што праўда зыходзіць толькі з нашых вуснаў. Проста чалавек не паспявае за ходой самой гісторыі. Нашы дзеці і ўнукі пайшлі намнога наперад… Даруй мне старому… Але зараз ёсць нагода запрасіць у госці ўнука. Хай сам уносіць папраўкі ў дрэва нашага роду. Што ні кажы, а лёс нашых дзяцей у надзейных руках, спадзяюся…

## ПАХ

Мінулае часам згадваецца то самотна, са шкадаваннем, а то і весела. Нават тое недалёкае, дзе было шмат няскладнага, дзіўнага і незразумелага. Але зусім, здавалася, не адчувалі самоты самі людзі, якія рабілі вельмі шмат, а мелі з гэтага зусім мала. Але яны вучыліся, працавалі, засяляліся ў новыя кватэры. І герояў сярод іх было значна больш, чым сёння тых жа жулікаў. Хоць ва ўсе часы дзяржава дзесьці памылялася, мела свае пралікі і недагляды. Але большасць людзей любіла сваю краіну і ганарылася ёю. Але вось прыйшоў новы кіраўнік, які задумаў найвялікшую перабудову і так захапіўся ёю, што нават пачаў высякаць вінаграднікі, як быццам яны былі галоўнай прычынай усяго папярэдняга «застою».

У гэты дзіўны час усё навокал аж бурліла, і людзі здзіўляліся, што барацьба з усім негатыўным вядзецца такім прымітыўным спосабам. Але што б там не тварылася, на версе, дзе заўсёды ішло змаганне за ўладу, унізе жыццё ступала па сваіх звыклых сцяжынах, бо ход гісторыі прыпыніць немагчыма, яна рухаецца па сваіх, нікому непадуладных законах.

Як вядома ўсім, у вытворчасці мэблі для найбольш якаснай яе апрацоўкі выкарыстоўваюць спірт. Не медыцынскі, але ўсё ж спірт. О Божа, дзе толькі

яго не выкарыстоўваюць! А вось колькі таго спірту ўрэшце трапляе па прызначэнні — гэта ўжо іншая справа. Тут ужо справа прынцыпу ды сумлення.

Неяк мой добры знаёмы пры сведках пахваліўся, што ён з’яўляецца гаспадаром адміністрацыйнага корпуса мэблевай фабрыкі. Ён не хлусіў, але з гонарам казаў пра сваіх людзей, якія з энтузіязмам працуюць на прадпрыемстве, пра вытворчасць, якая ні на крок не адстае ад хады самога часу. Запрасіў нават глянуць на ўсё гэта сваімі вачыма. Я хоць і даў згоду, але ўсё адкладваў сваё з’яўленне на фабрыцы. І вось аднойчы надарылася магчымасць абрадаваць свайго сябра. Але тут умяшаліся абставіны. Калі я сабраўся прыехаць, ён трымаў у руках пуцёўку на нейкую доўгачаканую паездку. Сябра адчуваў няёмкасць, нават вінаватасць сваю перада мной, аднак паправіць што-небудзь было ўжо немагчыма.

— Нічога, — павесялеў ён урэшце. — Ты прыязджай, замяняць мяне будзе малады галоўны інжынер. А ён зробіць усё так, як гэта было б і пры мне.

Ён казаў праўду. Малады інжынер сустрэў мяне вельмі цёпла і адразу пачаў знаёміць з вытворчасцю. Кожны цэх здзіўляў мяне сваёй акуратнасцю, абсталяваннем і якасцю зробленага. Усё, як сёння кажуць, супер. Бянтэжыла толькі адно — у кожным памяшканні, куды мы заходзілі, рэзаў нюх моцны пах саляркі. Пахла ёй не толькі ў вытворчым аддзеле, а нават у бухгалтэрыі, у прыёмнай. Хоць па логіцы пахнуць павінна было лакам або фарбай. Саляркай аддавала і ў пакоі галоўнага інжынера. І толькі ў кабінеце майго сябра было свежа. Можа, таму, што на крылах пуцёўкі ён заляцеў ужо недзе далёка-далёка…

Ва ўсіх памяшканнях людзі былі ветлівыя і вясёлыя. Я нават пазайздросціў сябру, што ў яго такі дружны і зладжаны калектыў. Адным словам, экскурсія мая прайшла паспяхова, і неўзабаве я вяртаўся дахаты. Але мне чамусьці ўвесь час не даваў спакою пах саляркі, якой, здаецца, прапахла нават мая памяць. Такія сучасныя ўмовы працы і такі невыносны пах саляркі?.. Той пах заставаўся са мною, пакуль я не дачакаўся з адпачынку сябра. Адпачыўшы, ён быў у добрым настроі і тут жа пацікавіўся:

— Ну, як табе маё тварэнне?

— Нечакана прыемна, — адказаў я. — Трэба ж, так наладзіць справу… Толькі адно засмуціла мяне…

— Што іменна? — занепакоіўся сябра.

— Што гэта за пах саляркі хадзіў усюды за мною па пятах і чуваць яшчэ сёння?

Сябра некалькі хвілін маўчаў, а потым як зарагоча. І тут я пачуў ад яго вось што:

— Якасць якасцю, а вось праблема са спіртам — гэта наш галаўны боль, хвароба, можна сказаць. Аднаму дай, другому дай. Хочаш ты таго ці не. Даводзіцца наліваць… А ў маладога інжынера вопыту мала, а выдумкі і адказнасці многа. Ведаеш, што прыдумаў гэты дзівак? Ён у спірт дабавіў саляркі. Вядома, спадзеючыся, што такую выбуховую сумесь піць ніхто не захоча. Памыліўся наш саколе. Вось адкуль і пах саляркі. Уся сістэма працуе на салярцы.

І тут я зноў згадаў пра тыя ссечаныя вінаграднікі, пра чэргі і бойкі ля прылаўкаў вінных магазінаў. Не, саляркай тут ужо нічога не паправіш.

Мой сябра даўно пакінуў гэты свет. Галоўны інжынер з’ехаў у Аўстралію, адтуль, кажуць, нават не змог прыехаць на пахаванне сваёй маці. А будынак фабрыкі выкупіў былы партработнік і пераабсталяваў у гасцініцу. Жыццё працягваецца…

***Пераклад з курдскай Казіміра Камейшы.***

*Палымянскі дэбют*



## Настасся НАРЭЙКА

* * *

Каласы, камяні і крыніцы…
Карагод, крыгаход, краявід…
За цябе я баюся маліцца,
Бо растанеш, як белы прывід.

Мова-казка і мова-загадка,
Разам з тым мова-крык, мова-боль,
Між любоўю і вечнасцю кладка,
Наш адвечны, забыты пароль.

Ты ж жывая! Ўзгадаць нас прымусь!
Вер — не знікнеш, не згінеш дарэмна.
— Каго любіш?
— Люблю Беларусь.
— Божа мілы, як гэта ўзаемна!

* * *

Калі думаць, што гэта бездань
Неба поўная,
Нібы келіх, наліты да краю
Віном вінаградавым,
Калі думаць, што ліпа стаіць
Над ёй засмучоная,
Тады гэты край, гэты зрыў
Непамерна радуе.
Ёй не страшна, і мне
Нікольки, нікольки не страшна.
Пеніцца ў келіху вадкасць
Нябёсаў белая,

---

***Нарэйка Настасся Мікалаеўна*** *нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў горадзе Маладзечна. Скончыла Маладзечанскую беларускую гімназію (2004) і Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2009). Працуе загадчыцай аддзела пісьмаў і сацыяльных праблем у раённай газеце «Навіны Камянеччыны».*

*Друкавалася ў рэспубліканскай перыёдыцы.*

І аблокі, нібы камякі,
Праплываюць адважна.
Выпі хоць крышку, прыгуб,
Я піла — я смелая.
Калі думаць, што бездань
Напоўнена небам да краю,
Калі думаць, што ўсё мінулае
Больш няважна,
Калі думаць, што бездань —
Гэта вароты раю,
То ляцець у яе
Нікольки, нікольки не страшна.

## ГАРБАТА НА ЗЛЫМ ПАЛЫНЕ

**1**

Халодныя рукі сагрэеш гарачым дыханнем,
Падкінеш бярвенца ў вялізны, як пашча, камін.
Не стане лягчэй і цяплей аніколькі не стане.
Вісіць у вязанках і сыплецца долу палын.

**2**

Настаіцца гарбата на шэрым, сухім палыне.
Ты пабачыш мяне і амаль не пазнаеш мяне.
Дагарае камін. Так былое мінае — міне.
Будзем піць акавіту — гарбату на злым палыне.

* * *

Я, твая паланянка, ніколі не буду з табой.
Хай жа твой выкшталцоны палац стане чорнай турмой!
Хай пад вокнамі выюць ваўкі, што ідуць на разбой!
Хай вятры завываюць улетку, нібыта зімой!
Я, твая паланянка, ніколі не буду з табой.

Калі б можна было залатыя сукенкі твае,
Падарункі, якія мне горш, чым вярыгі на шыі,
Пераплавіць на зброю, — о, я скарыстала б яе!
Толькі б выпусціць чорную кроў! І ніхто не адмые.

Калі б можна было залатыя пярсцёнкі твае
Мне злучыць у ланцуг, бранзалеты зрабіць кайданамі,
Прыкавала б цябе за няшчасці і слёзы мае
Да рашоткі каміна. І толькі б агонь быў між намі.

* * *

Дровы згарэлі. Холаду — вольная воля.
Замерзла акно. За шыбай завея мяце.

Чакаю цябе. Як сон. Як дабро. Як ніколі!
І полымя свечкі нязнанаю кветкай цвіце.

* * *

Уцягні мне нітачку ў іголку.
Я амаль не бачу пры газніцы.
Вышывала з вечара да золку —
Вочы не маглі не прытаміцца.

Будзе снежнабелая кашуля
Быццам бы скрываўлена. І пяльцы
Возьмеш, каб дапамагчы, матуля,
Бо сабе я ўсе скалола пальцы.

Рукі ціха лягуць на калені,
І на іх пасыплюць слёзы бобам.
О, нашто адчай і галашэнні?
О, матуля, што з табой мы робім?

Хай згасаюць зоры-зараніцы.
Мне пара… Накрыю маці світкай.
У падол сваёй старой спадніцы
Утыркну іголку з белай ніткай.

…Ты стаіш на сонным скрыжаванні.
Лашчыць ногі босыя трыпутнік.
Пацалуй мяне на развітанне
І вяртайся, воін і пакутнік!

Апрані кашулю, калі ласка,
Вузел завяжы на паяску.
Ведаю: вайна — не сон, не казка.
Працягні мне з полымя руку.

Тоненькі шывок іголкі смелай
Адсячэ шляхі да забыцця.
На далоні цёплай ніткай белай
Працягну я лінію жыцця.

## ВОСЕНЬ ВЯРНУЛАСЯ…

**1**

Кліча мяне Тураў халоднай ноччу,
Клічуць Гальшаны, Мір і Гародня, Нясвіж,
Кліча Наваградак, Полацак кліча — я крочу,
Пакуль не застыне душа там, дзе сцежкі — як крыж.

Клічуць мяне галасы — прачынаюся ў жаху.
І збавення няма, і няможна збавення займець.

Далоньку кладзе за мяне на бяссонніцы плаху
Маленькі лісточак асенні, чырвоны, як медзь.

**2**

Восень вярнулася. Восенню мне не спіцца,
Восенню трэба ісці па кладах і слядах,
Восенню трэба на сцены і кнігі маліцца,
Восенню трэба блукаць па старых гарадах.

Восенню сны і пыллё атрасае гісторыя,
Восенню бітва вякоў паўтараецца зноў,
Восенню да слепаты узіраюся ў зоры я,
Восенню стогне у жылах мінулага кроў.

Пэўна, таму клічуць яны толькі восенню,
Восенню, пэўна, таму адкрываюцца раны.
Кляновы лісточак ляжыць не мядзяны, а з просінню.
Літасці не існуе. І не трэба, Гальшаны.

* * *

Ніякая вернасць мяне ля цябе не ўтрымае.
Ніякая вернасць — ні мёртвая і ні жывая.
Бо той, хто нічога не даў, той нічога й не мае,
Бо толькі жабрак цэлы свет у далонях трымае.

І вернасць адна гэты жудасны свет скалане,
Узніме наверх каламуць, што ляжала на дне,
І той, хто узяў, намалюе стралу на сцяне,
І вернасць адна утрымае цябе ля мяне.

Ліляна ХАБ’ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ



# ПАРАСКЕВА: КРЫЖ У ПУСТЫНІ*

*Раман*

## Святая Марыя Егіпецкая

Мяне, грэшную і нягодную, паслалі святыя сілы нябесныя, каб паклікала яе. Каб была для яе весткай і весніцай. І праважатай.

Упершыню я ўбачыла яе ў прытворы іерусалімскай царквы Святога Крыжа. Яна стаяла на каленях перад іконаю Прасвятой Багародзіцы. Гэтаксама, як я пяць стагоддзяў таму назад, калі адраклася ад жыцця і выйшла на шлях ачышчэння.

Ёй ачышчацца не было патрэбы. Яна ўся была чыстая гэтак жа, як яе любоў да Госпада. Але хацела толькі гэтай любоўю жыць. Таму і малілася, паўтараючы са слязьмі:

«Ты бачыш маю душу і ўсё ў ёй. Бачыш і тое, чаго я не бачу. Нават тое, пра што я і не здагадваюся, што яно ўва мне ёсць. Прашу Цябе, змілуйся! Пакажы мне шлях, каб не памыліцца!»

Вось якая гэта цудоўная душа была!

Потым я сустрэла яе на Іардане. Там быў таксама Іаан. Ён часта прыходзіць на месца, дзе хрысціў і пазнаў Госпада. З радасцю ён ахоўвае паломнікаў і шкадуе, што мала хто з іх яго бачыць. Бо рэдка надараюцца тыя, у каго духоўны зрок выявіўся.

А Параскева яго ўбачыла. І, зразумеўшы, хто гэта непадалёку ад яе стаіць, задрыжала ад страху і глыбокай пашанотнасці.

Мяне яна пазнала толькі тады, каля я прыйшла да яе ў сон. Бо ў сне часта лепш бачна і больш зразумела. Яна мне адразу падала руку з даверам і любоўю. Яна, якую грэх не крануў нават ценем сваім, — мне, грэшніцы. А ведала ж, пэўна, гісторыю майго жыцця. Бо з той пары, як старац Засіма расказаў яе сваёй браціі ў Іарданскім манастыры, гэтую сараматную гісторыю ведае ўвесь хрысціянскі свет.

Аповед пра мяне — гэта аповед пра грэх, ганьбу і пакаянне. Мне цяжка спавядацца. Але раскажу, якой я была, дзеля духоўнай карысці ўсім, хто жадае ачысціць душу сваю ад бруду, каб у чысціні прадстаць перад Госпадам.

У дванаццацігадовым узросце я пакінула дом сваіх бацькоў, адправілася ў Александрыю і стала блудніцай. Прычым з ліку тых найгоршых. Я прадавала сваё цела больш ад похаці, чым дзеля выгады. З-за ўцехі ў распусце, а не з-за патрэбы. А песні, якія спявала, і словы, якія прамаўляла ў п’яным чадзе і шаленстве сваёй разбэшчанасці, цяпер і згадваць баюся.

* Працяг. Пачатак у № 4, 5 2011 г.

Так пражыла я амаль васямнаццаць гадоў, безупынна ў полымі блуду. А тады неяк пачула, што на Крыжаўздзвіжанне ў Іерусалім збіраецца мноства мужчын, каб пакланіцца Святому і Жыватворнаму Крыжу. «Столькі мужчын у адным месцы! О колькі ўцехі можа быць майму целу!» — узрадавалася я.

Без цяжкасці знайшла такіх, якія, спакусіўшыся бессаромнасцю маіх прапаноў, узялі мяне з сабою на карабель. І я там выконвала ўсё, што абяцала. Нават больш. І на караблі, і потым у Іерусаліме, ажно да самага дня свята, я многіх навучала тым неапісальным брыдотам, пра якія ніхто з іх раней і чуць не чуў.

А ў сам дзень свята Крыжаўздзвіжання я, без ніякага намеру і жадання, думаючы, што проста іду разам з натоўпам, накіравалася да царквы. Цяпер ведаю, што гэтак я выконвала волю Усявышняга і што Яго воля была міласцю, якой я не прасіла і якой, пэўна ж, не заслугоўвала. Аднак хіба не казаў Гасподзь, што мы Яго не павінны заслужыць, Ён прыходзіць да ўсіх, каму патрэбны.

Калі падышлі да царквы, нейкая сіла затрымала мяне перад дзвярыма. Я не разумела гэтага знаку, гэтага папярэджання. І расштурхоўвала людзей, каб увайсці. Рабіла гэта хутчэй ад утрапёнасці, чым ад жадання ўбачыць Святы Крыж. Таму спрабавала прабіцца зноў і зноў. Ды кожны раз на самым уваходзе мяне затрымлівала тая самая нябачная сіла. Так што ў рэшце рэшт усе ўвайшлі ў храм, а я адна засталася ў прытворы.

Доўга стаяла, збянтэжаная перш за ўсё, а разам з тым і спалоханая. Аднак і далей я не разумела, што адбывалася. Да той пары, пакуль не адчула погляд, які нібыта прыклікаў. Я павяла вачыма і напаткала ікону Маці Божай. І як толькі ўгледзела Яе, то быццам бы ўся цемра ўва мне апала. Я ўбачыла сябе такой, якой Яна мяне бачыць! Гаротніцай, якая ў брудзе і смуродзе блуду качаецца і таму не заслугоўвае таго, каб увайсці ў дом Божы.

Ніколі я не перажывала нічога страшнейшага! Не перажывала такога вострага болю, хоць мяне па-рознаму білі. Не перажывала такога цяжкага сораму, хоць была зусім бессаромнай.

У адчаі ўпала я на зямлю перад Маці Нябеснай. Сваімі рукамі блудніцы рвала свае грэшныя валасы, каб выпалі, біла сябе па распусных грудзях, каб усохлі і прапалі. А колькі слёз праліла! Ніколі не думала, што іх гэтулькі маецца ўва мне! Яны змылі ўсе фарбы з майго твару і нагрувашчаны бруд з майго сэрца.

«Маці! — рыдала я. — Твой Сын прыйшоў, каб навучыць прабачэнню. І прабачаў. Ён і такіх, як я, грэшніц, не цураўся. Адной дазволіў, каб вымыла ногі Яго слязьмі сваімі і выцерла іх валасамі сваімі. Прашу Цябе, Маці, прабач і Ты мне! У памяць пра Свайго Сына! Дазволь мне ўбачыць і пацалаваць святы крыж, на якім Ён быў распяты. А я, калі выйду з дома Яго, пайду шляхам пакаяння. Туды, куды ты прызначыш!»

Так я прасіла, а сама не ведала, адкуль у мяне гэткія словы. Цяпер думаю, што яны — іскаркі Божыя ад таго вугалька, які застаецца тлець у нутры нават самых недастойных і чакае пары, калі можа ўспыхнуць.

Як я прасіла, так і сталася. Маці Божая змілавалася. Бо маці — сама міласць. Таму мы клічам маці, калі нам цяжка. А думаючы, што клічам сваю родную маці, на самай справе клічам Маці Спаса нашага.

У той жа дзень пад яе вадзіцельствам я пайшла — на Іардан, а праз Іардан у пустыню. Дваццаць дзён была ў дарозе без вады, з трыма хлябамі, якія захапіла ў Іерусаліме.

Сорак шэсць гадоў правяла я ў пустыні. Зведала самыя розныя кашмары і пакуты. Сатана ўсяляк мяне спакушаў, да сябе клічучы. Там я жыла голая

і босая, якой на гэты свет прыйшла. Тое адзенне, што было на мне, хутка парвалася і аднойчы проста звалілася з мяне. Ад холаду, ад спёкі, ад ветру, ад пяску, ад звяроў я не была захілена нічым, акрамя веры і пакрову Прасвятой Багародзіцы.

Адзінай істотай чалавечай, якую я сустрэла з таго часу, як у пустыню падалася, быў старац Засіма. З'явіўся ён пад канец маіх зямных дзён. Бог паслаў яго, каб перад сконам прычасціць мяне Целам і Крывёю Госпада нашага Іісуса Хрыста, каб мае астанкі аддаць пяску, а звесткі пра маё жыццё панесці ў свет.

Мой лёс усім паказвае, які Бог міласцівы, як Ён прымае пакаянне нават самых вялікіх грэшнікаў. А таксама, што ўсе, калі яны шчыра і сумленна каюцца, могуць дасягнуць Царства Нябеснага. Няхай гэта згадваюць тыя, хто памінае мяне ў мой дзень, першага красавіка. А інакш выйшла б так, што маё пакаянне было толькі мне самой на карысць.

Вось такой я была. А яна, Параскева, зусім інакшая. І пакуль я суправаджала яе па знаёмых мне сцежках — праз Іардан, а потым праз пустыню Нефуд, — мне здавалася, што цяжка вынайсці спалучэнне больш дзіўнае, чым я і яна. Я, названая найбольшай раскаянай грэшніцай Новага Запавету, і яна, самая чыстая, якая ўсе спакусы адвяргала з такой цвёрдасцю, як у Госпада.

«Як яна будзе ў пустыні?» — пыталася я. Але адказу не было.

Толькі Бог ведае, што задумвае. А нам — прымаць Яго намеры з радасцю. І выконваць іх.

## Параскева

Пустыня... Бяскрай, неахопны, як промысел Божы. Бяскрай, які некалі быў морам і які, магчыма, зноў морам стане па волі Таго, Хто ўсяму дае форму, змест і сэнс існавання.

На шлях у пустыню я стала па закліку святой Марыі Егіпецкай.

«Пара, — сказала яна, прыйшоўшы ў мой сон. — Там, дзе я знайшла спакой, і ты знойдзеш спакой для сябе».

Я ведала пра яе жыццё і пакуты, пра падзвіжніцтва ў пустыні. Разумела, што яна — вестка, і вястунка. Таму калі першыя промні дня прабіліся з ночы, я пакінула сваіх спадарожнікаў спячымі і рушыла на ўсход, да сонца. У пустыню.

Узяла я з сабою самае неабходнае: Біблію, іконы Госпада нашага і Маці Яго, мех вады і бохан хлеба. А несла таксама радасць, што іду туды, куды Ён вызначыў, і гэтая радасць захіляла мяне ад думак пра дзікіх звяроў і ліхіх людзей, здабычаю якіх я магла стаць. Несла і веру, якая мне давала сілы спраўляцца з цяжарам рэчаў і свайго цела ў спякоту, пад распаленым небам, на гарачым пяску.

Дзень за днём ішла я па абраным шляху.

Ішла і адчувала, што недзе знайду сабе прыстанне, якое мне Гасподзь вызначыў, каб я там правяла жыццё з Ім. Але дакладна не ведала, ні куды іду, ні чаго шукаю, ні дзе спынюся. Проста ішла наперад і наперад, ад світання да поўдня, ад змяркання да поўнага змроку, а часам і ўсю ноч, усведамляючы, што другога шляху не маю.

Але сэрца ж у мяне было звычайнае чалавечае, падлеглае неспакоям, сумненням і страху. Таму я не забывалася таго моманту, калі, азірнуўшыся, першы раз убачыла вакол сябе цалкам аднолькавы краявід: бязмежная пясчаная прастора, якая судакранаецца з небам.

Дрыжыкі, выпушчаныя з сэрца, ахапілі мяне ўсю. Здавалася, нейкія хіжыя і дужыя кіпці рыюцца ў маім нутры і намагаюцца нешта вырваць.

«Госпадзі!» — узмалілася я.

«Госпадзі!» — паўтарала. Бо гэта было адзінае слова, якое я магла вымаўляць.

Цяпер ведаю, што гэта быў адзін з момантаў выбару, свабоднага выяўлення волі. Тая хвіліна, калі мы можам выбіраць напрамак свайго шляху і вызначаць, як рухацца па ім.

Што я магла? Ісці далей — магчыма, смерці насустрач? А ці прыслухацца да папярэджанняў майго страху і вярнуцца назад, на Святую Зямлю, а там далучыцца да нейкага сястрынства шчырых падзвіжніц? Я б і там не разлучалася з Богам. Ды ў чым воля Яго?

«У чым жа воля Твая?» — пыталася я, прыцішваючы голас і сунімаючы дрыжыкі.

Адказу не было. Толькі страшэнная стома нагадала пра сябе. І я легла адпачыць там, дзе прыпынілася, на пясок, які пачаў астываць. Пад галаву паклала Біблію, а да грудзей прыціснула ікону Маці Спасіцеля.

«У чым жа воля Твая? Скажы, прашу, у чым воля Твая!» — паўтарала я, засынаючы.

Зноў да мяне прыйшла Марыя Егіпецкая. І зноў яна выглядала не так, як старац Засіма яе апісаў. Магчыма, гэта маё толькі ўражанне, бо я заўжды ўяўляла, што ў Царстве Нябесным усе святыя — равеснікі Госпада нашага, незалежна ад таго, у якім узросце яны пакінулі зямное жыццё.

Прыснёная Марыя была з доўгімі валасамі, у кашулі колеру хваляў марскіх. Выглядала як дачка краіны пірамід і ўсміхалася загадкава, нібы сфінкс.

«Калі Яго воля, каб ты засталася ў Палесціне, то ці пасылаў бы Ён мяне, каб я адвяла цябе за Іардан?» — казала яе ўсмешка.

Мне стала сорамна з-за сваіх сумненняў і страху, які на гэтыя сумненні навёў.

«Я — тое ж самае, што і пясчынка, і камень, які з пяску паказваецца, і казюлька, якая паўзе каля маёй нагі, — падумала я, прачнуўшыся. — Я парушынка, у бязмежнасць кінутая. І толькі адна сіла можа мяне падтрымліваць — вера ў Госпада і міласць Яго!»

Ужо развіднялася, і я хацела ісці далей. А куды? Раней я выбірала кірунак, арыентуючыся па вялікіх камянях, асобных чахлых дрэўцах альбо хмызах. А цяпер вакол мяне быў адзін пясок, і вецер пустыні пазамятаў на ім усе мае сляды. Я не ведала, ні адкуль прыйшла, ні куды кіравацъ далей. Стаяла і азіралася, жадаючы знайсці кірунак далейшага шляху.

«Госпадзі, павядзі мяне туды, куды Ты вызначыў!» — папрасіла я.

І тады цішыню парушыў крык савы: адзін раз, другі, трэці. Сама сава сядзела непадалёку і пазірала на мяне.

Я запыталася: «А ці ты не пасланніца Ангела Гасподняга — як той воран, што калісьці дапамагаў прароку Іллі?»

Сава ўзнялася і паляцела.

Можа, у спалоху ад таго, што я рэзка павярнулася да яе? Ці мой голас яе напужаў? А магчыма, і так сабе, проста ёй надакучыла сядзець? Аднак мне хацелася верыць, што ўзмахі яе крылаў — адказ мне. І я пайшла за ёю.

Я верыла — і збылося.

Дзень за днём рухаліся мы. Сава гэтая была не зусім звычайнай. Яна зносіла сонечнае святло. І ў мяне ўзнікла пытанне, ці ўсе совы пустыні такія, а ці гэтая мая і ад іх адрозніваецца.

Сава была добрай і ўважлівай павадыркаю. У нязносную паўдзённую спёку знаходзіла мне цянёк дзе-небудзь пад дзюнай. Проста злятала ўніз

і ўладкоўвалася на пяску, накрыўшыся крыламі — і я разумела, што пара адпачыць.

Яна ўмела знаходзіць ваду, нават калі гэта былі дробныя кроплі ў расселінах каменя, і ўся тая вада магла змясціцца ў далоні.

Яна і карміла мяне, так, як воран карміў Іллю.

У той дзень, калі я даела апошнюю крошку хлеба, яна раптам спыніла палёт і спусцілася каля нейкай расліны. Заўважыўшы гэта, я не зразумела адразу, а потым пачула: «Іаан у пустыні еў зёлкі». Я не ведала, ці гэта сава перадала мне сваю думку, ці я сама ўспомніла напісанае пра Хрысціцеля.

Калі ж укусіла я зялёны лісток, то адчула яго прыемны смак і свежасць. І згадала, як Гасподзь казаў вучням: «Не турбуйцеся і не кажыце: што нам есці і што нам піць... Бо Айцец ваш Нябесны ведае, што вы маеце патрэбу ва ўсім гэтым».

З той пары, калі мая павадырка спускалася да нейкай расліны, я зрывала і ела яе. Так харчавалася. І за ўсе дні дарогі ніколі не адчувала ні голаду, ні смагі, ні знясілення ад голаду і смагі.

Чым сама сава кармілася, не ведаю. Напэўна, палявала, калі я спала. А так яна мяне толькі адзін раз пакідала.

Было гэта на трэцім тыдні нашага сумеснага падарожжа.

Звычайным адвячоркам сава спынілася перад агромністай скалою, якая ўздымалася з пяску падобна вежы, груба абчасанай і вызубленай рознымі вятрамі. Падышоўшы да скалы бліжэй, я апынулася на нейкай быццам бы сцежцы. А там на тле ўбачыла фінік. Праз пару крокаў — яшчэ адзін, далей — яшчэ. Так, маючы фінікі за вехі, я знайшла прахон у пячору, а затым і нейкае памяшканне ўнутры скалы. Мабыць, з-за памераў сваіх яно мне нагадала мой пакойчык у Царградзе. Сцены тут былі роўныя і нязмрочныя, да кожнага кутка дасягала сонечнае святло, што забяспечвалася, верагодна, дзякуючы своеасабліваму калідору. У глыбіні гэтага памяшкання стаяў водар паленых свечак — значыць, я не першая з утомленых спадарожнікаў, якія тут мелі прытулак.

«Якое ўтульнае прытонне на гэтую ноч! А яшчэ і смачная вячэра! Дзякуй Табе, Госпадзі!» — сказала я. Што праўда, заставацца тут я не хацела. Бо не ведала, ці ёсць на гэта Яго воля.

Я выйшла, каб і саве падзякаваць. Аднак маёй спадарожніцы не было. «Што ж, ёй таксама патрэбна вячэра. Напэўна, палюе», — вырашыла я. І шукаць птушку не пайшла, і не спрабавала нават яе клікаць. Была ўпэўнена, што раніцою яна будзе чакаць мяне перад уваходам, гатовая працягваць падарожжа.

Ды аказалася, што не чакае. Я некалькі разоў абышла скалу наўкол. Узіралася ў неба і ў далягляды. Марна.

Калі я ўсвядоміла, што сава ўжо не вернецца, адначасова з тугою мяне пранізала радасць. На душы ўсталяваўся спакой. Я зразумела, што фізічна для мяне шлях завершаны. Гэтая пячора — прытулак, які для мяне падрыхтаваў Гасподзь.

Сава сваё паслушанне Ангелу Госпадняму выканала. Цяпер я павінна была выканаць сваё паслушанне Госпаду.

* * *

Знікла адна сава, а з’явілася другая. Праўда, гэтая не з вышынь прыляцела, а прыбыла на вярблюдзе. Але і яна была паслана ад Бога. Я зразумела гэта, як толькі ўбачыла яе.

Адбылося гэта неўзабаве пасля таго, як я, упэўніўшыся, што мая сава адляцела далёка, пайшла шукаць ваду. Я ведала, што недзе блізка павінен быць калодзеж. Інакш Бог не вызначаў бы мне, каб тут жыла.

Напрамак, куды лепш пайсці, я выбрала нейкім унутраным чуццём. Не раздумваючы і не вагаючыся, упэўненая, што знайду патрэбнае.

Людзі, якія імкнуцца да Бога, часам удастойваюцца такой міласці. Гэта непаўторны і ні з чым не параўнальны момант падпарадкаванасці Богу, які ўсё ведае.

І я не памылілася. На адлегласці прыкладна ў гадзіну хады знайшла калодзеж. Невялічкі, але з чыстай і свежай вадою, пад трыма фінікавымі пальмамі — нібыта знакам Святой Тройцы.

Няспешна я змыла слой пылу з твару і рук, павольнымі глыткамі напілася і села, прысланіўшыся да пальмавага камля, каб падумаць пра міласць Божую.

І тады яе ўбачыла. Яна ішла прама да мяне. Суправаджаў яе мужчына з двума прыгожымі, убранымі вярблюдамі на повадзе.

Яна была яшчэ дзяўчынка. З чыстым поглядам і адкрытай усмешкаю. Падышла да мяне радасная, нібыта я была кімсьці, каго яна ўжо даўно чакае. Так, як будзе падыходзіць і потым, да канца нашых дзён. Раскрыла далонь і працягнула мне пернік, падталы ад цеплыні рукі.

Я ведала, што вучэнне Прарока і звычаі мясцовых плямён патрабуюць ад верных, каб выконвалі святы абавязак міласэрнасці ў адносінах да незнаёмцаў. Аднак усмешка і пачастунак гэтай юнай дачкі пустыні азначалі нешта намнога большае.

Мужчына, у суправаджэнні якога яна з'явілася, быў яе бацькам. Ён адпраўляўся на захад, на Святую Зямлю сустракаць купцоў і паломнікаў, і ведаў мову, на якой я гаварыла. У іхнім племені такі быў не адзін ён. Але з Зейнебай паразуменне я знаходзіла найлепш і з найменшай колькасцю слоў. Бо яна размаўляла сэрцам.

На другі дзень Зейнеба чакала мяне каля пячоры. Выйшаўшы, я ўбачыла, што дзяўчынка сядзіць, прысланіўшыся да гарачага каменя, захіленая ценем свайго вярблюда, і цярпліва чакае. Яна мне прынесла некалькі хлябоў і сукенку. Хлябы тонкія і на смак не падобныя да ўсіх тых, якія мне даводзілася есці раней. А сукенка чорная, такая, як носяць жанчыны пустыні.

«Пашыла для цябе, — сказала дзяўчынка. — І буду хлеб для цябе пячы».

І праўда, яна шыла мне адзенне і пякла хлеб. Прыносіла хлеб раз на некалькі месяцаў, і заўжды беспамылкова ў той час, калі ў мяне без яе хлеба ежы не заставалася. Між тым, запасы фінікаў я спажыла, а пустыня станавілася цалкам мёртвай, без ніякіх сакавітых зёлак.

Я прымала ад яе дары, усведамляючы, што гэта дары ад Таго, Хто заўжды ведае патрэбы кожнага дзіцяці Свайго.

Мне было вядома сказанае і запаведанае, што чалавек не можа абапірацца ні на каго, акрамя Бога. І я зразумела, што клапаціцца пра мяне яе натхніў Гасподзь. Яна гэтыя клопаты не адкінула і тады, калі, з гадамі, павінна была несці той цяжар, які нясуць усе жанчыны пустыні.

«Мая маленькая сава!» — так я называла яе. Праўда, толькі сама для сябе. Каб не расказваць пра іншую саву, бо, уласна, яна абедзве ўвасаблялі таямніцу Ангела Госпаднага.

Зейнеба для мяне была як люстэрка. І як пясочны гадзіннік, па якім я вызначала рух часу. Яны была для мяне і новай малітвай. У дадатак да тых, што яшчэ з Царграда прынесены. Шторанку і штовечара я асобна за яе малілася. Пазней — за яе і мужа яе; потым, адно да аднаго, дадавала імёны яе сыноў і дачок; а з часам і яе ўнукаў. Калі ж стала малітоўна памінаць імёны ўнукаў яе сыноў, тады ў маім жыцці адбылася вялікая змена. Гасподзь яшчэ раз паслаў да мяне Свайго вестуна.

* * *

Пустыня — месца найбольш паўнавартаснага спаткання з самім сабою, з усім чалавечым і боскім, што маецца ў нашай існасці. Але таксама і з дэманскімі сіламі. Тымі, якія звонку нас даймаюць, і тымі, якія знаходзяцца ў нас, а мы і не здагадваемся, што яны існуюць, ажно пакуль не настане іх час.

Гасподзь наш Іісус Хрыстос правёў у пустыні сорак дзён. Я, грэшная і недастойная раба Яго, каялася ў сваіх грахах і змагалася з Нячыстым сорак гадоў.

Сорак гадоў, калі мераць часам паўсядзённасці, гэта амаль цэлае жыццё чалавечае. Але што такое дні і гады, што такое час для Бога, Які стварыў вечнасць і Які ў кожным дыханні Сваім нясе беспачатковасць і бясконцасць? І што такое час для таго, хто ўсім сэрцам сваім, усёй душою сваёй імкнецца да Бога, хто, згінаючыся, ідзе Яго шляхам? Прычым ідзе не крок за крокам, а стапа за стапою. Спатыкаецца, падае, уздымаецца і працягвае ісці далей, паколькі не можа інакш: таму што ён Бога моцна палюбіў і таму што спазнаў любоў Божую; ён усведамляе, што не можа ведаць, калі дасягне мэты, ведаючы, што шлях нямераны. Бо як вымераць боль душы, прагнай Бога, і бяздонне спакус, і пакуты пры навучэнні любові да ўсіх, калі ў кожнага ўсё гэта па-свойму.

Сорак гадоў правяла я ў самотнасці, якую толькі часам, і даволі рэдка, парушалі прыходы Зейнебы. Сорак гадоў, штодзённа, з аднолькавым запалам і аднолькавай напружанасцю, як быццам гэта ўпершыню, змагалася я за ўратаванне душы сваёй.

Малілася за памерлых — за тых, каго нашчадкі даўно перасталі памінаць, — каб ім дасталася хоць крыху святла ў змроку забыцця. І за душы, якія галосяць ад жахлівых пакут у пякельным полымі.

Малілася за жывых, каб пакаяліся. За тых, якія грашаць, каб успомнілі пра законы Божыя; за праведных, каб не стамляліся падтрымліваць добрыя якасці; за гаротнікаў, цяжкім выпрабаваннем падлеглых, каб Гасподзь ім цяжар зменшыў; за тых, каго ніхто ўжо малітваю не падтрымлівае, і тых, хто не ўмее маліцца за сябе, — за ўсіх людзей, каб спазналі слодыч і сілу Божай любові. Слёзна малілася я за ўсё, што існуе, за ўвесь сусвет. І такім чынам знаходзіла суцяшэнне, здзяйсняла богапазнанне душы сваёй і малілася Духу Святому. А Гасподзь нам дае заўжды больш, калі мы з чыстым сэрцам просім міласці для іншых. Не для сябе, а для іншых.

Збоку гледзячы, усе мае гады былі падобнымі адзін на другі, і ўсе дні мае запаўняліся адным і тым жа. Я жыла паводле настаўленняў святога Іаана Златавуста і парад іншых святых айцоў, як дасягнуць духоўнага ўдасканалення. Малілася, чытала, спявала псалмы. І рукадзелля не цуралася: пляла з пальмавых галінак посцілкі ды кашолкі і аддавала іх Зейнебе. Думала пра святых падзвіжнікаў, пра Госпада і Яго запаведзі.

Цярпліва пераносіла нястачы, голад, начны холад і дзённую спёку пустыні. А таксама страх ад звяроў і гадзюк. Змагалася з рознымі спакусамі.

Усе свае слабасці выкладала перад Госпадам і Прачыстай Багародзіцай. Толькі так я магла перамагчы.

Вучылася розумам і сэрцам.

Гэта было маё жыццё, маё дыханне — богаўгоднае і душакарыснае.

Неспрактыкаванае вока не бачыць жыцця пустыні, яе таямніц. Для яго пустыня заўжды аднолькавая — мёртвая. Ды не. Пустыня ўвесь час жывая і зменлівая. Вятры хвалююць пясок, перасоўваюць дзюны, разносяць насенне і засыпаюць яго. Дажджы вымываюць камяні, абуджаюць насенне і сілкуюць яго. Сонца мяняе колеры і трапяткія абрысы ўсіх краявідаў. Насенню яно дае

моц, каб стала раслінай, каб расцвіло ў харастве колераў і форм. А потым забірае ў расліны жыццё. Але гэтая смерць, як і любая іншая, — прывід, зман. Бо расліна пакінула ўжо новае насенне, якое ў сухім пяску чакае дажджу і сонца. Як міласці любові Божай.

І я жыла так, як пустыня. А таксама, як насенне. Усе змены адбываліся ў маёй душы, якая цярпела пякельныя пакуты богапакінутасці і цешылася благадаццю жывой прысутнасці Госпада. Сілкавалася я цвёрдай верай, што Ён усюды прысутнічае і ўсё напаўняе. Той, Хто даў нам вушы, Сам усё чуе; Той, Хто даў нам вочы, Сам усё бачыць. І заставалася я ў нязменным і бесперапынным імкненні да Бога, прагнучы неапісальнай цеплыні Яго любові. Але ўсё гэта ведалі толькі мы ўдваіх — Ён, Гасподзь мой, і я, недастойная раба Яго, грэшная Параскева.

* * *

Жыццё ў пустыні я распачала з пакораю і ціхай, удзячнай радасцю. У поўнай згодзе з усім вакол сябе, таму што ва ўсім я бачыла Госпада, адлюстраванне Яго промыслу і любові. Адчувала Яго жывую прысутнасць. І не была самотнай, пакінутай на сваю немачнасць. Я ж абапіралася на моц Усемагутнага.

Так праходзілі дні і тыдні. А калі месяц у дванаццаты раз перамяніў свой выгляд, Вораг пачаў дэманічна змагацца супраць майго ўратавання.

Цяпер ведаю, што і гэта было з Божага папушчэння, паводле Яго промыслу, і пад нядрэмным вокам Яго ўсепрысутнасці. Але тады мне здавалася, што Бог мяне пакінуў, і гэтая страшная пустата богапакінутасці зеўрала вакол мяне як чорная сцюдзёная прорва.

Перш за ўсё пачаў даймаць голад.

Выявіўся ён аднаго ранку ў скрытных думках пра Зейнебу і пра хлеб, які яна прыносіць. Узмацніўся голад праз пытанне, калі Зейнеба з'явіцца — у гэты дзень ці пазней, а таксама, ці будзе хлеб такі ж смачны, як раней. Потым узнік страх, ці з'явіцца Зейнеба ўвогуле. А калі не з'явіцца? «А што, калі яе не будзе ні сёння, ні заўтра? Калі яна зусім больш не прыйдзе?» — пачала плакаць я. Гэта я, якая адправілася ў пустыню без ваганняў, якая ведала, што чалавек толькі на Бога можа спадзявацца і толькі на Яго міласць абапірацца. Аднак я ўжо стала як бы сама не свая.

«Калі ж прыйдзе Зейнеба? Чаму яе ўсё няма? Ці з'явіцца?» — увесь час роем віліся адны і тыя ж думкі. Яны перабівалі нават малітвы і псалмы. Прычым былі гучнейшыя за іх, значна гучнейшыя.

Нарэшце Зейнеба прыехала! І прывезла хлеб! Усю пячору запоўніў вабны пах яго — пранік у кожны куток, працяў кожны камень, закрануў кожную пясчынку. Ачмураная гэтым пахам і сваёй згаладнеласцю, я спешна працягнула руку і, зусім не ўсведамляючы, што раблю, пачала раздзіраць тонкі апляцак. Рвала яго рукамі і зубамі — як звер здабычу. Страўнік мой зводзілі сутаргі, а я прагна глытала хлеб вялікімі кавалкамі. З'ела адзін апляцак, два, тры. Ела, а ўсё роўна заставалася галоднай. Кожны кавалак здаваўся нейкім інакшым, быццам бы іншая ежа, таму зноў і зноў абуджаўся апетыт. На сваім паднябенні я адчувала даўно забыты смак і ненасытна абедзвюма рукамі запіхвала ў рот усё новыя і новыя кавалкі.

«Еш-еш... Калі хочаш, прынясу табе заўтра яшчэ... Толькі еш...» — азвалася шэптам, запінаючыся, Зейнеба.

І яна скінула завесу дэманскага падману, якой быў ахінуты мой розум.

Я адарвала погляд ад сваіх прагных рук і павярнулася да яе. Убачыла спалох і здзіўленне на яе твары. А таксама сябе ў яе вачах. Страшную выяву прагнасці... І падумала: «А такой жа і Гасподзь мяне бачыць!» Сорам ахапіў мяне — успыхнуў у сэрцы, на шчоках. Потым абярнуўся плачам, слязьмі немачнасці, пакаяння, страху.

«Не!» — сказала я, хутчэй сабе, чым ёй. І адвяла руку з хлебам ад свайго ненасытнага рота. Хутка, і з агідаю, нібыта змяю адштурхоўваючы.

Так пачаліся мае цяжкія пакуты першага змагання са сваёй слабасцю. Я поўзала па вузкай і стромай дарожцы, якая можа прывесці да Бога, але з якой можна і ўніз галавою рухнуць у бездань. У рукі таго, хто, скалячыся, чакае паўшых як сваю здабычу. Гэта ён, каб загубіць душу праведнага, уздымае буру лютых спакус на яе.

Страшнымі былі мае выпрабаванні.

Голад мяне зусім апанаваў. І гэта быў не той голад, які я раней ведала — калі сціскаецца страўнік, шкрабе ў горле. Такое я магла адолець, пажаваўшы скарынку хлеба, адзін-другі фінік, а то і проста глынуўшы вады. А тут не. Гэта быў голад іншы, незнаёмы. Голад, які падпарадкоўваў пачуцці. Ён нарастаў як хаценне і як боль, ахопліваючы ўсё нутро. Я прагла слодычы, прагла задавальнення. Зусім страціла спакой і раўнавагу. Нязменна, у сне і наяве, перад вачыма стаялі нейкія прывабныя стравы. Тыя, смак якіх я забылася яшчэ ў Эпіваце, і тыя, якіх я дагэтуль не толькі не каштавала, але нават і не бачыла. А вецер пустыні дражніў мяне іх пахошчамі. І абуджаў смагу, якую немагчыма спатоліць вадою. Часта, і ўсё часцей, я стала адчуваць у роце вязкі смак віна, а таксама дурманнае хваляванне крыві.

Ранейшую ежу я пачала ўспрымаць як атруту. Ад фінікаў і хлеба мяне рвала горкай сліззю, як толькі паднясу іх да губ. Не кажучы ўжо пра зёлкі. «Трава ж не для людзей!.. Гэта жывёла пасецца, а чалавек — харчуецца!» — даказваў нехта ўва мне. Той, з якім я, нявопытная і ў гэтай сваёй нявопытнасці разгубленая, не ўмела змагацца. Але хацела! Гасподзь ведае, што хацела.

«Ілля ж харчаваўся травою. Іаан таксама. І Марыя Егіпецкая. І многія богаўгоднікі, подзвігі якіх вядомы толькі Госпаду. Хіба яны — не людзі? Людзі, прычым да вобразу Божага найбольш падобныя», — пранікаў часам напамін, як праменьчык святла, у змрок майго розуму. Тады я, прысаромленая, па́дала на зямлю і абмывала зёлкі слязьмі раскаяння. Зрывала яго асцярожна і, неадменна прамаўляючы малітву падзякі, падносіла да губ так, як быццам гэта знаменне Святой Тайны.

І гэтак дні, тыдні, месяцы. У безупыннай абароне душы ад напасці.

Захілялася ад голаду я ручной працай, малітвамі, спевамі, думкамі пра спакусы, якія Гасподзь у пустыні перамог, пра пакуты, якія Ён цярпеў на крыжы. Але напасць не адступала. Кідалася на мяне так, як жорсткі паляўнічы сабака на сваю нямоглую здабычу.

Шмат разоў я збіралася пайсці да аазіса, да паселішча племені, каб знайсці ежу.

«Каб хоць раз наесціся. Маю ж я права здаволіцца пасля гэтулькіх гадоў устрымання», — думала я. Апраўдвалася перад сабою і перад Госпадам.

Але ведала, што калі туды схаджу, то ўжо не адзін толькі раз. І прадчувала, што калі гэтай дарогай пайду, то не спынюся ў аазісе, а падамся і далей — у Царград, у свет. У жыццё, якое пакінула. Каб наталіць свой голад.

«Гэтага ты хочаш?» — задавала сама сабе пытанне.

І адказвала: «Не! Хачу застацца тут, куды мяне Ён прывёў. Хачу выконваць волю Яго!» І паўтарала гэта, каб не забыцца, што іншай праўды, акрамя такой, няма. Ды і быць не можа!

У глыбіні сваёй душы, дзе ніколі, нават у моманты ганебнага падзення, не знікалі згадкі пра Госпада і дзе на самай справе адбываюцца перамогі ці паражэнні ў духоўнай барацьбе, я адчувала, што пакутую не па ежы і не з-за ежы. Гэта Нячысты, карыстаючыся немачнасцю майго цела, нападае на маю душу. А я павінна яе захаваць нават цаною жыцця. Бо са страчанай душой жыццё горш за смерць.

«А можа, гэта Ён хоча, каб ты вярнулася да свету?» — гучаў Спакусніка голас.

«Не, — адмаўляла я. — Не! Ён мне вызначыў гэты шлях і гэтае месца. І Ён не забаўляецца з чалавечымі сэрцамі. Нават калі выпрабоўвае нас, то не забаўляецца. Ён толькі правярае моц нашай веры. І я не здраджу Яму. Не!» — Так я адказвала сабе і слугам князя цемры.

І з дарогі да аазіса вярталася ў пячору, каб працягваць барацьбу за выратаванне душы сваёй. А ў скрушнай малітве прасіла Госпада, каб мне прабачыў, што пакрыўдзіла Яго сваёй няўстойлівасцю. Прасіла таксама, каб дапамог мне вызваліцца ад дэманаў, якія мацаваліся маёй немачнасцю.

Але Гасподзь адвярнуўся ад мяне. Так мне здавалася з-за маёй слабасці. І я ўсё глыбей па́дала ў бездань адчаю богапакінутасці.

Ды ўсё ж такі згадвала словы Яго: «Каб не зацяжэлі вашы сэрцы ад пераядання і п'янства...» — і напаміналa сабе пра святых айцоў, якія ведалі, што гэтая страсць — корань усялякага ліха, а перш за ўсё блуду. Бо і Адам учыніў першы грэх, прываблены плодам дзівоснага смаку і гожага для вока выгляду. І я не дазволіла сабе забыцца, што нават найсмачнейшая ежа хутка ператвараецца ў смурод.

«А я ж — не толькі тленнае цела. Ува мне прабывае Гасподзь. І калі кожны патрэбны для падтрымання жыцця кавалак ежы нагадвае мне пра смачныя стравы, будзіць прагу ласункаў, то я не буду больш есці. Калі смерць — мая зброя і знак маёй перамогі, то я гатова памерці», — сказала я сабе аднойчы.

І перастала прымаць ежу. Ваду таксама. На працягу дзён, ажно пакуль сілы зусім не пакінулі мяне. Тады — з жыватом, ахопленым болямі, і з памутнёнай свядомасцю — я легла на тло пячоры. З вобразам Госпада перад вачыма і іконаю Маці Яго на грудзях. Легла чакаць смерці.

Да мяне прыйшла Марыя Егіпецкая. Яна многія гады правяла ў гэтай самай пустыні, змагалася са сваімі пожудзямі, як з лютымі звярамі, і перамогі над імі здабывала ў славу Госпада, з любові да Яго. Яна асяніла мяне крыжовым знаменнем і правяла сваёй святой рукою па маім целе. Божая пасланніца, яна перадала мне знак міласці Яго. І мае пакуты спыніліся.

Так я, з Божай дапамогай, перамагла першую напасць, якая навальваецца на тых, хто да Бога імкнецца, — голад. Але нядоўга трывала маё супакаенне. Бо ўладар над усімі чалавечымі слабасцямі спакон веку стараецца загубіць душы праведных. І не супакойваецца.

* * *

«Існуе Бог, Які ўсё бачыць, таму не існуе сляпы выпадак», — даўно адзначылі святыя айцы.

І Ён, Бог, Які ўсё бачыць, папусціў, каб Злыдзень-ашуканец зноў накінуўся на мяне, слабасільную.

Пачалося гэта аднаго ранку, калі я пайшла да калодзежа, сама не ведаючы, нашто іду туды. У мяне дастаткова было і вады, і фінікаў. Але нешта падштурхоўвала туды пайсці — нешта ўва мне. Бударажыла неспакоем, перашкаджала маліцца і адпачываць. Проста цягнула. Нявопытнай і неасцярожнай, мне ў галаву не прыходзіла, што гэта падман. Што дарога туды вядзе ў пастку.

Спачатку я пачула шэпт, мяккі і гарачы. Потым смех, прыглушаны, грудны. А тады ўбачыла іх — Зейнебу і нейкага юнака. Яны стаялі пад пальмаю, працягваючы адно аднаму рукі, а поглядамі ўжо з'яднаныя. Такія погляды я ведала, памятала яшчэ з Эпівата і з Царграда. Так выяўляецца пачуццё дзявочай замілаванасці. А таксама і тое, што было ў шматлікіх зваротах маладога арыстакрата, які не адзін год прапаноўваў мне руку і сэрца.

«Мая маленькая сава — ужо не дзяўчынка», — падумала я з пяшчотай. Як маці, кранутая сталеннем свайго дзіцяці.

Нейкі момант вагалася, што мне рабіць. Разважала: «Калі пакажуся, то парушу чароўную таямнічасць іхняга спаткання». І вырашыла — схаваўшыся за дзюнай, каб яны не бачылі мяне, а я іх, — дачакацца, пакуль сыдуць. Чаму не вярнулася адразу ў пячору, не ведаю. Чаму гэта не прыйшло мне ў галаву? Уплываў, бадай, Злыдзень паскудны. Так, пэўна ж, было. І Зейнебу з хлопцам далей таксама ён павёў, каб усё атрымалася яму на карысць.

Прысеўшы за дзюнай, я зноў-такі ўбачыла іх.

Яны адышлі ад калодзежа і знайшлі месца, схаванае ад чужых вачэй. Ды апынуліся на маіх вачах. Я іх вельмі добра бачыла, а мяне яны і не заўважылі. «Калі ўстану, убачаць. І будзе так, нібыта я наўмысна паказваюся», — вырашыла я і засталася на месцы.

А такім чынам пабачыла тое, чаго не хацела і чаго не трэба было бачыць. Не з-за іх, а з-за сябе.

Няхай Гасподзь прабачыць, што згадваю пра гэтае ганебнае падзенне. Ды раблю гэта ў надзеі, што можа быць духоўная карысць тым, хто з такімі ж дэманамі змагаецца. Каб яны ведалі ўсе пасткі Злыдня лукавага і, можа, здабылі досвед, як ад яго бараніцца.

Таму вось расказваю і пра самае страшнае. У нейкі момант няўвагі і нетрываласці замест хлопца Зейнебы я ўбачыла таго юнака з Царграда. А потым на месцы Зейнебы — сябе!

Зман працягваўся хвіліну ці две. Колькі спатрэбілася, каб я ўсвядоміла гнюснасць сітуацыі — сваё падзенне і сваю пагібель. Тады мяне ахапіў страх, вялікі жах. Неймаверны і нязносны.

Але жаху папярэднічалі дрыжыкі неспадзеўнага задавальнення. Пяшчота, прыемнасць. І незнаёмая цеплыня, якая сагрэла мне рукі і шчокі. Сэрца таксама. І — як ні сорамна — улонне таксама!

«Госпадзі, памілуй!» — узмалілася я.

Зарыла твар у пясок, каб не глядзець на тыя першыя трымтлівыя дотыкі закаханых. І заткнула пальцамі вушы, каб не чуць іх пяшчотнага перашэптвання. Але марна. І відовішча, і гукі засталіся ў маёй свядомасці — жывымі, як наяве. Нячысцік уладарыў маім розумам і спяшаўся пранікнуць у душу.

«Госпадзі, дапамажы!» — звярталася я да адзінага, Хто мог прыпыніць яго захады.

«Госпадзі, не пакідай мяне!» — паўтарала доўга і пасля таго, як Зейнеба і яе любы пайшлі. А таксама і пазней, схаваўшыся ў сваёй пячоры. — Госпадзі, змілуйся!» — прасіла я адзінага, Хто мог быць мне апораю і даць сілы пры маёй слабасці.

Але Гасподзь пакінуў мяне. Каб я сама змагалася з нячыстай сілаю. Ці гэта мне толькі так здавалася.

Ды якія гэта былі пакуты!

Куды б ні пайшла, што б ні рабіла, усё адно адчувала жывую прысутнасць таго маладога царградскага арыстакрата. У пару свайго богаўгоднага дзявоцтва я на яго ніколі не глядзела. А цяпер, на што б ні зірнула, бачыла яго: кожны паварот зрэнкі і цень на твары, кожны рух цела, рук і вуснаў, калі ён гаворыць і калі маўчыць. Адчувала яго пах і любоўную сілу як прыцягненне.

«Уяві, як добра, напэўна ж, калі ты не ў адзіноце. Калі маеш некага побач — і для размовы, і для пяшчоты, для кахання. Уяві, якое, напэўна, цяпло ў Зейнебы вакол сэрца. А ты? Ты ў самотнасці, як тая пустынная кветка, што невядома дзеля чаго цвіце. І ты ж пустая. Нібы пячора, у якой ты сябе зажыва пахавала», — гаварыў нехта ўва мне. О, які гэты быў далікатны, прыемны і клапатлівы голас! Голас змея, які спакушаў Еву. Голас Евы, якая ўводзіла Адама ў грэх.

«Я не самотная. У мяне ёсць Гасподзь. І ні з кім размова не можа захапіць душу так, як размова з Ім. І ніхто не можа прапанаваць такой моцнай любові, як Ён. Таму што Ён Сам — любоў. Вечная і безумоўная», — супраціўлялася я дэманскім угаворам.

І вобразам Госпада закрывала аблічча прыгожага юнака.

Але князь цемры навальваўся на мяне з усё новымі карцінамі і помысламі, праз усё новыя падманы заваблівaў мяне ў тую самую пастку.

«Якую ж агіду, напэўна, выклікаюць помыслы мае ў Госпада! І ў Багародзіцы! Пэўна ж, Маці Божай прыкра з-за майго падзення. Маці заўсёды з болем успрымае бяду свайго дзіцяці», — разважала я, ахопленая страшным сорамам.

Кідалася ў плач, біла сябе ў грудзі, просячы Госпада і Маці Яго, каб мне прабачылі ды каб адганялі ад мяне помыслы, якія так бянтэжаць гаротную душу маю. Час ад часу мяне азорвала святло, і спакой усталёўваўся ва ўсёй маёй істоце. І пачынала здавацца, што я пераможца. Але не надоўга. Бо дастаткова было прыйсці Зейнебе ці нават адламіць хлеба, яе рукамі для мяне спечанага, каб зноў перада мною з'явілася карціна, як яна абдымаецца з любым сваім каля пясчанай дзюны.

Добра гэта ведалі святыя айцы і праўду казалі: «Нават адна сустрэча з мірскімі людзьмі можа абудзіць і ўмацаваць страсці, аслабіўшы ў падзвіжніка любоў да свайго подзвігу і змяніўшы яго нявінныя настроі».

«Зейнеба і я — не адно і тое ж, — нагадвала я сабе. — Зейнеба выяўляе свае пачуцці так, як яна ўмее, як ёй вызначана прамысленнем Божым. Яна кахае сэрцам, крывёю і плоццю. І яе паводзіны перад Госпадам не з'яўляюцца злом, грахом. А я — грэшніца. Я ж абяцала Богу і Ангелам, што буду жыць у чысціні і нявіннасці. І таму любое маё папушчэнне такім помыслам — страшны грэх. Апостал напісаў так: «Бо слова Божае жывое і дзейснае ... яно судзіць помыслы і намеры сэрца».

Каб захіліцца ад дэманаў, я думала пра сваю смерць, разумеючы, што яна можа прыйсці ў любы момант, і зусім без майго ведама. Задумвалася пра час Страшнага Суда Божага. З чым я прадстану перад Госпадам? Які адказ Яму дам, як буду апраўдваць сябе? Ці змагу стаць праваруч ад Яго, сярод благаславёных — тых, якія падвізаліся ў цвярозым розуме і ў чысціні?

Згадвала я дзеў, чые лёсы мяне ў юнацтве захаплялі, прыдаючы сілы абараняцца ад настойлівых залётнікаў і ад тых сяброўак, якім не цярпелася зведаць каханне.

Думала пра тую, што названа, як і я, па дні крыжовых пакут Ісуса. У яе закахаўся нейкі цар і хацеў за жонку сабе ўзяць. А яна, імкнучыся жыць толькі ў Госпадзе, калі ўжо не мела сілы супраціўляцца пожудным дамаганням уладара, запыталася: «Чаго ж ты ў мяне так закахаўся? Што я маю такога, чым адрозніваюся ад іншых?» — «Вочы! — адказваў цар. — Вочы твае зачаравалі мяне». Тады дзева сама вырвала свае вочы і паслала іх цару.

Але самымі дарагімі для мяне былі згадкі пра Феклу, роўнаапостальную святую, першамучаніцу з дзеў. Святы Іаан Златавуст сказаў пра яе: «Я, здаецца, бачу гэтую блажэнную дзеву, як яна прыносіць Госпаду ў адной руцэ дзеўства,

а ў другой мучаніцтва». Фекла прапаведавала Евангелле, цудатворнай сілай ацаляла хворых і звяртала многіх у веру ісцінную. Вельмі прыгожая аблíччам, яна ўвесь час вымушана была абараняць сваё дзеўства ад тых, хто хацеў узяць яе гвалтам, а калі гэта не ўдавалася, то яе абвінавачвалі як хрысціянку.

Калі Феклу аддалі на з'ядзенне дзікім звярам, тыя не кранулі яе цела. І калі ў агонь кінулі, Бог уратаваў яе непашкоджанай. «Хто ты? Якая гэта сіла ў табе, калі нішто не можа табе нанесці шкоды?» — у здзіўленні пыталіся няверныя.

«Я слуга Бога жывога, — адказвала яна. — І малітвамі да Яго ратавалася ад пагібелі».

«Госпадзі, малітвамі Тваёй мучаніцы, святой Феклы, спасі мяне!» — рыдала я. І валасы рвала на сабе, і драпала твар свой у адчаі.

А Зейнеба выйшла замуж. І нарадзіла сына, а потым яшчэ аднаго. Ды толькі калі ўжо выспеў і трэці плод яе ўлоння, я ў несупынных малітвах святой Фекле, у зваротах да яе з просьбамі паслаць мне сіл на дапамогу, знайшла нейкае супакаенне. Здавалася, нячысцік адступіўся, пераможаны. Ды не. Ён толькі схаваўся, затаіўшыся ў чаканні свайго часу. Каб праз іншыя слабасці і страсці даймаць мяне грэшную, слабасільную.

* * *

Святы Іаан Лесвічнік папярэджваў: «Калі памолішся чыста і шчыра, то неўзабаве будзеш падштурхнуты да раздражнення. Такі ўжо спрыт у нашых ворагаў».

О, я ведала, што дэман вельмі зайздросціць таму, хто моліцца, і прыкладае ўсе намаганні, каб адвярнуць яго розум ад малітвы, заблытваючы свядомасць усялякімі думкамі і ўяўленнямі. Таму я пільна сачыла, каб не паддацца на хітрыкі дэманавы, каб ён не перашкодзіў подзвігу шчырай малітвы і не перагарадзіў шлях да Бога. Часам злыдзень перамагаў, часам — я. Ды калі ён і адступаў у час малітвы, гэта было не надоўга. А потым нападаў на мяне яшчэ з большай жорсткасцю, пакідаючы пасля сябе атруту раздражнення ў маім сэрцы. У сэрцы, якое перад гэтым я ачышчала, клічучы Госпада.

Упершыню страсць гневу ахапіла мяне пры чарговай каверзе дэманскай — у выглядзе думкі, што Зейнеба робіць з тымі пасцілкамі і кашолкамі, якія я пляту і ёй аддаю. «Яна адносіць іх свайму роду, тлумачачы, што гэта я зрабіла, а ці выдае за сваё рукадзелле? А можа, і прадае? Бацька ж яе з-за гандлёвых спраў на захад караваны водзіць. Часам і муж яго суправаджае — сама ж пра гэта казала, не разумеючы, пэўна, што сябе выдае. А я тут сяджу і на яе працую, быццам нейкая рабыня. За гэта яна мяне корміць і апранае. За гэта! А не з любові і міласэрднасці», — думала я.

Гэтак раздражненне любую з'яву пераварочвае і ў таго, хто яму падпарадкуецца, адымае здольнасць разважаць.

Гэта ж я раздала бедным усё, што мой бацька нажыў, а мая маці пры ўдоўстве сваім захавала, гэта ж я намервалася быць такой, як мой Гасподзь, не хацела мець нічога, акрамя Яго любові і сваёй веры ў Яго... А тут раптам зачапілася за пару пасцілак з пальмавага лісця і працягвала складаць карціну падазрэнняў і абвінавачванняў, цалкам з цёмных каменьчыкаў і бруду. Прычым безупынна, з дня ў дзень і з ночы ў ноч. І ажно калацілася ды чырванню пакрывалася ад гневу.

«Хіба я стала такой? Няўжо гэта напраўду ты? Ці ж можа быць такой душа наша?» — дакарала мяне дзяўчына, якая калісьці даўно адправілася з Эпівата ў Царград, а потым з Царграда ў пустыню, шляхам, які для яе Гас-

подзь вызначыў. О, які жахлівы сорам ахапіў мяне, калі я паглядзела на сябе яе вачыма... І вачыма Госпада.

«Прабач! Прабач! І дапамажы!» — маліла я Яго. А ці тую дзяўчыну, якая ўва мне жыла яшчэ. Не ведаю.

Слязьмі я змывала змрок з душы сваёй. Аднак і слёзы мае былі як быццам замутнёныя. Бо гнеў жа не пакідаў мяне. Залез у маё сэрца, сядзеў там, як звярок з вострымі кіпцюрамі, і не даваўся, каб яго выкінулі.

Усё, што б ні сказала ці зрабіла Зейнеба, калола мяне вострымі асцякамі раздражнення. Я ўлічвала і тое, што яна магла зрабіць, але не зрабіла, і за гэтае нязробленае абвінавачвала. Нічога добрага для мяне ад яе, быццам бы, і не было. Усё, што звязана з ёй, мне замінала. Як я раззлавалася, калі яна прынесла паказаць сваё чацвёртае дзіця, а немаўля расплакалася ў цішыні пячоры.

З той пары, калі б ні прыйшла Зейнеба, сагнуты Злыдзень ува мне выпростваўся і, пэўна ж, вішчаў, кідаў грубыя словы, як камяні. Ён рабіў так, што аблічча госці выклікала ў мяне агіду. Прычым агіда толькі мацнела ад таго, што на твары яе з'яўлялася журба.

Потым, калі я заставалася адна, Ліхадзей рабіў выгляд, што ён ні пры чым і задаволена кпіў: «Гэта не я. Гэта ты сама!»

А я толькі плакала: «Не, гэта ты, а не я!»

Плакала я слязьмі немачнасці і раскаяння. Каб залатвіць сваю віну, спляла для дзіцяці Зейнебы пасцілачку, не падобную да ўсіх іншых, і назапашвала словы пяшчоты, якімі сустрэну яе, калі прыйдзе зноў. А яшчэ раздумвала, ці такія гэта словы, якія трэба будзе сказаць. І толькі гэтым быў мой розум заняты — узорамі посцілкі ды словамі для Зейнебы. Так што, зноў жа, замест малітвы і багамыслення я свае сілы і дні траціла на іншае.

А потым вырашыла, што буду маўчаць, калі Зейнеба прыйдзе, каб маўчаннем перамагчы дэмана. Нездарма ж Васілій Вялікі вучыць нас: «Пачатак душэўнай чысціні — гэта маўчанне». І Сімяон Новы Багаслоў раіць: «Праводзь жыццё сваё ў маўчанні, у цішы, і будзь мёртвы для ўсіх».

Але не было мне ратунку. Надта доўга распаляўся мой гнеў. Так што і пры маўчанні, і ў размове з самой сабою, і калі малілася, і калі ела хлеб, Зейнебаю прынесены, круцель мне шаптаў: «Зейнеба падманвае цябе!» І я зноў страчвала розум у тым самым бясконцым лабірынце.

Так, марнасцю заняты, праходзіў час. Пакуль, адной ночы, не адвергла я зламысны паклёп, сказаўшы: «Нават калі так, я ёй прабачаю. І Цябе, Госпадзі, прашу ён прабачыць. А таксама прабач і мне, грэшнай ды немачнай, у якой акрамя Цябе няма нікога!»

Тады мяне агарнула святло. І я на міг убачыла Яго! Кінулася на тло пячоры і ўсклікнула: «Гасподзь мой і Бог мой!» — так як некалі ўсклікнуў святы апостал Фама.

Гасподзь мой і Бог мой!

Ён даў мне знак вярнуць сабе чысціню сэрца. Паводле слоў вечнай ісціны: «Блажэнны чыстыя сэрцам, таму што яны Бога ўбачаць».

І д'ябал яшчэ раз адступіў перад усемагутнасцю любові Гасподняй. А таксама перад сілаю прабачэння. Каб было, як сказана: «І даруй нам даўгі наша, як і мы даруем даўжнікам нашым».

* * *

Князь цемры адступіў, аднак не сышоў назаўсёды. Ён хітра затаіўся і чакаў свайго часу, каб новымі круцельствамі заблытаць маю душу.

Новае спакушэнне пачалося як сон.

Я ішла полем у кветках, пад чыстым блакітным небам. Была такая святлынь, якую даводзілася бачыць толькі тады, калі мне яўляўся Гасподзь. «Петкана! Петкана!» — клікаў нехта мяне. І я спачатку поглядам накіравалася, а потым і рушыла на той голас, які пазнала: «Яўфімій!» І ўміг убачыла свайго брата. Каля яго стаялі нашы бацькі, а крыху воддаль — тыя, што былі мне дарагімі ў часы маладосці. О, як я ўзрадавалася! Паскорыла хаду, каб як мага хутчэй падысці да іх. А тады ўбачыла раку, якая нас аддзяляла. Яны былі на адным беразе, а я на другім. «Петкана! Петкана!» — клікаў бацька, працягваючы да мяне рукі. Маці плакала. Я таксама працягнула рукі да іх і намерылася перайсці раку. Але яшчэ да таго, як я ступіла ў ваду, пачалі нарастаць хвалі. Як жывыя. І ўтварылі сцяну — высокую, непраглядную, якая зусім засланіла ад мяне родных. Яшчэ толькі чуваць былі іх галасы, як паўтараюць маё імя. Гэта былі галасы ляманту, балючага перажывання.

«Няўжо гэта і ёсць вечнае блажэнства? Я ў святлыні Гасподняй, але ж адна, без тых, каго любіла», — задала я сабе пытанне, прачнуўшыся ад галасоў родных. І адчула, як мяне ахоплівае скруха, запаўняючы мяне ўсю, пранікаючы ў сэрца і розум. І выліваецца па твары слязьмі — вядома ж, не тымі благадатнымі, якія ачышчаюць сэрца і ўмацоўваюць яго, а тымі, якія з'яўляюцца ад шкадавання сябе, якія робяць сэрца размякчаным, сапрэлым, падлеглым любой спакусе. Аднак я не магла спыніць гэтыя слёзы. Дух скрушнасці ўжо авалодаў маёю істотаю і павёў душу да пагібелі, у адчай. Сапраўды, у ворага нашага немалыя спрыт і хуткасць.

Я згадвала ўсе свае пакуты, як гэта адбывалася. А маё напалоханае сэрца слязліва шаптала:

«А хто ж ведае, што яшчэ будзе!»

«Будуць старэчыя хваробы, нямогласць. Ды яшчэ цяжэйшыя выпрабаванні. Бо Гасподзь ад тых, хто ідзе за Ім, патрабуе толькі ахвяр», — задумвалася я. І адчувала, як гэтыя думкі мяне грызуць і труюць, спустошваюць маю душу, робячы яе змрочнай, слабой, няздатнай да цярпення і ахвяравання.

Намагалася маліцца і чытаць, але не здольна была. Спрабавала спяваць, плесці. Аднак рухі мае былі замаруджаны, а песні перарываліся, не даведзеныя да паловы. У мяне рваліся і словы, і пальмавыя лісты. Ленасць авалодала мною. І я, у асноўным, ляжала, таропячыся ў пустату, марудна ад стомы і скрухі перабіраючы адны і тыя ж думкі. І ўсё больш упэўнівалася, што я ўжо не ў стане працягваць свой няўкорны подзвіг.

«Ды і нашто гэта? — задавала я сабе пытанне. — Відаць, усе падзвіжніцкія намаганні марныя, а Бог для ўсіх нябачны і не мае значэння?

Магчыма, Бог недзе далёка, заняты іншымі справамі? Яму, бадай, і непрыемна, і цяжка турбавацца пра кожнага, хто б хацеў быць з Ім? А можа, і прысутнасць Бога, і пакінутасць Богам — толькі прыдумкі майго замарочанага розуму? То Ён ёсць, то Яго няма? Спасенне і вечнае блажэнства, мабыць, немагчымы? Альбо недасяжны для мяне? І нашто ж Ён, калі заўжды поруч кожнага з нас, калі ўсё бачыць, калі сапраўды з'яўляецца дзеталюбівым бацькам — нашто папускае тады падкопы Лукавага? Ведаючы ўсё, і маю душу таксама, нашто мяне Ён аддае на пакуты ў спакусах? А яшчэ хоча, каб я была ўдзячнай за тыя пакуты. Бо ўсе пакуты на карысць пакутніку. Аднак гэтая карысць не па волі пакутніка, а па волі Госпада. А гэтым, пэўна, сцвярджаецца Яго ўсемагутнасць і ўлада над душамі, альбо апраўдваецца недастатковы клопат пра нас, грэшных? А калі так, калі час ад часу мне яўляецца Дэман, прымаючы на сябе вобраз святла, то чаго мне быць у пустыні? І нашто ўсё маё жыццё?»

Такія пытанні я задавала сабе, і мала-памалу д'ябал пачаў мне ўсё добрае прадстаўляць як нядобрае.

Між тым, відаць, недзе ўва мне захоўвалася любоў да Госпада. Бо сказана: «Гасподзь ніколі не дапусціць згубы тых, хто спадзяецца на Яго». І яшчэ таксама: «Бог не дасць вам выпрабаванняў больш, чым вы можаце зносіць».

І адбылося так, як абяцана.

Прыгнечаная паныласцю, я ляжала, не маючы сну, але і ахвоты ўставаць таксама. І тут — на імгненне, аднак выразна — убачыла: лік Маці Божай на іконе ажыў, і ў вачах Яе слёзы! Які моцны боль працяў маю немачную душу! Бо я ж ведала, што сляза гэтая — з-за мяне і маёй нямогласці, з-за таго, што я не вытрывала нападзення дэманскага. «Прабач, Маці, мне, нягоднай!» — заплакала я слязьмі пакаяння і збаўлення.

Не ведаю, колькі часу я была ў такім стане. Цэлы дзень, і ўсю ноч потым; а можа, і другі яшчэ дзень. Слязьмі змываўся той бруд, які стаў пакрываць маё сэрца і вочы маёй душы. Паступова да мяне вярталіся сілы для пакаяння і для малітвы.

Я ўстала, без ніякай цяжкасці сагнула спіну, а вочы апусціла долу — каб памаліцца, у Міласцівага папрасіць ратунку. І тады аднекуль да мяне даляцелі словы, пра якія пазней даведалася, што іх, па міласці Гасподняй, запісаў Сімяон Новы Багаслоў. Гэта словы збаўлення. Я іх таксама паўтарала няспешна, кожнае слоўца суправаджаючы слёзнымі ўздыханнямі.

«Адыдзі ад мяне, Сатана! — прамаўляла я. — Госпаду Богу майму пакланюся і Яму адзінаму буду служыць, і любыя пакуты, і найбольшую тугу прыму з удзячнасцю, як пасланае мне ад Яго, дзеля ачышчэння грахоў маіх, як напісана: Буду цярпець гнеў Госпада, бо Яму саграшыў! А на цябе, на галаву тваю, няхай няўдзячнасць і хула ўпадуць, няхай іх на цябе Гасподзь запіша. Дык адступіся ад мяне! Бог, Які стварыў мяне па вобразе і падабенстве Сваім, няхай цябе кіне пад ногі і спаліць».

Потым я ўпала на калені, узвяла рукі да неба і ўсклікнула: «Госпадзі, дапамажы мне прагнаць яго! Я ведаю, што гэта ён — падман, ліха, змрок! А Ты — святло, святло свету! І я жадаю жыць у Табе!»

Напэўна, крык маёй душы быў угодны Госпаду. Напэўна, Міласцівы прыняў маю малітву, маё пакаянне. Бо чарната вакол мяне знікла. Прапала, як цень. А яна і была не больш, чым цень. Цень аблічча дэманскага. Святлынь заліла пячору. І абліла мяне ўсю. Пранікла ў маю душу, у розум, кожную думку зрабіўшы яснай і чыстай. І ўсё тое, што я ведала з пропаведзяў, з напісанага святымі айцамі, цяпер я сама ў сабе адчула. Я спазнала, што Ён сапраўды ўсё робіць нам на карысць — з любові да нас і дзеля нашага ўдасканалення. І мая вера ў Госпада стала мацнейшай, чым калі б ні было раней, а любоў да Яго ні з чым непараўнальнай. І невымернай.

* * *

Ды не адставаў Спакуснік, нібыта далучыўшыся да маіх маленняў — промнем святла і прыемным напамінам.

«О, Петкана! — казаў ён, ці гэта я сама сабе, паводле яго думак, казала. — Ты перамагла ворага. Ты на сваім вопыце спазнала пакуты падзвіжніцкія, сцярпеўшы іх. Ты зведала адзіноту ў пустыні, перанёсшы яе. Ты далучылася да шэрагу мудрых дзеў і святых айцоў. У наш час няма нікога, хто б такія пакуты перажыў, хто б мог быць настаўнікам табе. А ты можаш быць настаўнікам для ўсіх».

Ён так гаварыў, а я прымала кожнае слова за чыстую праўду. Была ахоплена радасцю перамогі і сапраўды сабою задаволена. Я ж прыйшла ў пустыню і без асаблівых грахоў сваіх тут грахі адмольвала, у пякельных пакутах трыва-

ла. І перамагла Боганенавісніка. Гасподзь мяне адзначыў Сваёй благадаццю і нябеснымі відзеннямі. А Ён аддае заўсёды па заслугах. «Параскева, падзвіжніца роўнаангельная», — прашаптала я. І потым шмат разоў паўтарала такое, нібыта сама сабе молячыся. Пры гэтым адчувала, як кожнае слова, кожны гук напаўняе сэрца маё, як ад гэтага радасць падхоплівае і ўзносіць маю душу. Здавалася, што мая душа можа ўсё — для яе ўжо немагчымы падзенні, нават спатыкненні. Яна самадастатковая.

Гардыня сапраўды з’яўляецца адрачэннем ад Бога. Таму гардыня — корань і плод усялякага зла. Бо там, дзе няма Бога, усё дазволена.

Ды я на той момант яшчэ не заўважала новай і самай небяспечнай пасткі Лукавага. І блізкасці сваёй пагібелі.

Гасподзь папусціў, каб Нячысцік мяне новаю спакусаю выпрабоўваў.

О, як лёгка душа сама сябе падманвае, калі хоча! Лёгка яна ляціць да згубы сваёй на крылах вычвар самалюбнасці і гардыні. А цяжка ёй адпрэчваць пахвальбы дэманскія.

«Пара ўжо, каб свет ведаў пра твае подзвігі. Ты павінна расказаць пра свае дабрадзецелі, каб тым, хто пачуе, карысць была», — пераконваў мяне Злыдзень. А я не пазнавала яго. Нават не ведала, гаворыць гэта хтосьці звонку ці з мяне, ці гэта я сама. Такая моц у нашага ліхадзея, каб памуціць розум, які не сцеражэцца.

«Ты будзеш прыкладам і пабуджэннем для іншых. Такім чынам будзеш ратаваць людзей, якія гінуць», — настаўляў мяне ён. І я паверыла, што магу так рабіць, што гэта мой абавязак.

Адчула, як ува мне нарастае гонар. А панізнасць, забытая па нядбайнасці, змяншаецца і прападае.

«Пара ўжо пакідаць пустыню. Свет чакае цябе. А тут намаганні твае нікому, акрамя цябе, не патрэбны», — пераконваў мяне Злыдзень.

І я ўжо амаль паддалася на гэтыя ўгаворы. Гатова была бессаромна хваліцца сваімі подзвігамі. Але, усё ж такі, мне рабілася балюча пры думцы, што трэба пакінуць пустыню.

Ён, хітры і спрактыкаваны, відаць, адчуў мае ваганні. Бо наваліўся з яшчэ большай жорсткасцю.

«Ты прабыла тут дастакова. Іншых падзвіжнікаў свет славіць — спявае ім трапары і малітвы, людзі просяць у іх міласці і благаславення. А ты?»

«Не людзі іх славяць, а Гасподзь, па волі Сваёй, праславіў», — запярэчыла я, хоць і вагалася, ці ўзвышэнне святых цалкам успрымаць як волю Госпада, а ці, параўноўваючы з сабою, крытычна паставіцца як да іх, так і да Бога.

«Ты ж таксама гэтага заслужыла!»

«Ну, так. Але мне, магчыма, прызначана, каб мае подзвігі засталіся невядомымі для людзей», — задрыжала я, збянтэжаная такой несправядлівасцю.

«Хіба гэта справядлівасць Божая? — падсыпаў Лукавы солі на маю рану. — Чаго ж іменна твае подзвігі павінны забывацца? І хто пра іх даведаецца, калі не будзе абвешчана?»

«Будзе ведаць Гасподзь», — сказала я, больш па звычцы так гаварыць, чым па волі сэрца.

«Гасподзь? А табе што з таго? Якая табе карысць ад таго, што пастух будзе ведаць: яшчэ адна авечка бляе каля яго ног?» — захоплена пачаў удакладняць Боганенавіснік. Ён захапіўся, відаць, таму, што быў перакананы ў сваёй уладзе нада мною. Напэўна, так. Але выдаў сябе сваімі словамі. А я? Калі богазневажальны сэнс таго, што ён сказаў, дайшоў да майго ачмуранага і разгубленага розуму, я сцепанулася.

«Гасподзь так бы ніколі не сказаў!» — падумала, ашаломленая сумненнем.

«Дарэмна ты тут пакутуеш, знемагаеш, высушваешся, быццам фінік. А зусім засохлы фінік — тое ж самае, што вярблюджы памёт. Яго можна хіба што ў агонь кінуць! Ідзі ў свет, і свет цябе ведаць будзе!» — працягваў Подлы.

Ён выдаў сваю гнюснасць. Міласцівы ж праяўляў ласку ў адносінах да мяне. Ён заўсёды пільнуе нас і не дапускае, каб душа, якая да Яго імкнецца, трапіла ў залежнасць ад ліха.

«Так можа лічыць толькі Нячысцік. Той, які падбухторвае, які гвалтам і падманам адбірае ў людзей душы. А Гасподзь нам дазваляе выбіраць, каб мы па сваёй волі ішлі шляхам веры, любові і надзеі. Нездарма сказана: «Хто стукаецца, таму адкрываецца» — зразумела я.

І тады як быццам Гасподзь зняў завесу з маіх вачэй і майго сэрца. Я ўбачыла, наколькі страшная калужа граху, у якой качаюся; усвядоміла глыбіню прорвы, у якую падала. Прыгадала, як святы Антоній папярэджваў, што перад Богам усе грахі — мярзота, але самы наймярзотнейшы з усіх — гардыня ў сэрцы. У мяне хлынулі слёзы; і сорам, што пакрыўдзіла Бога, стаў нарастаць імклівa, агортваючы мяне ўсю, перахопліваючы дыханне і адымаючы сілу.

У адчаі я ўпала на зямлю і стала безупынна паўтараць імя Гасподняе, тады як цела маё скалынaлася ад рыданняў. Я дакарала сябе:

«І Душагуб скінуты з неба з-за гардыні. Ён паверыў у сваю магутнасць без волі Божай і ўзганарыўся. Пасля гэтага ён увесь час нападае, але ніяк не можа перамагчы Наймагутнейшага. Яму ганарлівыя служаць. А я хачу служыць Госпаду».

Самадакорамі я замяніла самаўсхваленні. Але было ўжо, як быццам, позна, і пагібель мая, нібыта, настала. Акурат так, як гаварылі святыя айцы: «Калі ахопяць нас славалюбнасць, сябелюбнасць і гардыня, тады прападае ў нас усё багацце, якое мы з цяжкасцямі сабралі. Гардыня нам не дазваляе ўдасканальвацца, і нават з дасягнутай вышыні скідае. Яна адбірае і ў прах ператварае ўсе духоўныя каштоўнасці, якія мы набылі раней».

О, як страшна зеўрала пустата ў маім сэрцы! Якой спустошанай была мая душа! Я была зусім няшчаснай і, здавалася, пакінутай без надзеі — спатыкнуўшыся, упала і пачала ісці на дно самага змрочнага балота. Зноў, як гэта снілася некалі ў Царградзе, вакол мяне кішэлі змеі. А ўва мне сядзеў страх.

Сказана ж: «Не паспее чалавек выпрастацца, як зноў падае». Таму Гасподзь, як знаўца душ, часта хавае нават тыя добрыя якасці, якія мы набылі.

«Той, хто ўзвышаецца, будзе прыніжаны», — напісана. І гэта сапраўды, сапраўды так.

Славалюбства і гардыня з'яўляюцца лёгка і непрыкметна.

А пакорлівасць нараджаецца з болю, малітвы, слёз.

Таму я плакала і малілася.

Мне было сорамна за ганарыстасць маёй душы. Я ўсвядоміла: нішто з таго, што я лічыла сваімі подзвігамі, на самай справе не было маім, бо сілы мне Гасподзь даваў. Прыгадалася, колькі разоў мяне чакала пагібель, і без Яго міласці мяне б кожная злыбеда магла знішчыць.

Я задумалася пра страх, жах і рыданні, з якімі стаяла перад Богам у сваёй самотнай малітве, пра тое, як многа я не ведала.

«Як я магу быць упэўненай, што мае справы ўгодныя Госпаду? Што я сапраўды ведаю пра іншых падзвіжнікаў, пра пакуты іхніх душ — з чым яны змагаліся і якія нягоды зносілі ў дабрадзейных памкненнях жыць дасканала, якімі былі іх шляхі да спасення? А хто ведае, ці я блізка да спасення? Хто ведае, акрамя Госпада?» — задавала я сабе пытанні.

І ўжо ніколі больш не пераставала параўноўваць сябе з гэтымі свяцільнікамі веры Хрыстовай. Я думала пра ўсіх дзівосных падзвіжнікаў, праслаўле-

ных Госпадам за перамогі над дэманамі. Згадвала, як часта Лукавы падпарадкоўваў мяне сваёй волі. І бачыла, наколькі сціплыя і нязначныя мае подзвігі ў параўнанні з іхнімі. Асабліва, калі мець на ўвазе пакуты святых дзеў.

Прысаромленая і засмучаная, гаварыла я сабе: «Ніколі, ніколі не змагу быць такой, як яны! Усё, што я раблю, — зусім мала перад імі, як і перад Госпадам. Ды і гэтае малое было б немагчымым без Яго і міласцівай падтрымкі Яго. А Сам Ён быў ладодны і ціхамірны. Агнец Божы. І ўсім слуга».

Гэтак дакараючы сябе перад Госпадам, я змагалася з дэманамі.

А было гэта маё самае цяжкае змаганне. Бо насенне зла прарасло. І, насуперак маім стараням, яно буяла, разрасталася і пагражала ўсю мяне пакрыць. Толькі шчырым трываннем, самадакорамі, асуджаючы сябе сама перад Госпадам, і богаўгоднымі помысламі я ачышчала сваю душу. Паскуднік, падкраўшыся да мяне, нашэптваў: «Ну вось, ты змагла!» — І я зноўку пáдала, правальваючыся ў прорву пакінутасці Богам.

І так гадамі. Пакуль аднойчы сабе не сказала: «Гасподзь мой атрымаў і гэтую перамогу! І выратаваў мяне. Гэтаксама Ён будзе заўжды атрымліваць перамогу над табою, Атрутнік свету. Цяпер, заўсёды і ў вякі вякоў! Амінь».

Склаўшы ў замілаванні рукі, я ўпала на зямлю. А сэрца маё напоўнілася самаасуджэннем і пакораю перад Усемагутным.

Тады ён, змрок свету, адступіў. І прапаў перад ззяннем Імені Госпада.

* * *

Калі сыны Зейнебы сталі воінамі, Гасподзь прыпыніў атакі Наймярзотнейшага на маю душу. Тады я стала жыць у ціхамудрасці і без страху. Ды асцярожнасці не страчвала, памятаючы, што князь цемры назусім не адыходзіць. Ён толькі адступае і, затаіўшыся, чакае свайго часу. Заўжды гатовы на любыя подласці і падманы.

Аднойчы перад маёй пячорай расцвіла кветка — неймаверна прыгожая, быццам бы з райскага саду. Такіх кветак я ніколі раней не бачыла. Але чула ад Зейнебы, што ў пустыні ёсць расліны, якія цвітуць толькі адзін раз на перыяд чалавечага жыцця. У такой адзінай кветцы Усявышні паказвае ўсё хараство свету. «Можа, Гасподзь яе мне цяпер паслаў?» — падумала я з удзячнасцю. І падышла да кветкі, каб прытуліць свой твар да яе пялёсткаў. Водар яе быў прыемны, вельмі прыемны. «Калі ты ад Госпада, то мне гэта міла. А калі ты падман, спакуса Нячысціка, то знікні», — сказала я і наклала знак крыжа. Пры імені Усемагутнага Госпада кветка ўміг распалася, быццам яе ніколі і не было. А я доўга дзякавала Міласціваму за тое, што дараваў мне магчымасць абараніцца.

Пасля гэтага я тое самае гаварыла і рабіла, чаго б ні датычылася — травінкі, воблака, зоркі на небе, пераліваў святла ад сонечных промняў на сцяне пячоры, малых птушачак з раскошным апярэннем, якія садзіліся каля маіх ног ці на плячо.

Я змагалася, каб не прымаць помыслаў, якія вораг роду чалавечага мне час ад часу навязваў, рашуча адвяргаючы той самы першы, які Лукавым умела пасылаецца ў якасці намёку.

«Прападзі, ліха, і прыйдзі, дабро!» — казала я, адганяючы злыя думкі і прыклікаючы добрыя. Тыя, якія могуць быць душы на шкоду і на пагібель, замяняла тымі, якія спрыяюць духоўнаму ўдасканаленню.

Калі не магла адолець нядобрыя помыслы ніяк інакш, я супрацьпастаўляла ім сваю малітву, а да яе дадавала малітву Ісусаву. Такім чынам ахоўвала свой розум — рабіла яго глухім і нямым, замыкала ў сэрцы. А пры гэтым без-

упынна ад усяго сэрца малілася Госпаду, творачы малітву цярпліва і з вялікім спадзяваннем.

«Госпадзі, Ты прыйшоў дзеля дабра людзям, насуперак сілам зла. Прашу Цябе, Пераможца, словамі прарока Давіда: «Будзь супернікам для супернікаў маіх!» Так я прасіла. І Ён пачуў мяне. Я ўсё больш адчувала малітву і прысутнасць Бога ў сабе. Усё часцей і ўсё даўжэй мы былі адно. Душа мая ўзносілася да боскага. У ёй гарэла полымя невыказнай радасці, а ў сэрцы збіралася неймаверная слодыч. Розум мой лунаў у замілаванні, у бясконцых прасторах вечнасці. Я перастала зважаць на ўсё часовае, побач існуючае, на сябе самую таксама. І пра наша адзінства ў Госпадзе магла сказаць словамі Сімяона Новага Багаслова, якія дайшлі да мяне:

«О, цуд! Бачу ўнутры сябе Тварца свету і размаўляю з Ім, і люблю Яго, і наталяюся Ім, і, яднаючыся з Ім, уздымаюся да нябёсаў. А дзе ж тады цела? Не ведаю. Бо Гасподзь прымае мяне ў Самога Сябе, Ён мяне ў абдымках трымае. А покольκі Ён і на нябёсах, і ў маім сэрцы, то я бачу Яго і тут, і там».

Я адчувала тое, пра што дабравесціў апостал Павел. І, знаходзячыся ў такой радасці, не хацела выходзіць з пячоры, больш таго — жадала схавацца ў нетрах зямлі, каб адтуль, з-за межаў бачнага свету, увесь час глядзець на свайго Бессмяротнага Уладара і Тварца.

Аднак ніколі не забывалася я пра мудрыя словы таго, хто, дзякуючы міласці Божай, вызначыў лесвіцу, па якой належыць уздымацца да Бога. «Не адчувай сябе пэўным, пакуль не ведаеш прысуду. Многія скінуты з неба, хоць былі святымі і бесцялеснымі», — папярэджваў святы.

І калі Гасподзь пасылаў мне благадаць, я змірана Яму дзякавала, а потым згадвала свае грахі: успаміналa, як неаднойчы падала, як бянтэжыўся і падманваўся мой розум, апынаючыся ў цемры; як страсці мне сэрца атручвалі; як гнілымі пладамі я карміла душу сваю; як часта страчвала благадатную цеплыню і зрывалася ў ледзяную бездань богапакінутасці.

Пры гэтым ніколі, ніколі не пераставала я смуткаваць — так, як смуткавалі і святыя айцы: «О, немачны мой дух! Ён гасне, быццам слабы агеньчык ад ветру. Калі ж мой дух умацуецца, каб стаць такім, як дух святых, і вецер спыніць?»

Я не забывалася, што была немачнай і ў сваёй немачнасці скоранай, з зямлёю зраўнянай. А памятаючы ўсё гэта, дакарала сама сябе перад Госпадам.

Мне было зразумела, што па промысле Божым папускаецца, каб цемра свету зацягвала нас, і што гэта дзеля нашага ўпакорання. Спакусы робяць нас мацнейшымі, і лепшымі, як навучаў некалі мяне мой брат Яўфімій. І я дзякавала Госпаду за ўсё, чым Ён набліжаў мяне да Сябе, ачышчаў маю душу, каб я выразна бачыла Яго святло. А таксама сэрца маё, каб чула кожнае слова Яго.

І калі Ён рабіў так, што змяншалася благадаць Яго ўва мне, я не палохалася, як раней. Калі надыходзіў змрок боязі і выпрабаванняў, я ўспаміналa, што Ён сказаў: «Я святло свету». А калі налятаў сцюдзёны вецер богапакінутасці, згадвала Яго абяцанне: «Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку».

Я верыла Яму. Ведала, што Ён заўжды побач са мною. Як і побач з усімі, хто Яго шукае і сэрцам прыклікае.

Я нязменна адчувала Яго жывую прысутнасць усюды вакол сябе. І разумела, што апостал Павел меў на ўвазе, калі казаў афінянам: «...Бо мы Ім жывем і рухаемся...» Я разумела таксама Давіда псалмаспеўца, які паводле свайго вопыту сцвярджаў: «Усюды бачу Госпада. Ён па правы бок ад мяне, каб я не спатыкнуўся».

## Змрок свету

Тыя, хто ўжо ведае канец гэтай гісторыі, пэўна, гатовы маё ганебнае паражэнне, маё бяссілле на смех і здзек выставіць, радуючыся пры гэтым. Мы ж, якія змагаліся не на жыццё, а на смерць, і не ведалі зыходу барацьбы, падстаў для радасці не мелі. Я ў тым ліку. А яна шчыра падзвіжнічала і пакутавала — зносіла крыжовыя пакуты Госпада свайго, як будуць пазней гаварыць папы і паэты.

Дзесяцігоддзі яна і я несупынна вялі між сабою барацьбу, не здабываючы канчатковай перамогі. Да канца яе жыцця. Як гэта і павінна быць. Таму што са смерцю наступае пара апошняга і канчатковага рашэння: каму будзе належаць душа — Яму ці мне, Пастыру ці зверу?

Нямала тых, якія ўжо былі маімі, а ў смяротны час ад мяне адступіліся, вырваліся. У той момант, калі разлучаецца з целам, душа ўсведамляе свае грахі і, глыбока раскайваючыся, просіць міласці ў майго праціўніка. А Ён прабачае. Быццам бы паводе Сваёй міласэрнасці і Ойчай любові да сваіх заблукалых авечак, як гэта гаворыцца ў іхняй смешнай казачцы.

Ды нямала і тых, чые душы я схапіў у астатні час. Пры жыцці яна, бывала, ні туды, ні сюды — ні Яго, ні мая. А перад смерцю, змучаная хваробамі ці разгневаная тым, што павінна адыходзіць, пачынае зневажаць Бога як падманшчыка і здрадніка. Прычым ганіцца так, як бы і я не змог. Тады, ачмураная, ляціць проста да мяне ў абдымкі.

Аднак гэта я не прыпісваў сабе як перамогі. Такія ачмурэлыя душы лічыў толькі стратамі свайго праціўніка, а сам не надта ім радаваўся. Разумею, што ў гэта цяжка паверыць, бо ўсе мяне ўспрымаюць як увасабленне зла, думаючы, што любая пагібель мне сэрца лашчыць, што я падманшчык без гонару і сумлення. Гэта ўсё так. Я сапраўды падманваю, наводжу на зло, ведаю таямніцы ўсіх пакасцяў. Але і мне лёгкія перамогі не даспадобы, асабліва над тымі, якія самі паддаюцца.

Нудны гэта занятак — падбіраць душы, якія здаліся без супраціўлення. Ды і не адпаведны майму спрыту, вопыту. Я ж майстар адбіраць, падманваць, ачарняць. Там, дзе само па сабе ўжо чорна і брудна, мне няма чаго рабіць. Няма ўзбуджэння, задавальнення. Туды я толькі дэманят сваіх пасылаю падтрымліваць пэўны парадак, сачыць, каб хтосьці не сапсаваўся і не павярнуўся да Бога.

А яна — якая душа гэта была! Чыстая, сумленная, звернутая да Бога і богаўгодных спраў. Яна заўжды пыталася: «Ці па Тваёй волі, Госпадзі, тое, што я раблю?» Трымцела ў малітве, плакала над чужымі лёсамі, міласэрна да ўсіх ставілася. Была гатова на любую ахвяру, каб дагадзіць свайму Госпаду. Такія мне найбольш падабаюцца! І я захоплена марыў: «Вось такую душу злавіць — гэта перамога!»

А тыя дробныя душы, якія чарвякамі ўюцца каля маіх ног, толькі марныя клопаты задаюць — то гэтага просяць, то таго. Яны як быццам да Бога звяртаюцца, а ў сапраўднасці мяне клічуць. Бо ў іх жаданні такія — мае, як вы б сказалі, нячыстыя. І сэрцы, ад якіх яны моляцца, такія ж. Яны па сто разоў просяць: «Госпадзі, спыні ворагаў маіх!» І ніколі не папросяць: «Госпадзі, спыні і мяне, калі я вораг для некага!» Ох, гадзяняты мае мілыя, дзеткі мае!

Колькі разоў мне даводзілася чуць, як у царкве жанчына заклінае, каб гром спаліў яе суперніцу, альбо каб мутная рака панесла яе мужа, а яе зрабіла багатаю ўдавою, якая б магла шукаць уцех у многіх абдымках, пакуль не знойдзе самыя прыемныя.

І мужчыны тое самае. Моляцца дзеля сваіх похацяў і гардыні. Шукаюць заробкаў у сумніўных справах, поспехаў у жорсткіх войнах, блудных перамог над пристойнымі жанчынамі.

Не верыце? І Пастыру часта бывае цяжка паверыць, калі чуе, чаго просяць авечачкі Яго. А гэта праўда. Людзі такія. Мы іх такімі стварылі.

А яна — малілася за спасенне душы сваёй: каб ніколі не парушыць волі Госпада; каб усім добра было; каб усе да Бога звярнуліся і ў Яго міласці шукалі для сябе шлях. А па тым шляху я не мог быць праведнікам. Якраз таму і прыкладаў так многа намаганняў, каб яе з гэтага шляху звярнуць.

О, як я выкручваўся вакол яе! Чаго толькі ні рабіў, каб прываніць да сябе. Прыдумляў розныя падвохі і пакасці, ставіў пасткі. Быў заўсёды пры ёй у пустыні. Драмаў у кутку яе пячоры, лавіў імгненні слабасці — калі інакш міргне вокам, уздыхне, — каб напасці, як толькі адчую належны стан.Ператвараўся ў дзікіх звяроў. Чым толькі ні быў — тыграм, ільвом, змяёю, кракадзілам. А яна казала: «Адыдзі ад мяне, Сатана! Гэта можаш быць толькі ты. Такіх звяроў тут няма». Начамі я грукаў па яе сценах, лётаў вакол яе, закручваў паветра ў вір. А яна казала: «Нічога ты не зробіш мне, Лукавы! Са мною Гасподзь!»

Яна сапраўды не баялася мяне. Я ёй быў толькі агідны — як вораг чалавечы, лукавы, згорблены, ліхі дэман, гаспадар слабасцяў людскіх, губіцель душ, змрок свету. Гэткія найменні яна мне давала.

А я аднойчы нават у пахучую кветку ператварыўся — толькі б яе заманіць! І ледзь сам не затхнуўся ад свайго паху. «Калі ты не ад Госпада, то прападзі!» — сказала яна спакойна. Абачлівая. Таму і няўлоўная. У яе ледзяное сэрца да ўсяго, апрача Госпада і Яго вучэння.

Усе мае намаганні былі марныя. І калі яна стамлялася, гэта былі не мае перамогі. Яна паддавалася мне толькі ўтомленым розумам. А сэрцам ніколі. Яна была падобнай да тых старцаў, што гэтак жа, як яна, таўкліся ў глухіх кутках і гаварылі: «Я — пячора. І сэрца маё — пячора. І ў нас ёсць месца толькі для Бога».

Неаднойчы я страчваў сілы. Мяне ахоплівалі маладушнасць, сумненні, страх. І я падумваў, што лепш заняцца якой-небудзь іншай душою — не такой чыстай і моцнай. Аднак не мог пакінуць яе ў спакоі. Проста не смеў. Бо каб стала вядома, што барацьба са мною можа быць кароткай і лёгкай, то многія б уступілі ў змаганне. А можа, і перамагалі б.

Колькі разоў мне здавалася, што яна ўжо мая, што ёй ужо няма куды дзецца! Ды не. Яна заўсёды вызвалялася, у апошні момант — калі мне здавалася, што я ўжо схапіў яе, што яна ў маіх руках, і трэба толькі сціснуць пальцы... А яна вырывалася і адлятала, як дым, як цень. Такой моцнай была яе вера авечкі. І любоў Пастыра да яе.

Ён толькі задаволена ўсміхаўся. І падымаў яе, калі спатыкнецца, працягне да Яго рукі і прамовіць імя Яго. «Падзвіжніца Мая роўнаангельная!» — так Ён гаварыў. Напэўна, гэта неяк яна пачула, бо пасля тых ласкавых слоў плакала. Вельмі чуллівая і кранальна. Так што аж моташна!

Якой яна была, такой і засталася. А я спадзяваўся да апошняга часу, да апошняга ўздыху. Яе, вядома ж. І калі яна раскрыла вусны, каб выпусціць душу, як птушку, я распасцёр рукі, намерваючыся яе злавіць. Прычым я бачыў, што разам з душою вылецелі і апошнія словы. І я, прызнаюся, не страчваў надзеі. А ведаеце, што яна сказала? Э, не ведаеце! А я вам паведамлю, хоць гэта словы, якія сведчаць пра найбольшае маё паражэнне. Паўтару вам, нічога не крыючы. Бо і ў мяне часам узнікае жаданне расказаць праўду — хоць бы дзеля разнастайнасці, каб самому ўпэўніцца, што гэта такое. Дык вось, яна сказала: «Слава Богу за ўсё!» Можаце сабе ўявіць?! Можаце? І смеяцеся з мяне? Ну што ж, смейцеся! Маеце права смяяцца! Дурні і пераможаныя не заслугоўваюць нічога іншага, апроч насмешак.

## Дачка пустыні

Маё імя — Зейнеба; так звалася і дачка Прарока.

Яе імя — Петкана. Гэта ўсё, што яна мне сказала пра сябе. А я для яе сорак гадоў шыла адзенне і пякла хлеб.

Я была дзяўчынкай, калі яна прыйшла ў пустыню. Тут яна дажыла да сталых гадоў. А калі адыходзіла, здавалася, што я старэйшая за яе.

Жыццё ў пустыні цяжкае. Нават для нас, якім яно ад продкаў спадчынна перайшло. Тут спёка ў поўдзень змяняецца марозам у поўнач. Дажджы ідуць рэдка і нядоўга. Вады мала, ежа сціплая. Моцныя і сухія вятры дзьмуць, выштукоўваючы дзіўныя формы з камянёў, разносячы пясок, мяняючы месцазнаходжанне і выгляд дзюнаў. Калі сціхаюць, краявід становіцца зусім іншы, непазнавальны — быццам бы нейкі падман.

А яна палюбіла пустыню так, як сапраўдная дачка нашага роду. І хадзіла між дзюнаў так упэўнена, нібы яе хтосьці вадзіў.

Але пачну па парадку — з таго досвітку, калі я прачнулася вельмі рана і ў прораз шатра глядзела, як мой бацька збіраецца ў дарогу, пакідаючы аазіс. Мне тады вельмі захацелася адправіцца разам з ім. «Я хачу пабыць адзін: глядзець на пясок і аблокі, слухаць вецер і арлоў», — казаў мне бацька. Але я так моцна ўхапілася за вуздэчку яго вярблюда і так ласкава, з трымценнем і бляскам у вачах, прасіла, што ён урэшце згадзіўся-такі ўзяць мяне.

Калі ж я стамілася ад язды на вярблюдзе, бацька пакіраваў да калодзежа, каб асвяжыцца. Гэты калодзеж мы называлі малым, адрозніваючы ад вялікага, каля якога склалася паселішча нашага племені.

І там я ўбачыла яе. Яна сядзела, прыхіліўшыся да пальмы, змораная. «Яна не нашага роду, і адна. У яе ж тут нікога няма...», — падумала я, адчуваючы, як мяне ахоплівае жаль.

І цяпер мне здаецца, што словы тыя з’явіліся не ўва мне. Хтосьці мне іх шапнуў — лагодна, быццам бы заклікаючы да спагады, а разам з тым і як бы ўводзячы ў абавязкі, якія зробяць маё жыццё інакшым. «Ніколі не пакіну яе ў адзіноце», — паабяцала я. Таму нябачнаму і ёй. Яшчэ да таго, як падышла бліжэй, да таго, як нашы погляды сустрэліся.

На другі дзень я занесла ёй сукенку, чорную. У нас колерамі адзення гаворыць сэрца жанчыны: ці то яно чакае, каб напоўніцца любоўю, а ці ўжо любоў прыняло, напоўнілася. Я пашыла для яе ўбор замужняй жанчыны. Неяк упэўнена была, што сэрца яе ўжо вызначылася, і ніхто больш не можа яго заваяваць.

«Невядома, што за бяда прывяла яе да такога жыцця, — разважала мая маці. — Праўда, бывалі ў пустыні і раней тыя, што гэтак ці падобна жылі. Пра іх расказвалі старыя людзі нашага племені. Ды, зноў жа, яна жанчына. А дзеля чаго Бог жанчыну стварыў, вядома».

«Напэўна, грахі нейкія замольвае. Хто ведае, які цяжар на душы яна ў пустыню прынесла...» — шапталі тыя, што ва ўсіх знаходзяць заганы і ва ўсім бачаць нячыстае, мярзотнае.

Такія размовы кранаалі мяне за сэрца — пякуча, як укусы лютых мошак.

А я была дзяўчынкай спакойнай, цярплівай. Шанавала ўсе законы племені. Саступала дарогу старэйшым, маўчала, пакуль не звернуцца да мяне, а на пытанні адказвала, вочы апусціўшы долу. А вось яе ў крыўду не давала! Не! Хоць і маці з-за гэтага злавалася, і бацька дакараў. Усялякія размовы пра яе спыняла рэзкімі словамі, гледзячы проста ў вочы таму, хто асмельваўся нешта гаварыць пра яе. «Яна нічога не хавае! Ёй няма чаго хаваць!» — даказвала я, плачучы. А шчокі ў мяне палалі ад злосці і ад сораму з-за несправядлівасці ў адносінах да яе.

Між тым, была ў яе нейкая вялікая пакута, скруха. Відаць, даймаў боль, які яна цярпела гады. Я заўважала гэта: у яе пагаслым, ад безнадзейнасці, поглядзе; у падобным да ліхаманкі трымценні; у бязвольных і нязграбных рухах; у голасе, які ёй ледзь-ледзь служыў нават на пару слоў, калі яна звярталася да мяне. Я заставала яе і распасцёртай на тле пячоры, калі яна роспачна плакала і біла сябе далонямі па твары, счарнелым ад пылу і слёз. Тады я хуценька адыходзіла, нават не азываючыся, каб ёй не было сорамна ад маёй прысутнасці. Я здагадвалася, што прычына яе пакут — любоў. «Толькі жанчына, якая ўсім сваім сэрцам прывязваецца да некага, можа так пакутаваць», — лічыла я. Але нікому пра гэта не гаварыла, захоўвала гэта як яе найвялікшую таямніцу. Хоць сама яна нічога ніколі не гаварыла мне.

Дзіўнымі былі нашы адносіны. Словам «сяброўства» ніхто б іх не азначыў, хоць якраз яно самае адпаведнае.

Ці была я нечым істотным у яе жыцці? Не ведаю. Магла б сказаць, што была. А таксама, што не. У залежнасці ад таго, як разважаць, чаму прыдаваць большае значэнне.

Бачыліся мы рэдка — тры-чатыры разы на працягу года. Між тым, я была адзінай чалавечай істотаю, з якой яна тут сустракалася. Ды, зноў жа, яна пры сустрэчах асаблівых пачуццяў не выяўляла.

Я для яе шыла сукенкі, пякла хлеб, думала пра яе. Яна прымала маю падтрымку без супраціўлення, аднак і без асаблівых падзяк, падобна да таго, як дзіця ўспрымае плён матчыных клопатаў — як нешта само па сабе зразумелае, паколькі Бог так наказваў. Пры гэтым абедзве мы ведалі, што можна абысціся і без падзяк.

Клапаціцца пра яе для мяне было радасцю. Гэта рабіла маё жыццё больш напоўненым, а мяне — адрознай ад іншых жанчын. Я ганарылася Петканай, як асаблівым і вельмі каштоўным упрыгожаннем майго жыцця. Як каралямі на шыі.

Я любіла яе. Але, разам з тым, ніколі не спрабавала яе суцяшаць. Адчувала, што не маю сапраўдных слоў для яе.

Наогул, з ёю цяжка было завесці размову, любую. Справа ў тым, што яна ніколі ні пра што не пыталася, і ніколі не пярэчыла. Аднак нешта ёй гаварыць было прыемна, бо яна ўмела слухаць, мякка ўсміхаючыся, нібыта ўсё разумее. Гэта рэдкі дар. Людзі звычайна любяць самі сябе слухаць, толькі часам згаджаючыся паслухаць тое, што ім нехта скажа.

Я Петкане давярала ўсё сваё — з адкрытым сэрцам, шчыра, як перад Алахам. А яна пра сябе не расказвала. Быццам бы няма ў яе ні мінулага, ні цяперашняга.

«Яна адважная, як нашы воіны. Яшчэ і больш. Таму што сама добраахвотна выбрала жыццё ў самотнасці, адвержанасці. Яна цярпліва нясе свой цяжар і не стараецца яго скінуць, — разважала я. — Мне, народжанай у пустыні, страшна было б адной застацца нанач у такой, як яе, пячоры. А яна вось ноч пры ночы адольвае свой страх і яшчэ горшае — адзіноту. Гэтулькі гадоў, гэтулькі бясконцых дзён і начэй, яна адна. Ніхто не возьме яе за руку, ніхто не пацалуе ў вочы, ніхто не скажа ласкавага слова. Як гэта можна вытрываць? Ёсць, напэўна, для яе нешта даражэйшае за ўсё? А што ж гэта, вартае такіх ахвяр?» — задавала я сабе пытанні.

Адзін мудры старац з нашага племені расказаў мне, што хрысціяне прыносяць таксама іншыя ахвяры свайму Госпаду — гэтак яны завуць Алаха і Яго Сына. Бо іхні Алах і Сына ма́е. А ў астатнім не намнога адрозніваецца ад нашага.

Я гэтага не зразумела, паколькі жыла па законах, якія Джабраіл перадаў Прароку. Я сведчыла, што няма бога, акрамя Алаха, старалася рабіць добрыя

справы і малілася ў вызначаны час. Выконвала ўсе абавязкі жанчыны, якія Прарок запісаў: была паслушнай дачкою і пакорлівай жонкаю, клапацілася пра сваіх дзяцей. Але ніколі б не змагла з-за любові да Алаха адмовіцца ад звычайнага жыцця. «Як гэта можна Бога любіць больш за маці і бацьку, больш за дзяцей і мужа? Якім жа павінна быць сэрца, каб так любіць Усявышняга? І што дае душы такая любоў?» — задавала я сабе пытанні. А папытацца ў яе пра гэта ніколі не адважвалася. Мне здавалася, што гэта няёмка. Быццам бы дакор ёй выкажу.

Я часта і многа думала пра яе. І многа яе шкадавала. Больш за ўсё ў моманты сваіх вялікіх радасцяў і захапленняў: калі закахалася; калі дзяцей нараджала; калі мой муж вяртаўся шчаслівa з далёкай краіны па другі бок Іардана і прывозіў мне хусткі, туфелькі і духмянасці, якіх не мела ніводная жанчына ў пустыні; калі мае сыны жаніліся, а дочкі выходзілі замуж; калі ўнукі, а потым і праўнукі нараджаліся. Тады я дзякавала Алаху, што так шчодра адорваў мяне сваёй міласцю і напаўняў мае рукі. А яе ж рукі, я бачыла, былі пустыя. І мне было яе шкада. Вельмі шкада.

Аж пакуль не пачула, што яна таксама дзякуе Богу за Яго міласць і дары бязмерныя... Так яна шаптала: дары бязмерныя. Яна малілася ў нейкім азарэнні, узвёўшы рукі да нябёсаў і гледзячы на аблокі, нібыта бачыць нешта, што ёй толькі паказваецца. Тады я ўпершыню задумалася, наколькі розныя жаданні людзей і патрэбы іх у тым, што можа напоўніць сэрца. А Бог жа добра гэта ведае і кожнаму дае тое, што яму патрэбна.

Гэта было тады ўжо, калі з'явіліся ў маіх сыноў сыны. Яна крыху змянілася: набыла супакоенасць, большую упэўненасць у рухах і поглядзе, а вочы гарэлі нейкім асаблівым святлом — нібыта ўгледзелі іншы бок свету. Пры гэтым яна стала яшчэ больш мяккай і лагоднай, чым была. Ды ўсе тыя змены былі такія малапрыкметныя, што я іх не столькі бачыла, колькі адчувала. Напэўна, у яе душы адбыўся нейкі істотны перапалом. А з чым гэта звязана, мне заставалася невядомым. Магчыма, яна знайшла тое, чаго шукала? А ці змірылася з думкаю, што чалавек ніколі не можа атрымаць усяго, чаго прагне душа?

Ёсць яшчэ адно, што захавалася ў маёй памяці гэтак жа добра, як тыя моманты, калі мы ўпершыню сустрэліся і калі яна адышла.

У нас некалькі гадоў не было дажджу. Тады малы калодзеж перасох. І ў калодзежы вялікім, вакол якога склаўся наш аазіс, таксама заставаліся толькі кроплі нейкія. Мы ведалі, што недалёка той дзень, калі ён таксама перасохне. Усе запасы вады канчаліся — кожнаму чалавеку племені выпадала не больш чым па глытку на дзень. Тады старэйшыны вырашылі пакінуць месца, у якім многія з нас нарадзіліся і правялі ўсё сваё жыццё, ды адправіцца на пошукі новага прыстанку.

Я пайшла да Петканы, каб расказаць пра гэта і паклікаць, каб яна ішла з намі. Бо я ж памятала, што пры першай сустрэчы клялася: ніколі яе не пакіну адну.

Яна, зняможаная ад смагі, сядзела ў дальнім куце пячоры, спінаю прыхіліўшыся да сцяны, і слабым, ледзь чутным голасам прамаўляла малітву.

«Святы прарочa Ілля! — шапталі яе сухія патрэсканыя вусны. — Некалі ты замкнуў неба над Ізраілем, каб тры гады і шэсць месяцаў не ўпала ні кропля дажджу, пакольki людзі забыліся пра Бога Адзінага. Малю цябе, адамкні цяпер неба над гэтай пустыняй, каб яна ажыло!»

Гэта былі звычайныя словы. Аднак неапісальная любоў, з якой яны прамаўляліся, глыбокая малітоўная засяроджанасць, чысцюткі погляд Петканы і яе абсалютны давер да таго, каму яна малілася, і ўва мне абудзілі трапяткую надзею.

Я, нягледзячы на ўтому і спёку, пабегла хутчэй у аазіс, а там загукала:

«Людзі, стойце! Пачакайце! Будзе дождж! Будзе! Петкана сказала!..»

Людзі глядзелі на мяне са здзіўленнем. А некаторыя спачувальнаківалі галовамі — маўляў, ці то шайтан заўладарыў у маёй душы, ці то спёка выпражыла мне розум. І ўсе працягвалі памалу, як здужалі, спакоўваць рэчы, якія можна было наўючыць на знясіленых вярблюдаў.

Адна я сядзела нерухома. Таму што паверыла ў сілу яе малітвы. Таму што хацела верыць.

«А што калі дождж не пойдзе? Калі яе Прарок не пачуў?» — засланялася час ад часу надзея сумненнем. Але сумненне я рашуча адкідала. Вырывала яго з карэннем, як атрутнае зелле.

Увечары пайшоў дождж. Кароткі, праліўны. Як звычайна. І пустыня ажыла. Людзі і вярблюды таксама.

Як калісьці даўно, яшчэ малой дзяўчынкаю, стаяла я, раскрыліўшы рукі і ўзняўшы твар да неба. Вада шчодра лілася з нябесных крыніц на мае валасы і шчокі. А з ёю змешваліся мае слёзы — палёгкі, радасці, новай надзеі.

О, якой шчаслівай я была! Як я радавалася за сваё племя! І за яе, Петкану, радавалася.

«Я бачыла, як ты малілася, просячы дажджу. І дождж пайшоў. Ты, што — чараўніца?» — запыталася я на другі дзень.

А яна лагодна паглядзела на мяне і адказала: «Гасподзь заўжды міласцівы да тых, хто моліцца шчыра, з любоўю».

Я добра яе разумела. Мабыць, таму, што словы праўды падобныя ва ўсіх веравызнаннях.

У маіх сыноў ужо былі ўнукі, калі мы з Петканай рассталіся. Мы абедзве былі старымі. Але на ёй гэта не заўважалася. Мой твар высушылі вятры пустыні, яе ж аблічча свяцілася.

Што яна адыходзіць, я здагадалася, калі тады ўбачыла яе.

Упершыню апынуўшыся ў аазісе, яна ішла проста да майго шатра, як быццам безліч разоў бывала тут. Пры ёй была нейкая кніга, дзве карціны з выявамі яе Госпада і Маці Яго, а яшчэ мех з вадою. Я дала ёй хлеба і новую сукенку.

Рассталіся мы гэтак жа, як і сябравалі, — без лішніх слоў. Мяне акружалі сыны маіх унукаў, якіх яна сама назвала імёнамі траіх мудрацоў з Усходу. Мы абедзве плакалі: я па ёй; яна — па пустыні, а крыху, можа, і па мне.

«Мая маленькая сава», — сказала яна мне пры развітанні. Я і па сённяшні дзень не ведаю, што гэта значыла.

Правялі яе мае сыны і сыны маіх сыноў. Ажно да Іардана.

«А далей я сама», — сказала яна. Спынілі вярблюдаў. Яна злезла, яшчэ раз паглядзела на кожнага асобна і прамовіла: «Няхай Гасподзь вас благаславіць!» — і пайшла, не абарочваючыся.

Мы бачылі, як яна з берага асяніла раку знакам крыжа і пайшла па вадзе спакойным крокам — так, як некалі, расказваюць, хадзіў яе Гасподзь.

Вось і ўсё, што нам вядома. А я вельмі, вельмі любіла яе, маю Петкану.

***Працяг будзе.***

***Пераклад з сербскай Івана Чароты.***

## Слабадан ВУКАНАВІЧ



### ШЧЫРЫ СЯБРА БЕЛАРУСІ

Слабадан Вуканавіч ужо некалькі гадоў запар на пачатку восені прыязджае з Чарнагорыі ў нашу краіну на Дзень беларускага пісьменства. Калі ў які з гэтых дзён побач з ім не аказваецца цудоўны перакладчык і светлай душы чалавек Іван Чарота, мы спрабуем паразумецца, выбіраючы з велізарнага слоўнікавага запасу сербскай і беларускай моў (кожны са сваёй) словы, больш-менш зразумелыя адно аднаму. З кожным годам нам усё лягчэй размаўляць, і кожная новая сустрэча напаўняе сэрца большай радасцю.

Мне даводзілася чуць, як Слабадан Вуканавіч чытае свае вершы. У яго чытанні ёсць нешта касмічнае, і ў гэты момант сама сербская мова ўяўляецца пасланніцай космасу.

Паэзія нашага чарнагорскага сябра няпростая для ўспрымання, яна патрабуе ад чытача працы думкі, але працы, якая сапраўдным аматарам прыгожага пісьменства дорыць вялікую асалоду. Тут дарэчы будзе згадаць, што Слабадан Вуканавіч — заснавальнік цэлага паэтычнага накірунку, які па-беларуску можна назваць *паэмувіз*. Гэта своеасаблівае спалучэнне паэзіі, музыкі і візульных сродкаў. Кожная яго новая вершаваная кніга, выдадзеная ў Чарнагорыі, як правіла, мае шырокі рэзананс. А ў яго іх выйшла не так і мала: «Любаістота», «Зорнае пер’е», «Запісы з касеты карабельнага дзённіка», «Касмічнае перасяленне Монтэнегра», «Крылатыя рыбы нясуць залатавуснага манаха», «Хаты пахнуць туманамі», «Не для далікатных» (выдадзеная, між іншым, у форме плаката) і іншыя. Ёсць у яго зборнікі, на старонках якіх суседнічаюць паэзія, проза і драматургія. Ёсць кнігі, адрасаваныя дзецям. Дарэчы, дзякуючы школьным праграмам па літаратуры творы Слабадана Вуканавіча добра вядомыя чарнагорскім школьнікам. А ўвогуле яны трапілі ў дзясяткі анталогій, выдадзеных у розных краінах свету, яны перакладзеныя на албанскую, англійскую, арабскую, балгарскую, італьянскую, польскую, французскую і многія іншыя мовы свету. І вельмі прыемна, што ў гэты пералік з поўным правам можна дадаць і беларускую мову, на якой вершы паэта гучаць вельмі хораша, яднаючы сабой дзве культуры, два народы, лішні раз даказваючы, як сказаў калісьці незабыўны Максім Багдановіч, што «ўсе мы ляцім да зор».

***Алесь Бадак***

## ЧАЛАВЕК-КОЛА

Шлях шукае ў гарах
Заблукалы вандроўнік
Без крылаў
Без лодкі
У возеры трохгаловы дракон

Замест саломінкі
Мастоў будаўнік даў яму трыванне
Замест пёраў
Ахоўнік арлоў даў яму мудрасць
Замест дужасці
Тлумачальнік сноў адарыў яго марай

Зрабіўся вандроўнік
Чалавекам — паветраным шарам
Чалавекам — ядром
Чалавекам — колам

У люстра глядзіцца
Адгадвае таямніцы
Вымярае час

А цяпер ён Спячы ў Каменным доме
Вястун на гары Трох Смакоўніц
Абаронца для Стракazы
Ахоўнік таямніцы Прынцэсы рыбаў
Стаў ён паказальнікам дарог для заблукалых

## АПОШНІ ВАНДРОЎНІК
### (Легенда пра Чалавека)

Вымяралі яго мілімікронам
Вымяралі яго метрам
Вымяралі яго кіламетрам
А потым светлавым годам

Ён быў слімаком
Ён быў газеллю
Ён быў святлом

Вандроўнік з мікраарганізмаў
Вандроўнік з крыві
Вандроўнік з пла́цііны

Сіла перавядзе яго ў легенду

Сышоў вандроўнік — Астролаг
Сышоў вандроўнік — Чалавек-Камета

Наступіў выбух Чалавека-Чыпа
З Чалавека-Чыпа стварылася Абалонка
Пазірае на нас вачамі алмазу
І сэрцам пла́ціны

Застаўся без радзімы сваёй
Чалавек-Астролаг
Чалавек-Чып
Чалавек-Выбух

Ён стаў вандроўнікам вечным
Гарыць тысяча светлавых год
Ім захапляюцца ўсе
Легенда зыркая, але сумная

Ён быў слімаком
Ён быў газеллю
Ён быў святлом

У крыві ёсць тэрмін прыгоднасці і захавання
Плаціна — у вечнасць дарога

## Я СЛУХАЮ ПРАГНОЗ ПАДЗЕЙ

З дрэвастою міфаў
Спакусна прадуцца казачныя ніці
Хор сірэн уваскрашае легенды нябесныя
Саржавеў компас
Малююць нам карты перамяшчэння

Мана — парнаграфія лютасці
Раз'юшаны Злагор нацягнуў маску прыгажосці
і дабрыні
Ён прываба для легкадумных
Кожны ягоны рух — наш лёс

Міфаў туман агарнуў рэчаіснасць
У слязах кракадзілавых плыве памылковасць
Скавыча помста
Статак чакае руху
З рога чаканіць крок войска

Настаўнікі нашы падрыхтавалі нам клеткі
Тэрыторыю і лёс
Для нас гэта пастка, а для іх замак

У доме родным я слухаю прагноз падзей
На сподачку кавалачак сонца

З вачэй у мяне расце аліва
На ровары страху мчуся з завязанымі вачыма

Нашы сэрцы — святлафор страху
Званочкі пачуццяў
Мы абаронцу шукаем
А пасля гэтага мы ўжо інакшыя
Мы — на кавеньцы вузельчык
А абаронца — гэта кавенька

У доме родным я слухаю прагноз падзей
Тапельцу вада не дапамагае
А саломінка дужа кароткая
На сподачку кавалачак сонца

Не спрачаюцца аб густах
Нацыянальныя стравы цяпер у модзе
Замест компаса
Карыстаюцца відэльцамі і нажамі

У доме родным я слухаю прагноз падзей
Ападкі слізгота і ўсё падобнае
Выкіньце і… замест компаса
Магчыма і дапаможа
Саломінка кароткая
Шчаслівымі будзьце калі ў вас на сподачку
застанецца кавалачак
Гэта нагода для свята
Хор прасталюдзінаў дырыжора чакае

## ПРАЛЬНАЯ МАШЫНА

Стоўпішча хваль, пеніцца, коціцца.
Вуліца — Тэрор Галасоў.
Галасы выводзяць петлі на шыі.
Рушаць старое, гнілое, смярдзючае.
Ківаюць прамоўцы Пальцам Гісторыі.

Новае праганяе Старое.
Усё зносіць паводка.
Тонуць у водавароце нават удалыя плыўцы.
Тугадумы ахопленыя Сумнівам.
Шукаюць мышыную норку.
Завязлі,
Ні ўвайсці, ні выйсці.

Караткадумы ў чаканцы.
Арда клетку ладуе.

Моляцца Тугадумы Розуму і Трыванню.
Галасы выводзяць петлі на шыі.
Хіба мы чулі і бачылі?
Туман праглынуў нашу памяць.

Хто не быў у дарозе, прыбыў.
Хто бег, усё шчэ бяжыць.
Мы лічым дні.
Яны — пазнакі і даты паўстанняў усіх і рэлігій.
Адзін заклік направа — Гузікагаловыя ўключацца.

Нават у парку няма адпачынку.
Меч занёс Коннік медны.
Тугадум загортвае кнігу.
З кнігі паўстае сонца.

Новыя Старэчых — у клетку.
Дрэсіроўшчыкі памяняліся месцамі.
Палітыка бярэ пачатак з гісторыі.
А заканчваецца матэматыкай.
Гадамі і колькасцю ўдзельнікаў.

А пакуль вы дабрадушна гуляеце на вуліцы,
Нехта ўжо задумваецца аб лічбах
І момантах гістарычных.
А дальш… усё па-старому…
Гісторыя — гэта машына пральная.

## НА ПАЛЬМАХ СПЕЮЦЬ КАМЯКІ СНЕГУ

З дапамогаю нанатэхналогіі
І біяхіміі мозгу
Нейроны спараджаюць свядомасць
Аналізуюць розум
Мы — падвопытныя мышы з той мэтай
З тым апраўданнем
Якое адчыняе вароты пазнанню і таямніцам
Іх тэрыторыя — крэмень
Наша — лесвіца ў Чацвёртае вымярэнне

Быць паміж двума светамі
А ўладу мець у трэцім
Гэта зручнасць
Або пакаранне
Захоўваць парадак сярод беспарадку
Магчыма і наадварот

Будаўнікі вымярэнняў і пабудова магутнасці
Не адчуваюць меры
Магутныя імперыі разбурыліся
Малыя і цяпер існуюць
Не трэба пераскокваць цераз прыступкі

Ці ты гэта
Або твой клон я не на Юпітэры
Кармлю васьмікрылага матылька
Афарбоўваю свой цень у колер ліловы
Каб не заблудзіўся

Нанатэхналогія — кухня трансфармацый
Высакародныя металы і плазмоіды
Ствараюць мыслячыя соты
Мы шукаем сховішча камбінацый
Нам сніцца сон арла
Каб на паляванні раздабыць крылы
Мы змяшалі кроў ягуара і серны
У пустыні церпка пахнуць магноліі
На пальмах спеюць камякі снегу

## ПАЛЯВАННЕ

Ахвочы да слоў спаймае дах
Яго дом поўны нябёсаў
У нас сетка пустая
І надзея на неба

***Пераклад з сербскай***
***Міколы Мятліцкага.***

Мікола МІКУЛІЧ

# НА ЭТАПАХ БАРАЦЬБЫ І СВАБОДЫ

XX стагоддзе — адно з самых цікавых і плённых у развіцці беларускай нацыянальнай літаратуры. Вывучэнню гэтага перыяду прысвечаны шматлікія навуковыя працы, у тым ліку акадэмічная «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў 4-х тамах, даследаванні асобных родаў і жанраў, творчасці вядучых пісьменнікаў і інш. Аднак было б памылковым лічыць, што тут абсалютна ўсё зроблена, належным чынам асэнсавана, зусім не засталося «белых плям» і нявырашаных праблем.

Па часе выяўляюцца і ідуць ва ўжытак усё новыя і новыя мастацкія тэксты і дакументальныя матэрыялы, якія дапаўняюць, а то і зусім мяняюць аблічча асобных этапаў і чыннікаў літаратурнага працэсу і патрабуюць свежых навуковых падыходаў і канцэптуальных рашэнняў, істотных удакладненняў і карэктываў.

Менавіта да такіх этапных і арыгінальных з'яў нашай нацыянальнай літаратурнай гісторыі належыць паэзія Заходняй Беларусі 1921—1939 гадоў.

Два міжваенныя дзесяцігоддзі (сакавік 1921 — верасень 1939 года) на інкарпараваных паводле Рыжскага мірнага дагавору ў склад Польскай дзяржавы заходніх землях Беларусі агульнай плошчай 113 тысяч квадратных кіламетраў з насельніцтвам 4,6 мільёна чалавек [1, с. 421] — вельмі складаны перыяд грамадска-гістарычнага развіцця, багаты на значныя сацыяльна-палітычныя падзеі і факты, яркія, каларытныя і ў той жа час драматычныя і трагічныя чалавечыя асобы і лёсы, цікавыя і арыгінальныя ідэйна-мастацкія пошукі і адкрыцці[1]. Беларускі субэтнас існаваў тут фактычна на правах калоніі, ва ўмовах «агрэсіўнага паланізму», адкрытай і жорсткай сацыяльнай і нацыянальнай дыскрымінацыі і прыгнёту. Польскія ўлады «забаранялі беларускія школы, абмяжоўвалі прыёмы з беларускіх школ у ВНУ, не дазвалялі карыстацца роднай мовай у дзяржаўных установах, не прызнавалі тэрміна «Заходняя Беларусь» і ў афіцыйных дакументах называлі яе «крэсы ўсходне» («усходнія ўскраіны») або Белапольшчай» [1, с. 423]. Па дадзеных «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», з «400 беларускіх школ, што існавалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі да польскай акупацыі, у 1928 засталося 29 беларускіх і 49 мяшаных польска-беларускіх школ, у 1934 — толькі 16, у 1939 не засталося ніводнай. Былі закрыты 2 настаўніцкія семінарыі (у Барунах і Свіслачы), 8 беларускіх гімназій (у Будславе, Гродне, Грудку, Клецку,

---

[1] Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: документы и материалы. — Минск, 1962—1972. — Т. 1—2.; Гліна В. М. Сутнасць і асаблівасці нацыянальнага адраджэння ў Заходняй Беларусі (1920—1939 гг.): аўтарэф. дыс. … канд. філас. навук. — Мінск, 1996; Годы испытаний и мужества. — Минск, 1973; Калеснік У. Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі. — Мінск, 1977; Ён жа: Усё чалавечае: літаратурныя партрэты, артыкулы, нарысы. — Мінск, 1993; Ладысев В. Ф. В борьбе за демократические права и свободы. — Минск, 1988; Палуян У. А. Беларуская сялянска-рабочая грамада. — Мінск, 1967; Ён жа: Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927—1939 гг.). — Минск, 1978; Трацяк І. І. Культурна-асветніцкая дзейнасць беларускіх каталіцкіх святароў (пач. XX ст. — 1939 г.): аўтарэф. дыс. … канд. культуралогіі. — Гродна, 2000 і інш.

Маладзечне, Навагрудку, Нясвіжы, Радашковічах». І далей: «Жорстка праследавалася беларуская прэса, асабліва рэвалюцыйнага кірунку. Беларускія газеты і часопісы часта забараняліся і канфіскоўваліся, штрафаваліся друкарні, у якіх яны выдаваліся. З-за рэпрэсій назвы газет часта мяняліся. Калі ў 1927 легальна выдаваліся 23 беларускія газеты і часопісы, то ў 1930 іх стала 12, а ў 1932—8; да 1937 асталіся толькі прапольскія і клерыкальныя выданні» [1, с. 423].

Цяжкія праблемы і супярэчнасці заходнебеларускай рэчаіснасці прадвызначылі складванне розных арганізацыйных форм народна-вызваленчага руху — ад парламенцка-канстытуцыйных да падпольных, радыкальна-рэвалюцыйных. Ён грунтаваўся на ідэях сацыяльнага і нацыянальнага самавызначэння, свабоды і незалежнасці, барацьбы за аграрную рэформу, якая прадугледжвала адмену закона аб асадніцтве і надзяленне сялян зямлёю без выкупу, за нацыянальную школу і, наогул, беларускую этнакультурную самабытнасць. Заходнія беларусы адстойвалі свае правы на правядзенне грамадскіх сходаў і мітынгаў, развіццё друку, працоўную дзейнасць, страхаванне і інш. У сваю чаргу народна-вызваленчы рух абудзіў усе сферы духоўна-сацыяльнага жыцця грамадства.

У 1920-я гады ў Заходняй Беларусі даволі прадуктыўна функцыянавалі шматлікія ўстановы, арганізацыі, выдавецтвы, выходзілі кнігі, часопісы, газеты. На хвалі ўздыму грамадскай свядомасці і народнага руху актыўнае развіццё атрымала культурна-асветная праца, мастацкая самадзейнасць, масавая паэзія сялян і рабочых і інш. Грунтуючыся на розных ідэйна-філасофскіх пазіцыях і платформах, шматлікія грамадска-палітычныя і культурна-асветныя аб'яднанні, таварыствы, гурткі і суполкі вялі барацьбу за свае духоўна-маральныя прынцыпы і каштоўнасці, напрамкі і характар дзейнасці. Разам з тым амаль да канца 1920-х гадоў заходнебеларускі народна-вызваленчы рух развіваўся ў адпаведнасці з адзінай ідэалагічнай канцэпцыяй, якой імкнуліся прытрымлівацца як правыя, так і левыя сілы.

Выразная дыферэнцыяцыя ідэйна-палітычных сіл, літаратурна-мастацкага асяроддзя і ў цэлым грамадскай свядомасці Заходняй Беларусі пачалася пасля разгрому і забароны Беларускай сялянска-работніцкай грамады і была абумоўлена імі, а таксама рэпрэсіямі ў Савецкай Беларусі. У 1930-я гады народна-вызваленчы рух забяспечвалі барацьба і ўзаемадзеянне, галоўным чынам, Камуністычнай партыі (1923—1938) і Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (1917—1940), якія стаялі амаль на супрацьлеглых пазіцыях. Іх палітычныя платформы і сацыяльныя праграмы заключалі ў сабе шмат актуальных ідэй і лозунгаў і былі запатрабаваны шырокімі грамадскімі коламі. Абедзве партыі мелі свае перыядычныя выданні, вялі актыўную грамадска-палітычную і культурна-асветную дзейнасць. Камуністы сцвярджалі радыкальна-рэвалюцыйныя прынцыпы і метады, ідэю далучэння Заходняй Беларусі да БССР, у многім стаўку рабілі на нелегальныя арганізацыйныя формы барацьбы, працу ў падполлі. Хадэкі адстойвалі духоўна-хрысціянскія каштоўнасці, выступалі за незалежнае развіццё аб'яднанай Беларусі.

Побач з імі ці, дакладней, паміж імі даволі прадуктыўна працавала група цэнтрыстаў, якія таксама мелі сваіх прыхільнікаў сярод розных слаёў насельніцтва. Яны імкнуліся прымірыць левых і правых, прытрымліваліся ўмеранай стратэгіі і тактыкі, цэнтрысцкіх пазіцый, адстойвалі ідэю функцыянавання Цэнтральнага саюза беларускіх арганізацый, агульнага народна-вызваленчага руху, выступалі за аб'яднанне, кансалідацыю ўсіх патрыятычных сіл, за тое, каб у змаганні за сацыяльныя і нацыянальныя правы і свабоды працоўных Заходняй Беларусі ісці адзіным фронтам. Цэнтрысты, а таксама «незалежнікі» — яшчэ адна група грамадскіх дзеячаў — стаўку рабілі на культурна-асветную, выхаваўчую працу, нарошчванне нацыянальна-патрыятычнага патэнцыялу, развіццё і ўзбагачэнне вопыту і традыцый народнай дэмакратыі.

Выражаючы інтарэсы розных партый, аб'яднанняў і арганізацый, многія заходнебеларускія перыёдыкі змяшчалі на сваіх старонках мастацкія творы, галоўным чынам, вядома, вершы. Некаторыя з іх разглядалі творчасць пісьмен-

ніка як неад'емную частку, адзін з важнейшых кампанентаў грамадска-культурнай дзейнасці і ўсяго народна-вызваленчага руху, надавалі супрацоўніцтву з літаратурна-мастацкім асяроддзем асаблівую ўвагу. Яны імкнуліся згуртаваць вакол сябе раз'яднаныя літаратурныя сілы краю, перадусім паэтычную моладзь, падтрымаць і актывізаваць працэс яе ідэйна-творчага развіцця і выспявання. Напрыклад, месячны літаратурна-грамадскі часопіс «Беларуская культура» ставіў на мэце збіраць «усе жывыя творчыя сілы навакол ідэі адраджэньня Беларусі, выхоўваць нацыянальную сьведамасьць патаптанага вякамі беларускага народу, спрыяць росквіту беларускае літэратуры, навукі, мастацтва, — наагул памагаць выяўленьню беларускага нацыянальнага творчага гэнія і вызваленьню беларускае душы…» «І вось задачаю нашае часопісі, — гаварылася ў яго рэдакцыйным артыкуле, якім адкрываўся першы нумар, — зьяўляецца даказаць, што Беларускі Народ у нетрах сваіх маець магутныя творчыя сілы, што Беларуская Культура, — гэта асобная самабытная культура, што росквіт яе патрэбны ня толькі для адраджэньня нашага народу, але і для агульначалавечага прогрэсу, сутнасьць якога *ў адраджэньні і вызваленьні ўсіх народаў і ў іх братэрскім сужыцьці*» (падкрэслена рэдакцыяй. — **М. М.**) [2, с. 1].

Ілюстраваны літаратурна-мастацкі месячнік «Досвіткі» імкнуўся ўзняцца над перыпетыямі палітычнай барацьбы груп і партый, аб'яднаць пісьменнікаў і мастакоў на глебе развіцця роднай культуры, уласна творчых інтарэсаў і аспектаў дзейнасці. «Усіх нашых краевых і замежных пісьменьнікаў і мастакоў запрашаем да супрацоўніцтва… — звяртаўся ён да сваіх чытачоў. — Родная культура павінна быць вышэй усіх партыйных розьняў, усялякіх партыйных інтарэсаў. Мы не настолькі яшчэ культурна багаты, каб мелі права разьбіваць свае культурныя сілы па адзнакам прыналежнасьці да нейкай партыі ці групы… Пісьменьнікі і мастакі, наагул культурнікі — належаць не партыі а ўсей Нацыі, усяму Народу».

І далей: «І мы клічам усіх, хто блізка да сэрца бярэ справы нашай роднай культуры — еднаць свае сілы і супольнай працай узьнясьці гэтую культуру на тую вышыню, якая адпавядае традыцыі яе прошласьці, гонару 14-ці мільённага Народу і нашым імкненьням да сьветлай яго будучыні» [3, с. 2].

І ў 1920-я, і ў 1930-я гады многія заходнебеларускія пісьменнікі і грамадскія дзеячы выношвалі ідэю, як сёння б сказалі, перспектыўнага выдавецкага праекта — заснавання асобнага літаратурнага перыёдыка, прысвечанага адлюстраванню жыцця і творчасці мастакоў слова. На жаль, па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын яна не знайшла сваёй рэалізацыі. Толькі часткова адпавядалі гэтай ідэі згаданыя часопісы «Беларуская культура» і «Досвіткі», а таксама месячнік літаратуры і культуры «Родныя гоні». Паўстаўшы на заключным этапе разгортвання грамадаўскага руху, яны неўзабаве спынілі сваё існаванне.

У нечым блізкім да часопісаў «Досвіткі» і «Родныя гоні» быў літаратурна-мастацка-навуковы месячнік «Нёман», які таксама пазіцыянаваў сябе як выданне, што імкнулася ўзяць на ўзбраенне лозунг «культура без палітыкі», дыстанцыявацца ад грамадска-палітычных колаў і засяродзіцца на пытаннях уласна літаратуры і мастацтва. Ён выходзіў да чытача з мэтаю «прадаўжаць прыпыненую рознымі нягодамі беларускую культурна-асьветную працу і тварыць новыя вартасьці беларускай нацыянальнай культуры», «згуртаваць каля сябе ўсе» «літаратурныя й навуковыя сілы Заходняе Беларусі для супольнае працы на карысьць Бацькаўшчыны, як і — *разьвіваць нашую культуру, даваць ініцыятыву да самастойнае працы і будзіць беларускую нацыянальную сьвядомасьць*» (падкрэслена рэдакцыяй. — **М. М.**) [4, с. 1—2]. «Нёман» будзе месячнікам чыста аполітычным і беспартыйным» [4, с. 2], — акцэнтавала яго рэдакцыя.

Пасля разгрому і забароны Грамады і пэўнага зацішша, якое наступіла ў дзейнасці віленскіх грамадска-культурных колаў, у першай палове 1930-х гадоў значна актывізавалі сваю працу Беларускі нацыянальны камітэт, Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, Беларускае навуковае таварыства, Беларускае выдавецкае таварыства, многія іншыя арганізацыі і аб'яднанні. Нейкім чынам прыпыніць

ці замарудзіць працэсы сацыяльна-патрыятычнага ўсведамлення заходнебеларускага народа, развіццё масавага культурна-асветнага і літаратурна-творчага руху было, бадай, немагчыма. У гэты час асабліва шырока і прадуктыўна заявіла аб сабе Таварыства беларускай школы, якое выдавала часопіс «Летапіс ТБШ» (з 1937 года — «Беларускі летапіс»). Ён таксама быў звернуты да праблем літаратурна-творчага жыцця Заходняй Беларусі, імкнуўся падтрымаць ідэйна-мастацкія пошукі маладых аўтараў, аб'яднаць іх на шырокім і ўдзячным грунце грамадска-культурнай дзейнасці.

Лірычнай пранікнёнасцю і душэўна-чалавечай цеплынёй звяртаў на сябе ўвагу рэдакцыйны артыкул «Летапісу ТБШ» пад характэрнай назвай «Брацціямпісьменнікам», змешчаны ў адным з першых нумароў часопіса. «Наша прыгожая краіна багата паэтамі-самародкамі, — гаварылася ў ім. — Ува ўсіх канцох яе, — на косьніках-загонах, у схіляных хатках, на тартаках і фальварках і на грудзёх сівога дзеда-Нёмна, — жывуць і працуюць яны, слухаючы гоман высокіх хвоек, прыбраўшых пяшчаныя ўзгоркі цудоўнае нашае краіны».

І далей: «Яны не кранулі вышэйшае веды.

Зьвязаныя з цяжкаю працаю, яны пяюць свайму народу сумныя песьні мінуўшчыны і сучаснасьці і адначасна жывяць сьветлыя надзеі на будучыню. Народ наш слухае і разумее іх.

І вось мы на гэтым мейсцы зьвяртаемся да Вас, брацьця-пісьменьнікі, стаць цясьней навокал «Летапісу», які павінен будзе нумар за нумарам даваць нашым вёскам, фабрыкам і фальваркам духовую страву — новую песьню і мастацкія творы нашых артыстаў» [5, с. 58].

Адным з самых вядомых і аўтарытэтных у 1930-я гады на абшарах Заходняй Беларусі, у тым ліку, вядома, і ў літаратурна-мастацкім асяроддзі, быў часопіс «Калоссе». Заснаваны Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй як адмысловае літаратурна-навуковае выданне, ён аб'яднаў многіх маладых і сталых аўтараў, носьбітаў розных, часам нават супрацьлеглых ідэйна-палітычных поглядаў і пазіцый. Па ўсім відаць, рэдакцыя часопіса добра ўяўляла яго праграмны змест, напрамак і характар дзейнасці. «Мэтай «Калосься», — анансавала яна ў першым нумары, — будзе гуртаваць усіх нашых поэтаў, пісьменьнікаў, а так-жа культурных і навуковых працаўнікоў, старэйшых і малодшых, дзеля супольнае позытыўнае працы на ніве роднае культуры. Адначасна з гэтым «Калосьсе» будзе будзіць ініцыятыву да новых пачынаньняў, узгадоўваць маладыя літаратурныя сілы, ськіроўваючы ў найбольш адпаведным кірунку іхнія заінтэрасаваньні». І далей: «Ставячы сабе так шырокія мэты, Рэдакцыя будзе старацца, каб наш часапіс меў характар агульнабеларускі і рэпрэзэнтаваў, па магчымасьці, усе віды літаратурнае творчасьці і тыя галіны навукі, якія зьвязаны беспасярэдна з беларускім адраджэньнем (артыкулы з галіны беларускае літаратуры, мовы, мастацтва, гісторыі, этнографіі і інш.). Дзеля большага контакту з літаратурна-навуковым рухам наагул, у часапісе будзе зьвяртацца вялікая ўвага на рэцэнзіі літаратурных твораў і навуковых працаў, а так-жа на справаздачы з навуковага й літаратурнага жыцьця Заходняй і Ўсходняй Беларусі» [6, с. 2].

І яшчэ: «Асаблівая ўвага будзе зьвернута на аддзел прыгожае літаратуры. Дзеля гэтага Рэдакцыя не агранічыцца да друкаваньня літаратурных твораў з Заходняе Беларусі, а будзе так-жа рабіць перадрукі важнейшых і найбольш характэрыстычных твораў поэтаў і пісьменьнікаў Беларусі Ўсходняй. Такім спосабам чытачы «Калосься» будуць мець магчымасьць пакрысе знаёміцца з беларускай літаратурай, што разьвіваецца на той бок мяжы. Найбольш скарыстаюць на гэтым нашыя пачынаючыя поэты й пісьменьнікі, знаходзячы сабе цікавыя ўзоры, перадусім у галіне стылю, тэхнікі і поэтыцкае мовы» [6, с. 2].

Па часе вызваліўшыся з-пад апекі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры і набыўшы статус самастойнага выдання, часопіс «Калоссе» рэалізоўваў ідэі і прынцыпы Народнага фронту Заходняй Беларусі. Справа ў тым, што ў сярэдзіне 1930-х гадоў заходнебеларус-

кі нацыянальна-вызваленчы рух разгортваўся ў рэчышчы агульнаеўрапейскага антыфашысцкага руху, што, безумоўна, садзейнічала яго актывізацыі і абнаўленню. Яму ўдалося шмат у чым на новай аснове актуалізаваць важнасць і неабходнасць гуманістычных прынцыпаў і каштоўнасцей жыцця, дэмакратычных праў і свабод, ідэй сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці. Тады практычна ўсе палітычныя партыі і групы, а таксама грамадскія суполкі Заходняй Беларусі аб'ядналі свае сілы на глебе шырокай народна-патрыятычнай дзейнасці, арганізацыі і правядзення культурна-асветнай работы, актывізацыі масавай творчасці, мастацкай самадзейнасці і інш. Натуральна, усё гэта непасрэдна адбілася і на літаратурна-мастацкім працэсе. У. Калеснік, думаецца, абгрунтавана заўважаў: «Гуманістычная накіраванасць праграмы Народнага фронту садзейнічала творчаму ўздыму і абнаўленню ідэйна-эстэтычнага зместу ўсёй заходнебеларускай літаратуры» [7, с. 118].

Рэдакцыя часопіса «Калоссе», несумненна, прадугледжвала арыентацыю на агульнадэмакратычныя прынцыпы і каштоўнасці. Роўна праз год яна акцэнтавана нагадвала сваім чытачам: «Ідэовыя рамы «Калосься» шырокія. Ёсьць у іх месца ўсім беларускім паэтам, пісьменьнікам, навукоўцам, крытыкам і інш., бяз розьніцы іх пракананьняў палітычных, соцыяльных і рэлігійных.

Усім ім наш часапіс ставіць толькі адну вымогу: каб творы іх былі магчыма ў поўнай згодзе з Праўдай, Дабром і Красой і, як такія, каб былі прыдатныя беларускай культуры і каб служылі шчасьцю беларускага народу» [8, с. 2].

У многім ідэі Народнага фронту планаваў сцвярджаць, будуючы сваю дзейнасць, і літаратурна-грамадска-навуковы часопіс «Маладая Беларусь», які імкнуўся аб'яднаць вакол сябе таленавітую творчую моладзь. У першым нумары яго рэдакцыя паведамляла чытачам: «Вось-жа з мэтаю гуртаваньня маладых творчых сілаў дзеля грамадзкае працы й разьвіцьця беларускае літаратуры, культуры і навукі згодна з вымаганьнямі часу і паўстае да жыцьця «Маладая Беларусь». Тут будуць крысталізавацца нашыя думкі і выкоўвацца наш сьветагляд, будуць узгадоўвацца новыя працаўнікі. Мы ўважаем, што беларускі народ досыць мае сваіх уласных жыцьцёвых сілаў і на іх мы будзем у сваей працы толькі апірацца, адкідаючы ўсякія чужыя ар'ентацыі. Мы адкідаем так-жа розныя паражытыя і неактуальныя ўжо сяньня ідэі, а становімся тварам да жыцьця, каб зьліцца з гэтым жыцьцём і йсьці з ім поплеч». І далей: «У галіне прыгожае літаратуры «Маладая Беларусь» будзе класьці асаблівы націск на разьвіцьцё новых мастацкіх формаў і кірункаў, адказываючых вымаганьням сучаснае поэтыкі, а так-жа будзе старацца каб літаратурная творчасьць сваей тэматыкай служыла перадусім сяньняшнім патрэбам беларускага народу» [9, с. 2].

Адзначаныя і некаторыя іншыя выданні не толькі шырока друкавалі вершы, апавяданні, нарысы, замалёўкі, артыкулы, нават пераклады, але і арганізоўвалі літаратурныя старонкі, аддзелы, куткі, рубрыкі, праз якія вялі актыўную працу з творчай моладдзю, займаліся выхаваннем літаратурных кадраў, знаёмілі і збліжалі на пэўнай ідэйна-эстэтычнай аснове аўтараў. Напрыклад, газета «Родны край», орган Таварыства беларускай асветы, для эфектыўнага ўзаемадзеяння з маладымі творцамі заснавала спецыяльны аддзел — «Літаратурны куток». У нумары ад 29 красавіка 1933 года яна тлумачыла, звяртаючыся да сваіх чытачоў: «Наплыў у рэдакцыю вершаў і іншых твораў нашых маладых, пераважна вясковых, поэтаў выклікае патрэбу ўтварэньня гэтага «Кутка». У ім нашыя поэты (якіх цяпер, як грыбоў пасьля дажджу) змогуць друкавацца, а шырэйшая публіка — пазнаёміцца з сучаснай беларускай поэзіяй і плынямі, якія ў ёй праяўляюцца. Апрача таго «Літэратурны Куток» будзе кузьняй, у якой нашыя маладыя поэты будуць узгадоўвацца…» І ў канцы падагульняла, запрашаючы да супрацоўніцтва «ўсіх беларускіх поэтаў»: «Выпаўніць ён аднак, па нашай думцы, важнае заданьне: згуртуе беларускі поэтыцкі маладняк. Спробы стварэньня саюзу бел. поэтаў, гэтак часта робленыя, дагэтуль неўдаваліся. «Літэратурны Куток» будзе лучыць такім чынам сям'ю беларускіх мастакоў слова.

Клічам да супрацоўніцтва ў нашым «Кутку» ўсіх беларускіх поэтаў!» [10, с. 8].

Грамадска-культурнае асяроддзе Заходняй Беларусі было даволі палітызаваным, у газету «Родны край», як, зрэшты, і ў іншыя перыёдыкі, дасылалася шмат твораў невысокай мастацкай якасці, але затое вострага сацыяльна-палітычнага зместу. Відаць, менавіта таму, а таксама ў пэўнай ступені засцерагаючыся ад цэнзуры, праз некалькі нумароў яна ўдакладняла: «Мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што «Куток» наш зусім незалежны ад тых ці іншых палітычных кірункаў і мае на мэце выключна літэратурнае ўзгадаваньне… Мы аднак вітаем кожнае пачынаньне ў літэратурнай працыі і гатовы ўсім падаць руку, хто шчыра хоча працаваць на літэратурнай ніве» [11, с. 8].

Асобную «Літаратурную старонку» мела «Беларуская газета», неафіцыйны легальны орган КПЗБ. У нумары ад 10 лістапада 1933 года яна апублікавала рэдакцыйны артыкул пад характэрнай назвай — «Адгукнуліся!» «У «Беларускай Газэце» № 7, — чытаем у ім, — быў зьмешчаны заклік да паэтаў і пісьменьнікаў, заклік да гуртаваньня вакол нашай газэты. Заклік свой мы скіравалі да паэтаў-самародкаў, раскіданых «нават па самых глухіх кутках нашае Заходняе Беларусі», а таксама «да ўжо выяўленых і прызнаных беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якія сваю творчасьць хочуць аддаць на служэньне вызваленчай справе нашага народу». І ня гледзячы на тое, што столькі гадоў наш рух быў пазбаўлены свае газэты, тыя, да каго мы зьвярталіся з заклікам, — адгукнуліся хутчэй, чым можна было спадзявацца». І далей: «Наша «Літэратурная Старонка» № 2 зьмяшчае 30 імён сёньняшніх і заўтрашніх паэтаў і пісьменьнікаў, тых, што сталі на наш кліч, каб мастацкім словам змагацца за агульную справу. Верым, што наш літэратурны легіён усьцяж будзе папаўняцца новымі сіламі, расьці і крэпнуць!» [12, с. 3].

Рэдакцыя газеты была асабліва задаволена тым фактам, што поруч «з паэтамі-самародкамі, якія на нашых старонках ступаюць першыя крокі свае літэратурнае творчасьці, — адгукнуліся таксама паэты, якія на заходня-беларускім грунце ўжо здабылі «правы грамадзянства». Згадаўшы Звестуна і М. Васілька, яна адзначала: «Нарэшце прышоў да нас таксама Фр. Грышкевіч, колішні штандаровы літэрат сельсаюз-хадэцыі. Ён творча маўчаў апошнія пару гадоў, раздумваючы над шляхамі, каторымі йшоў дагэтуль. У выніку — сёньня заяўляе тым, з кім учора быў разам, што цяпер ён і яны — розныя, што ён з тымі, якія вышлі «разьдзіраць зьдзірванелы лад-зьдзек». На гэтым месцы яшчэ раз зазначаем, што мы не адрэзваем шляхоў да нас тым, хто сёньня несьвядома ўцягнуты ў лягер ворагаў народнага руху, захоча, аднак, шчыра аддаць свае здольнасьці народнай справе» [12, с. 3].

Крытыкуючы часопіс «Нёман» з яго тэорыяй чыстага хараства, «Беларуская газета» сцвярджала, што «мы не прызнаем гэтай адарванай ад жыцьця і агульнай для ўсіх «красы». Наш кліч — бліжэй да штодзённага жыцьця працоўных, глыбей у яго нетры. Наша краса — гэта ўсё тое, што верна і да канца служыць вызваленчым ідэалам» [12, с. 3].

Гэтыя выданні падтрымлівалі цесныя сувязі з аўтарамі дасланых тэкстаў, своечасова паведамлялі ім неабходную інфармацыю, дзяліліся навінамі. «Дзеля ажыўленьня беларускага літаратурнага руху, — чытаем, напрыклад, у «Калоссі» (Кн. 4 за 1936 год), — наш часапіс арганізуе літаратурныя зборкі, г. зв. літаратурныя пятніцы. На «пятніцах» учасьнічаюць беларускія паэты, пісьменьнікі і іншыя прадстаўнікі пяра, што цікавяцца літаратурнымі праблемамі і рухам. Першыя дзьве «пятніцы», якія адбыліся ў канцы верасьня, прысьвечаны справам арганізацыі як самых «пятніц», так і справе арганізацыі Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і журналістаў; апрача таго, Максім Танк прачытаў чацьвёртую частку сваей паэмы «Нарач» і іншыя творы. У парадку дзенным чарговых пятнічак — справа арганізацыі «Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і журналістаў» і чытаньне лібрэтта да беларускай опэры «Курган»… [13, с. 255].

Даволі часта заходнебеларускія перыёдыкі звярталіся да маладых літаратараў персанальна — нешта тлумачылі, прапаноўвалі, раілі, выказвалі заўвагі і пажаданні, на нешта важнае арыентавалі, ставілі пэўныя задачы, у нечым істотным папярэджвалі і перасцерагалі. Напрыклад, часопіс «Беларускі летапіс» (№ 10—11 за 1937 год) у рубрыцы «Паштовая скрынка» вуснамі М. Танка паведамляў: «А. Дубровіч. З малымі папраўкамі пойдуць у наступных нумарох вершы: «Я кідаю думкі», «Мне песьні выліць хочацца», «Дзяўчыне» і іншыя. Гэтыя вершы гавораць, што вы за апошнія часы шмат працавалі, як над языком так і над формай. Тыя вершы, якія Рэдакцыя залічыла да «слабейшых», якія «яшчэ не надаюцца да друку» («Безрабочы», «Не хачу пяяць пра восень», «Над шляхам сумна», «К свабодзе», «Восень») не зьяўляюцца зусім непрыгоднымі. Яны напісаны правідлова, нават тэхнічна вытрыманы. Загана іх у тым, што яны пісаны з «лёгкай рукі»; тэму, якую ўжо шмат раз парушалі ў нашай паэзіі, аўтар не пастараўся з'індывідуалізаваць, даць нешта новае. Гэтыя вершы належаць да катэгорыі маладых старыкоў, аб іх можна сказаць, што яны не благія, але спозьненыя на 20—30 год; таму трэба іх перапрацаваць на нова. Добра што гэтыя недахопы вы і самі бачыце. Яшчэ трэба было-б кінуць пісаць «аб нічым», праўда гэта пакуль што пагалоўная эпідэмія ў нашай сяньняшняй літаратуры, і з ей ня толькі Вам, але трэба змагацца усім» [14, с. 244]. А ў аналагічнай рубрыцы часопіса «Шлях моладзі» (№ 10 за 1938 год) знаходзім наступныя адрасныя пасылы:

«А. Мілюцю: Вітаем! Прысланыя вершы ў меру магчымасьці будзем выкарыстываць, папраўляючы тое, што ня можа прайсьці праз цэнзуру…»

«Я. Брылю: Атрымалі, дзякуем, будзем карыстаць. Просім прысылаць і апавяданьні, а таксама і п'есу, — будзем старацца выдаць, толькі ня можам дакладна азначыць часу, бо вяжуць нас матар'яльныя магчымасьці…» [15, с. 8].

У «Літаратурным кутку» газеты «Родны край» было некалькі рубрык: «Літаратурныя навіны», «Літаратурная хроніка», «Наша пошта». Па ўсім відаць, іх вялі шчырыя, нераўнадушныя супрацоўнікі, якія самі добра валодалі словам. Даволі часта яны імкнуліся абудзіць і актывізаваць аўтараў дружалюбным гумарам і дасціпным жартам, удала выкарыстоўваючы перыфразы іх твораў. Да прыкладу, 13 мая 1933 года газета апублікавала наступныя характэрныя радкі: «Літэратурны Куток» у сувязі з зацішшам у поэтыцкай дзяльнасьці Аўгеня Бартуля пытае яго зьдзіўлена: што з Вамі? і запрашае да супрацоўніцтва ў «Кутку». Ці-ж «ліра — разьбітая»? Адначасна зьвяртаемся з просьбай да Натальлі Арсеньневай прыслаць нейкую вестку аб сваім «жыцьці-быцьці» (і… творы). Ужо — «сіняе неба»…

Міхася Машару «Куток» просіць таксама напісаць нам што-небудзь. Ці, плывучы «На Сонечны бераг», хапае часам… на махорку?» [16, с. 8].

А ў нумары ад 16 снежня 1933 года вядучы кутка дасціпна заўважаў, адказваючы пачынаючаму паэту Казарэвічу: «Вы ня маеце грошаў на паштовую марку. Пішыце бяз маркі (але зазначце на канвэрце: «Літэратурны Куток» — я за марку заплачу — не заплачу). Але адна рэч: ня пішыце вельмі часта, бо ў нас грошы ня хопіць, а падругое — пішыце рэчы прадуманыя, апрацаваныя, сільныя, шчырыя, з сэрца, з злосьці, радасьці і т. д. Ой, якая важная рэч — пісаць: не забывайцеся, што за кожнае слова адказываеце…» [17, с. 8].

У 1920-я гады на літаратурнай карце Заходняй Беларусі выразна акрэслівалася тры пакаленні аўтараў. Першае, старэйшае, пакаленне складалі пісьменнікі-нашаніўцы Стары Улас (1865—1939), Гальяш Леўчык (1880—1944), Антон Навіна (1884—1946) і г. д., якія прадуктыўна працавалі яшчэ на пачатку стагоддзя. Да другога, сярэдняга, належалі Казімір Сваяк (1890—1926), Леапольд Родзевіч (1895 — пасля 1938), а таксама Ігнат Дварчанін (1895—1937), Ігнат Канчэўскі (1896—1923), Уладзімір Жылка (1900—1933) і інш., заявіўшы пра сябе да Рыжскага міру (першыя двое пачалі друкавацца яшчэ ў газетах «Наша ніва» і «Беларус»). Трэцяе, маладое, пакаленне заходнебеларускіх літаратараў — Францішак Грышкевіч (1906 ці 1904 — 1944), Піліп Пестрак (1903—1978), Алесь Салагуб

(1906—1934), Міхась Васілёк (1905—1960), Міхась Машара (1902—1976) было паклікана да жыцця непасрэдна ўздымам народна-вызваленчага руху. Пазней да яго далучыцца новая хваля маладых талентаў — Валянцін Таўлай (1914—1947), Максім Танк (1912—1995), Сяргей Крывец (1909—1945), Анатоль Іверс (1912—1998) і інш.

Паэтам Заходняй Беларусі даводзілася працаваць у цяжкіх, неспрыяльных для прадуктыўнай мастацкай творчасці грамадска-палітычных і сацыяльна-маральных умовах, дзе, як мы адзначылі, панаваў польскі аўтарытарызм, па словах А. Ліса, «замешаны на шавінізме, шляхетчыне і каталіцкім клерыкалізме» [18, с. 263]. Многія аўтары валодалі бясспрэчным мастацкім талентам, аднак у сувязі з палітычна-ідэалагічным уціскам, сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасцю і праследам не маглі ўзняцца з асяроддзя масавай самадзейнай паэзіі, разгарнуцца ў значныя і арыгінальныя творчыя індывідуальнасці. Амаль нікому з заходнебеларускіх паэтаў не ўдалося пазбегнуць затрыманняў, арыштаў і допытаў у паліцэйскіх пастарунках, пагроз і абвінавачванняў у палітычнай нядобранадзейнасці, дэстабілізацыі грамадскага жыцця, а то і бальшавізме, замаху на канстытуцыйны лад Рэчы Паспалітай. Самым актыўным з іх, тым, хто быў непасрэдна заангажаваны ў розных формах народна-вызваленчага руху — М. Машары, П. Пестраку, В. Таўлаю, М. Танку, С. Хмары, Г. Новік, А. Дубровічу і інш., давялося зведаць астрожнай няволі, змрочных турэмных лёхаў. Ну, а тыя, як, напрыклад, П. Шукайла, А. Салагуб, В. Шкодзіч і інш., што, ратуючыся ад праследу дэфензівы ці проста шукаючы лепшай долі, нелегальна перабраліся ў СССР, сталі ахвярамі таталітарнага сталінскага рэжыму і бясследна зніклі.

Пры ўсім тым, што абапал рыжскай мяжы панавалі жорсткія аўтарытарна-таталітарныя рэжымы — кожны са сваім наборам забарон і абмежаванняў, у тым ліку і па наладжванні кантактаў, — заходнія і ўсходнія беларусы не парывалі паміж сабою сувязей. Прычым, як вядома, гэтыя сувязі функцыянавалі не толькі ў легальных формах, але і падпольна.

Паэзія Заходняй Беларусі развівалася шмат у чым пад уплывам савецкай рэчаіснасці, тых змен і пераўтварэнняў, якія адбываліся, у прыватнасці, у 1920-я гады ў БССР, у тым ліку і ў літаратуры. Многія заходнебеларускія аўтары звярталі ўвагу на пазітыўны бок камуністычнай ідэалогіі і палітыкі, на такую важную асаблівасць сацыяльнага жыцця на Усходзе, як надзяленне сялян зямлёю. Яны высока цанілі поспехі і дасягненні Савецкай Беларусі ў нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве, развіцці грамадска-культурнай сферы, навукі, адукацыі. Там адкрываліся беларускія школы, іншыя навучальныя ўстановы, быў заснаваны Беларускі дзяржаўны універсітэт, працавалі беларускія тэатры, асветныя арганізацыі, саюзы, гурткі, таварыствы. У гэтых адносінах варта пагадзіцца з А. Сідарэвічам, які ў прадмове да кнігі «Расстраляная літаратура: творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады» адзначае: «Народам былое Расійскае імперыі была дадзена тэрытарыяльная і культурна-нацыянальная аўтаномія. Як бы хто ні ставіўся да постаці Леніна, а ягоная канцэпцыя Саюза Савецкіх Рэспублік была прагрэсіўным крокам. Хоць гэта і была, паводле Уладзіміра Жылкі, «уступка з бою», статус Савецкай Беларусі як саюзнай рэспублікі, а не як часткі Расіі, ужо тады разглядаўся як ступенька да незалежнасці нашай краіны. Такога статусу ані блізка не мела Заходняя Беларусь» [19, с. 8].

Заходнебеларускія аўтары добра ўсведамлялі, што асноўныя беларускія літаратурна-мастацкія каштоўнасці ствараліся на Усходзе. Там былі сабраны вядучыя творчыя сілы, паспяхова працавалі старэйшыя пісьменнікі, у тым ліку народныя паэты Беларусі Я. Купала і Я. Колас, актыўна разгортваліся маладыя таленты. Напрыклад, А. Луцкевіч, як вядома, далёкі ад сімпатый да камуністычнай ідэалогіі і савецкай рэчаіснасці, у «пабежным» аглядзе «паэтыцкае творчасьці» за 1925—1926 гады «З усходніх загонаў» адзначаў, што ў БССР «творацца новыя цэннасьці навукі й мастацтва, якім нам тут прыходзіцца шчыра пазайздросьціць. Бо ж цэнтрам адраджэнскага руху ўжо даўно — пасьля Вільні — стаўся Менск»

[20, с. 229]. Ён лічыў, што заходнебеларуская «літаратурная творчасьць шмат бяднейшая, чым на Ўсходзе» [20, с. 265]. А блізкі да яго па ідэйных перакананнях С. Станкевіч у артыкуле «На шляхах новай беларускай паэзіі» (1936) заўважаў наступнае: «Гаворачы аб сучасным поэтыцкім руху, заўсёды прыходзіцца пачынаць ад яго праяваў у Беларускай Савецкай Рэспубліцы, дзе беларускае культурнае й літаратурнае жыцьцё разьвіваецца, нягледзячы нават на вялікія перашкоды, вельмі буйна» [21, с. 14]. Маючы на ўвазе беларускую савецкую паэзію 1920-х гадоў, аўтар падкрэсліваў, што яна «з прычыны свайго інтэнсыўнага разьвіцьця, шырыні й размавітасьці поэтыцкіх зацікаўленьняў і ўспрыйманьняў, а так-жа даволі высокай роўні артыстычнай творыць адзін з найпрыгажэйшых разьдзелаў у гісторыі беларускае літаратуры» [21, с. 14].

Варта заўважыць, што многія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Заходняй Беларусі ведалі пра пераслед і рэпрэсіі па той бок рыжскай мяжы, аднак усё роўна лічылі, што дзяржаўна-палітычнае і грамадска-культурнае жыццё беларусаў павінна будавацца на аснове Савецкай Беларусі, марылі аб тым, каб патрапіць у БССР.

У сваю чаргу шырокія грамадскія колы беларускага Усходу зацікаўлена сачылі за жыццём у Заходняй Беларусі, асаблівасцямі барацьбы сваіх братоў за сацыяльную і нацыянальную волю. Праблемы і супярэчнасці заходнебеларускай рэчаіснасці знаходзілі адлюстраванне на старонках перыядычнага друку Савецкай Беларусі, ім прысвячалі свае творы не толькі пісьменнікі, але і мастакі, кампазітары.

Пад уплывам жыцця ў Савецкай Беларусі заходнебеларускія творцы спрабавалі наладзіць пэўную мастацка-арганізацыйную дзейнасць — аб’яднацца ў літаратурныя суполкі, заснаваць Саюз пісьменнікаў. У 1927—1928 гадах у Вільні неафіцыйна існавала аб’яднанне маладых літаратараў і мастакоў «Веснаход», ініцыяванае І. Дварчаніным. У яго ўваходзілі А. Бартуль, Х. Ілляшэвіч, В. Шкодзіч, некаторыя іншыя аўтары, а старшынёй з’яўлялася Н. Арсеннева. Аб’яднанне заявіла пра сябе як пра апалітычную і беспартыйную суполку, апублікавала ў Беларускім выдавецкім таварыстве зборнік твораў «Рунь Веснаходу». Нягледзячы на гэта, яно не здолела легімітызаваць сваю працу і шырэй разгарнуць мастацкую дзейнасць.

У асобную арганізацыю імкнулася аформіць згуртаваных вакол сябе літаратараў «Беларуская газета», ідучы ў гэтым плане, мабыць, далей за ўсе іншыя заходнебеларускія выданні. Яе рэдакцыя разглядала масавую самадзейную паэзію як праяву росту грамадска-палітычнай свядомасці і клапацілася аб тым, каб пісьменнікі былі моцнай ідэйна-творчай адзінкай на фронце барацьбы за сацыяльную і нацыянальную свабоду краю. Абапіраючыся на групу маладых літаратараў і журналістаў на чале з М. Тарасюком, 10 снежня 1933 года «Беларуская газета» арганізавала правядзенне нелегальнага пісьменніцкага з’езда, які заснаваў «Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі». Новастворанае аб’яднанне прыняло «Дэкларацыю групы паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі» і пастанавіла выдаваць у якасці свайго друкаванага органа «месячнік літаратуры, мастацтва і крытыкі» «Літаратурная старонка». Дэкларацыя, пад якой стаялі прозвішчы Я. Чабора, М. Васілька, А. Рэдзькі, П. Граніта, Звестуна і А. Іверса, прадугледжвала аб’яднанне ўсіх пракамуністычных творчых сіл, іх кансалідацыю на аснове радыкальных рэвалюцыйных ідэй і прынцыпаў. «Паэт, пісьменьнік, мастак і гумарыст, — гаварылася ў ёй, — той, каго нарадзіў працоўны люд Зах. Беларусі, хто прайшоў разам з гэтым народам добры кавалак шляху ў змаганьні за вызваленьне, — той не адрываўся ў сваіх літэратурна-мастацкіх творах ад жыцьця, ад барацьбы, ад надзей яго на будучае. Творчасьць нашых працоўных пісьменьнікаў гучыць бадзёрасьцю, запальвае, кліча наперад, на барацьбу за лепшую долю. Таму яна хоць і пазбаўленая друку, самастойна ідзе па вёсках, вандруе ў рукапісах ад хаты да хаты, робіць сваю вялікую справу» [22, с. 2—3].

І далей: «Мы разумеем умовы, разумеем, што перад намі цяжкасьці і перашкоды, але тым з большым запалам бяромся за працу, за ажыцяўленьне даўно насьпелай думкі аб утварэньні каля часопісі свае ўласнае сялянска-работніцкай пісьменьніцкай кагорты — арганізацыі». «Мы клічам тых, — звярталіся аўтары дэкларацыі, — хто набіў руку ў пісаньні, клічам пачынаючых пісьменьнікаў-самародкаў, шчыльней станавіцца ў нашы шэрагі і чоткім словам, не адрываючы яго ад чыну, гартавацца і гартаваць другіх для вялікіх спраў нашага народа. У гэтых шэрагах, разам з намі, пойдзем наперад, кладучы цэглы ў вялікую будыніну літэратурна-мастацкае творчасьці працоўнага народу, творчасьці, якая дасягнула цудоўнага расьцьвету ў нашых усходніх братоў» [22, с. 4].

Аднак «Літаратурная старонка» і «Беларуская газета» былі забаронены ўладамі (альманах на першым нумары, газета на сямнаццатым), а іх стваральнікі і актыўныя супрацоўнікі арыштаваны і аддадзены пад суд.

У другой палове 1930-х гадоў групай маладых сялянскіх літаратараў на чале з С. Хмарай пры падтрымцы Г. Леўчыка рабіліся спробы заснаваць творчую суполку «Маладая ўскалось». С. Хмара натхнёна пастуліраваў ідэю духоўна-псіхалагічнай еднасці і сілы маладых сялянскіх талентаў. У артыкуле «Пяе беларускі маладняк», змешчаным у часопісе «Шлях моладзі», ён пісаў: «Пяе беларускі маладняк! Па ўсіх кутках беларускай зямлі грыміць бураю, плача балотнаю кнігаўкаю песьня. Родзіцца яна пад кашуляю зрэбнаю аратага за плугам, пад пастушаю сярмягаю на выгане. Бо шмат у Беларусаў паэтаў, шмат песьняроў.

Ідуць песьні, вершы із вуснаў у вусны, із вёскі ў вёску, з аколіцы ў аколіцу і становяцца народнаю ўласнасьцю» [23, с. 2].

У артыкуле «Год пераклічкі», надрукаваным у тым жа часопісе, С. Хмара падводзіў вынікі літаратурнай дзейнасці сялянскага маладняку Заходняй Беларусі за 1938 год. «Буйны Год! Багаты год! — адзначаў ён. — Год падняўшы найглушэйшыя куткі вёскі з роднаю песьняю на вуснах. Густа зарунеў ён на балонках часапісаў страхануўшымся сялянскім літаратурным маладняком». І далей: «Паэзія А. Іверса, Дубровіча, Ніны Тарас, П. Сіраты, Я. Крыгі — гэта ўжо ня першыя няздарныя шагі. Гэта ўжо больш менш самастойныя арыгінальныя паэтыцкія таленты, якія ў іншых больш спрыяючых жыцьцёвых абставінах даўно ўжо мелі б не адзін зборнік твораў. Тое, што друкуецца ў такіх літаратурных часапісах, як «Калосьсе», «Беларускі Летапіс» — гэта толькі маленькая частка іхніх твораў». І яшчэ: «Расьцярушаны, без падмогі сваей літ. арганізацыі, аддзелены кітайскай сьцяной ад усякіх культурных здабыткаў нашага веку пяе беларускі маладняк! Пяе бяз кніжкі, бяз літаратурнай прэсы, без магчымасьці шліфаваць свае літ. здольнасьці здабыцьцём тэхнікі, правілаў вершаваньня пісаньня; пры абсалютнай немагчымасьці знаёміцца з клясыкамі свайго і іншых культурных народаў, а тым больш з сучаснымі напрамкамі ў літаратуры; адасоблены ад літ. жыцьця і літар. арганізацыі суседніх народаў. Аднак упарта прабівае свой шлях да сонца — нясучы з сабой пошум залатых пшанічных дзён Будучыні» [24, с. 16].

1938 год, сцвярджаў С. Хмара, стаў для маладых сялянскіх аўтараў годам «пераклічкі, каб ацаніць свае сілы, згуртавацца, падзяліцца набалеўшымі думкамі, пазнаць адзін аднаго; адшукаць, — памагчы, асабіста, лістоўна… Каб чуліся сябрамі, дзяцьмі аднэй сям'і, а не паасобнымі нікім незразумелымі, нікому няведамымі вандроўнікамі» [24, с. 16].

«Маладая ўскалось» задумвалася як аб'яднанне творча адоранай рэвалюцыйнай сялянскай моладзі, са сваім статутам, праграмным дакументам, часопісам, рэдактарам якога, дарэчы, меўся быць Г. Леўчык. Яго заснаванне павінна было адбыцца на спецыяльным з'ездзе пісьменнікаў. Аднак па прычыне праследу паліцыяй ініцыятараў правядзення з'езда і жорсткіх рэпрэсій аб'яднанне не здолела паўстаць да жыцця.

У літаратурна-мастацкіх колах Заходняй Беларусі актуальнай была ідэя стварэння Саюза пісьменнікаў. Праблему аб'яднання беларускіх літаратурных сіл як адну з самых вострых і набалелых ва ўсім грамадска-культурным жыцці краю ў

розныя часы ставілі і абмяркоўвалі В. Таўлай, М. Танк, Ф. Грышкевіч, М. Машара, С. Хмара, некаторыя іншыя творцы.

У артыкуле «На новы шлях», змешчаным у газеце «Наша воля», М. Танк адзначаў пэўныя поспехі заходнебеларускіх перыёдык у падрыхтоўцы і выхаванні літаратурных кадраў, неабходнасць спецыяльнага пісьменніцкага выдання ці выданняў. «Ня гледзючы на цяжкія матэрыяльныя і вонкавыя абставіны беларускай мастацка-літэратурнай прэсы, — пісаў ён, — мы можам сьцьвердзіць, што апошнімі часамі на літэратурным фронце мы маем досыць значны зрух наперад. Павялічваюцца рады пісьменьнікаў, паэтаў, публіцыстаў, згуртаваных каля «Калосься», «Нашай Волі», «Шляху Моладзі», якія прыносяць з сабой ня толькі багаты сыры жыцьцёвы матэр'ял, але і досыць высокамастацка апрацаваныя творы.

Аднэй з найбольшых заган, — адсутнасьць такой літэратурнай прасы, якая-б магла скуць гэтыя маладыя кадры ў адно цэлае, узгадаваць іх, даючы здаровую ацэну іх творчасьці, памагаючы ня толькі ў тэхнічнай працы, але і стаць на тую адзіную дарогу, па якой ідзе народ сяньня да лепшага заўтра» [25, с. 4].

Кансалідацыя літаратурна-творчых шэрагаў, утварэнне Саюза беларускіх пісьменнікаў, на думку М. Танка, будуць садзейнічаць далейшаму нарошчванню ідэйна-мастацкага патэнцыялу роднай літаратуры. «Зразумела, — разважаў малады аўтар, — што гэта заданьне: кансалідацыі ўсіх беларускіх літэратурных сілаў ня толькі ляжыць на часапісах, — гэта заданьне перадусім нашых пісьменьнікаў, паэтаў, літэратараў, публіцыстаў. Мы яго мусім выпаўніць, закладаючы Саюз беларускіх пісьменьнікаў, які паслужыць запярукай як і далейшага росту нашых літэратурных кадраў, так і ўсебаковага росту літэратуры і замацаваньня сяньня ўжо здабытых пазыцыяў» [25, с. 4].

На пажаданне М. Танка, — «каб кожны з беларускіх пісьменьнікаў у прэсе выказаў свой пагляд у гэтай справе» [25, с. 4], — у наступным нумары газеты «Наша воля» адгукнуўся Ф. Грышкевіч. Утварэнне Саюза пісьменнікаў ён разглядаў як «найбалючэйшае і найважнейшае пытаньне беларускага літэратурнага жыцьця», як справу, «сапраўды, вялікае меры» [26, с. 2]. Цалкам падтрымліваючы М. Танка і развіваючы яго ідэі, Ф. Грышкевіч фактычна сцвярджаў, што яно не толькі значна ўздыме сацыяльна-маральны статус беларускага пісьменніка і яго працы ў грамадска-патрыятычным асяроддзі, але і будзе спрыяць кансалідацыі і ўзмацненню ўсяго народна-вызваленчага руху. «Ужо восемнаццаць гадоў, — пісаў ён, — ходзіць беларускі літэрат без арганізацыі, якая-бы яго зрабіла не аб'ектам розных варожых беларускаму вызвольнаму руху спэкуляцыяў, а ператварыла-б яго ў арганізаваны суб'ект, які ў гісторыі вызвольнага змаганьня заняў-бы, напэўна, адно з першых мейсцэў. Робіцца зусім нязручна адказываць на пытаньне: Чаму да гэтага часу яшчэ не паўстаў літэратурны Саюз? Селянін і работнік і то знаходзяць выхад для свайго арганізаванага жыцьця». «Праўда, амаль усе беларускія літэраты, — працягваў Ф. Грышкевіч, — належаць да беларускіх культурна-прасьветных і палітычных арганізацыяў. Гэта сьведчыць аб іх высокай ідэйнасьці. Але гэта яшчэ ня ўсё. З'арганізаваньнем літэратурнага Саюзу беларускі літэрат падвоіў-бы сваю працу ў той арганізацыі, у якой ён працуе, бо Саюз быў-бы ягонай стойкай апорай перад рознымі ўдарамі ў абставінах нашага сяньняшняга жыцьця. Вось чаму закранутае Максімам Танкам пытаньне набірае вялікай і нештодзеннай вагі» [26, с. 2].

Варта заўважыць, што ідэяй аб'яднання заходнебеларускіх літаратараў у адзіны Саюз пісьменнікаў актыўна цікавіліся і ў Савецкай Беларусі. На жаль, яна так і не знайшла сваёй рэалізацыі. І найперш, вядома, па прычыне вострай грамадска-палітычнай барацьбы і паглыблення ідэйна-мастацкіх разыходжанняў паміж аўтарамі.

Нягледзячы на пэўныя заваёвы сацыялістычнага ладу жыцця, якія адносяцца, галоўным чынам, да 1920-х гадоў, у цэлым у БССР панавала атмасфера ідэалагічнага ўціску, дагматычных абмежаванняў і забарон, ваяўнічай антырэлігійнасці,

грамадска-псіхалагічнай уніфікацыі. У беларускай савецкай літаратуры 1930-х гадоў актыўна культывуваўся метад сацыялістычнага рэалізму з яго вядомымі нарматыўнымі рэгламентацыямі, паказам рэчаіснасці ў «рэвалюцыйным развіцці» ў адпаведнасці з прынцыпамі «навуковага сацыялізма», актыўным сцвярджэннем камуністычнай ідэйнасці і партыйнасці. Вострыя дыскусіі, палеміка, барацьба і ўзаемадзеянне розных творчых аб'яднанняў і суполак, эстэтычных платформ і ліній, якія мелі месца ў 1920-я гады, змяніліся падазронасцю і недаверам, праследам і масавымі рэпрэсіямі.

У параўнанні з папярэднімі, 1930-я гады засведчылі значнае зніжэнне ідэйнаэстэтычнага патэнцыялу беларускай савецкай паэзіі. Яе мастацкія пошукі былі фактычна паралізаваны падпарадкаваннем актуальнаму сацыяльнаму заказу, абумоўленаму асаблівасцямі дзяржаўнай дэкрэтыўнай палітыкі, ідэалагічных догм і стэрэатыпаў. Гэта выявілася ў страце шчырасці і глыбіні, у беднасці духоўнамастацкага зместу твораў, якія звярталі на сябе ўвагу прапагандай новых сацыяльна-маральных прынцыпаў і каштоўнасцей і звязанага з імі грамадскага ладу жыцця, сцвярджэннем героікі працоўных будняў, патэтыкай сацыялістычнага будаўніцтва. Чалавек паказваўся ў іх, галоўным чынам, у сваёй функцыянальнай ролі, вытворчай дзейнасці, духоўна-псіхалагічны свет асобы фактычна не раскрываўся. Заходнебеларускі крытык С. Каліна, несумненна, слушна пісаў, маючы на ўвазе той стан, які «самаўладна» панаваў у 1930-я гады «ў Саветах»: «літаратурная творчасьць, замест таго, каб вольна й свабодна выражаць творчыя парывы чалавечае думкі, каб тварыць што раз новыя абсалютныя мастацкія цэннасьці, зьніжылася там да ролі актуальнае «агіткі», непрызваітых пашквіляў на розных непажаданых сяньня людзей, або напасьледак — панэгірыкаў і пахвальных гімнаў на чэсьць Сталіна» [27, кн. 3, с. 158].

Творы беларускай савецкай паэзіі гэтай пары ўслаўлялі радасць калгаснай долі народа, які не ведаў праблем і складанасцей, і нагадвалі своеасаблівыя «святочна-лубачныя алеаграфіі» (У. Гніламёдаў). Іх запаланіла танцавальна-песенная эйфарыя герояў, абумоўленая адчуваннем шчасця матэрыяльнага багацця і дастатку, ідэйна-пачуццёвай еднасці, проста прыналежнасці да вялікай сталінскай эпохі. Яны вызначаліся характэрнай знешняй апісальнасцю, вульгарна-сацыялагічнай стэрэатыпнасцю мыслення, рытарычна-дэкларатыўным красамоўствам, паэтыка-стылявой аднапінейнасцю і шаблоннасцю і г. д.

У параўнанні з паэзіяй Савецкай Беларусі, заходнебеларуская ўяўляла сабою зусім іншы ідэйна-мастацкі свет, які функцыянаваў у многім па сваіх, адметных, прынцыпах і законах. Па-першае, яна была адным з асноўных і дзейсных сродкаў раскрыцця грамадскай свядомасці «забранага краю», а па-другое, яе развіццё ажыццяўлялася ў шырокім спектры грамадска-культурнага ўзаемадзеяння, ва ўмовах жорсткай партыйна-ідэалагічнай і палітычнай барацьбы і супрацьстаяння. Тут мела месца сутыкненне розных поглядаў, мэтаімкненняў і інтарэсаў, ідэйнамастацкіх пазіцый і падыходаў, эстэтычных сістэм. Гэта была паэзія актыўнага пошуку новых тэм і вобразаў, спосабаў мастацкага адлюстравання жыцця і чалавека, тыпаў творчасці, эстэтычна-выяўленчых сродкаў і кампанентаў.

Заходняя Беларусь сведчыла якасна іншую гісторыка-культурную і літаратурную сітуацыю. Паэзія тут вызначалася падкрэсленай зместавай і фармальнай неаднароднасцю, шматколернасцю і поліфанічнасцю, спалучэннем розных мастацкіх напрамкаў і творчых метадаў, тэндэнцый і школ, стылявых плыняў, ліній і арыентацый, жанравых структур. Яна выяўляла багатую і шматгранную карціну ідэйна-мастацкіх пошукаў і развіцця, якую забяспечвала даволі канструктыўнае суіснаванне і ўзаемадзеянне розных палітычных і эстэтычных вектарных вымярэнняў, сацыяльна-культурных характараў і тыпаў творчых асоб, індывідуальна-аўтарскіх пазіцый і прыярытэтаў, спосабаў і сістэм мадэлявання рэчаіснасці. Кожны з паэтаў арыентаваўся на тыя ідэйна-палітычныя пазіцыі і платформы, якія адпавядалі яго жыццёвым поглядам і чалавечым сімпатыям, распрацоўваў тыя тэмы, матывы і вобразы, якія хацеў, лічыў неабходным, прытрым-

ліваўся тых духоўна-мастацкіх прынцыпаў і палажэнняў, якія былі абумоўлены характарам яго асабістых схільнасцей і густаў. Ён меў права выбару, карыстаўся свабодай пошуку, доступам да многіх першакрыніц інфармацыі, адстойваў свае погляды і перакананні ў публічных дыскусіях.

Заходнебеларуская рэчаіснасць вызначалася балансам нацыянальна-патрыятычнага, этнакультурнага і грамадска-палітычнага, рэвалюцыйнага пачаткаў, якія пэўным чынам ураўнаважваліся ў яе духоўна-сацыяльнай прасторы. Яна характарызавалася высокім узроўнем народна-патрыятычнай самасвядомасці, наяўнасцю шырокага пласта нацыянальна ўстойлівай і актыўнай творчай інтэлігенцыі. Нацыянальна-патрыятычны фактар астуджаў ці ацвераджаў прадстаўнікоў радыкальна-рэвалюцыйнага крыла народна-вызваленчага руху, звернутых да сцвярджэння класава-ідэалагічных прынцыпаў і каштоўнасцей непрымірымых дзеячаў камуністычнага падполля. Ён засцерагаў іх ад паспешлівых, непрадуманых рашэнняў і ўчынкаў, змушаў да паразумення і згоды з лагерам правых сіл і цэнтрыстамі і тым самым выконваў своеасаблівую праваахоўную ці стабілізацыйную функцыю ў грамадстве.

Што датычыць паэзіі Заходняй Беларусі, дык яе ідэйнае і мастацка-стылявое развіццё было падпарадкавана пэўнай і выразнай унутранай логіцы, забяспечана характэрнымі сацыяльнымі тэндэнцыямі і заканамернасцямі, вызначалася паслядоўнасцю і сістэмнасцю. Грамадска-палітычныя абставіны абумовілі той факт, што яна адчувала сваю трывалую генетычную сувязь з вопытам і традыцыямі нацыянальна-гістарычнага мінулага, працягвала пошукі і здабыткі папярэдніх пакаленняў айчынных аўтараў. Народна-патрыятычная ідэя ў многім вызначала яе рух на ўсіх этапах сацыяльна-гістарычнага развіцця — як у 1920-я, так і ў 1930-я гады. Фактычна ўся паэтычная супольнасць краю была прасякнута глыбокім нацыянальна-патрыятычным пачуццём. Як і айчынная паэзія пачатку XX стагоддзя, заходнебеларуская выконвала важную і адказную духоўна-сацыяльную і нацыянальна-адраджэнскую місію, была падключана да вырашэння складаных грамадска-культурных і асветніцка-адукацыйных задач і абавязкаў. Несумненна, менавіта таму ў ёй не знайшлі свайго выяўлення распаўсюджаныя і досыць папулярныя ў еўрапейскіх літаратурах авангардысцкія плыні і тэндэнцыі. Найбольшымі наватарамі і авангардыстамі ва ўмовах Заходняй Беларусі зарэкамендавалі сябе прадстаўнікі рэвалюцыйнай ці прасавецкай арыентацыі, якія адмаўлялі старыя і сцвярджалі новыя ідэйна-мастацкія прынцыпы і каштоўнасці.

Пры гэтым заходнебеларускія паэты пераймалі вопыт і традыцыі рускай, польскай, чэшскай, нямецкай, іншых літаратур, шырока кантактаваліся з літоўскімі, латышскімі, украінскімі аўтарамі, што дабратворна адбівалася на іх уласнай творчасці. У віленскіх выданнях друкаваліся творы беларускіх пісьменнікаў з Латвіі, Літвы, Украіны.

Складаныя і супярэчлівыя ўмовы і фактары грамадскага жыцця абапал рыжскай мяжы неслі паэтам Заходняй Беларусі мноства праблем вялікага сацыяльна-гістарычнага зместу і значэння, якія патрабавалі глыбокага і ўдумлівага мастацкага асэнсавання. Сярод іх такія вострыя і актуальныя, як свабоднае развіццё беларускага народнага духу і волі, лёс падзеленай Беларусі і яе народа, духоўна-сацыяльныя ідэалы заходніх беларусаў і грамадска-палітычны статус краю, магчымасці і перспектывы дзяржаўна-палітычнай незалежнасці аб'яднанай Беларусі. Важнае месца ў творчасці заходнебеларускіх паэтаў займалі асаблівасці ўзаемаадносін духоўна-грамадзянскай місіі і абавязку мастацкага таленту і свету сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці і прыгнёту, літаратуры, адмабілізаванага паэтычнага слова і рэвалюцыйнага падполля, народна-вызваленчага руху, грамадска-сацыяльнага і нацыянальна-патрыятычнага фактараў у ім, нацыянальна-гістарычнага мінулага і аспектаў бягучага жыццеўладкавання, асобы, духоўнай свядомасці і сацыяльна-гістарычнага развіцця і інш.

Феномен заходнебеларускай паэзіі, як і ў цэлым літаратуры і культуры, заключаўся ў тым, што яна мела ў многім самадастатковы, аўтаномны характар

і ўяўляла сабою пэўнае духоўна-мастацкае адзінства і цэласнасць. У ёй актыўна прадуцыравалі і тыя з'явы і працэсы, якія па прычынах грамадска-ідэалагічнага парадку, партыйна-камуністычнага дыктату не маглі знайсці свайго развіцця ва ўмовах Савецкай Беларусі. Больш за тое, якраз падвергнутае экстракізму, жорсткай крытыцы, пераследу і адмаўленню, фактычна забароненае на Усходзе, на Захадзе развівалася асабліва прадуктыўна і вынікова. Мы маем на ўвазе, напрыклад, звернутую да адзнак духоўна-ірацыянальнага асэнсавання рэчаіснасці паэзію К. Сваяка, Н. Арсенневай, Х. Ілляшэвіча і інш., якая актыўна сцвярджала сябе ў якасці альтэрнатывы творчасці паэтаў пракамуністычнай ці прасавецкай арыентацыі. Тут пэўным чынам знаходзіў сваю рэалізацыю прынцып кампенсацыі, калі заходнебеларуская паэзія культывавала тыя тэмы, матывы і вобразы, якія не адпавядалі нормам і крытэрыям сацыялістычнага рэалізму з яго ідэйна-эстэтычнай адналінейнасцю, нівеліроўкай і ўніфікацыяй творчых індывідуальнасцей і таму не маглі атрымаць належнай мастацкай распрацоўкі і ўвасаблення. І. Багдановіч, думаецца, абгрунтавана адзначала, што «падзел Беларусі быў адначасова гістарычнай драмай і пэўным выратаваньнем — выратаваньнем культуры і захаваньнем у ёй той галіны, для якой не пустымі гукамі былі словы энцыклікі аб найвышэйшай таямніцы ў сэрцы культуры». «Нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы разьвіцьця ў часе польскай акупацыі, — падкрэслівала даследчыца, — менавіта арыентацыя заходнебеларускіх культурных дзеячаў на трывалыя хрысьціянскія каштоўнасьці і нехрысьціянска-дэмакратычную ідэйную плынь сталася асновай самазахаванасьці беларускай культуры ў 20—30-я гады, а таксама асяродкам, дзе культывавалася пазіцыя незалежнасьці, дзе працягваў жыць дух адраджэньня» [28, с. 64].

У працэсе гісторыка-літаратурнага развіцця Заходняй Беларусі, асабліва ў сістэме творчых пошукаў і адкрыццяў паэтаў, надзвычай важная роля належала стылю. У адрозненне ад беларускай савецкай паэзіі 1920—1930-х гадоў, у заходнебеларускай стыль выконваў актыўную і дзейсную грамадска-эстэтычную функцыю. Тут яму надавалася важнае значэнне ў ідэйна-мастацкім асэнсаванні рэчаіснасці, выяўленні ўнутранага свету асобы.

Сфера мастацкага ў паэзіі Заходняй Беларусі была багатай і разнастайнай, насычанай і ёмістай. Яна ўключала ў сябе шырокі спектр духоўна-эстэтычных сістэм і мадэляў, складанае перапляценне і ўзаемадзеянне стылявых плыняў, тэндэнцый і ліній, жанрава-структурных форм і інш. Натуральна, усё гэта было звернута да зместу і характару самой грамадскай рэчаіснасці, тых ідэйна-маральных і сацыяльна-палітычных змен і пераўтварэнняў, якія ў ёй адбываліся, выяўляла складанасці і супярэчнасці канкрэтных творчых шляхоў і лёсаў.

Развіццё паэзіі Заходняй Беларусі сведчыла некалькі выразных стылявых агульнасцей.

Вядома, што любы ідэйна-мастацкі акт заключае ў сабе формы ўзаемадзеяння і перапляцення свабоды і неабходнасці, бессвядомага і свядомага, нават мэтанакіраванага, прыродна-генетычнага і грамадска абумоўленага пачаткаў, элементы лагічна-рацыянальнага, разумовага і эмацыянальнага, інтуітыўна-пачуццёвага, а то і містычнага ўспрыняцця з'яў і фактаў рэчаіснасці. Аднак у творчасці кожнага асобнага пісьменніка, бадай, заўсёды пераважае нейкі адзін код мастацкага мыслення і абагульнення, пазнання жыцця і чалавека. Як правіла, кожны з аўтараў мае свае духоўна-філасофскія прыярытэты і арыенціры, прытрымліваецца пэўнай і акрэсленай ідэйна-мастацкай парадыгмы, сістэмы трывала ўсталяваных і апрабаваных паэтыка-стылістычных сродкаў і прыёмаў і інш. Зыходзячы з гэтага, можна заўважыць, што тыпалагічную сістэму стылявога руху заходнебеларускай паэзіі складала развіццё трох выразных плыняў — лірыка-апавядальнай, рамантычнай і духоўна-ірацыянальнай. Іх прадуцыраванне і функцыянаванне вызначалася характэрнымі асаблівасцямі грамадскай свядомасці і маралі, духоўна-сацыяльных умоў і фактараў. Усе яны (зразумела, кожная па-свойму) былі скіраваны да шчырасці і натуральнасці як пераканаўчасці і праўдзівасці ў

адлюстраванні жыцця і чалавека, да выяўлення адметных рыс заходнебеларускай рэчаіснасці, праблем і супярэчнасцей грамадска-сацыяльнага асяроддзя, духоўна-эмацыянальнага свету асобы сучасніка.

Кожная адзначаная стылявая плынь характарызавалася ўстойлівай сістэмай канстытуцыйных прыкмет і асаблівасцей, якія збіралі яе ў адзінае цэлае, фарміравалі эстэтычны змест і аблічча. Менавіта сістэмай, таму што некаторыя з гэтых прыкмет і асаблівасцей у асобным, не звязаным паміж сабою кантэкстуальным выяўленні можна знайсці не ў адной, а ў некалькіх плынях.

Кожная з гэтых плыняў прадугледжвала той ці іншы тып асобы лірычнага героя, яго светаўспрымання і мыслення, арыентацыю на пэўнае кола жыццёвых каштоўнасцей і прыярытэтаў, духоўна-эстэтычных каардынат і крытэрыяў. Яна вызначалася характэрнымі асаблівасцямі ўнутранай абумоўленасці і заканамернасці, эмацыянальна-вобразнай арганізацыі, комплексам мастацкіх прынцыпаў і прыёмаў адлюстравання жыцця і чалавека, жанравых форм і структур, паэтыка-стылістычных рыс і ўласцівасцей. Натуральна, шмат што тут залежала ад агульнасці ці блізкасці духоўна-філасофскага грунту канкрэтных аўтараў, іх ідэйна-светапоглядных, палітычных, маральных і іншых пазіцый і арыентацый, а таксама праблемна-тэматычнага зместу твораў.

Тып пэўнай мастацкай плыні абумоўліваўся характарам індывідуальных стыляў паэтаў, якія яе фарміравалі. Можна сказаць, іх творчасць была аб’яднана адзіным мастацкім кодам і стылявым законам. У сваю чаргу кожны з паэтаў у адпаведнасці з парадыгмай сваёй творчай асобы развіваў тэндэнцыі і заканамернасці той стылявой плыні, да якой належаў. Даволі часта ў мастацкіх пошуках аднаго з іх пераважалі адны асаблівасці плыні, у творчасці другога — другія, як правіла, развіваючыся і ўзаемадзейнічаючы паміж сабой. На аснове тыпалагічнай агульнасці мастацкай плыні выразна і яскрава выяўлялася іх індывідуальна-аўтарская стылявая своеадметнасць і арыгінальнасць.

Такім чынам, унутранае структурнае ядро кожнай стылявой плыні развіцця заходнебеларускай паэзіі фарміравалася за кошт агульнасці ці блізкасці падыходаў аўтараў да асэнсавання жыццёвых працэсаў. Грунтуючыся на аснове пэўнага комплексу стылеўтваральных прынцыпаў, яна ўяўляла сабою выразную канструктыўную сістэму, якая вызначалася характэрнымі асаблівасцямі мастацкага пазнання рэчаіснасці, адзінствам прыёмаў і сродкаў эстэтычнай выразнасці.

Лірыка-апавядальная стылявая плынь была звернута да адлюстравання рэалістычна-праўдзівага пейзажу заходнебеларускай рэчаіснасці, вопыту і традыцый народнай жыццядзейнасці, асаблівасцей грамадскіх адносін і сувязей. У яе аснове палягаў прынцып сацыяльна-гістарычнай аб’ектыўнасці і канкрэтнасці паказу шматлікіх з’яў і працэсаў, стварэння карцін і малюнкаў, апісанняў і характарыстык.

Тыпалагічныя асаблівасці лірыка-апавядальнай стылявой плыні знайшлі сваё выяўленне ў творчасці Г. Леўчыка, Улад.-Ініцкага, М. Васілька, М. Машары, М. Засіма, С. Крыўца. Змест вершаў гэтых і некаторых іншых аўтараў быў забяспечаны сістэмай сэнсавых лейтматываў і мастацка-вобразных формул, цалкам падпарадкаваных праўдзе жыцця і факта, прыродзе падзей і здарэнняў у іх сацыяльна-маральным напаўненні, сцвярджэнню рэальнага чалавечага перажывання, душэўна-пачуццёвага руху асобы. Лірычнае «я» функцыянавала тут у кантэксце знешняй падзейнасці, арганізуючы ўнутранае развіццё сюжэтнага сэнсараду, адметную мадэль суровага і ў той жа час сардэчнага адлюстравання рэчаіснасці. Адны прыхільнікі лірыка-апавядальнага стылю былі звернуты да адзнак фальклорнага светаадчування, калектыўнага мыслення, выяўлення пераважна сацыяльна-бытавых карцін і малюнкаў. Творчасць іншых сведчыла актывізацыю раскрыцця душэўна-псіхалагічнага стану асобы, непаўторнасць адзінкава-прыватнага, індывідуальна-своеадметнага, яскравасць мастацка-вобразнага паказу з’яў і падзей.

У рамантычнай стылявой плыні развіцця паэзіі Заходняй Беларусі мы назіраем іншы тып лірычнага героя, характар яго ўзаемаадносін са сферай знешніх сіл і абставін, іншую сістэму мастацка-вобразнага асэнсавання жыццёвых праблем і канфліктаў. Творчая свядомасць такіх заходнебеларускіх паэтаў, як Л. Родзевіч, У. Жылка, А. Бартуль, П. Пестрак, В. Таўлай, М. Танк, П. Сакол, Л. Геніюш, грунтавалася не на паслядоўнасці пазнання і раскрыцця сутнасці канкрэтных сацыяльна-гістарычных з'яў і працэсаў, аб'ектыўнага свету грамадскіх сувязей і ўзаемадачыненняў, размеранай апавядальнасці і прадметнай рэчыўнасці малюнка, а на адлюстраванні суб'ектыўнага вопыту чалавека, яго высокай духоўнай, эмацыянальна-пачуццёвай зараджанасці. Іх лірычны герой быў непасрэдна заангажаваны ў сюжэтнае дзеянне, знаходзіўся ў цэнтры мастацкай рэчаіснасці. Калі ў лірыка-апавядальнай плыні пераважаў экстравертны, аб'ектыўна-выяўленчы падыход, прынцып рэалістычнай праўдзівасці, жыццепадобнасці і канкрэтнасці ў паказе падзей і фактаў, дык рамантычная вызначалася інтравертным, суб'ектыўна-выразным пачаткам, умоўным тыпам мастацкага мыслення і абагульнення, зваротам да раскрыцця асаблівасцей унутранага свету асобы, яе драматычна-балючага роздуму і перажыванняў, іх складанага і супярэчлівага зместу.

Варта аднак заўважыць, што рамантычная стылявая плынь развіцця заходнебеларускай паэзіі была з'явай даволі шырокай, складанай і неаднароднай. Яна вызначалася барацьбой і ўзаемадзеяннем розных мастацкіх пачаткаў і фактараў, характэрнай унутранай супярэчлівасцю і стракатасцю зместу, заключала ў сабе багацце і шматстайнасць індывідуальных эстэтычных модусаў мыслення і перажывання, шляхоў выяўлення рамантычнай энергетыкі. На наш погляд, агульны тыпалагічны спектр рамантычнай плыні забяспечвала развіццё і ўзаемаабумоўленасць нацыянальна-адраджэнскай і рэвалюцыйнай рамантычных ліній ці разнавіднасцей. Увасабляючы яе асноватворныя аспекты, гэтыя лініі ці разнавіднасці былі блізкія паміж сабою галоўнай стылявой рысай — рамантычным характарам светаўспрымання, мыслення і абагульнення, аднак прыкметна адрозніваліся канкрэтнымі мастацкімі асаблівасцямі, кампанентамі і дэталямі. Тое, што ў адной з іх пераважала і нават дамінавала, у другой фігуравала прыглушана. Адна і тая ж — рамантычная — якасць у адзначаных стылявых разнавіднасцях паварочвалася і раскрывалася рознымі бакамі і фарбамі. Кожны з паэтаў-рамантыкаў працаваў у сваім індывідуальным мастацкім рэчышчы, прытрымліваўся сваіх прынцыпаў і прыёмаў адлюстравання з'яў і падзей і ў той жа час развіваў характэрныя асаблівасці адной з дзвюх стылявых ліній ці разнавіднасцей.

Іншымі словамі, паэтыка рамантычнага стылю ўяўляла сабою не аднастайную цэласнасць, а дастаткова складанае і супярэчлівае адзінства, якое прадугледжвала перавагу нейкага аднаго комплексу рыс і адзнак. Гэта была як бы плынь у плыні, калі ў творчасці пэўнага кола аўтараў атрымлівалі актыўнае прадуцыраванне адны эстэтычныя асаблівасці і кампаненты рамантычнага дыскурсу і паслабляліся іншыя.

Што датычыць духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні, дык яна, у адрозненне ад дзвюх папярэдніх, амаль ніяк не абумоўлівалася з'явамі і падзеямі знешняй рэчаіснасці. Яе прадстаўнікі — К. Сваяк, В. Адважны, Н. Арсеннева, А. Бярозка і інш. — фактычна адкрыта дыстанцыяваліся ад бягучых грамадска-сацыяльных спраў і працэсаў, сцвярджалі прынцыпы і нормы суб'ектыўна-індывідуальнага пазнання жыцця і чалавека, выяўлялі характэрны аўтаномны тып асобы, свет яе душэўна-псіхалагічных перажыванняў. Іх творчасць вызначалася рысамі духоўна-эстэтычнага эгацэнтрызму, калі прыватна-асабістае вызвалялася ад грамадска-агульнага.

Паэты гэтай стылявой плыні ставілі пад сумненне асновы эмпірычнага ўзнаўлення з'яў і прадметаў, фактычна адмаўлялі ролю логікі і наогул рацыянальна-дыскурсіўнага пачатку ў працэсе мастацкага акта. Яны прытрымліваліся той думкі, што паэзія і ў цэлым літаратура павінны не адлюстроўваць рэчаіснасць, а ствараць яе новы вобраз. У іх вершах вядучая роля належала духоўна-мастацкаму

сэнсу — своеасаблівай унутранай анталагічнай энтэлехіі, аснову якой складала народжаная ў патаемных глыбінях бессвядомага ці перадсвядомага чыстая, вольная і непасрэдная інтуіцыя. Яны былі прасякнуты свабоднай творчай дзейнасцю духа, раскрыццём кадэнцыі інтуітыўных імпульсаў і эмацыянальных парываў уяўлення і фантазіі як фактараў індывідуальна-аўтарскай суб'ектыўнасці, звернутых да адзінага корня быцця.

Развіццё стылявых плыняў у паэзіі Заходняй Беларусі не суправаджалася нейкімі арганізацыйнымі працэдурамі і мерапрыемствамі, — напрыклад, заснаваннем на базе пэўных творчых прынцыпаў і падыходаў літаратурных згуртаванняў і суполак, прыняццем метадалагічных дакументаў, выпрацоўкай эстэтычных праграм і маніфестаў і інш. Прадстаўнікі гэтых плыняў фактычна не дэклараваллі сваёй духоўна-мастацкай блізкасці ці падабенства, наадварот, як часцей за ўсё бывае ў літаратуры, сведчылі адметнасць і арыгінальнасць. Разам з тым іх творчасць развівалася ў адпаведнасці з характэрнымі мастацкімі прынцыпамі і прыярытэтамі, тэндэнцыямі і заканамернасцямі, якія дазваляюць гаварыць пра фарміраванне адзначаных стылявых агульнасцей.

Дадзеныя мадэлі стылявых тыпаў заходнебеларускай паэзіі знаходзіліся ў стане пастаяннага руху, абнаўлення і ўзбагачэння сваіх мастацка-выяўленчых прынцыпаў, сродкаў і прыёмаў, вызначаліся складанасцю, а часам і супярэчлівасцю ўнутранага зместу. Яны сведчылі, з аднаго боку, барацьбу і ўзаемаадштурхоўванне, а з другога, узаемаўплыў і філіяцыю, развіваліся не адасоблена і ізалявана адна ад другой, а ў цесным і дынамічным узаемадзеянні і ўзаемапранікненні характэрных адзнак і ўласцівасцей. Кожная з гэтых плыняў запазычвала ў сваіх «суседак» тыя ці іншыя асаблівасці ідэйна-эстэтычнага асэнсавання жыцця, пераймала пэўныя духоўна-энергетычныя імпульсы асобы лірычнага героя, «прысвойвала» некаторыя элементы паэтыкі. Яны арганічна інтэграваліся ў яе мастацкую сістэму, адаптаваліся да новых умоў і абставін, падпарадкоўваліся агульнай зместавай дамінанце. Скажам, у вершах паэтаў лірыка-апавядальнай стылявой плыні можна знайсці шмат рамантычна-ўзвышаных карцін і малюнкаў, яркіх, незвычайных вобразаў, у сваю чаргу многія творы рамантычнай плыні не пазбаўлены аспектаў рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці, дакладных і трапных дэталей і характарыстык і г. д.

Творчасць шэрагу заходнебеларускіх паэтаў знаходзілася ў сілавым полі непасрэднага ўзаемадзеяння, супрацьборства і філіяцыі вядучых рухаючых сіл дадзеных стылявых плыняў, у сферы характэрнага накладвання кругоў уплыву, якія зыходзілі ад іх эпіцэнтраў. Яна вызначалася даволі складаным, шматслойным індывідуальным стылем, разнароднымі мастацка-выяўленчымі сродкамі і прыёмамі, заключала ў сабе рысы і прыкметы не адной, а дзвюх, а то і трох плыняў. Да прыкладу, паэзія М. Васілька выходзіла за межы лірыка-апавядальнай стылявой плыні, сведчыла развіццё выразных рамантычных тэндэнцый і заканамернасцей, у некаторых аспектах адчувальна збліжаючыся з рэвалюцыйнай лініяй. Творчасць К. Сваяка і Н. Арсенневай з яе — адпаведна — рэлігійна-містычнымі рэфлексіямі і перажываннямі і сузіральна-элегічнымі настроямі і малюнкамі давала прыклады духоўна-ірацыянальнай і рамантычнай форм мастацкага абагульнення, у сваю чаргу паэзія С. Хмары выяўляла рысы не толькі рамантычнай, але і лірыка-апавядальнай плыні (пры перавазе першых). Што ж датычыць творчасці Х. Ілляшэвіча, дык у ёй наогул заўважаюцца прыкметы ўсіх трох стылявых плыняў.

У некаторых выпадках асаблівасці адной стылявой агульнасці, мастацка-вобразнай сістэмы перапляталіся з кампанентамі другой, тым самым утвараючы пэўныя змешаныя формы. У творчасці многіх заходнебеларускіх паэтаў сустракаюцца вершы пераходнага характару, якія спалучаюць у сабе адзнакі і ўласцівасці дзвюх стылявых плыняў, а то і зусім адпавядаюць унутранай прыродзе і прынцыпам чужой ім плыні. Гэта сведчыць пра натуральнасць іх мастацкіх пошукаў, цесна звязаных як з аспектамі духоўнага развіцця і самасцвярджэння асобы, так

і працэсамі грамадска-сацыяльнага жыцця ў краі. Як вядома, зусім чыстых з'яў у свеце мастацкай творчасці фактычна не бывае.

На наш погляд, паслядоўнае развіццё лірыка-апавядальнай, рамантычнай і духоўна-ірацыянальнай плыняў выяўляла ўвесь спектр творчых пошукаў і адкрыццяў заходнебеларускіх аўтараў, асаблівасцей іх паэтыкі і стылю. Знаходзячыся ў працэсе складаных перакрыжаваных сувязей і ўзаемадзеяння — то зближаючыся і ўзаемапранікаючы, то адштурхоўваючыся і аддаляючыся адна ад адной, — яны забяспечвалі гістарычны рух заходнебеларускай паэзіі, збіралі яе ў адзінае дынамічнае цэлае, фарміравалі адмысловую стылеўтваральную сістэму. Яе функцыянаванне ажыццяўлялася на аснове прынцыпу нацыянальнай адзінакроўнасці якраз за кошт узаемадзеяння і ўзаемаабумоўленасці гэтых стылявых плыняў, свабоднага «абмену» паміж імі літаратурнай «інфармацыяй», духоўна-творчай энергетыкай і пафасам, за кошт узаемаўзбагачэння ідэйна-мастацкімі набыткамі і дасягненнямі.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 8 лютага 2011 года.

**Літаратура:**

1. Хаўратовіч, І. Заходняя Беларусь / І. Хаўратовіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. — Мінск, 1996. — Т. 3. — С. 421—425.
2. Ад рэдакцыі // Беларуская культура. — 1927. — № 1. — С. 1—2.
3. Ад рэдакцыі // Досьвіткі. — 1927. — № 1. — С.1—2.
4. Ад рэдакцыі // Нёман. — 1932. — Кн. 1. — С. 1—2.
5. Брацьцям-пісьменьнікам // Летапіс ТБШ. — 1933. — № 3—4. — С. 58.
6. Ад Рэдакцыі // Калосьсе. — 1935. — Кн. 1. — С. 1—2.
7. Колесник, В. А. Литература Западной Белоруссии / В. А. Колесник // История белорусской советской литературы. — Минск: Наука и техника, 1977. — С. 90—122.
8. [Ад рэдакцыі] // Калосьсе. — 1936. — Кн.1. — С. 1—2.
9. [Ад рэдакцыі] // Маладая Беларусь. — 1936. — Кн.1. — С. 1—2.
10. Літэратурны куток // Родны край. — 1933. — 29 крас. — С. 8.
11. Літэратурны куток: [ад рэдакцыі] // Родны край. — 1933. — 24 чэрв. — С. 8.
12. Адгукнуліся! // Беларуская газэта. — 1933. — 10 ліст. — С. 3.
13. Хроніка // Калосьсе. — 1936. — Кн. 4. — С. 255.
14. Т-к, М. Паштовая скрынка / М. Т-к // Беларускі летапіс. — 1937. — № 10—11. — С. 244.
15. Паштовая скрынка // Шлях моладзі. — 1938. — № 10. — С. 8.
16. Гальлё! Гальлё! Гаворыць «Куток» //Родны край. —1933. —13 мая. —С. 8.
17. Наша пошта // Родны край. — 1933. — 16 снеж. — С. 8.
18. Ліс, А. С. Літаратура Заходняй Беларусі / А. С. Ліс // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. — Мінск: Беларус. навука, 1999. — Т. 2: 1921—1941. — С. 210—281.
19. Сідарэвіч, А. Яны любілі Беларусь / А. Сідарэвіч // Расстраляная літаратура: творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады. — Мінск: Кнігазбор, 2008. — С. 5—16.
20. Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. Луцкевіч. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 460 с.
21. Станкевіч, С. На шляхох новай беларускай паэзіі / С. Станкевіч // Маладая Беларусь. — 1936. — Кн. 1. — С. 14—22.
22. Декларацыя групы поэтаў да ўсіх пісьменьнікаў Заходняе Беларусі / Я. Чабор [і інш.] // Літэратурная старонка. — 1934. — № 1. — С. 1—4.
23. Хмара, С. Пяе беларускі маладняк / С. Хмара // Шлях моладзі. — 1938. — № 21. — С. 2—3.
24. Хмара, С. Год пераклічкі / С. Хмара // Шлях моладзі. — 1939. — № 6. — С. 16.

25. Танк, М. На новы шлях / М. Танк // Наша воля. — 1936. — 4 жн. — С. 4.
26. Грышкевіч, Фр. На новы шлях / Фр. Грышкевіч // Наша воля. — 1936. — 23 жн. — С. 2.
27. Каліна, С. Літаратура ў вадносінах да жыцьця / С. Каліна // Калосьсе. — 1938. — Кн. 2. — С. 110—114; Кн. 3. — С. 157—160; Кн. 4. — С. 218—224.
28. Багдановіч, І. Ідэя нацыянальнага адраджэньня ў паэтычнай і рэлігійна-філасофскай творчасьці К. Сваяка / І. Багдановіч // Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі: зборнік дакладаў. — Мінск: [Б. в.], 1995. — С. 63—74.

**Мікола Мікуліч**
**«На этапах барацьбы і свабоды»**

**Рэзюмэ**

Артыкул прысвечаны даследаванню гісторыка-літаратурнага працэсу Заходняй Беларусі. Аўтар аналізуе асаблівасці сацыяльна-палітычнай і грамадска-культурнай сітуацыі ў краі, выяўляе формы мастацка-арганізацыйнай дзейнасці пісьменнікаў, мадэлі стылявых тыпаў заходнебеларускай паэзіі і інш.

**Mickola Mickulich**
**«In the periods of struggle and liberty»**

**Summary**

The article is dedicated to the research of the historical and literary processes in western Belarus. The author analyses the peculiarities of social, political and cultural situations in the country, reveals the forms of the artistic and organizational work of the writers, the models of the stylistic types of poetry in western Belarus.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# «БЕЛАРУСЬ НА КУЦЕ Ў ХАЦЕ СВАЁЙ СЕЛА»

***Купалаўская канцэпцыя дзяржаўнай незалежнасці Беларусі***

***Пакінем спадчыну мы для патомкаў***
***Інакшую ад той,***
***Што ўзялі мы ад продкаў на абломках***
***Гісторыі сваёй.***

Янка Купала. «Безназоўнае».

Сёння як эпахальнае дасягненне ў дзяржаўным будаўніцтве мы ўспрымаем суверэннае існаванне Рэспублікі Беларусь. З самых высокіх трыбун атрыманне Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці ў 1991 годзе кваліфікуецца як найвыдатная падзея не толькі ў жыцці беларускага народа, але і ў гісторыі ўсяго славянскага свету, а Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) адзначаецца намі як найвялікшае свята. Праўда, яшчэ да нядаўняга часу ў друку (найперш замежным) можна было прачытаць, што незалежнасць «звалілася» на нас нечакана, што мы «не гатовыя» да дзяржаўнай самастойнасці, што беларусы быццам бы ўвогуле «недзяржаўная» нацыя і г. д. У той жа час поспехі сённяшняй Беларусі ў эканоміцы, адукацыі, навуцы, культуры, спорце, ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі неабвержна сведчаць пра вялікія дзяржаватворчыя мажлівасці нашага народа, якія найбольш і найлепш раскрываюцца менавіта цяпер, у час, калі «Беларусь на куце ў хаце сваёй села» (Янка Купала. «Безназоўнае»). Што да «нечаканасці», «неспадзяванасці», «негатоўнасці» атрымання беларусамі суверэнітэту, то гэты наўмысны домысел абвяргае, у прыватнасці, творчасць народнага песняра Янкі Купалы, які яшчэ дзевяноста гадоў таму не толькі дбаў пра дзяржаўную незалежнасць для свайго народа, але і сродкамі палымянай публіцыстыкі і паэзіі распрацоўваў канцэпцыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Што ж гэта за канцэпцыя, чым яна вызначаецца?

Асягнуўшы думкаю ХХ ст., можна лёгка вызначыць драматычныя і нават трагічныя моманты ў лёсе беларускага этнасу: Першая сусветная, грамадзянская і савецка-польская войны 1914—1920 гг., рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі і БССР у 1920—1930-я гг., Другая сусветная вайна 1939—1945 гг., тэорыя і практыка «зліцця нацый» пасляваеннага часу… Разам з тым можна ўбачыць і тое галоўнае, чаго мы дасягнулі: нарэшце мы сталі нармальнай еўрапейскай нацыяй! Сучасная наша «грамада» («не адзін мільён»), на колішняе купалаўскае пытанне «А хто там ідзе?», несумненна, адкажа гэтаксама, як і на пачатку ХХ ст., але ўжо цалкам *нацыянальна свядома*: «Беларусы!» І заслуга ў гэтым, несумненна, перш за ўсё вялікага Янкі Купалы, які на самым пачатку стагоддзя, на працягу трох з паловай дзесяцігоддзяў (самых, бадай, цяжкіх і адказных), абапіраючыся на зробленае папярэднікамі і на сваіх аднадумцаў-сучаснікаў, нястомна і настойліва «тварыў» нацыю: выяўляў яе самабытны духоўны воблік, паглыбляў гістарычную памяць народа, пашыраў яго нацыянальную свядомасць, граніў беларускую літаратурную мову, надзяляў беларусаў літаратурна-мастацкімі скарбамі сусветнага ўзроўню, вызначаў іх духоўныя арыенціры... Прычым гэтае «тварэнне» нацыі адбывалася паэтапна, у залежнасці ад канкрэтна-гістарычных абставін, але (зноў жа, дзякуючы тым самым канкрэтна-гістарычным абставінам) хутка, нават імкліва. Так, у 1920 г., выступаючы ў Мінску на юбілейным вечары, прысвечаным

15-годдзю сваёй літаратурнай працы, Янка Купала падкрэсліў: «Ні адно на свеце адраджэнне народа, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народа. І сапраўды. Што было пятнаццаць год таму назад і што мы бачым цяпер? Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галовамі мур прабіваць — адбудоўваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы Бацькаўшчыну, а сягоння без малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення. Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна, — сягоння нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па-дзяржаўнаму гавораць з намі як з народам, каторы заслужыў па людскому й Божаму праву гэту незалежнасць». На жаль, яшчэ даволі доўга, ажно да канца XX ст., беларусам «аб незалежнасці і падумаць было небяспечна». Аднак сягоння, на пачатку XXI ст., «нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым гавораць з намі», а дзяржаўная незалежнасць Беларусі, як і ўсіх іншых суверэнных дзяржаў свету, слушна лічыцца найвялікшай сацыяльна-палітычнай каштоўнасцю.

Як мы ведаем, матывы сацыяльнай справядлівасці ў творчасці Янкі Купалы, пачынаючы з першага верша «Мужык», акрэсліліся ў жаданні «ачалавечыць» селяніна, зрабіць яго паўнапраўным грамадзянінам, а затым — заклікаць да барацьбы за свае сацыяльныя правы. Што да нацыянальна-патрыятычных матываў, то з самага пачатку яны ўвасобіліся ў творах чыста асветніцкага, беларусазнаўчага характару. Янка Купала цярпліва і мэтаскіравана тлумачыў беларускаму мужыку, што ён менавіта беларус, а не нейкі «тутэйшы», «паляк» або «рускі», што не трэба блытаць веру і нацыянальнасць (так называўся адзін з артыкулаў пісьменніка — «Вера і нацыянальнасць»), што радзіма яго — Беларусь, якая працягнулася ад Смаленшчыны да Гародні і Бярэсця і ад Палесся да Віленшчыны, што яго роднае слова, хоць цяпер «загнанае», ды «магутнае» і «бяссмертнае» (верш «Роднае слова»), яно калісьці гучала з вуснаў самых саноўных вяльможаў, а беларуская мова была дзяржаўнаю ў магутнай Беларуска-Літоўскай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім... З дня ў дзень, з году ў год Янка Купала навучаў сялян-беларусаў «любіць свабоду, родны край і мову». У шэрагу твораў паэт нават ідэалізаваў мінулае, супрацьстаўляў яго нецікаваму, небеларускаму сучаснаму («Над сваёй Айчызнай», «Курганы», «З мінулых дзён», «На Куццю» і інш.). Аднак гэтае ўзвышэнне мінулага над сучасным не было самамэтаю, імкненнем абяліць «мінуўшчыну» і ачарніць «цяперсшчыну», а выклікалася жаданнем абудзіць у беларусе беларуса, адрадзіць яго нацыянальную свядомасць, гістарычную памяць, накрэсліць аптымістычную перспектыву яго будучага вольнага і самастойнага існавання.

Ніхто так умела, далікатна, мэтанакіравана не ўзгадоўваў, не ствараў беларускую нацыю ў пачатку XX ст., як народны пясняр Беларусі. У 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна. І Беларусь, як не раз гэта здаралася на працягу папярэдніх стагоддзяў, стала арэнай самых кровапралітных бітваў. Мільёны беларусаў зрушыліся з месца, былі мабілізаваны ў царскую армію (у тым ліку і сам Янка Купала), пайшлі на ўсход, у бежанства. Затым Першая сусветная вайна змянілася братазабойчай грамадзянскай, якая, у сваю чаргу, — савецка-польскай вайной. Пад пагрозай аказалася не толькі духоўнае, а само фізічнае існаванне нацыі. І адраджэнска-беларуская тэма ў Янкі Купалы адышла на другі план, а затым і ўвогуле знікла. Больш таго, паэт у той час наогул перастаў тварыць, з 1915 г. замоўк, здавалася, назаўсёды...

Другое паэтычнае дыханне прыйшло да Янкі Купалы восенню 1918 г., калі ён жыў і працаваў у Смаленску. Смаленск у той час з'яўляўся цэнтрам т. зв. Заходняй вобласці, у якую ўваходзіла Смаленшчына і вольныя ад нямецкай акупацыі ўсходнебеларускія землі. І да актыўнай творчасці пасля працяглага перапынку паэта паклікала менавіта Бацькаўшчына, Беларусь. Янка Купала хоць непасрэдна і не ўдзельнічаў у многіх векапомных падзеях таго часу, але, несумненна, ведаў пра іх: і пра барацьбу камуністаў-беларусаў (З. Жылуновіч, Я. Дыла, А. Бурбіс, А. Чарвякоў і інш.) з камуністамі-вялікадзяржаўнікамі (І. Алібегаў, В. Кнорын, К. Ландар, А. Мяснікоў і інш.) за стварэнне хаця б аўтаномнай, у складзе Расійскай Федэрацыі, Беларускай савецкай рэспублікі, і пра разагнаны смаленскімі бальшавікамі (кіраўнікамі Аблвыканкамзаха) Усебеларускі з'езд Саветаў у Мінску ў снежні 1917 г. з яго дэклараванай самім Сталіным магчымасцю «безоговорочно

объявить себя учредительным, образовать свою республику и даже отделиться от России», і пра абвяшчэнне ў часе кайзераўскай акупацыі Мінска Беларускай Народнай Рэспублікі (25.03.1918 г.)... Паэт адчуў: нястомная сяўба на нацыянальнай ніве, дзякуючы бурным рэвалюцыйным падзеям, дала хуткі і добры плён. Цяпер самы час перад народам, абуджаным з летаргічнага сну, ставіць новыя, на гэты раз ужо дзяржаватворчыя, задачы. Бо ён добра ведаў: «Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць тады нас: «Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?»

Янка Купала, які звыш трох гадоў маўчаў як паэт, за нейкія два апошнія месяцы 1918 г. напісаў больш як дваццаць вершаў. Ды якіх вершаў! Тут і славутая «Спадчына», і выдатныя санеты «Для Бацькаўшчыны», «Пчолы», «Наша гаспадарка», і палкі верш-кліч «На сход!», і глыбока сімвалічныя «У дарозе», «Паязджане», і красамоўны зварот «Свайму народу» з яго заклікам:

Паўстань, народ! Для будучыны шчасце
Ты строй, каб пут не строіў больш сусед;
Не дайся ў гэты грозны час прапасці, —
Прапашчых не пацешыць шчасцем свет.

Сваю магутнасць пакажы ты свету, —
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты…
Цябе чакае маці-Беларусь!

Прычым, як і заўсёды ў Янкі Купалы, гэта былі не бяскрылыя вершы-аднадзёнкі, а творы эстэтычна паўнацэнныя, глыбока паэтычныя, хоць і ўзнікалі яны ў асобныя дні па некалькі адразу. Паэт, безумоўна, сэрцам улавіў эпахальны для Беларусі момант, калі на моцным падмурку, узведзеным яшчэ да ўсіх названых падзей, патрэбна было класці сцены Беларускай дзяржавы. Балазе і прыклад добры быў: на развалінах Аўстра-Венгрыі ўзніклі Югаславія, Чэхаславакія, з былой царскай Расіі вылучыліся Польшча, Фінляндыя, аб’явілі самастойнасць Украіна, Літва, Латвія, Эстонія... Паэт-прарок заклікаў:

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

Як роўны йдзі жыхар між роўных жыхароў,
Аддай на суд свае ўсе крыўды, слёзы, кроў […].

Аддаці ўсё на суд, на ўсенародны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

Што гэта быў за «сход» і якая ў будучым павінна быць «Бацькаўшчына-маці» — тады над гэтым паэт, відаць, і не задумваўся. Для яго галоўнай задачай было фарміраваць дзяржаватворную грамадскую думку, эмацыянальна ўздымаць грамадства да актыўнага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

Як мы сёння ведаем, кіраўніцтва Заходняй вобласці як магло супраціўлялася нават нацыянальна-аўтаномнаму ўладкаванню Беларусі ў складзе новай Расіі. І толькі калі члены Белнацкама пры Наркамаце асветы РСФСР пераканалі, нарэшце, Леніна і членаў Бюро ЦК РКП(б) у неабходнасці абвяшчэння савецкай Беларусі, смаленскім бальшавікам-вялікадзяржаўнікам нічога не заставалася, як выканаць рашэнне Бюро ЦК РКП(б) аб утварэнні БССР («А то будет плохо!» — пагражаў ім Сталін). Аднак і на гэтым яшчэ не ўсё скончылася. Ужо была абвешчана БССР (1 студзеня 1919 г.), са Смаленска ў Мінск пераехаў Янка Купала і члены ўрада рэспублікі на чале са Змітраком Жылуновічам (Цішкам Гартным), а газета «Звезда» рукою В. Кнорына пагрозліва пісала: «Потуга белорусской националистической интеллигенции к созданию «своего» белорусского языка, «своей» национальной культуры напрасны... Пусть примут это к сведению белорусские писатели». Гэтая пагроза-папярэджанне ў першую чаргу была скіравана, несу-

мненна, убок Янкі Купалы, які ў той час са Смаленска пераехаў у Мінск і распачынаў нацыянальна-асветную і культурную працу. Не дзіва, што патрыятычныя вершы Янкі Купалы 1918 года ні ў Смаленску, ні ў Мінску, пакуль там трымалася савецкая ўлада Мяснікова і Кнорына, надрукаваны не былі. Яны былі апублікаваны ў тым жа 1919 г. у газетах «Беларусь», «Звон», часопісе «Беларускае жыццё», але ўжо ў часе польскай акупацыі Мінска, пад якую нечакана трапіў і іх аўтар.

Польская акупацыя Беларусі ў 1919—1920-х гг. — мала даследаваная гісторыкамі тэма. Звычайна абыходзяць гэты перыяд у жыцці і творчасці Янкі Купалы і літаратуразнаўцы. У той жа час ён надзвычай важны, бо якраз тады (а Мінск быў акупаваны з 21.04.1919 па 11.07.1920), нягледзячы на розныя грамадска-палітычныя варункі, у Янкі Купалы канчаткова выспела канцэпцыя не проста нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння, а больш таго — незалежнага існавання Беларускай дзяржавы. Тое, да чаго ў практыцы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва мы прыйшлі толькі ў пачатку XXI ст. у выніку распаду СССР. Народны пясняр сваю гэту канцэпцыю ўвасобіў не столькі ў вершаваных творах, колькі ў шэрагу актуальных і выдатных з мастацкага боку публіцыстычных артыкулаў. Прычым, ён яе штораз актыўна паглыбляў, напаўняючы паняцце дзяржаўнай незалежнасці канкрэтным і глыбокім зместам.

Стрыжнёвая ідэя гэтай Купалавай канцэпцыі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі выказана адназначна: «…толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу» («Незалежнасць»). Таму ён як мог раскатурхваў беларусаў, рассейваў іх спадзяванне, што нехта іншы, а не самі яны, можа вырашыць іх лёс. Аналізуючы ў газеце «Беларусь» у студзені 1920 г. «Справу незалежнасці Беларусі за мінулы год» (назва артыкула), гаворачы, як пасля адыходу немцаў на «аграбленыя абшары з вялікім разгонам кінуліся з Усходу — расійскія бальшавікі, з Захаду — польскія нацыяналісты», Янка Купала прароча даводзіў: «Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты і ап’янелыя пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці. Яны яе дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой, пакуль сам беларускі народ не скажа свайго апошняга слова». Гэта, зрэшты, вельмі хутка, у сакавіку 1921 г. пацвердзіў савецка-польскі дагавор аб міры, на падпісанне якога ў Рыгу нават не запрасілі кіраўнікоў БССР…

Добра ўсведамляючы ролю асобы ў грамадстве, у прыватнасці — у станаўленні нацыянальнай дзяржавы (а ўжо былі і прыклады такога роду: Масарык — у Чэхаславакіі, Пілсудскі — ў Польшчы), Янка Купала ў вершы «Паўстань…» заклікаў: «Паўстань з народу нашага, прарок… Зняць путы Бацькаўшчыне ўстань, прарок!»; «Паўстань з народу нашага, пясняр… Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!»; «Паўстань з народу нашага, ваяк… Свой край завалваць паўстань, ваяк!»; «Паўстань з народу нашага, Ўладар… Пад беларускі сцяг прыйдзі, Ўладар!». Відавочна, знаёмы з тагачаснымі кадрамі як з боку бальшавікоў (З. Жылуновіч, А. Чарвякоў, Я. Дыла, У. Ігнатоўскі і інш.), так і «незалежнікаў» (Я. Варонка, Я. Серада, В. Захарка, П. Крачэўскі, Я. Лёсік і інш.), паэт пакуль што не бачыў сярод іх ні «пракаў», ні «ваякоў», ні «песняроў», ні «ўладароў». Тым больш ён не меў на ўвазе Ю. Пілсудскага, чалавека не «з народу нашага», у чым Янку Купалу беспадстаўна абвінавачвалі супрацоўнікі НКУС ў 1930 годзе. Зрэшты, песняром незалежнай Беларусі ён мог стаць і станавіўся сам. Гэтаксама як і прарокам.

Янка Купала разумеў, што кожная самастойная дзяржава павінна мець сваю нацыянальную сімволіку — Сцяг, Герб, Гімн. Паэт радаваўся, бачачы, што беларускі сцяг, як адзін з асноўных сімвалаў незалежнай дзяржавы Беларусь, «уваскрос» («Беларускі сцяг уваскрос!»; 1, с. 65). Горш было з гімнам, з якім выходзіла «нейкая неразбярыха». Існавала некалькі песень, што выконвалі функцыі гімна («А хто там ідзе?», «О Божа, спасе наш», «Працуй, беларусе...», «Не загаснуць зоркі ў небе...»), але не было таго аднаго, усеагульнага прызнанага, які б выконваў функцыі беларускага нацыянальнага гімна. «Справа гэта вельмі важная, — падкрэсліваў Янка Купала, — і трэба, канешна, каб наша ідэйная інтэлігенцыя — паэты і кампазітары — заняліся ёй паважна» («Справа беларускага нацыянальнага гімна»). Незалежная дзяржава павінна абапірацца на рэальную сілу, і не толькі сацыяльна-палі-

тычную, але і вайсковую. Самастойная дзяржава не можа існаваць без свайго войска. Таму «войска беларускае павінна быць, і яно будзе», трэба «даць беларусам магчымасць бараніць свае гранічныя слупы войскам беларускім», бо «само жыццё гэтага вымагае, вымагае гэтага самаабарона» («Беларускае войска»). Паэт вітаў стварэнне ў Мінску Беларускай Вайсковай Камісіі, якая пачала рэгістраваць беларусаў-афіцэраў, фарміраваць беларускае войска, хоць польскія ўлады пэўны час не дазвалялі гэтага, баючыся (і не беспадстаўна), што зброя беларусаў будзе накіравана супраць іх. Янка Купала, ідэалагічна забяспечваючы беларускае войска, нават напісаў вялікі цыкл вершаў-песняў «На вайсковыя матывы» (1920 г.) — дзеля духоўнага спажытку маладых беларускіх жаўнераў. Паэт увогуле рабіў стаўку на моладзь, радаваўся, што ў час, калі «шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай Бацькаўшчыны», моладзь актыўна пачала ўключацца ў грамадскае жыццё. Ён з радасцю адзначаў, што «адбудаванне незалежнай Беларускай дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь», падкрэсліваў: «Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі, ствараюцца па гарадах, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты, усё рукамі той жа самай беларускай моладзі» («Моладзь ідзе!»). І гэта было не заігрыванне з моладдзю, а пазіцыя чалавека, умудронага вопытам перажытага, які бачыў у моладзі адну з асноўных рухальных сіл грамадства.

Што да сацыяльна-палітычнага ўладкавання будучай цалкам вольнай Беларусі, то, згодна з Янкам Купалам, гэта будзе сапраўды дэмакратычная дзяржава, у якой «усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам», «кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачах права свету» («Незалежная дзяржава і яе народы»). Нацыянальныя меншасці ў гэтай дзяржаве будуць «вольна развіваць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць», бо «свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, паднявольны чужынцам». «Ва ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойма і канчаючы мястовымі і валаснымі самаўрадамі, — павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца, прапарцыянальна беларускай большасці».

Янка Купала заўсёды быў на баку «бедных і загнаных», выступаў за сацыяльную справядлівасць. Услаўляючы дзяржаўную незалежнасць, ён, разам з тым, не забываўся і пра сацыяльную справядлівасць. Паколькі ў царскай Расіі беларусы былі «мужыцкай нацыяй», то асабліва вострым тут стаяла зямельнае пытанне. Выказваючы надзею сялян на справядлівае вырашэнне гэтага пытання, Янка Купала ў артыкуле «Зямельная спекуляцыя» пісаў: «Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі і што гэтай зямлі для яго хопіць, абы толькі падзяліць яе па справядлівасці, як прыстала на добры лад і парадак у дзяржаве». Ён выкрываў «паноў-абшарнікаў», якія сталі спекуляваць зямлёй, «стараючыся як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі». Прычым, вырашэнне ўсіх пытанняў — ад палітычных да сацыяльных — паэт звязваў з актыўнасцю саміх насельнікаў Беларусі: «Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі» («Больш самачыннасці»).

Такія асноўныя моманты купалаўскай канцэпцыі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Логіку Прарока дапаўнялі эмоцыі Песняра, які, сам горача паверыўшы ў ідэю нацыянальнага адраджэння, запальваў гэтай ідэяй іншых: «Арлінымі ўзмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, — брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказвалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе» («Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы»). І гэтую веру паэта не пахіснулі ўжо ніякія віхуры, хоць вельмі хутка яго надзея на існаванне незалежнай Беларусі пагасла. Аднак, як мы бачым, не канчаткова. І сёння, жывучы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, вучачыся жыць ва ўмовах самастойнай дзяржаўнасці, мы павінны памятаць пра ўсіх, хто дбаў пра незалежную дзяржаву для беларусаў. І ў першую чаргу — пра вялікага Янку Купалу.

Сяргей ЧЫГРЫН

# З ПАЕЗДАК ЯНКІ КУПАЛЫ

## Два наведванні Беластока

Упершыню народны паэт Беларусі Янка Купала наведаў Беласток у кастрычніку—лістападзе 1939 года.

8 кастрычніка 1939 года разам з Якубам Коласам, Змітраком Бядулем, Міхасём Клімковічам, Янкам Маўрам, Макарам Паслядовічам і іншымі літаратарамі Янка Купала выехаў з Мінска. Па дарозе пісьменнікі наведалі Стоўбцы і Ваўкавыск. Магчыма, Якуб Колас ехаў на сваёй машыне, а Янка Купала — на ўласным шэўрале. З сабой яны везлі і іншых пісьменнікаў.

Першая літаратурная сустрэча ў Беластоку адбылася ў тэатры «Апалон». На ёй выступілі Я. Колас, З. Бядуля, М. Клімковіч, а таксама Я. Купала, які прачытаў некалькі вершаў. Пра гэту сустрэчу паведамілі газеты «Звязда», «Савецкая Беларусь» і «ЛіМ». Купала з радасцю чытаў свае натхнёныя радкі:

Накарміліся панскаю ласкай,
Горкіх слёз напіліся дасыта.
Што здавалася ўчора йшчэ казкай,
Прыйшло сёння у сонцы спавітым.
Расплываліся ў небе туманы,
Разганяў вецер ссохшае лісце.
Салавейка спяваў над курганам,
Неяк быццам спяваў галасісцей.
Ішлі гоманы нівай наспелай,
Гарады адклікаючы й вёскі.
Белавежская пушча шумела,
І шумеў цёмны лес Аўгустоўскі…

Другая сустрэча прайшла на сходзе настаўнікаў. Іван Дамінікавіч цікавіўся жыццём працоўных і інтэлігенцыі Заходняй Беларусі, адказваў на пытанні педагогаў Беласточчыны. А 28—30 кастрычніка як дэлегат удзельнічаў у рабоце Народнага сходу Заходняй Беларусі, які прыняў Дэкларацыю аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад БССР. Калі Я. Купала з’явіўся перад дэлегатамі, як бацька перад сынамі, прыгадваў Валянцін Таўлай, то доўгі, працяглы гул стаяў у зале, стаяў доўга і не сунімаўся. Сапраўды, у 1920—1930-х гадах у кожнай заходнебеларускай вёсцы, горадзе, у кожным гуртку ТБШ, бібліятэцы-чытальні і ў звычайнай сялянскай хаце можна было ўбачыць партрэты Янкі Купалы. Асаблівай папулярнасцю карыстаўся той, што выдалі літаграфаваным спосабам у Вільні ў 1927 годзе. Максім Танк нават увёў яго як пераканаўчую мастацкую дэталь у верш «Шэрыя хаты, платы і вароты» і ўключыў у свой зборнік «Журавінавы цвет» (1937 г.). Гэты твор аб прыгнечанай долі селяніна, пазіраючы на якую, «у рамках сумуе Купала».

Янку Купалу згадвалі і ў прыватных гутарках, на вечарынках, у палітычных артыкулах і карэспандэнцыях з вёсак. Друк нацыянальна-вызваленчага руху стракацеў радкамі і строфамі народнага песняра, асабліва ў допісах з месц. Як пісаў В. Таўлай у артыкуле «Творчасць Янкі Купалы ў барацьбе за ўз’яднанне

беларускага народа», ягонае імя, а таксама радкі і асобныя строфы паэта часта з'яўляліся на сценах астрогаў, куды траплялі беларускія хлопцы, якія, кажучы словамі М. Танка, «аб'язджалі без білетаў далёкія старонкі». Творы Я. Купалы, што ў памяці прыносіліся за краты асуджанымі беларусамі, былі для ўсіх палітзняволеных вялікай маральнай падтрымкай.

А тут беларусы Заходняй Беларусі ў Беластоку ўбачылі жывога песняра, творы якога дапамагалі ім жыць, змагацца, працаваць. Таму так шчыра, доўга і цёпла віталі яны яго.

Перад удзельнікаму сходу Я. Купала прачытаў і свой верш «Настаў чарод», таксама з цыкла «На заходнебеларускія матывы»:

Цябе, мой брат,
Губіў пан-кат,
Скарынцы хлеба ты быў рад,
У світцы з лат
Не ведаў свят
І не мінаў астрожных крат.
Плыве гул-сказ:
— Настаў твой час,
Час кінуць жудкі свой папас!
Быць сярод нас
Між ясных крас
Мы клікалі цябе не раз…

Менавіта ў Беластоку ён пазнаёміўся з М. Танкам, Міхасём Машарам, Піліпам Пестраком. У блакноце М. Машары Я. Купала пакінуў такія радкі: «Дзень добры, таварыш Машара, на вызваленых землях Заходняй Беларусі! Жывіце радасна і шчасліва, як мы, старэйшыя, жывём. Я. Купала. Беласток. 29/X-39 г.». (Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, ф. 1, воп. 2, адз. зах. 20).

Алег Лойка ў рамане-эсэ «Як агонь, як вада…», згадваючы Народны сход Заходняй Беларусі, пісаў: «Яны, Купала і Колас, на сходзе былі скрозь і ўсюды поруч. Што гаварыў, пісаў аб сходзе Колас, тое было і ў сэрцы Купалы, тое захапляла, уражвала, хвалявала і Купалу. І абодва яны разумелі, адчувалі, што яны — пры вялікай эпічнай тэме народнай героікі, народнай барацьбы і пакуты, мары і надзеі, веры і ўпэўненасці. Іх позіркі ў твары дасюль незнаёмых ім людзей былі пільнымі і любоўнымі. Іх вочы прагна ўбіралі ў сябе, як ужо дапатопнае дзіва, краявіды з незаворанымі межамі, вузкімі палоскамі, з падслепаватымі пад шэрай саломай хатамі і падпертымі каламі гуменцамі і хлеўчукамі… Купала, пэўна, больш Коласа, усё браў на слых. Ён усё прасіў, каб яму расказвалі пра канцлагер у Бярозе-Картузскай, пра Грамаду, пра страйкі-забастоўкі лесарубаў, пра здзек дэфензівы і асаднікаў, пра расстрэлы дэманстрантаў у Косаве, пакаранні правакатараў у Вільні, Слоніме, Беластоку. Купала адчуваў сябе ў даўгу перад гэтым народам, што сабраўся на свой гістарычны сход… Купала, як толькі першы раз пераехаў быўшую граніцу, адразу ж зразумеў, што ён не ведаў гэтага жыцця свайго народа — яго складу, яго духу. Праблемы сацыяльнага, нацыянальнага вызвалення тут былі тыпалагічна тыя ж, што ў дарэвалюцыйнай Беларусі, але формы выяўлення падобных жа сацыяльна-палітычных працэсаў былі ўжо іншыя. Спазнаць іх — да апошняй драбніцы! Спазнаць, бо без ведання іх, які можна эпас напісаць — эпас вось гэтага народнага жыцця, якое толькі рэхам радыёхваль адбівалася ў яго мінскай хаце пад таполяй? Купала, Колас ведалі: і жыццё заходніх беларусаў павінна легчы старонкамі мастацкага летапісу беларусаў. Яны паміж сабой аб гэтым не гаварылі, ды кожны з іх аб гэтым напружана думаў, кожны сам па сабе таксама будучы героем легендарных зорных дзён зменлівай гісторыі свайго народа…» (Алег Лойка. Выбраныя творы ў двух тамах. Мн., 1992. Т. 1. С. 406—407).

Пасля вяртання ў Мінск, Я. Колас пісаў Сяргею Гарадзецкаму: «Потрясающее, глубоко волнующее впечатление произвело это собрание. Мне никогда

еще не случалось видеть такой съезд, такой народный сход, где бы с такой силой изливалась душа народа, его горькая обида, нанесённая подлыми, глупыми, спесивыми угнетателями… Меня также глубоко взволновало и то обстоятельство, что белорусский народ не забыл и своих певцов, меня и Купалу, и выразил нам громко свою признательность» (Якуб Колас. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Мн., 1978. Т. 13. С. 191).

Другі раз Я. Купала наведаў Беласток у кастрычніку 1940 года. Яшчэ ў верасні газета «Літаратура і мастацтва» паведамляла, што члены праўлення ССП БССР і група пісьменнікаў — Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва, П. Глебка, З. Аксельрод, М. Танк, П. Пестрак, Г. Камянецкі, М. Модэль, А. Кучар на днях выязджаюць у Беласток, дзе будзе працягнута работа праўлення ССП БССР па прыёме лепшых пісьменнікаў заходніх абласцей, якія творча выявілі сябе, у Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР.

Некаторыя літаратары ў Беласток выехалі на цягніку, а Купала паехаў на машыне Коласа. Яны прынялі ўдзел і ў пасяджэнні выязной сесіі Акадэміі навук БССР у Беластоку, дзе абмяркоўваліся пытанні і праблемы развіцця культуры і эканомікі заходніх абласцей Беларусі. Пасля сесіі песняры сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі Беластоцкага педінстытута.

У сваім хатнім архіве я знайшоў згадку пра гэтую сустрэчу, якую некалі даслаў мне краязнавец і музейшчык з Дзятлава Міхась Петрыкевіч (1913—1999), тады студэнт. У лісце ён прыгадваў: «Гэта было 14 кастрычніка 1940 года ў горадзе Беластоку. Я тады вучыўся ў Беластоцкім педінстытуце на літаратурным факультэце. Вялікай падзеяй у жыцці інстытута і маім асабістым жыцці была нечаканая першая сустрэча з народнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам і Якубам Коласам. У Беластоку тады праходзіла выязная сесія АН БССР. На сесіі прысутнічалі і народныя песняры. Калі мы пра гэта даведаліся, то аднадушна вырашылі арганізавааць у інстытуце сустрэчу з паэтамі. Дырэкцыя інстытута падтрымала нашу ініцыятыву. На хуткую руку мы падрыхтавалі невялікі канцэрт, выпусцілі спецыяльны нумар насценнай газеты.

14 кастрычніка пад вечар дэлегацыя студэнтаў, сярод якіх быў і я, адправілася ў памяшканне, дзе праходзіла сесія. Калі літаратарам перадалі нашу просьбу, то яны адразу пагадзіліся з намі сустрэцца. Мы крыху пачакалі. І раптам з прэзідыума выйшлі народныя паэты, ветліва прывіталіся, і мы накіраваліся ў педінстытут. Нашаму шчасцю не было канца. Трэба было ісці не менш кіламетра, і ўвесь гэты час мы маглі свабодна гутарыць з любымымі паэтамі. Вечар быў цёплы і ціхі. Ападала лісце з ліп і каштанаў. Вясёлая грамада абступіла паэтаў, мы ішлі гурбою. Янка Купала ўвесь час жартаваў, а мы смяяліся.

Я ішоў побач з Якубам Коласам. Ён цікавіўся нашым мінулым, пытаўся, адкуль мы родам. Калі даведаўся, што я з Наваградчыны, то сказаў: «Добра ведаю Наваградчыну. Слаўныя там людзі, прыгожая прырода. У мяне было многа блізкіх таварышаў з Наваградчыны».

Актавая зала ўжо была поўнай, калі мы прыйшлі. Паэтаў сустракалі дружнымі і доўгімі апладысментамі. Песняры раскланяліся, распрануліся і селі за стол прэзідыума. Кароткую прамову сказаў супрацоўнік АН БССР Барысенка В. В., які суправаджаў паэтаў. Потым выступілі з чытаннем сваіх вершаў Янка Купала і Якуб Колас. Што яны чыталі — я ўжо не памятаю. Мы як зачараваныя слухалі іх, запаміналі міміку, жэсты. Асабліва запомнілася, што голас Якуба Коласа быў гучны і звонкі.

Паэты падзякавалі за цёплы прыём, пажадалі нам поспехаў у вучобе, напомнілі пра вялікую адказнасць настаўнікаў перад народам, пра тое, што заходнія вобласці чакаюць нас, каб ліквідаваць адсталасць народа, павысіць яго культуру.

У перапынку мы папрасілі падпісаць нам кнігі. Паэты разгубіліся, бо ў іх не было з сабой кніг. Калі ж яны даведаліся, што мы самі купілі іх кнігі, — ахвотна падпісалі на памяць аб сустрэчы некалькі дзясяткаў сваіх кніг. Янка Купала пад-

пісаў мне свой зборнічак «Над ракой Арэсай», а Якуб Колас — зборнік выбраных твораў.

Калі пачалася вайна, я вырваў тытульныя лісты з аўтографамі і насіў іх з сабой. Але на фронце, дзе я быў, яны згубіліся. Янку Купалу я больш ніколі ў жыцці не бачыў, а Якуба Коласа сустракаў некалькі разоў пасля вайны. Аднак першая сустрэча ў Беластоку была самая яркая, самая хвалюючая і запомнілася мне назаўсёды».

У той вечар Я. Купала чытаў студэнтам свае вершы «Калыханка», «З новай думкай», «Наша моладзь», «Час быў такі». І студэнты з радасцю слухалі яго:

З новай думкай, з новай песняй
Выйдзеш ты на нівы,
Беларусе, напрадвесні,
Браце мой цярплівы.
Засяваці будзеш зернем,
Як бурштын, адборным,
І ніхто цябе не зверне
Са шляхоў прасторных…

15 кастрычніка Я. Купала назаўсёды пакінуў Беласток і больш ніколі туды яму завітаць не прыйшлося.

## Праездам праз Варшаву

Янка Купала ў першай палове XX стагоддзя вельмі хацеў пабываць у Варшаве і сустрэцца з беларусамі. Але, на вялікі жаль, такую мажлівасць польскія ўлады яму не далі.

Беларускі паэт Гальяш Леўчык, які жыў у Варшаве, 27 чэрвеня 1907 года напісаў санет «Купалле» і прысвяціў яго народнаму песняру.

Дарэчы, гэта быў першы верш у беларускай літаратуры, прысвечаны Купалу. Апублікаваны ён на старонцы 34 у зборніку Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі», які лацінкай выйшаў з друку ў Вільні ў 1912 годзе пад рэдакцыяй самога песняра. У 1914 годзе Г. Леўчык хацеў «Чыжыка беларускага» выдаць кірыліцай і даслаў гэты зборнік у Вільню Я. Купалу. 7 лютага 1914 года Іван Дамінікавіч адказваў: «Паважаны пане! Вашага «Чыжыка» аддалі ўжо друкаваць рускімі літарамі. Будзьце ласкавы прыслаць як найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якія папраўкі, то прышліце папраўлены экзэмпляр. Астаюся са шчырай да Вас пашанай сакратар Беларускага выдавецтва Ів. Луцэвіч. P. S. Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі б, каб Вы самі зрабілі. Ів. Л.» (Часопіс «Беларусь», 1973, № 2. С. 28).

Але «Чыжык беларускі» кірыліцай не выйшаў, бо гэтаму перашкодзіла Першая сусветная вайна.

З Янкам Купалам сябравалі многія беларускія студэнты, якія ў першай палове XX стагоддзя вучыліся ў Варшаве. У прыватным архіве Зоські Верас (1892—1991), якая жыла ў Вільні, усё жыццё захоўваўся ліст ад яе сябра, студэнта медыцынскага факультэта Варшаўскага універсітэта Аркадзя Табэркі, які родам быў з вёскі Астроўна Магілёўскай губерні. 2 мая 1914 года Аркадзь, па дарозе дамоў, спыніўся ў Вільні. Адтуль ён напісаў З. Верас у Варшаву, што бачыўся з Я. Купалам, які падараваў яму з аўтографам сваю кнігу «Шляхам жыцця».

У 1920-х гадах у Варшаве, як вядома, дзейнічаў Беларускі пасольскі клуб — нацыянальная дэпутацкая фракцыя ў сойме Польскай Рэспублікі. 7 чэрвеня 1925 года дзесяць сяброў пасольскага клуба накіравалі Купалу вітанне з нагоды 20-годдзя літаратурнай дзейнасці. Яго надрукавала газета «Савецкая Беларусь»: «Янка Купала. Інбелкульт. Мінск. Шчыра вітаем слаўнага песняра Беларусі з дваццатымі ўгодкамі літаратурнай працы. Няхай красуе муза твая пры тварэнні культуры на карысць працоўных масаў беларускага народу! Варшава. Сойм». Тэлеграму пад-

пісалі Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павел Валошын, Аляксандр Уласаў і іншыя беларускія дэпутаты сойма Польшчы.

Дарэчы, з Б. Тарашкевічам Купалу ўдалося ўсё ж сустрэцца ў Варшаве праездам на цягніку, калі ў канцы кастрычніка 1925 года вяртаўся з Міхасём Чаротам з Берліна і Прагі. Пясняр хацеў затрымацца ў Польшчы на некалькі дзён, але ўлады не дазволілі гэтага. Віленская газета «Жыццё беларуса» (1925, № 18) пісала: «27 кастрычніка праз Варшаву праехаў, варочаючыся з Нямеччыны і Чэхаславаччыны, наш вялікі нацыянальны паэт Янка Купала. На просьбу яго аб дазволе спыніцца ў межах Польшчы на пару дзён і наведацца да Вільні польская ўлада адказала адмоўна, даўшы толькі транзітную візу (на праезд без права спыніцца)».

Праз Варшаву Купала ехаў і летам 1927 года, калі з Мінска накіроўваўся ў Карлсбад падлячыцца. Гэтым разам польскія ўлады не дазволілі яму затрымлівацца на тэрыторыі краіны. «Нічога дзіўнага, што праезд Янкі Купалы ўлетку 1927 года па дарозе ў Карлсбад праз Заходнюю Беларусь стаўся значнай палітычнай падзеяй грамадскага жыцця прыгнечанай краіны. Нічога дзіўнага таксама, што польскі ўрад збаяўся дапусціць да сустрэчы паэта з народам», — згадваў у сваіх успамінах В. Таўлай (Янка Купала. Мн., 1952. С. 156).

Пра тое, што Купалу не дазволілі спыніцца і сустрэцца з беларусамі Польшчы, напісалі многія беларускія выданні Польшчы і БССР. У хроніцы газеты «Наша праўда» ад 6 жніўня 1927 года паведамлялася: «У аўторак праз Варшаву праехаў, едучы з Мінска ў Карлсбад, наш найвялікшы пясняр Янка Купала. На вялікі жаль, нашаму песняру не ўдалося заехаць у Вільно: ён атрымаў ад польскіх уладаў візу без права затрымацца ў Польшчы». Віленская «Беларуская крыніца» (№ 33 ад 1927 года) таксама пісала: «Праезд Янкі Купалы праз Варшаву. У аўторак на мінулым тыдні найвялікшы наш пясняр Адраджэння Янка Купала, едучы з Менску ў Карлсбад (Чэхаславаччына) лячыцца (хворы на вантробы), праязджаў праз Варшаву. На жаль, польскія ўлады, даючы Купалу візу (дазвол) на праезд, не дазволілі затрымлівацца ў Польшчы…»

Вяртаючыся з Чэхаславаччыны ў Мінск, з Янкам Купалам у Варшаве на чыгуначным вакзале ўдалося пагутарыць з журналістам віленскай «Нашай Працы». Журналіст тайком пранік у вагон да песняра і задаў яму пару пытанняў. Гэта гутарка была апублікавана ў «Нашай Працы» (№ 2 за 1927 год). І хоць гутарка надрукавана ў вельмі асцярожнай форме, кожнае слова Купалы аб навінах літаратурнага жыцця ў Мінску ўспрымалася, як доўгачаканая, шматзначная вестка — польская цэнзура тады добра навучыла заходне-беларускага чытача разумець і паміж радкоў. Вось некалькі прыкладаў з той гутаркі.

Аб сваёй працы Купала сказаў, што за апошнія часы даваў вершы ў «Полымя» і іншыя часопісы і газеты: «За вялікшыя рэчы я не браўся, бо быў заняты ўпарадкаваннем і пераглядам старых твораў, якія цяпер друкуюцца ў поўным сабранні іх. Пераклаў вось толькі прыгожую рэч з польскай мовы — адрывак з песні «O wojnie domowej» Бранеўскага…». «Перагляд і апрацоўка ўсяго гэтага матэр’ялу занялі вельмі многа часу і яшчэ зоймуць. А тут яшчэ і хвароба не дае працаваць!» Аб творчасці іншых паэтаў, аб згуртаваннях нашых паэтаў і літаратараў, аб якіх глухія весткі даходзілі ў Заходнюю Беларусь, сказаў наступнае: «Творчасць Беларуская багата расцвітае. Працуюць, не пакладаючы рук, старыя пісьменнікі, ды нарасла цэлая маса новых. Вось, апошнія першыя заварушыліся, каб з’арганізавацца. Ужо гадоў пяць назад заснавалася арганізацыя нашае літаратурнае моладзі пад назвай «Маладняк». Яна ахапіла цэлы край і сотні маладых паэтаў. Праз нейкі час з «Маладняка» выдзелілася група «Узвышша», да якое са старэйшых пісьменнікаў далучыўся Змітрок Бядуля. Цяпер творыцца яшчэ адна група — «Пробліск»… Далей Я. Купала расказаў пра справы выдавецкія, якія ў Заходняй Беларусі не дужа добрыя. Купала назваў некалькі характэрных лічбаў, якія паказаліся заходнім беларусам проста казачнымі…

11 кастрычніка 1927 года газета «Савецкая Беларусь» паведаміла, што Купала вярнуўся дамоў. Больш ніколі ён у Варшаве не быў.

**Наталля МІЦКЕВІЧ**

# ДОЎГАЯ ДАРОГА*

*(ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа)*

## У Беларускім політэхнічным

У канцы жніўня 1947 года нас з мужам залічылі на чацвёрты курс машынабудаўнічага факультэта. Спатрэбілася здаваць шэраг экзаменаў па спецыяльных дысцыплінах — металарэзныя станкі, пад'ёмна-транспартныя машыны і інш. З гэтым мы лёгка справіліся, і нас далучылі да групы з шаснаццаці студэнтаў. На чацвёртым курсе нашага факультэта была яшчэ адна група студэнтаў, якія спецыялізаваліся на аўтамабілебудаўніцтве. Невялікая група была старэйшая за нас на семестр і другая крыху большая, на семестр ніжэйшая за нашу. Паколькі некаторыя заняткі праводзіліся сумесна, то са студэнтамі гэтых груп мы хутка пазнаёміліся і пасябравалі. З іх выпускнікоў многія сталі вядомымі вучонымі, педагогамі, канструктарамі, тэхнолагамі. Алег Роман і Васіль Бяляеў сталі дактарамі навук, Рэм Тамілін і Сяргей Касцюковіч абаранілі кандыдацкія дысертацыі, Залік Сіроткін стаў галоўным канструктарам БелаўтаМАЗа. А тады старастам нашай групы быў Сяргей Касцюковіч. За гады навучання ў інстытуце мы пасябравалі з ім, з Тамарай Кажанковай і Іосіфам Энціным. Пасля заканчэння інстытута Сяргей і Тамара пабраліся. Сяброўства з імі захавалася на ўсё жыццё.

Да вайны Сяргей скончыў першы курс політэхнічнага, а з пачаткам вайны пайшоў добраахвотнікам у армію. Яго накіравалі ў літоўскую дывізію, якая толькі-толькі пачала фарміравацца. Да яго прыставілі дзеншчыка, каб кожны дзень ён засвойваў па 10 літоўскіх слоў. У складзе гэтай дывізіі ён прайшоў усю вайну, атрымаў узнагароды, а галоўнае — набыў сапраўдных сяброў-літоўцаў. Пасля дэмабілізацыі Сяргей узнавіў вучобу ў політэхнічным інстытуце. Бацька Сяргея, машыніст поезда, загінуў на трэці дзень вайны пры бамбардзіроўцы чыгуначнай станцыі Мінска. Маці Сяргея перажыла ліхалецце вайны пад Мінскам.

Тамара таксама паспела скончыць першы курс Кіеўскага авіяцыйнага інстытута грамадзянскай авіяцыі. У 1941—1944 гг. яна служыла вольнанаёмнай у франтавым ваенна-санітарным складзе — франтавой аптэцы, якая забяспечвала медыкаментамі ўсе воінскія часці фронту, была прыпісана да яго і рухалася разам з ім. Восенню 1944 года Тамару прынялі ў МАІ. Пасля заканчэння вайны яе бацьку, ваеннага хірурга, накіравалі на работу ў Мінск у якасці галоўнага хірурга. Тамара пераехала да бацькоў і была прынята на трэці курс БПІ.

Оська, так мы звалі Энціна, вучыўся ў маёй школе на клас ніжэй. Некаторы час ён служыў на флоце, а што паспеў скончыць — не запомнілася. Пасля заканчэння інстытута Сяргея пакінулі на кафедры тэхналогіі машынабудавання. Тамара таксама працавала ў інстытуце, спачатку на кафедры «Тэхналогія металаў», а затым — на кафедры «Станкі і рэзанне металаў». Мяне, Оську і Тамару Шатэрнік накіравалі на станкабудаўнічы завод імя Варашылава (пазней — Кастрычніцкай рэвалюцыі). Але Энцін там не затрымаўся — заспрачаўся з дырэктарам завода і

* Працяг. Пачатак у № 3, 4, 5, 2011 г.

паслаў яго па рабоча-сялянску. А той тут жа выгнаў барацьбіта за прынцыповасць і справядлівасць з завода. Оська ўладкаваўся ў тэхналагічнае бюро дызельнага цэха Мінскага трактарнага завода. Там жа Міхась укараняў першыя ўстаноўкі для электраэразійнай апрацоўкі. Як ён прыгадваў, адным з першых на гэтай устаноўцы пачынаў працаваць Васіль Мастоўнікаў, які пазней стаў супрацоўнікам інстытута фізікі, доктарам фізіка-матэматычных навук, лаўрэатам Ленінскай прэміі. У гэтым цэху ў якасці майстра ўчастка працаваў Мікалай Слюнькоў. Аднойчы ў нашай кампаніі Оська дзяліўся сваімі турботамі па рабоце і прыгадаў прозвішчы і свайго шэфа Кацянка і Слюнькова. Тамара адразу адазвалася, што Слюнькоў яе студэнт, які не разбіраецца ў дысцыпліне рэзання металаў. Оська, які здружыўся з імі, запярэчыў: «Запомні мае словы — і Кацянок, і Слюнькоў далёка пойдуць, бо ў іх ёсць магутная хватка!» Сапраўды, праз пэўны час Кацянка забралі ў Маскву на пасаду намесніка міністра аднаго з саюзных міністэрстваў. А Слюнькоў узначаліў трактарны завод, пасля яго абралі першым сакратаром гаркама партыі, пасля ўзялі ў Дзяржплан СССР, а адтуль — у сакратары ЦК КПБ. У хуткім часе пасля гэтага прызначэння яго запрасілі ў Акадэмію навук на выставу дасягненняў акадэмічных інстытутаў. Экскурсія зацягнулася і, калі дайшла чарга да экспанатаў фізіка-тэхнічнага інстытута, Слюнькоў, глянуўшы на іх, сказаў, што яны яму добра знаёмы. Прэзідэнт акадэміі М. А. Барысевіч, які суправаджаў высокага госця, у жаданні засяродзіць яго ўвагу на работах інстытута, прапанаваў пазнаёміцца з сынам Якуба Коласа, супрацоўнікам гэтага інстытута. Слюнькоў буркнуў, што яны даўно знаёмы і пайшоў далей. Канешне, настрой дырэктара інстутыта і «экскурсаводаў» быў сапсаваны. І тут Міхась выдаў: «Во! Я адзіны экспанат інстытута, з якім азнаёмілі новага сакратара!» Усе рассмяяліся, і напружанне было знята.

Энцін доўгі час хадзіў халасцяком, але неўзабаве пазнаёміўся з масквічкаю, сцэнарыстам мультфільмаў. Яна забрала яго ў Маскву, але вяселле згулялі ў Мінску. Мы з Тамараю набылі набор срэбраных лыжачак, але Міхась палічыў, што гэта нецікава і набыў на Чэрвеньскім рынку гаршчок (для сямейнага ачага), лубачную карціну з дзяўчынай на востраве з пісьмом у руцэ, на якім дапісаў: «дарагому Осіку», і ката-капілку. Падарункі ўручылі адразу, а інструкцыя да капілкі была агучана пазней, калі выпілі па некалькі чарак, Міхась патлумачыў: мы жывём пры сацыялізме, а галоўная яго рыса — гэта ўлік і кантроль. Таму калі будзеш ісці да жонкі — кінь манетку ў капілку. На старасці даведаешся, колькі разоў ты любіў сваю жонку. Застолле ўзарвалася рогатам і пачуліся шкадаванні, што не дадумаліся да гэтага. Але гэта адбылося шмат пазней.

Пасля трох курсаў авіяцыйнага інстытута, праслухаўшы агульнаадукацыйныя дысцыпліны, мы атрымалі трывалы падмурак для працягу адукацыі па большасці тэхнічных дысцыплін, таму займацца было лёгка, нягледзячы на тое, што мелі немаўля. Для дапамогі мне Канстанцін Міхайлавіч запрасіў жанчыну ў якасці нянькі, якая даглядала малога пакуль я была на занятках. Як толькі я прыходзіла дамоў, мне аддавалі малога, а нянька адпраўлялася на кухню на дапамогу Марыі Георгіеўне, нашай гаспадыні.

Да заняткаў студэнты адносіліся вельмі сур’ёзна. У многіх былі прабелы, перапынкі ў вучобе, выкліканыя тым ліхалеццем, у якім апынуліся ў гады вайны. Існавала праблема з падручнікамі, прыладамі, і тым не менш студэнты стараліся вучыцца. І, канечне ж, як жыццярадасная моладзь не цуралася жартаў, розыгрышаў.

На першай лекцыі па рэзанні металаў выкладчык Нісон Копелевіч Клябанаў, знаёмячыся са студэнтамі, называў іх прозвішчы, аглядаў. Дайшла чарга і да нас — Міцкевіч М. К. і Міцкевіч Н. І. «Вы што браты?» — запытаў ён. Студэнты рассмяяліся. І тут жа ён, папраўляючыся, дадаў: «Не, не — вы сёстры?» Тут ужо раздаўся выбух смеху. Стараста групы ўскочыў і растлумачыў: «Нісон Копелевіч! Яны нават не брат і сястра, а муж і жонка!» І мне ўспомнілася прыгода, як у хуткім часе пасля шлюбу з Міхасём і змены прозвішча я забылася яго. А здарылася гэта на занятках па палітэканоміі. Лектарка з прозвішчам Граза, якое адпа-



*Аднаўленчая радасць Мінска. Наталля і Міхась.*

вядала яе характару, праглядаючы спіс студэнтаў групы спынілася на маім дзявочым прозвішчы, і выклікала адказаць на яе пытанне. А я прытаілася, маўчу. Тады яна ткнула пальцам у мой бок і сказала: «Я Вас пытаю». Я сказала, што я не Фёдарава. І Граза сярдзіта запытала: «А якое ж ваша прозвішча?» А я з перапуду забыла сваё новае прозвішча і дрыжачым голасам адказала: «Пачынаецца неяк на М., а заканчваецца на К». Тут уся наша група выбухнула такім магутным рогатам, што наша Граза, напэўна, прыняла мой адказ за здзек і ў злосці выгнала мяне з аўдыторыі. Пасля гэтага я перастала хадзіць на яе заняткі, тым больш, што ў канцы семестра мы збіраліся ў Мінск.

Разбураныя і спаленыя будынкі політэхнічнага інстытута месціліся насупраць спаленага галоўнага корпуса Акадэміі навук, на тэрыторыі якой стаяла наша хата. Так што хадзіць у інстытут было зусім блізка. Да гэтага часу галоўны корпус яго быў ужо адбудаваны. Адна палова была адведзена для заняткаў, а другая — для інстытуцкіх службаў і жытла выкладчыкаў і супрацоўнікаў. Лабараторнай базы не было. У якасці дапаможных сродкаў выкарыстоўваліся лепшыя праекты студэнтаў і той ілюстрацыйны матэрыял, які яны збіралі ў часы курсавой і пераддыпломнай практыкі. Калі з заняткамі ў інстытуце праблем не было, то нямала клопату дастаўляла наша дзіця. Іншы раз, у свабодныя ад заняткаў часы, Міхась дамаўляўся з бацькам і мяне з малым адвозілі на малалітражцы да маіх бацькоў. Аднойчы, калі мы прыехалі да іх, дома была толькі маці. Я пакарміла хлопчыка і паклала спаць на бацькоўскі ложак, а сама пайшла па сваіх справах. Маці нешта гатавала на кухні, а калі заглянула ў пакой пaглядзець, як спіць дзіця, то ўбачыла жудасную карціну: на грудзях малога сядзеў вялізны чорны пацук. У маці ад страху адняло мову, яна не магла скрануцца з месца. Нарэшце апамяталася і дзіка закрычала. Пацук кінуўся на ўцёкі і знік пад ложкам. На крык прыбег сусед па кватэры — Максім Танк. Даведаўшыся ў чым справа, ён супакоіў маці і тут жа пачаў ліквідаваць дзіркі і шчыліны ў падлозе і плінтусах. Ён раздрабіў дзве бутэлькі, развёў крыху цэменту і заканапаціў шклянымі драбніцамі ўсе дзіркі ў падлозе кватэры. «Зараз, — сказаў ён, — нават самая маленькая мышка не прабярэцца ў нашу кватэру». У яго быў чатырохгадовы сын Максімка, а ў хуткім часе жонка нарадзіла дзвюх дачушак-блізнятак. Нягледзячы на цеснату, сем’і бацькоў і Танка жылі надзвычай дружна.

Калі нашаму Сяргею споўнілася шэсць месяцаў, ён перастаў спаць па начах у сваёй калысцы, якую давялося купляць у Маскве, пры тым як стала вядома пасля — з клапамі, якія даймалі малога. Даводзілася амаль усю ноч насіць яго на руках, бо калі садзіліся на крэсла, ён прачынаўся і пачынаў гучна крычаць. Святло тушыць было нельга, бо і гэта выклікала крыкі. Прыйшлося падзяліць ноч на дзве часткі — першую палову ночы Сяргея насіў Міхась, затым ён клаўся спаць, а пасля адпраўляўся на заняткі. Я насіла малога другую палову ночы, а хадзіла толькі на практычныя заняткі, якія прапускаць было нельга. Настойкі, парашкі, якія прапісвалі дактары, малому не дапамагалі. І мы так бедавалі каля паўгода. Нарэшце, мая маці прапанавала мне паказаць малога старому шаптуну, які жыў на Старажоўцы. Я папрасіла ў Канстанціна Міхайлавіча машыну і адвезла маці з малым да гэтага шаптуна. Маці ўзяла з сабою бутэльку з чыстаю вадою. Калі яна зайшла ў прыёмны пакой лекара, то малы, угледзеўшы мноства незнаёмых

людзей, гучна залямантаваў. На ягоны крык выйшаў «доктар». Ён узяў малога на рукі і той перастаў крычаць. «Доктар» сказаў, што дзіця перапалохана, але гэта можна выправіць. Ён узяў бутэльку з вадою, адышоў у бок і пашаптаў над ёй. Затым аддаў яе маёй маці і наказаў даваць малому на сон і раніцай па сталовай лыжцы гэтай вады, тады ўсё пройдзе. Хочаце, верце, хочаце — не, але з той пары малы стаў спакойна спаць у сваёй калясцы і ў далейшым ніколі на кепскі сон не жаліўся. А мы атрымалі магчымасць спакойна займацца вучобай. Апошнюю заліковую сесію мы скончылі на «выдатна». На перадзе была пераддыпломная практыка. Студэнтам нашай групы былі прапанаваны заводы Масквы, Ленінграда і Ліпецка. Мы выбралі Ленінград, там было дзе прытуліцца, ды і горад незвычайна цікавы і багаты на гістарычныя каштоўнасці. Спыніліся мы на кватэры Таісіі Мікалаеўны Ганчаровай (Прозаравай), якая была знаёма з сям'ёй Коласа яшчэ з даваенных год. Яна з двума дзеткамі жыла ў двухпакаёвай кватэры побач з Сувораўскім праспектам. Муж Тусі служыў на поўначы на флоце.

Пераддыпломную практыку Міхась праходзіў на старым заводзе «Красный выборжец», тэма — ліставая штампоўка. Там жа праходзіў практыку і Сяргей Касцюковіч. А я з групай студэнтаў была накіравана на Станкабудаўнічы завод імя Свярдлова. Тэматыка дыпломнай работы — тэхналогія апрацоўкі станочных дэталей метадам рэзання. Пры праходжанні практыкі можна было выкраіць час на наведванне музеяў, пабываць на спектаклі ў оперным тэатры, на канцэртах у філармоніі. Канешне, мы пабывалі ў Зімнім палацы, у Рускім музеі. Адным словам, атрымалі безліч незабыўных уражанняў. Наведвалі мы і знаёмых Міхася — сем'і Ізі Флакса, Валодзі Петухоўскага. Апошні жыў пад Ленінградам, у пасёлку каля станцыі «Ржэўка». Аднойчы ён запрасіў нас на абед на трусом. У той час ён захапіўся развядзеннем трусоў. Мы прыехалі з Тусяй і Ізікам, якіх Валодзя і яго жонка Жэня добра ведалі яшчэ па Мінску. Дабраліся да хаты ў прызначаны час, крыху змерзлі, а тут аказалася, што ў хаце холадна, трусы мірна сядзяць у сваіх катушках і грызуць капусту. Дровы для грубкі не былі пасечаны. Мы ўзяліся за работу, хтосьці накалоў дроў, хтосьці запаліў печ, а гаспадар пачаў свежаваць труса. Пакуль яго прыгатавалі, мы так прагаладаліся, што стравы падаліся нам вельмі смачнымі. А да абеду многа жартавалі, успаміналі розныя розыгрышы, што адбываліся яшчэ ў даваенныя часы, і пра якія, акрамя мяне, усе добра ведалі. На дварэ даўно ўжо сцямнела, калі мы селі за стол. Пасля мы часта ўсе ўспаміналі званы абед з трусом.

На заводах, дзе мы праходзілі практыку, тэхнічная дакументацыя была далёка не лепшай, але ж мы назбіралі стосы тэхнічных карт, кучу дэталей да сваіх праектаў і, вярнуўшыся ў Мінск, атрымалі афіцыйнае зацвярджэнне тэм дыпломных праектаў і прыступілі да работ. Нам адвялі вялікі пакой, і мы працавалі з ранку да позняга вечара. Кульманаў тады не было, асноўныя прылады: дошка, рэйсшына, вугольнікі і алоўкі. Ніякіх дапаможнікаў па выкананні дыпломных работ не было, не было і «належных» эталонаў дыпломных работ, а з вылічальных сродкаў меліся толькі лагарыфмічныя лінейкі і то не ў кожнага. Быў толькі план. Разлікі даводзілася перапраўляраць бясконца, на што трацілася шмат часу. І тым не менш хапала часу і на жарты, і на розыгрышы, а калі пацяплела, то ўжо ў поцемках хадзілі за батанічны сад на сажалку пакупацца. Паколькі работу заканчвалі позна, то звычайна хлопцы праводзілі дзяўчат дахаты. Аднойчы ніхто не выказаў згоды правесці Тамару Шатэрнік. Давялося ісці Міхасю. Транспарт не хадзіў, тупалі пешшу. Дадому Міхась прыйшоў пазнавата, а назаўтра захварэў. Паднялася высокая тэмпература, якая трымалася на працягу некалькіх дзён. Спачатку жартавалі, ківаючы на прычыну хваробы, а дактары знаходзілі то ангіну, то тыфус, то нешта яшчэ. Да заканчэння работы па дыпломе заставалася каля месяца. Пасля Міхасю стала крыху лягчэй, ён мог да абеду працаваць, а пасля падымалася тэмпература да 41—42 градусаў, яго моцна трэсла і ён шмат пацеў. Прыходзілася некалькі разоў мяняць бялізну і прасціны. Нарэшце дактары прызналі — ліхаманка. Канстанцін Міхайлавіч вельмі перажываў за свайго сына, настойваў на тым, каб ён узяў акадэмічны адпачынак і перанёс абарону на восень, ці ўвогуле на год. Але

мы не пагадзіліся, заставалася не так многа работы. Чарцёжныя работы былі выкананы ў тонкіх лініях, заставалася абвесці іх і крыху дапрацаваць разлікі ў дыпломнай запісцы. Гэтую частку працы я ўзяла на сябе. Да абароны ўсё было гатова. Міхась пайшоў першым абараняць дыпломную работу, каб паспець да прыступу ліхаманкі і абараніў яе на «выдатна». Добрым падмацаваннем работы былі стэнды з дэталямі, якія адлюстроўвалі тэхналогію іх апрацоўкі. Аналагічныя стэнды іншых дэталей падрыхтаваў наш староста Сяргей Касцюковіч. Ну, а чарцёжныя работы ён бліскуча выканаў у тушы, хаця звычайна дастаткова было алоўка. Гэтыя стэнды доўгі час служылі дапаможнікамі для студэнтаў. Так пачыналася ствараецца лабараторная база факультэта.

На «выдатна» абараніла дыпломную работу і я. Але было боязна, што дыплома мне не выдадуць, бо не было атэстата аб заканчэнні школы. Яго скралі з аддзела кадраў МАІ. А ў тыя часы выйшла пастанова міністра адукацыі, паводле якой забаранялася выдаваць дыпломы пры адсутнасці атэстата за школу. Відаць, пастанова была выклікана тым, што ў многіх студэнтаў атэстаты прапалі, а частка з іх карысталіся сумнеўнымі даведкамі. Але я скончыла курс з выдатнымі адзнакамі. Ды і выкладчыкі кафедр, кіраўнікі інстытута бачылі як мы дружна, старанна працавалі. У гэтых адносінах нельга не ўспомніць намаганні нашага старасты і той творчы настрой, які ён падтрымліваў. Ну, і прыналежнасць да сям'і Коласа пэўным чынам уплывала на адносіны да мяне з боку адміністрацыі інстытута. Дыплом выдалі без якіх-небудзь замінак.

Канешне, хацелася адзначыць такую важную падзею ў жыцці, як заканчэнне інстытута і атрыманне інжынернай кваліфікацыі. Але не было дзе сабрацца. Папрасілі дазвол Канстанціна Міхайлавіча правесці выпускны вечар у нашай хаце. Ён перабраўся ўжо на другі паверх прыбудовы і яго пакой вызваліўся. Праўда, акрамя вялікага стала і крэсла, тут амаль нічога не было, і нам гэта было зручна. На вячэру запрасілі нашага дэкана Г. К. Гаранскага, якога мы паважалі і ведалі як выдатнага лектара і арганізатара. Запрасілі і яго намесніка Н. А. Юркштовіча. Аказалася, ён быў вучнем Міхасёвага дзядзькі Сашы, якога арыштавалі ў 1938 годзе. А ў Міхася ў гэты дзень быў чарговы прыступ ліхаманкі, і ён адлежваўся ў маленькім пакойчыку якраз насупраць гасцёўні. Калі ўсе сабраліся, Г. К. Гаранскі павіншаваў нас з паспяховым заканчэннем інстытута і атрыманнем спецыяльнасці інжынера-механіка, і толькі мы паднялі шклянкі, як нечакана расчыніліся дзверы і ў пакой укаціўся, як нейкае страшыдла, махнаты чорны шар. Дзяўчаты паўскоквалі са сваіх месцаў і закрычалі, а нашы храбрыя абаронцы нібы аслупянелі — што за чартаўшчына? І тут раздаўся смех Міхася, ён выбраўся з вывернутага кажуха, якім ратаваўся ад дрыжыкаў. Ну і смяяліся мы з гэтага жарту! І сталі прыпамінаць яго іншыя выкрутасы. А ён быў ласы на такія жарты і гэтым быў падобны да майго бацькі, з боку якога таксама можна было чакаць розных падвохаў. Люся Яўглеўская прыпомніла, як мы аднойчы хадзілі ў шпіталь наведаць хворага старасту. Па дарозе яна згледзела вялікага сабаку і выказала запалоханасць гэтым сябрам чалавека. Міхась тут жа прыгадаў пару жудасных гісторый нападу сабак на людзей. І гэтым узмацніў страх дзяўчыны, а сам адышоў ад нас на паўкрока, тузануў Люсіну спадніцу, ды як забрэша! Напалохаў не толькі яе, але і нас. Так, ён умеў добра імітаваць галасы некаторых жывёл і птушак.

Таксама ўмеў змяняць свой голас, гаварыць ці з грузінскім, ці яўрэйскім акцэнтам. Аднойчы, як толькі мы пажаніліся, я прыйшла дахаты крыху раней, каб прыгатаваць што-небудзь на вячэру, зазваніў тэлефон. Я зняла слухаўку і пачула жаночы голас: «Наташа, гэта ты? Віншую цябе, я чула што ты выйшла замуж!..» Мне здалося, што гэта мая сяброўка і я запытала: «Гэта ты, Іра?» «Так», — пачуўся адказ і адразу пасыпаліся пытанні — які мой муж, ці добра мне з ім і г. д. Я пачала расказваць... І тут пачула голас Міхася: «Дык вось які ў цябе муж!» Страшэнна збітая з панталыку, я кінула слухаўку і вельмі баялася пабачыцца з ім.

А на нашай выпускной вечарыне ён крыху пасядзеў з намі ў сваім кажуху і хутка пайшоў у ложак, прыступ ліхаманкі даваў аб сабе знаць. А мы працяг-

валі весяліцца, радуючыся будучай самастойнай рабоце. Падрыхтаваныя кадры патрабаваліся на многіх прадпрыемствах, якія пачалі разгортваць вытворчасць, таму праблем з размеркаваннем не было. Цяжка было з жытлом. Міхася і Сцяпана Міткевіча накіравалі ў фізіка-тэхнічны інстытут нашай Акадэміі навук, а я не паспела ўладкавацца на заводзе, як мяне выклікае дэкан факультэта Г. К. Гаранскі і прапануе пасаду старшага лабаранта новай кафедры — тэарэтычнай механікі і тэорыі механізмаў і машын. Кафедру неабходна забяспечыць макетамі розных механізмаў. Гэта работа цікавейшая, чым заводская ў аддзеле галоўнага тэхнолага. А праз год можна будзе прыступіць да выкладчыцкай работы. Але ж я атрымала накіраванне на завод. А каб уладкавацца ў інстытуце патрэбна адмацаванне ад завода. Атрымаць дазвол на гэта можна было толькі ў міністра станкабудавання. Значыць, мне трэба было ехаць у Маскву на прыём да міністра і дамагацца адмацавання. Гаранскі выказаў спадзяванне, што мне ўдасца гэта зрабіць, бо міністр да жанчын-інжынераў ставіцца скептычна.

І я паехала ў Маскву, запісалася на прыём да міністра. Старанна падрыхтаваўшыся да візіту, я прыняла выгляд легкадумнай размалёванай дзяўчыны, далёкай ад выгляду заводскага інжынера. Міністр запытаўся, што прывяло мяне да яго. І я расказала, што толькі скончыла Беларускі політэхнічны інстытут і была накіравана на станкабудаўнічы завод, але я баюся, што не здолею справіцца з гэтай работай, а зараз з'явілася вакансія старшага лабаранта на кафедры інстытута і мне вельмі хочацца атрымаць гэту пасаду, а дапамагчы мне ў гэтым можа толькі ён, калі адкліча накіраванне на завод. Я вельмі папрасіла яго дапамагчы. Ён уважліва паглядзеў на мяне, буркнуў сабе нешта пад нос, накшталт наступнага: «І чаго яна паступала вучыцца на інжынера?» Міністр паклікаў сакратарку і даручыў ёй выдаць мне адмацаванне ад накіравання на завод. Я шчыра падзякавала яму і задаволеная паехала ў Мінск. І так мяне залічылі на кафедру старшым лабарантам. Перагартаўшы падручнік па тэорыі механізмаў машын Івана Іванавіча Артабалеўскага, між іншым, загадчыка адпаведнай кафедры МАІ, я вырашыла пачаць з мадэлей розных рычажных механізмаў. Начарціла рабочыя чарцяжы і аднесла іх у рабочую майстэрню інстытута, якая ўжо дзейнічала. Магу сказаць, што ў лабараторыі кафедры гэтыя мадэлі праслужылі многа-многа год.

Аднойчы калі я вярнулася з работы, Міхась паведаміў, што акадэмік Губкін Сяргей Іванавіч хоча мяне пабачыць і будзе заўтра чакаць у сябе ў кабінеце. Я прыйшла ў прызначаны час. Мы пазнаёміліся, пагаварылі, і я, напэўна, спадабалася яму. Сяргей Іванавіч прапанаваў мне — адзінай жанчыне за ўсю гісторыю яго практыкі — паступіць да яго ў аспірантуру. Але запытаў, ці змагу я за чатыры дні здаць тры ўступныя экзамены. Пасля дадаў, што экзамен па спецпрадмеце — апрацоўцы металаў ціскам — ён прыме чыста фармальна, бо разумее, што абсалютна незнаёмы мне курс засвоіць за адны суткі немагчыма. І калі я паступлю ў аспірантуру, то будзе дастаткова часу, каб засвоіць яго належным чынам. Двое з паловай сутак я рыхтавалася да экзамена па гісторыі партыі, які прымала строгая камісія. Па гэтым прадмеце асаблівага разумення не патрэбна, патрэбны веды па датах з'ездаў партыі, па рашэннях, якія на іх прымаліся і г. д. На экзамен я прыйшла ўпэўненая ў сваіх ведах, на ўсе пытанні дала станоўчы адказ і атрымала чацвёрку. А вось на падрыхтоўку да экзамена па англійскай мове ў мяне быў толькі адзін дзень. Яе я ніколі добра не ведала, ды і здавала яе гады два таму. Спачатку ўзялася за граматыку, выканала некалькі практыкаванняў і прыйшла да высновы, што з ёй спраўлюся. А чытаць і перакладаць зусім развучылася. Калі вярнуўся з работы Міхась, мы ўзяліся за тэксты. Міхась дастаў томік адаптаванага рамана «Айвенга» Вальтэра Скота і разгарнуў кніжку на старонцы, дзе апісваецца, як Айвенга ў адзенні пілігрыма прыйшоў у бацькоўскі дом. І я пачала чытаць, прыпамінаючы, як чытаюцца пэўныя словы. Чыталі зноў і зноў. Пасля пачалі перакладаць. Давялося завучыць словы, іх вымаўленне. Міхасю надакучыла, ён сказаў, што за адзін вечар навучыцца правільна чытаць немагчыма, і пайшоў спаць. А мне самой давялося змагацца з перакладамі. На наступны дзень пайшла

на экзамен, без бою здавацца не прывыкла. На пытанні, што былі ў білеце, я адказала і выканала практыкаванні па граматыцы. Затым экзаменатар, загадчык кафедры замежных моў, пачаў шукаць тэкст. Ён узяў у рукі нейкі часопіс, я затрэслася і стала мысленна паўтараць: Айвенга, Айвенга, Айвенга! І тут экзаменатар адклаў часопіс і ўзяў кнігу «Айвенга». І, о, цуд! Кніга раскрылася на той самай старонцы, над якой я мучылася ўчора! Сапраўды, гэта падарунак лёсу. Хутка падрыхтаваўшыся, я больш-менш без памылак прачытала і пераклала. Чатыры! Я была проста шчаслівая. А назаўтра трэба было экзаменавацца па спецпрадмеце, якога я не ведала. Нягледзячы на тое, што С. І. Губкін сказаў аб фармальным характары экзамена, усе фармальнасці трэба было выканаць. За вечар і ноч я паспела ўважліва прачытаць амаль увесь падручнік. У агульных рысах я разабралася ў гэтай дысцыпліне, і на ўсе пытанні членаў камісіі адказала правільна, хаця і каротка, не разгортваючы глыбока сутнасці пытанняў. С. І. Губкін быў ашаломлены маім адказам. Ён, будучы эмацыянальным чалавекам, усклікнуў, што ніколі б не паверыў, што за адну ноч можна так разабрацца ў незнаёмай дысцыпліне. «Падумайце, — сказаў ён, — яна ж не сказала ніводнага глупства!» І Губкін перакanaў членаў камісіі паставіць выдатную адзнаку. І так я была прынята ў аспірантуру да акадэміка С. І. Губкіна. З яго пераездам у Мінск як у політэхнічным, так і ў фізіка-тэхнічным інстытуце пачаліся работы па падрыхтоўцы кадраў па новай спецыяльнасці. У першую чаргу спатрэбілася абсталяванне, лабараторная база. У політэхнічным інтытуце меўся толькі адзін прэс, на якім можна было праводзіць доследы. Але для гэтага патрэбны адпаведныя прыстасаванні, якія неабходна было сканструяваць і вырабіць. Патрэбны і вымяральныя прыборы. Але нічога гэтага не было. На нас, аспірантаў, ускладалася задача распрацаваць, раздабыць неабходнае абсталяванне, апаратуру і г. д.

Для вызначэння эпюры ціску па тарцы дэталі пры яе асадцы я распрацавала канструкцыю ўстаноўкі з тэнзаметрычнымі датчыкамі. Заказаць выраб яе было магчыма на адным з маскоўскіх заводаў, дзе ў Губкіна быў добры знаёмы, майстар на ўсе рукі. Ён пагадзіўся ў прыватным парадку вырабіць патрэбную ўстаноўку. Патрабаваліся для доследаў і ўзоры з розных гатункаў металаў. У атрыманні з металабазы невялікай колькасці пруткоў патрэбных матэрыялаў законным шляхам мне адмовілі. А гэта база была недалёка ад нашай хаты, поруч з батанічным садам. Сябра Міхася Лёня Панкавец, даведаўшыся аб маіх няўдалых захадах, паступіў прасцей — за бутэльку гарэлкі вартаўнік знайшоў тры даўжэзныя пруткі і перакінуў іх праз плот. Засталося раздабыць шлейфавы асцылограф. Менавіта такі быў на кафедры тэхналогіі машынабудавання — трафейны, якім у інстытуце яшчэ ніхто не карыстаўся. А там працавалі нашы сябры — Касцюковіч і Роман. Яны параілі зрабіць наступнае — раздабыць афіцыйны ліст ад маёй кафедры з просьбаю пазычыць асцылограф на час выканання эксперыментаў. Але трэба было пачакаць, калі загадчыка кафедры Г. М. Якаўлева не будзе, бо ён не дазволіць. Дачакаўшыся ад'езду Якаўлева ў камандзіроўку, пісьмо за подпісам акадэміка Губкіна пакінулі на стале, а асцылограф занеслі ў лабараторыю, дзе я павінна была працаваць над дысертацыяй. Узоры вытачылі, і я прыступіла да доследаў. Засвоіць работу на асцылографе і адтарыраваць тэнзадатчыкі, падабраць адпаведныя шлейфы мне дапамог калега Міхася — таленавіты фізік Іван Аляксеевіч Бакута. Але ў хуткім часе давялося ўзяць акадэмічны адпачынак у сувязі з нараджэннем дачкі. Імя ёй далі Марыя — у гонар маці Міхася.

Работа прадоўжылася, праз год атрыманыя эксперыментальныя вынікі аказаліся нечаканымі і, напэўна, С. І. Губкін падзяліўся імі са сваім добрым знаёмым, дырэктарам ЦНІТМАШ, акадэмікам А. І. Цэлікавым. А той са сваім намеснікам — Унксавым, які працаваў над доктарскай дысертацыяй і аналагічныя вынікі з маімі атрымаў пры выкарыстанні оптыка-палярызацыйнай методыкі. Але ён не мог растлумачыць некаторых асаблівасцей эпюры, і гэтыя асаблівасці адкінуў, ну а астатняе надрукаваў. І Унксаў выклікаў мяне да сябе і стаў распытваць аб маёй рабоце. Я ж не ведала, што ў яго ёсць асабістая зацікаўленасць і чыстасар-



*Пераддыпломная засяроджанасць.*

дэчна расказала яму аб выніках эксперыментаў. Уважліва выслухаўшы мой аповед, ён раскрытыкаваў мае доследы, сказаўшы, што я ніколі не абараню такія вынікі і параіў заняцца чым-небудзь іншым. У роспачы я паведаміла свайму кіраўніку аб гэтым сумным прысудзе вядомага спецыяліста ў галіне пластычнай дэфармацыі металаў. Але Губкін суцешыў мяне, адзначыўшы, што сам Унксаў рыхтуе доктарскую і адным з яе кірункаў з'яўляецца даследаванне, аналагічнае майму. І ён, напэўна, непакоіцца, каб мае вынікі не пашкодзілі яму. Работу трэба працягваць. І я яе закончыла. Міхась дапамог выканаць графічныя работы і зрабіць выдатныя фотаілюстрацыі ўзораў з зонамі тармажэння пластычнай дэфармацыі. Закончаную працу я аднесла свайму кіраўніку ў шпіталь, куды яго паклалі. Работу ён прачытаў і сказаў, што калі б быў здаровы, то можна было б яе дапоўніць, пашырыць, але і ў тым выглядзе, у якім я прынесла, напісана добра. Ён пажадаў мне паспяховай абароны і сказаў, што сам з-за хваробы прысутнічаць не зможа. Абарона была прызначана на 7 мая 1954 года. Напярэдадні нейкі «добразычлівец» патэлефанаваў дахаты і «папярэдзіў», што ісці мне на абарону дысертацыі безвынікова. Члены савета па абароне папярэджаны, што работа выканана за грошы, і я не абаранюся. Канешне, я расплакалася, было вельмі балюча ўспрымаць такі паклёп. Але яшчэ быў час супакоіцца, узяць сябе ў рукі і прыйсці на савет у байцоўскім настроі, гатовай змагацца за перамогу. У тыя ўжо далёкія гады звычайна дысертанту задавалі два—тры пытанні па рабоце, максімум пяць. Для мяне было падрыхтавана дваццаць тры пытанні! Небывалы выпадак! Мне стала ясна, супраць мяне нехта настроіў членаў савета, ды і ад прысутных паступіла шмат пытанняў. Я з запалам стала адказваць на іх. Пасля маіх адказаў пытанняў на пятнаццаць старшыня савета хацеў прыпыніць іх, але я настаяла — раз пастаўлена 23 пытанні, я адкажу на ўсе. Як мне падалося, сваімі адказамі я заваявала павагу і сімпатыі як членаў савета, так і аўдыторыі. Галасаванне было станоўчым, толькі адзін ці два члены савета ўстрымаліся.

Я не расчаравала С. І. Губкіна ў тым, што ён прыняў у аспірантуру жанчыну. Перад яго ад'ездам на адпачынак на поўдзень мы сустрэліся, і ён прапанаваў мне пачаць збор матэрыялаў для далейшай работы, ужо па доктарскай. Але яго пажаданню не наканавана было здзейсніцца. Па дарозе на поўдзень ён застудзіў лёгкія, цяжка захварэў і слабае сэрца не вытрымала. Так балюча і так горка было за такога шчырага, добрага чалавека і сапраўднага вучонага. На яго пахаванне я ездзіла ў Маскву. Пахавалі яго на Новадзявочых могілках, побач з магілаю яго бацькі І. М. Губкіна, савецкага вучонага ў галіне геалогіі і горнай справы, акадэміка АН СССР.

Перад залічэнннем у аспірантуру я абяцала загадчыку кафедры тэарытычнай механікі і тэорыі механізмаў і машын Акалкоўскаму вярнуцца пасля абароны дысертацыі. Залічылі мяне на навуковую пасаду з 1 студзеня 1954 года. Першы год давялося чытаць лекцыі па тэарэтычнай механіцы. І я часта ўспамінала Г. С. Іофэ, які так несправядліва паступіў са мною. І я ніколі не заніжала адзнак студэнтам на экзаменах. Пасля падзелу кафедры на дзве самастойныя, я выбрала

кафедру тэорыі механізмаў і машын. Яе абрэвіятуру студэнты раскрывалі як «тут мая магіла» ці «тут мучае Міцкевіч», але я паўтараю, што ніколі не дазваляла сабе здзекавацца са студэнтаў. Праз тры гады мне было прысвоена званне дацэнта кафедры, і ў гэтым званні я прапрацавала 30 год.

За першыя паўтара года работы я прачытала поўны курс тэарэтычнай механікі. Студэнтам я казала, што пры першай ацэнцы ведаў на экзамене ў іх ёсць ужо 0,5 бала. І калі хто з іх адкажа на 3,5, атрымае 4. Калі ж веды будуць ацэнены ў 2,5 бала, то ў выніку атрымаецца 3. Але пры ацэнцы ў адзін ці паўтара — атрымае толькі дваяк. І студэнты, якія атрымлівалі нездавальняючую ацэнку, не мелі да мяне прэтэнзій.

Пасля падзелу кафедры я выбрала для далейшай работы кафедру механізмаў і машын. Тэарытычная механіка — гэта навука, якая даўно склалася, і як яе чыталі стагоддзе таму, так чытаюць і цяпер. А тэорыя механізмаў і машын працягвае развівацца і атрымоўваць новыя напрамкі. Акрамя таго ў гэтым курсе ёсць спецыфічныя лабараторныя работы і першае ў студэнтаў курсавое праектаванне. Таму я выбрала менавіта гэты напрамак.

Першапачаткова наша кафедра ўсталявалася як маленькі, але дружны калектыў, дзе была адна жанчына — я. З часам кафедра павялічвалася, папаўнялася лепшымі выпускнікамі інстытута. У пачатку маёй работы курс лекцый быў разлічаны на 80 гадзін і яшчэ быў адведзены дзень на курсавое праектаванне. З часам уключэння курсаў новых дысцыплін (напрыклад, філасофіі, якая ў тэхнічных інстытутах раней не выкладалася) курс лекцый па ТММ паменшыўся да 56 гадзін, а дні курсавога праектавання былі наогул адменены. Час на кансультацыі па курсавым праектаванні адводзіўся па-за сеткаю заняткаў. Таму даводзілася сціскаць лекцыйны матэрыял, пашыраць і перапрацоўваць заданні па курсавым праектаванні. А для гэтага трэба было падрыхтаваць новыя дапаможнікі, падручнікі. Калектыў кафедры справіўся з гэтым. Пазней я падрыхтавала дапаможнік па кулачковых механізмах, які выкарыстоўваўся не толькі ў нашым політэхнічным інстытуце, але і ў інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі. А калі выйшаў новы Дзяржстандарт па зубчатых перадачах, я разам з В. М. Цытовічам і В. К. Акуловічам напісала новы цыкл лекцый. Ён атрымаў высокую ацэнку на кафедры ТММ Маскоўскага інстытута імя Баўмана, дзе праходзілі курсы павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў кафедр ТММ тэхнічных інстытутаў усяго Саюза.

Пасля арганізацыі новага факультэта «Прыборы дакладнай механікі» я перайшла на работу на гэты факультэт. Дэканам яго доўгія гады працаваў наш добры сябра Рэм Іванавіч Тамілін. Ён жа быў і някепскім паэтам, і наогул чалавекам з Божай іскраю, з якім было лёгка вырашаць многія пытанні, якія ўзнікалі ў рабоце. Некалькі месяцаў мне спатрэбілася, каб увайсці ў курс механізмаў кінаапаратуры і падрыхтаваць прынцыпова новыя заданні на курсавое праектаванне па гэтай спецыяльнасці. Па досыць складаных і мудрагелістых механізмах мною быў падрыхтаваны дапаможнік па іх праектаванні. На заняткі я прыносіла прэпарыраваную нямецкую кінакамеру, якую Лёня Панкавец ахвяраваў мне. Студэнты з вялікай зацікаўленасцю наглядалі за работай механізма працягвання кінаплёнкі.

Аднойчы са мною здарылася бяда. Па лесвіцы інстытута насустрач мне імчаліся студэнты. Каб яны не наляцелі на мяне, я саступіла крыху ўбок і аступілася. У выніку — пералом ступні. Пакуль боль не адчуваўся, я вярнулася на кафедру. Ступня стала здорава напухаць. Я пазваніла Міхасю, каб ён адвёз мяне ў паліклініку. Рэнтген паказаў пералом, наклалі гіпс і выпісалі бюлетэнь на доўгі час. Замяніць мае лекцыйныя і лабараторныя заняткі цяжкасці не выклікала. А за кіраўніцтва курсавымі праектамі ніхто не мог узяцца. Але паколькі была зламана толькі ступня, а галава працавала і хата наша знаходзілася амаль насупраць інстытута, мой загадчык кафедры з дазволу вышэйшых кіраўнікоў дазволіў мне праводзіць кансультацыі дома. Студэнтам жа было вельмі цікава пабачыць хатнюю абстаноўку і ў неафіцыйных умовах можна было задаваць пытанні не толькі

па курсавым праекце. І з 10 раніцы да дзвюх дня кожны дзень студэнты натоўпам хадзілі на кансультацыі. У выніку ўсе яны выдатна абаранілі новыя праекты перад адпаведнымі камісіямі.

Наш сябра — Сяргей Касцюковіч — на працягу доўгага часу працы ў інстытуце займаў розныя адміністрацыйныя пасады: дэкана факультэта, прарэктара, некалькі год працаваў начальнікам кіравання вузамі міністэрства і, канешне, не пакідаў асноўнай выкладчыцкай работы. Так што, калі ў мяне ўзнікалі якія-небудзь пытанні, было ў каго атрымаць параду, а зрэдку і абарону — нядобразычліўцаў заўсёды хапала.

Аднойчы, калі я прыйшла на работу, мяне папярэдзілі, што трэба тэрмінова з'явіцца ў партком інстытута. Я здзівілася, навошта я спатрэбілася, я ж беспартыйная. Але раз выклікалі — пайшла. Сакратарка парткама, спытаўшы прозвішча, зверыла са спісам, які ляжаў перад ёю, сказала, што мне прызначаны час быць у абкаме партыі. А ў мяне якраз лекцыя. Але сакратарка была няўмольная — ніякіх лекцый, гэта загад зверху. Што рабіць? І я патэлефанавала нашаму сябру М. Р. Шыраеву, памочніку першага сакратара ЦК КПБ Н. С. Патолічава, загадчыку яго канцылярыі. Я выказала сваё здзіўленне — у чым справа, чаму беспартыйную выклікаюць у абкам. Ён сказаў, каб я не вешала слухаўку, а ён па другім тэлефоне даведаецца, у чым прычына. Праз некаторы час пачуўся смех і віншаванне: «Ну, Наталля, віншую з новым месцам работы! Ты прызначана дырэктарам машынна-трактарнай станцыі!» Я абалдзела ад гэтых слоў. Але ён далей сказаў: «Не засмучайся, ідзі на заняткі, я ўсё ўладзіў. Ісці ў абкам не трэба. Я растлумачыў, што ты маці двух малых дзяцей ды яшчэ і нявестка Якуба Коласа». Ён параіў ім выкрасліць маё прозвішча са спісу кандыдатаў, што і было зроблена. Хто быў злым жартаўніком, які напэўна ведаў, што мяне не возьмуць у любым выпадку, так і засталося невядомым.

Другое недарэчнае здарэнне адбылося, калі з-за святаў прапала тры лекцыі, і я прапанавала студэнтам самім вывучыць адпаведны матэрыял ці прыйсці на дадатковую лекцыю ў бліжэйшую нядзелю. Студэнты выбралі лекцыю. На яе прыйшло шмат студэнтаў, амаль не ўвесь паток. Раптам, у часе лекцыі, адчыняюцца дзверы і ў аўдыторыю ўваходзіць незнаёмы чалавек і строгім голасам пытае, што тут адбываецца? Я прыняла яго за каменданта і сказала, што я праводжу лекцыю, прашу яго выйсці і не замінаць. Ён паслухаўся, але ў дзвярах сказаў, што чакае мяне для тлумачэння ў кабінеце прарэктара. Стала ясна, што ён не камендант, а новы прарэктар, не знаёмы мне. Было нялоўка перад студэнтамі. Хвілін праз 15 я закончыла тэму, развіталася са студэнтамі і пайшла да новага начальніка. Канешне, было вельмі непрыемна і нервозна. Ён чакаў мяне ў сваім кабінеце і адразу ж абвінаваціў у тым, што я доўга ішла да яго. Ён сказаў, што ў інстытуце ў гэтыя часы праходзіла камсамольская канферэнцыя і ў прэзідыум паступіла запіска з просьбаю адпусціць групу студэнтаў на лекцыю па ТММ. Вось ён і пайшоў дазнацца, хто дазволіў у часе канферэнцыі праводзіць нейкія лекцыі. Давялося растлумачыць, што лекцыя адбывалася па просьбе студэнтаў з-за прапушчаных у святы заняткаў. І тут жа ляпнула, што матэрыял лекцыі для студэнтаў важнейшы, чым ваша канферэнцыя. Вось тут прарэктар узвіўся, абвінаваціў мяне ў апалітычнасці: «Што гэта значыць: «ВАША» канферэнцыя? Да я за гэта аб'яўлю вам строгую вымову з занясеннем у асабістую справу!» Я старалася, хацела апраўдацца перад ім, але нервы не вытрымалі, і я расплакалася. А скончылася гэта тым, што прарэктар, а гэта быў Леў Сцяпанавіч Ляховіч, стаў мяне суцяшаць і выціраць мае слёзы сваёй насоўкай. На развітанне суцешыў мяне, што вымовы выносіць не будзе і, як мне падалося, мы разышліся з павагаю адзін да аднаго. І калі мне давялося звярнуцца да яго па дапамогу, ён не адмовіўся, пераканаўшы мяне, што ён чулы, добры чалавек. А справа заключалася ў тым, што мой старэйшы сын заканчваў машфак і павінен быў здаць справаздачу і залік па пераддыпломнай практыцы. Ён добра аформіў альбом, я і муж крыху падрыхтавалі яго па пытаннях тэхналогіі машынабудавання. Калі ён прыйшоў на залік, загадчык кафедры Г. М. Якаўлеў



*З кіеўскімі сябрамі. Кактэбель, 1957 г.*

запытаўся, хто тут Міцкевіч. І сказаў, што прымаць работу будзе ён сам. І калі сын сеў адказваць, Якаўлеў сказаў, што ўпэўнены, што з запіскай ўсё ў парадку, бо бацькі інжынеры-механікі, па тэхналогіі пытанняў не будзе. А вось па папярэдніх дысцыплінах, у якіх інжынеру неабходна разбірацца, ён папытае. І пачаў экзаменаваць па тэрмаапрацоўцы металаў і іншым. Канешне, студэнт паплыў, і атрымаў нездавальняючую адзнаку па пераддыпломнай практыцы. А гэта азначала, што ён не атрымае задання па дыпломным праекце і на заканчэнні інстытута ў гэтым годзе можна паставіць крыж. Між тым выкладчыкам пры прыёме залікаў па пэўных дысцыплінах не дазвалялася экзаменаваць па іншых дысцыплінах. Гэта мне было добра вядома і я звярнулася да прарэктара. І Ляховіч сапраўды дапамог. Пераздаваць залік па пераддыпломнай практыцы ўвогуле не дазвалялася. Але, улічваючы, што ён адбываўся з парушэннямі, Ляховіч дазволіў пераздаць на камісіі, у якую Якаўлева не ўключылі. Акрамя таго ён перавёў сына на паралельны паток, да якога Якаўлеў непасрэднага дачынення не меў. І так мой сын паспяхова закончыў інстытут. Я доўга не магла зразумець, навошта Якаўлеву спатрэбіўся гэты выкрутас. Такіх студэнтаў, як мой сын, у яго было паўпатока. Чаму ён выбраў казлом адпушчэння менавіта яго? У мяне з Якаўлевым не было ніякіх сутыкненняў. Я ведала, што ён валявы і вельмі цяжкі чалавек, помслівы. Але пры чым тут я? Справа праяснілася пазней, калі мой сын сустрэў на вуліцы аднаго з асістэнтаў кафедры Якаўлева. І той расказаў, што яго шэф падрыхтаваў і накіраваў ў «Весці Акадэміі навук» вялікі артыкул. А мой брат Фёдар, акадэмік АН БССР, быў у складзе рэдкалегіі гэтага часопіса, і артыкул Якаўлева трапіў да яго. Азнаёміўшыся з ім, Фёдар даў разгромную рэцэнзію, паказаў, што аўтар абсалютна некампетэнтны ў пытаннях фізікі. Артыкул быў адхілены. І Якаўлеў вырашыў адыграцца на пляменніку Фёдара. Але аб гэтай гісторыі Фёдар нават не даведаўся.

За доўгі час працы ў політэхнічным было нямала прыемных падзей, але больш запамінаюцца негатыўныя. Да адной з такіх можна аднесці тыя, што звязаны з сацыялістычным спаборніцтвам. Можа, больш дакладна, з тымі крытэрыямі, якія ўключаюць у гэта спаборніцтва. І тады замест дадатных вынікаў, атрымліваюцца адмоўныя. Так, калі ў якасці аднаго з паказчыкаў спаборніцтва быў прыняты сярэдні бал паспяховасці студэнтаў, то дэканаты ціснулі на выкладчыцкі персанал павышаць ацэнкі. На адным са сходаў калектыву рэктар Ткачоў у сваім выступленні заявіў, што няма дрэнных студэнтаў, ёсць дрэнныя выкладчыкі і з імі трэба разбірацца. І частка выкладчыкаў, асабліва маладых, баючыся за сваё месца, знізілі патрабаванні да студэнтаў і пачалі менш ставіць двоек, альбо зусім іх не ставіць. Студэнты імгненна адчулі паслабленне і сталі менш рыхтавацца. Канешне, значная частка студэнтаў прыйшла па веды і паспяхова займалася. Наш курс

па тэорыі механізмаў і машын выкладаецца на другім і трэцім курсах. І для яго засваення неабходны грунтоўныя веды ў галіне матэматыкі і тэарэтычнай механікі. І калі рабілася паслабленне на экзаменах на папярэдніх курсах дысцыплін, то разабрацца ў пытаннях нашай дысцыпліны было проста немагчыма. Таму нам давялося ставіць больш двоек, чым другім кафедрам. За гэта нас лаялі больш, чым іншых. Але ж мы стараліся навучыць студэнтаў разбірацца ў нялёгкіх пытаннях, развіваць іх логіку. І ў гэтых адносінах прыхільнікамі навучання былі Яўген Аляксеевіч Камцаў, Алег Мікалаевіч Цытовіч і я. Разумеючы, што мяне могуць выклікаць у навучальны аддзел за дваякі, я стала рыхтавацца. Калі я адчувала, што экзаменавацца да мяне ідзе кандыдат у двоечнікі, я патрабавала перапісаць пытанні білета і задачу на лісток і даць на іх кароткія адказы і поўнае рашэнне задачы. Тое ж з іх дадатковымі пытаннямі, ён павінен быў упісваць і іх і даваць адпаведныя адказы. Калі ж у лістку станоўчых адказаў не было, я ставіла дваяк і забірала лісток. Для любой камісіі было б ясна, за што была выстаўлена такая адзнака. Нарэшце, начальнік вучэбнай часткі назначыў, калі мне з'явіцца перад яго вачыма. Але ў гэты час у мяне была паточная лекцыя, якую ніхто адмяніць не мог. Перад пачаткам лекцыі я зайшла ў яго прыёмную, каб перанесці сустрэчу. Яго не было, і я папрасіла сакратарку папярэдзіць яго, што прыйду пасля лекцыі. Калі ж я прыйшла, сакратарка сказала, што ён толькі што некуды выйшаў і нічога не сказаў. Прачакаўшы яго хвілін 15-20, мне стала ясна — ён пайшоў, каб не сустракацца са мною. Я сказала сакратарцы, каб яе начальнік назначыў час прыёму, улічваючы расклад заняткаў. Новага выкліку я не атрымала. Дасталося з-за мяне загадчыку кафедры Г. М. Дэвойна, якога гэты начальнік сустрэў на калідоры. А калі мой шэф стаў тлумачыць, чаму я не з'явілася ў прызначаны час, не стаў слухаць, а пачаў крыць на яго матам, нягледзячы на прысутнасць студэнтаў і выкладчыкаў. Прозвішча гэтага начальніка не запомнілася, але ў хуткім часе яго знялі з пасады. Мы сапраўды стараліся даць належную падрыхтоўку студэнтам, не шкадуючы свайго часу. І вельмі прыемна было даведацца, што хтосьці з маіх студэнтаў выйшаў у дактары і нават у акадэмікі, як, напрыклад, мае таленавітыя студэнты А. В. Сцепаненка і Л. І. Гурскі.

## Гэта таксама не забываецца

Прыгадваючы падзеі мінулага, якія адбываліся са мною ў Алма-Аце і Маскве, міжволі ўсплывалі ў памяці прароцтвы цыганкі, якую я напаткала на алма-ацінскім рынку. Але аб гэтым крыху пазней. З паступленнем у інстытут я адчула сябе самастойнай, тым больш, што дапамагаць мне ўжо ніхто не мог. Але ж цягнула да бацькоў, хацелася пабыць з імі, пачуць словы падтрымкі, ласкі і спачування. Дарога ж да іх дома ў Алма-Арсане была доўгай і нялёгкай. Каб пераадолець 27 кіламетраў і ўзабрацца на вышыню дзесьці каля 1600 метраў, патрэбна было патраціць нямала сіл і 5-6 гадзін часу. Іншы раз у выхадныя дні я адважвалася на такое падарожжа. Было радасна бачыць бацьку, ачуняўшага духам і фізічна. Ён ужо не адчуваў сябе непатрэбным беспрацоўным, бо ўладкаваўся на працу ў школе, хаця і нелегальна, але ж за гэта меў дзве талеркі гарачага супу і невялікія грошы. Акрамя таго ён падрабляў прыватным рэпетытарствам, за што плацілі прадуктамі. Ён павесялеў, бо ўжо не галадаў, нешта ж зарабляла і Шура. Праўда высакагорны клімат кепска адбіваўся на яго сэрцы. Да гэтага нярэдка прыплюсоўваліся нелады з Шураю, якая лічыла сябе асноўнай асобай у іх гаспадарцы, старалася падпарадкаваць сабе роднага бацьку. А маці яна трымала, як рабыню. І на гэтай глебе ўзнікалі скандалы.

Аднойчы, калі я вярнулася з гор на сваю «кватэру», нечакана завітала Сара Рубніч, сяброўка Арсеня па ўніверсітэце. Яна са сваімі блізкімі апынулася ў горадзе Фрунзе (Бішкек). Вайна разлучыла яе з Арсенем, які нёс вайсковую службу яшчэ да пачатку вайны. Але дзе ён знаходзіўся — невядома. Ёй у галаву не магло

прыйсці, што Арсень можа загінуць. І яна стала пісаць і пісаць. І ёй пашанцавала: расшукала тую воінскую часць, дзе служыў яе каханы. Атрымаўшы ад яго пісьмо, яна хацела падзяліцца сваёй радасцю з яго бацькам. Адрас яна атрымала з Саюза пісьменнікаў з Масквы і прыехала ў Алма-Ату. Але па атрыманым адрасе бацькі ўжо не жыў, а куды з'ехаў — невядома. І яна стала шукаць мяне па інстытутах.

У аддзеле кадраў МАІ яна атрымала мой адрас і заявілася да мяне. Так-сяк пераначавалі на маім ложку, зверху на нас сыпаліся клапы і, добра не адпачыўшы, мы зранку рушылі ў дарогу. Калі да бацькавага дома заставалася пару кіламетраў, падняўся ўраганны вецер. Наўкола сцямнела і хлынуў праліўны дождж. Пачалася навальніца, маланкі ўспыхвалі кругом, і тут жа чуліся магутныя выбухі грому. Схавацца не было дзе — вакол голыя скалы. Зрабілася страшна, але і мы мусілі ісці ў такую непагадзь. Калі падышлі да пасёлка, дождж перастаў, нам заставалася толькі падняцца па крутой сцежцы да дома. Але глiністая глеба размякла, зрабілася слізкай-слізкай.

Пераадолеўшы некалькі метраў, мы спаўзалі назад уніз. Нарэшце, перамазаўшыся глінаю, на карачках мы запаўзлі к дому. Перад дзвярыма прыпыніліся, глянулі адна на адну і паехалі са смеху. Наскрозь вымаклыя, перапэцканыя з ног да галавы, мы былі падобныя на чарцянят. У такім выглядзе Сара баялася паказвацца бацьку Арсеня на вочы. Але што рабіць? Не калаціцца ж ад холаду перад дзвярыма. Пастукалі. Выйшла маці і аслупянела, калі ўбачыла ў такім стане мяне і нейкую дзяўчыну. Маці зацягнула нас у хату, і я пазнаёміла бацьку з сяброўкай Арсеня. Маці прынялася адмываць нас ад гразі, пераапранула ў Шурыну вопратку, а пасля адагравала нас гарачым чаем. Бацька быў страшэнна ўзрадаваны весткамі ад Арсеня і ўдзячны сяброўцы свайго любімага сына, але спярша Сара вельмі не спадабалася яму, бо выглядала непрыгожай.

Аднак пасля, калі Арсень і Сара пабраліся і бацька бліжэй пазнаёміўся з ёй, дык ён па годнасці ацаніў яе за розум, дабрыню, тактоўнасць і асабліва за яе бязмежную любоў да свайго абранніка. Пасля заканчэння вайны маладыя ўладкаваліся ў Маскве, доўгі час жылі ў малюсенькім пакойчыку. Калі нарадзіліся дачушкі, Арсень змайстраваў для іх адкідныя ложкі, накшталт вагонных. Арсень працаваў у адным з галіновых навукова-даследчых інстытутаў, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Сара ўладкавалася ў тэхнікум, дзе выкладала хімію. Яна скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і аднойчы прыгадала, як яна з сяброўкай здавала экзамен Даніку. Праз нейкага знаёмага яны папрасілі, каб на экзамене Даніла выдаў ёй заданне расказаць усё пра вуглярод, а сяброўцы — пра крэмній. А экзаменатар наўмысна «пераблытаў» заданні і з усмешкаю слухаў іх адказы. Але абедзве паспяхова справіліся. Сара і Арсень пражылі доўгае жыццё, досыць часта прыязджалі ў Мінск. Калі ж пасля доўгай хваробы Арсень на 84-м годзе памёр, Сара з гора страціла розум і ў хуткім часе таксама адышла з жыцця.

Раніца ў Алма-Арсане выдалася сонечнай, цёплай, наша адзенне хутка высахла. Пасля шклянкі гарбаты і лусты хлеба мы накіраваліся назад у Алма-Ату. Сонца высушыла дарогу і ад страшнейшай навальніцы не засталося і следу.

Зімовую сесію я здала добра, нягледзячы на тое, што не было падручнікаў, не хапала месцаў у бібліятэцы, а студэнцкае жыццё было напаўгалоднае. На час летняй сесіі бацькі прапанавалі пераехаць да іх, а ў Алма-Ату хадзіць толькі на здачу экзаменаў. Я з радасцю пагадзілася. Калі я рыхтавался да экзамена па марксізму-ленінізму, у гарах выпаў глыбокі снег. Гэта было 11 ліпеня. Абутку ў мяне не было, і я, як і многія студэнты, хадзіла на заняткі басанож. Прайсці па снезе некалькі кіламетраў без абутку было немагчыма. Я прапусціла гэты экзамен і стала рыхтавацца да наступнага — матэматыкі. Снег праз пару дзён растаў, і я паспяхова дабралася да горада. Спачатку зайшла да сваёй сяброўкі Рыты Млынец, якая вучылася ў медыцынскім інстытуце, і тая прапанавала прыгатаваць плоў. Мы пайшлі на рынак, прадалі зэканомлены мною хлеб і купілі на гэтыя грошы трошкі рысу і кавалачак мяса. На рынку да мяне падышла цыганка

і прапанавала паваражыць. Я сказала, што ўсе грошы патрачаны, і я не маю чым заплаціць. Тады яна сказала, што паваролжыць дарам, так як добра бачыць, што мяне чакае зараз і ў будучым.

Яна сказала, што мяне чакае вялікая непрыемнасць у казённым доме, наперадзе дальняя дарога, але летам яна не адбудзецца. Аднак я змагу ўсё пераадолець, а позняй восенню назаўсёды пакіну Алма-Ату. Яшчэ яна нагадала, што зараз у мяне няма добрага сябра, але праз пару год я сустрэну добрага хлопца, выйду за яго замуж і буду вельмі шчасліваю. Памру ж я пры народзінах трэцяга дзіцяці. Хочаце верце, хочаце — не, але ўсё, што прадказала цыганка, збылося, акрамя маёй смерці пры родах. Праўда, выратавалі мяне дактары, я ўжо страчвала прытомнасць, і ў крытычны момант мне зрабілі кесарава сячэнне, без наркозу, каб не загубіць дзіця. Як тут не падумаць пра анёла-ахоўніка? Як не ўспомніць былыя прыгоды, калі я была на мяжы смерці? А тады на рынку я не паверыла прароцтву цыганкі. Што кепскага можа здарыцца са мною ў «казённым доме»? Але ў хуткім часе сапраўды навaліліся вялікія непрыемнасці. Так пасля разгрому немцаў пад Курскам некаторыя ўстановы са сваімі супрацоўнікамі пачалі вяртацца назад у Маскву. І ўлетку 1943 года Маскоўскі авіяцыйны інстытут павінен быў разам з усім настаўніцкім персаналам і студэнтамі, якія здалі заліковую сесію, перабазіравацца ў Маскву.

На другі дзень я пайшла здаваць экзамен па матэматыцы. Але калі ўвайшла ў вестыбюль корпуса — убачыла на сцяне плакат, дзе значылася: «Студэнтка 1-га курса Фёдарава Наталля Іванаўна адлічана з інстытута за няяўку без уважлівых прычын на экзамен па асновах марксізму-ленінізму (чысло і подпіс дэкана)». Я тут жа пайшла ў дэканат растлумачыць дэкану прычыну таго, што здарылася. Я сказала, што жыву ў бацькоў у высакагорным пасёлку Алма-Арсан, там рыхтуюся да экзаменаў, а 11 ліпеня выпаў глыбокі снег і басанож прайсці такую вялікую адлегласць немагчыма. Ён пагадзіўся, але сказаў, што без адпаведнай даведкі аднавіць мяне ў інстытуце не можа. Відаць, ён прыпомніў гісторыю з маёй хлебнай карткай і вырашыў адпомсціць. І я, узрушаная, усклікнула: «Ад каго мне прынесці даведку: ад Бога, ці ад чорта?» Тады ён проста выставіў мяне за дзверы. Да каго ж мне звярнуцца па дапамогу? І я ўспомніла М. Д. Мільёншчыкава, старшыню прыёмнай камісіі, якому я, як мне падалося, спадабалася. Калі б я не з'явілася на нейкі іншы экзамен, то мне проста паставілі б дваяк і выключаць з інстытута не сталі. Але не з'явіцца на экзамен па асновах, ды ў ваенны час! Магчыма, дэкан хацеў і падстрахавацца, праявіць сваю ідэйную пільнасць. М. Д. Мільёншчыкаў усё гэта добра разумеў і вырашыў дапамагчы мне. Але мой дэкан наадрэз адмовіўся нават весці размову на гэту тэму. Тады М. Д. Мільёншчыкаў звярнуўся да свайго сябра — дэкана факультэта ўзбраення самалётаў, каб ён залічыў мяне на другі курс пры ўмове здачы ўсіх чатырох экзаменаў за апошнія чатыры дні экзаменацыйнай сесіі. Я здолела справіцца з гэтымі экзаменамі і была залічана на другі курс факультэта, дзе вучыліся амаль толькі хлопцы, у якіх звычайна прысутнічае цяга да зброі.

І я паехала апошнім эшалонам у Маскву. На дарогу бацька дамовіўся з шаўцом зрабіць мне басаножкі на драўлянай падэшве з перакладзінамі з багажных рамянёў. А мама, употай ад Шуры, распусціла яе старую, падраную шарсцяную кофту і звязала мне шкарпэткі. Шура ж прывезла з блакаднага Ленінграда ўвесь свой гардэроб, але не падзялілася са мною ніводнай сукенкаю.

***Працяг будзе.***

**Казімір КАМЕЙША**

# ВЕРАСОВЫ ЎЗЯТАК ВАЖКІ

Тры пачатковыя літары ў беларускім паэтычным алфавіце яшчэ ў школьныя гады прагучалі для мяне наступнымі імёнамі: Астрэйка, Бялевіч, Вялюгін... Да кожнага з іх высноўваўся потым і свой шлях знаёмства і нават добрага, шчырага сяброўства.Тады, у пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя, школьныя хрэстаматыі былі скупаватыя на літаратурныя імёны, і пра славутага партызанскага паэта Анатоля Астрэйку яны таксама сціпла маўчалі. А песня на яго словы «Бацька мой Нёман» была ва ўсіх і ўсюды на слыху. Яна ледзь не кожны дзень гучала з насценных вясковых дынамікаў. Раскацісты барытон Мікалая Ворвулева нібы перамаўляўся з нёманскімі хвалямі, гучаў гімнам любімай рацэ майго пушчанскага дзяцінства, а сэрца напаўняў нечым цёплым, невыказна-ўрачыстым, быццам песня гэта адрасавалася толькі мне аднаму. З вуснаў настаўніцы літаратуры ўпершыню даведаўся і пра імя самога паэта — Анатоль Астрэйка. А дзе ж і што можна пачытаць, напісанае гэтым аўтарам? Як заўсёды, кінуўся за парадай да цёткі Ванды, малодшай матчынай сястры, якая працавала бібліятэкарам у суседняй вёсцы Астравы. Разам з цётчынымі рукамі цалую і сёння старонкі першай паэтычнай анталогіі «Беларуская савецкая паэзія» (1949). О, як шмат цудоўных імён прыйшло да мяне з яе трапяткіх старонак. Вершаваная падборка А. Астрэйкі адкрывалася вершам «Мы слухалі Сталіна». А як жа, мы шанавалі тады гэта імя. І ледзь не ў кожнай падборцы гучала яно. Пад вершам стаяла дата — 1942 год. Я і сёння веру, што тыя радкі пісаліся шчыра:

Усім нам здалося, што Сталін
Гаворыць са мной і з табой.
І мы падняліся, мы ўсталі,
Каб рушыць на ворага ў бой.

Тут жа, следам, ішоў верш «Беларусь-партызанка». Радкі яго для мяне гучалі як песня. Магчыма, падумалася потым, іх і сапраўды спявалі дзесьці пры вечаровым вогнішчы партызаны. Гэтак жа важка і мілагучна:

Мы асфальтам балота завём
І шасейнай дарогай сцяжынку.
Два гады мы і косім і жнём,
Каб вялікія справіць дажынкі.

Аўтаматы нам служаць касой,
А сярпамі — гранаты, наганы.
Не расою — варожай крывёй
Акрапляюць зямлю партызаны.

Да суровай лірыкі паэта мой чытацкі інтарэс тых гадоў яшчэ не дацягваў, а вось прыгоды дзеда Дубняка Міхеда і яго малога памагатага Міхаські мяне захапілі незвычайна. Кніга «Прыгоды дзеда Міхеда» трапіла ў мае рукі ці не адначасова з анталогіяй у 1956-м. Як сёння разумею, плённым быў для паэта той год, бо тады ж выйшла з друку і кніга яго лірыкі «Песня дружбы». Памятаю, як мы вясёлым пастушковым гуртам з незвычайным захапленнем смакавалі на выгане



*Анатоль Астрэйка.*

пры вогнішчы пад старымі дуплаватымі вербамі тыя партызанскія прыгоды, як смяяліся з нягеглага спалоханага нямецкага бургамістра, якога героі паэмы даставілі ў драўлянай кадцы ў партызанскі стан:

З кадкі лезе нечакана
Сам нямецкі бургамістр.
Глянуў ён на партызанаў
І затрохся, нібы ліст.

Нядаўна перачытваў раздзелы паэмы, гартаючы нумары газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» за 1943 год, што і сёння захоўваецца ў нашай рэдакцыі «Вожыка», і не мог стрымаць хвалявання. Няцяжка ўявіць, як гэта зацікаўлена чыталася тады, у час з'яўлення самога твора, па свежых слядах ваенных падзей, і дарослымі, і малымі чытачамі. Хаця ці былі тыя «свежыя падзеі»? Мабыць жа, прыдумка самога аўтара? Хутчэй за ўсё тое-сёе пачэрпнута з партызанскіх быляў, а дзесьці быў і аўтарскі вымысел, той жа сялянскі досціп. Бо ёсць жа прататыпы саміх вобразаў. Пра што сведчыць і аўтограф на кнізе, падараванай вядомаму беларускаму драматургу Анатолю Дзялендзіку: «Маладому партызану, правобразу Міхаські». Ну а ў вобразе дзеда Міхеда лёгка пазнаць Герасіма Маркавіча Галчэню, старога партызана. Сваіх герояў Анатоль Астрэйка адкрываў, калі ў 1943 годзе самалётам з Вялікай зямлі прыляцеў на востраў Зыслаў, дзе месціліся Мінскі абкам і Любанскі райкам КП(б)Б, штаб Мінскага партызанскага злучэння, партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі, быў свой партызанскі аэрадром. А юны Анатоль Дзялендзік, які стаўся ад'ютантам В. І. Казлова, лічыўся сынам атрада імя Гастэлы брыгады імя Брагіна.

Суровыя ваенныя падзеі патрабавалі і свайго суровага слова пры іх адлюстраванні. А вось самі народныя мсціўцы патрабавалі ад аўтараў і вясёлага гумарыстычнага ды сатырычнага слова. Анатоль Астрэйка, як вядома, да вайны пісаў лірыку, патрыятычныя вершы. Не будзем забываць пра куміраў паэта на пачатку яго творчага шляху. Пісаў ён пад Сяргея Ясеніна, Паўлюка Труса, нават пераймаў штосьці ў свайго сябра Міхася Багуна. За гэта неўзабаве і паплаціўся. Тады — а гэта былі трыццатыя гады мінулага веку — Ясенін быў не ў пашане. І з яго паслядоўнікамі і падражальнікамі таксама не лічыліся. Вось і з'явіўся аднойчы ў «Чырвонай змене» фельетон пад назвай «Супраць астрэйкаўшчыны». Давалася ў ім добрай прыкуркі і Ясеніну, і Трусу, больш за ўсё — самому Астрэйку, які аказаўся «апалагетам суму і ўпадніцтва». Знайшліся ўсё ж разумныя людзі сярод выкладчыкаў і студэнтаў, яны заступіліся за маладога паэта, і ўсё абышлося.

Наогул, калі я думаю пра паэтычныя вытокі А. Астрэйкі і зямную прыцягальнасць яго паэзіі, дык адразу хочацца звярнуцца да згадак паэта пра сваё дзяцінства. Ужо сама назва вёскі, дзе нарадзіўся будучы паэт, падкрэслена зямная: Пясочнае на Капыльшчыне. «Лета ў той год (ішоў 24 дзень ліпеня 1911 года. — **К. К.**) было ранняе і гарачае, — піша паэт. — Даспела жыта. Трэба жаць. І маці пайшла на жніво. Добра, што недалёка, хоць ісці ёй было нялёгка і нявարта. У поўдзень яна адчула сябе нядобра. Прылегла пад снапы, каб хоць трошкі абараніцца ад спякотлівага сонца. Там, на полі, пад жытнёвымі снапамі... я і з'явіўся на свет».

Ужо ў гэтым не зусім звычайным з'яўленні на свет можна было б прадбачыць нейкае наканаванне не толькі адчуваць сябе зямным, а і жыць родным

полем, даўнімі і спрадвечнымі клопатамі селяніна. Але гэта яшчэ не ўсе першапачатковыя жыццёвыя прыгоды. Не пашанцавала новананароджанаму з імем. Бацька ўпарта хацеў назваць сына Толем, а поп заўпарціўся. Але паслухаем самога паэта: «І поп запытаўся ў недалужных маіх хросных:

— А колькі грошай вы прынеслі?

— Ды толькі рубля, — адказала дзесяцігадовая хросная маці.

— За рубля не тое імя.

І поп назваў мяне Акімам...

Бацька, вядома, раззлаваўся на такое імя і з хрысцін, на якіх сядзелі госці і праслаўлялі маё нараджэнне, хацеў пайсці да папа і пабіць яго. Але зноў жа справа абышлася мірна. Вырашылі на злосць папу назваць мяне Толем. Так лепш малога люляць. А то нейкі Акім! З таго часу я і стаў Толем, а не Акімам. Такім чынам я цяпер Акім-Анатоль. І гэтыя два імёны не псуюць мне настрою, хоць і не робяць мяне больш здольным, чым трэба майму нахілу да літаратурнай творчасці».

Прызнанне гэта і дало падставу калегу і сябру па пяры Анатолю Вялюгіну тут жа стрэльнуць эпіграмай:

Як Толя наш
Пісаць ні намагаўся —
Якімам быў,
Якімам і застаўся.

Не, ён зусім не крыўдлівым быў, наш Якім-Анатоль, пасмяяўся ад душы над сябравым жартам, бо і сам раздарыў людзям, знаёмым і незнаёмым, дзясяткі эпіграм. Тым больш, што ўслед за гэтым з-пад пяра А. Вялюгіна з'явіліся і іншыя ў яго адрас, больш паважлівыя радкі:

Па прозвішчы Астрэйка,
А проста Анатоль,
Ірваў у немцаў рэйкі
Яго магутны тол.

А вершаў выдаў колькі,
Пясняр ён куль, лясоў...
Дзяніс Давыдаў,
Толькі
Няма вусоў.

Лірык і гумарыст, як здаецца, вельмі натуральна і згодна ўжываліся ў творчай асобе Анатоля Астрэйкі. Хоць гумарыста ў сабе ён адкрываў менавіта падчас вайны. Давайце яшчэ раз вернемся туды, да самага яе пачатку, калі ў Гомелі пачала выходзіць газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Тады Анатоля Пятровіча зацвердзілі адказным сакратаром сатырычнага баявога выдання. Звернемся яшчэ да біяграфіі паэта: «Я ніколі не пісаў сатырычных вершаў. Але трэба. Першыя спробы нязграбныя. На рускай мове блытаю націскі, ледзьве знаходжу рыфмы. А мне ж здавалася, што ў рускай мове іх безліч. За паўтара месяца мы выдалі дваццаць нумароў газеты-плаката».

Думаецца, дарэмна скардзіўся паэт на непаслухмянасць свайго сатырычнага пяра. Яно тут жа адразу заявіла пра сябе сваім адметным голасам. Неўзабаве яго вершы, байкі, баявыя заклікі, частушкі і эпіграмы, нібы тыя птушкі, разляцяцца ў варожым тыле, будуць чытацца і перачытвацца партызанамі. Тыя будуць перапісваць іх у свае сшыткі, потым яны з'явяцца ў баявых лістках, іх будуць вывешваць на шчытах каля населеных пунктаў, ля партызанскіх зямлянак.

У біяграфічных прыгадках назвы гарадоў і мясцін, якія паэту давядзецца прайсці разам з паходнай друкарняй, мільгаюць, нібы кулі. А гэта былі дні і ночы, пад прыцэлам смерці шляхі і дарогі. Не адседжваўся і ў Маскве, куды неўзабаве пераедзе рэдакцыя газеты-плаката.

У друку ўжо згадвалася, як падчас адной нарады ў П. К. Панамарэнкі прагучала пажаданне, каб хто-небудзь з творцаў узяў ды адправіўся цераз лінію фронту ў варожы тыл, а адтуль вярнуўся са свежымі матэрыяламі пра баявыя дзеянні лясных мсціўцаў. Тады ў зале ўсталявалася незвычайная цішыня, а першым падняўся Кузьма Чорны.

— Ды што вы, дзядзька Кузьма... Вы ж хворы. Пойдзем мы! — гэта падалі свой голас Анатоль Астрэйка і ніцавокі, неваеннаабавязаны Антон Бялевіч.

Гэта была няпростая дарога. І туды і назад ішлі пешшу, пад прыцэлам самой небяспекі. Партызаны Віцебшчыны іх сустракалі як сваіх даўніх сяброў. Ды яны і застануцца сябрамі на ўсе астатнія гады.

Другім разам, ужо самалётам, А. Астрэйка адправіцца да партызан Міншчыны. Цяпер паэт з аўтаматам і алоўкам хадзіў партызанскімі сцяжынамі бліз тых мясцін, дзе нарадзіўся і вырас.

Вось прыгадка яго самога пра той незабыўны час: «Хадзіў я па Мінскай, Пінскай і Гомельскай абласцях з атрада ў атрад, збіраў матэрыял аб народных мсціўцах, пісаў вершы, якія тут жа чытаў на партызанскіх сходах і вечарах на лясных палянах і ў вёсках. Абыходзячы нямецкія гарнізоны цераз глухія і непраходныя нетры, правальваючыся часам аж па пояс у брудную твань, праз бары і пушчы, па незлічоных дарогах і ледзь прыкметных сцяжынах...» Вось, бадай, і хопіць. Прывёў знарок гэты ўспамін, каб не падалося камусьці з сённяшніх маладых легкадумцаў, што ўсё тое было нейкай рамантычнай забаўлянкай ці проста вандроўнаю прагулянкай. А было гэта дарогай праз смерць, якая цікавала за табой з-за кожнага куста, прытойвалася і чакала ў дрымотных засадах. Тое называлася змаганнем.

Быў некалі ў паэта псеўданім Якім Зорны. Зараз тут, у лясах Случчыны, пра яго нагадвалі трывожлівае зорнае неба і Млечны Шлях. Неяк трагічна ўспыхвала начное неба і ў вершах:

Нада мною блакітны шацёр,
А навокал — лясы і лясы,
Мая Случчына з тысячы зор
Тчэ на восень свае паясы.

І калі ўсё збярэ палатно
І павесіць бяліць цераз край, —
Будзе цёмнаю ночкай відно,
Хоць іголкі на сцежцы збірай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А калі мы вяртаемся ў бор,
На шляхах падарваўшы масты,
Ападаюць на сівы чабор
Зоры ціхім туманам густым.

У ваенных радках паэта не магло быць ніякага прыхарошвання. Яны нараджаліся па гарачых слядах тых баявых падзей, у суровых рэаліях партызанскіх будняў:

Ты знаеш, што такое дождж,
Ды праліўны пад сутак пяць,
Калі ў руках ржавее нож...

Трэба было ўбачыць той «нож», каб адразу ён стаўся запамінальнай паэтычнай дэталлю. Партызаны пазнавалі сябе ў вершах «партызанскага Баяна», як яны яго называлі, і кожны з іх марыў мець кнігу ад любімага аўтара.

Кніга гэта сама выспявала ў суровых лясных умовах. Верш «Слуцкі пояс» сам напрасіўся назвай да яе. А выдаць зборнік узяліся супрацоўнікі слуцкай падпольнай газеты «Народны мсцівец». Трэба сказаць, што справа гэта была не з

лёгкіх. Сам тэкст падрыхтавалі і ўклалі без асаблівых цяжкасцей. Прадмову да кніжкі адразу ж напісаў сакратар Слуцкага падпольнага райкама партыі Іпаліт Кананові. Адрэдагаваў яе партызан Мікола Дастанка. А вось тэхнічны бок справы даваўся цяжэй. Але выручала сама партызанская знаходлівасць.

Для афармлення зборніка з дубовых і бярозавых чурак выразалі застаўкі партызаны-разведчыкі Саша Бяляеў і Саша Залаты. Пашанцавала і з паперай: яе здабылі ў адным з нялёгкіх баёў з ворагам. Ну а фарбу замяняла вакса з сажай.

У зборніка «Слуцкі пояс» будзе і другое нараджэнне. У 1964 годзе яго перавыдасць дзяржаўнае выдавецтва. І тады кнігу прачытае ўся Беларусь.

Вярнуўшыся ў 1944 годзе на Вялікую зямлю, А. Астрэйка сабраў свае партызанскія вершы ў адну кнігу, і ўжо ў наступным годзе яна пад назвай «Крамлёўскія зоры» пабачыла свет. Нядаўна на вочы мне трапіўся «Ліст з Ірана» Пімена Панчанкі, датаваны 1945 годам. Вось як ацэньваў партызанскія творы Астрэйкі патрабавальны зямляк: «Паэту ўдалося ў меру сваіх здольнасцей поўна і праўдзіва паказаць, чым жыла і дыхала наша партызанская зямля. Тут і канкрэтныя людзі, і тыповыя абставіны, і трапныя дэталі (якія, мажліва, для іншых паэтаў страчаны назусім), і нават дакладныя адрасы лясоў, дзе пісаліся гэтыя вершы. Многа цёплых радкоў напісаў паэт пра сваю радзіму, пра сяброў-партызан, пра родную Случчыну. У гэтым заслуга паэта». Адзначыў П. Панчанка і зайздросную назіральнасць свайго калегі, але не ўстрымаўся і ад заўваг. Папракаў ён аўтара за агульныя мясціны, апісальніцтва ды рыторыку. Нельга не пагадзіцца з такой патрабавальнай ацэнкай Пімена Емяльянавіча, тады яшчэ маладога, але з выключнымі задаткамі паэта. Тыя недахопы, пра якія гаварыў у сваім «лісце» паэт, былі ўласцівы не толькі А. Астрэйку, але і ўсёй нашай ваеннай паэзіі.

Мабыць, ніхто ў тыя ваенныя, вырашальныя гады, не меў такой славы, якая была ў партызанскага баяна Астрэйкі. Меліся, вядома ж, і свае зайздроснікі, каму было далекавата да такой вядомасці. У літаратуры такое бывае. Зайздроснікі, хоць і не нашкодзяць, ды паўсміхаюцца спадцішка пра чыюсьці нерастаропнасць: ім бы на яго месца, яны б... Аднак слава — рэч хоць і прыемная, але небяспечная. Тыя, што ляцяць без развагі на яе полымя, часта, як матылі, у ім і згараюць. Астрэйка проста не звяртаў на яе ўвагі. Не славалюбец быў, ды і ведаў:

Ламала слова кайданы і краты,
А славу лашчыў сочынскі прыбой,
Ад славы той, спачатку зухаватай,
Адзін блакіт застыў над галавой.

Затое паэт ведаў цану сапраўднаму сяброўству. У яго было шмат сяброў, старэйшых і маладзейшых. Самай вялікай школай гэтага сяброўства сталася вайна, яе суровыя выпрабаванні. Цана сяброўства для паэта самая дарагая:

Сяброўству здраджваць не магу,
Пачуцці ў ланцугі не путаю,
Сяброўства сэрцам берагу,
Я з ім жыву, я з ім пакутую.
А як жа можна без сяброў,
Перад сабой стаяць укленчаным?..

Сяброўства паэта з добрымі людзьмі заўсёды перарастала ў сяброўства з роднаю зямлёй, яе мачтавымі барамі, азёрамі, рэкамі, з усёй роднай прыродай, адкуль і чэрпаў сваё натхненне, дзе знаходзіў свае самыя лепшыя вобразы.

Час шмат што ў нашым жыцці рэдагуе на свой лад, не пытаючыся на гэта ніякага дазволу. Часам так робіць і з нашымі рэчамі. Быў у зборніку «Слуцкі пояс» верш «Мой будан». Гэты верш па памяці цытавалі многія партызаны, яго ведалі ўсе лепшыя сябры паэта. Будан — не зямлянка, гэта канструкцыя наземная, дзе хоць не так і цёпла, як у той зямлянцы, але ёсць добрае адчуванне неба і волі. Пра гэта ў вершы кажацца вось як:

Сем калоў у вілкі ўбіты,
Тераплецены лазой.
Як курган, імхом прыкрыты
Партызанскі домік мой.

Невялікі столік з дошкі
І для ложка палак пяць,
А на палках сена трошкі,
Каб было не мулка спаць.
.......................................
Як вайны не стане следу,
Да глухіх лясных палян
Я прыду, каб зноў праведаць
Партызанскі мой будан.

Ды вось ад вайны «не стала следу». Ішоў сорак сёмы год. І Анатоль Астрэйка засяляўся ў шыкоўную паводле мерак таго часу кватэру на Сталінскім праспекце бліз сённяшняй плошчы Якуба Коласа. Тады яшчэ побач віднеліся руіны, сціпла выглядалі прыземістыя драўляныя домікі ля Камароўкі. У новай прасторнай кватэры, бывала, да раніцы свяціліся вокны: ці паэт над радком пацее, ці позна сябры заседзяцца. Кватэру адразу і ахрысцілі буданом, а заадно — і самога гаспадара. Калі што якое, чуеш знаёмае:

— Пойдзем да Будана!

Прызнаюся, і мне, маладзейшаму, неаднойчы даводзілася гасцяваць у тым «будане». Сяджу часам у сваім пакоі на Беларускім радыё, і тут гучыць тэлефонны званок, здымаю слухаўку і чую:

— Карнет! (А гэта ўжо была і мая пасляармейская мянушка, прыдуманая Вялюгінам). Бяры пляшку і хутчэй да нас. Тут — добрая сябрына і — мора закусі. — Праз нейкую хвіліну я ўжо рухаўся ў напрамку «будана». Загадзя ведаў, хто мае быць у тым «партызанскім застоллі». Ну, вядома ж, яны, тры першыя літары паэтычнага алфавіта — Астрэйка, Бялевіч, Вялюгін. Мог быць яшчэ Прыходзька. Паслухаць іх, кожнага паасобку, — нібы пабываць на нейкім незвычайным, вясёлым ды павучальным спектаклі. Ведаў я наперад, што і тое «мора закусі» вельмі сімвалічнае — яго замяняе паўпустая бляшанка марскіх кансерваў, таму не лішне будзе да той пляшкі прыхапіць і нейкую к793куплёную скварку. Я ніколі не раскайваюся, што збег таемна ад начальства на такую сустрэчу. Ды й што б я мог сёння расказаць свайму маладому сябру пра іх, што скіравалі нас самымі шчаснымі і правільнымі сцяжынамі ў літаратуру, дапамаглі па-іншаму глянуць на гады вайны і на тое ж сяброўства?! З кожным разам я ўсё больш здзіўляўся той дружбацкай моцы, якая яднала былых франтавікоў. За вечар яны маглі вытрасці з памяці цэлыя горы ўспамінаў, нават перасварыцца, але тут жа горача абдымаліся і ніколі не кляліся ў сваёй сяброўскай вернасці. Клянецца часцей за ўсё той, каму не вераць.

Бачыў я ў гэтым дзіўным хаўрусе і шчырае ўзаемаразуменне, і добрую жыццёвую ўзаемападтрымку. Усё гэта я прымяраў потым да нас, маладзейшых, і з сумам зазначаў: «Мы не такія, мы — ці самі па сабе, ці кожны ў сабе». А потым крыху супакойваўся: іх гартавала і лучыла сама вайна. А гэта вялікая гартоўня і мужнасці, і вернасці.

Пра што б ні пісаў паэт, ён павінен перш за ўсе пісаць праўду. Чытач заўсёды бачыць, дзе творца шчыры, а дзе ён гуляе ў гэтую шчырасць. Анатоль Астрэйка ў гэтым сэнсе быў праўдарубам. Слова вялюгінаўскае. За гэта яго паважалі нават тыя, каму сама праўда і не заўсёды імпанавала:

Пісаць паміж радкоў здаўна не ўмею,
Што на душы — ніколі не таю,
Перад красою з радасцю нямею
І што люблю, пра тое і пяю.

З жыццёвага календара цяжка згубіць не толькі лісток, а нават адну хвіліну. Усё былое заўсёды застаецца з табой, ператвараецца адразу ў памяць. Гэтаксама і з творчасцю. Былі ў творчым жыцці Анатоля Астрэйкі і так званыя застойныя часіны. Не, не сядзеў без радка, нешта пісалася, але, магчыма, не галоўнае, а нейкі «прахадняк». Былі вершы, якія сёння іранічна ахрысцілі «дацкімі», бо пісаліся яны да нейкіх дат. За іх ніхто цябе не пакрытыкуе, бо прыдрацца няма да чаго, бо там усё правільна, нават правільна па-партыйнаму. За «дацкія вершы» і плацілі нядрэнна, бо гэта быў газетны заказ. Газеты тады не маглі без «дацкіх вершаў». А пад сэрцам балела самае дарагое слова, білася тая самая «рыбка залатая», якой настойліва шукаў і ўсё не знаходзіў паэт («Стаю прад словам на каленях, // Прыйдзі, харошае, прыйдзі...»).

Кажуць, што найлепшым у пчалы слыве верасовы ўзятак. Верасовая кветка, што цвіце жоўта-бэзавым колерам, хоць і позняя, але багатая на нектар. Верасовы мёд, хай сабе і гаркаваты на смак, але густы і важкі. Сваю галоўную лірычную кнігу, якая пабачыла свет у 1975 годзе, Анатоль Астрэйка назаве «Цвіціце, верасы». Паэт адчуў, што і на самай справе прыйшла яго верасовая пара. І незвычайна засвяцілася ў ёй ціхае роднае слова, успыхнула дзіўным выбуховым святлом сама душа паэта. Здалося, вось яна нарэшце збылася, «надзея ўсіх надзей». Вунь як важка сказалася і пра таго самага салаўя, які раней проста абыякава пралятаў перад вачыма:

Ніколі з гора я не плакаў,
Але пачуўшы салаўя
Пасля бязлітаснай атакі, —
Слязой шчаслівай плакаў я.

Кажуць, калі ў паэта ёсць некалькі выдатных вершаў, тады паэт адбыўся. З усяго таго, што створана Анатолем Астрэйкам, набярэцца добры том хвалюючай і пранікнёнай лірыкі. Гэта і змушае мяне гаварыць пра значнасць і важкасць яго паэтычнага слова, пра талент самабытны і непадобны. Верас яго паэзіі працягвае цвісці. Хацелася б, каб меданосны водар гэтага цвіцення адчулі і чытачы наступных пакаленняў.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# ДА ЛЮДЗЕЙ З ЛЮБОЎЮ ІДУЧЫ...

**Васіль ТКАЧОЎ. Снукер.** Мінск. Харвест, 2009.

Напэўна, шчаслівы той аўтар, калі чытач ці глядач пасля знаёмства з яго творамі, адчувае раптам у сабе неспадзеўнае трапяткое хваляванне, калі ў памяці, нібы на палатне пацямнелага ад часу экрана, пракручваюцца кадры нечага свайго, патаемнага, разбудзіўшы пачуцці і ўспаміны, а лёс герояў гэтых твораў, падзеі, што адлюстраваны ў іх, стануць неабыякавымі табе, узварухнуць, прымусяць сэрца зашчымець ад болю ці захліпнуцца ад радасці. Менавіта штосьці такое, па часе далёкае, а для сэрца блізкае ўзрушэнне перажыў я асабіста, узяўшыся чытаць раман Васіля Ткачова «Дом камуны», які ўвайшоў у яго новую кнігу прозы «Снукер», выдадзеную ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».

Падзеі, якія ўзнаўляе аўтар, разгортваюцца ў горадзе над Сожам у самым пачатку завірушных 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі Дом камуны, гэты знакаміты ў Гомелі гмах, цудам ацалелы ў вайну, пасля «перабудовы» больш нагадваў «разбуранае гняздо», чым той, які застаўся ў памяці гараджан, яго колішніх жыхароў, у маёй памяці. Тады мне, галоднаму вясковаму падшыванцу, часам усміхалася шчасце на нейкі тыдзень-другі рабіцца гарадскім, ласавацца купленым хлебам — гасцяваць у цёткі Дар'і і дзядзькі Максіма, якія здымалі жыллё ў чатырохкватэрнай драўлянай будыніне нейкага домаўласніка паблізу чыгуначнага вакзала, на вуліцы Мінскай. Мяне балюча даймалі груды бітай цэглы і шкла, з-за якіх не паспявалі зажываць босыя ногі, здзіўлялі зямлянкі, зараснікі дзядоўніку і лебяды з мэканнем козаў на прывязі. А за нейкіх дзвесце-трыста крокаў адгэтуль белакаменна ўзвышаўся ён, Дом камуны. Памятаю, усе, хто туліўся ў гэтых прывакзальных трушчобах, непрыхавана зайздросцілі тым, каму нейкім чынам пашчасціла займець куток у Доме камуны, дзе ў людзей былі, здавалася б, усе выгоды, якія могуць толькі быць. Нідзе больш, толькі ў Доме камуны можна было проста ў двары ў суботнія дні бясплатна паглядзець кіно. Мне са стрыечнымі братамі ўдавалася трапляць на свята «кіна», бо там цётка Дар'я працавала прыбіральшчыцай. А яшчэ «...свае былі ў доме слесары, свой кравец, свой шавец... На вуглах дома, з праспекта Леніна, былі ларкі: у адным прадавалі розныя прысмакі, пончыкі і піражкі, а ў другім мужчыны пілі піва. Пасярод, на першым паверсе, — крамы...» Як і адна з гераінь рамана Ларыса Сяргееўна ў маленстве, я таксама потайкам ад цёткі (баялася, каб не нарваўся на задзірыстых домакамунаўскіх падшыванцаў) «бегаў глядзець, чым там гандлююць. Нібы на экскурсію ў музей...»

Усё — праўда. Чытаючы гэтыя радкі, я, здавалася, нанава адчуў смак тых смажаных у алеі пончыкаў, купленых за цётчыны капейкі, здаецца, зноў гляджу і не веру вачам, што апрача звыклых для вясковых крам «падушачак» ёсць яшчэ шакаладныя цукеркі, фігурныя, вырабленыя пад зайчыкаў ды вавёрачак, у срабрыстых абгортках, па шалёнай на той час цане — ажно 175 сталінскіх рублёў за кілаграм! Адно

недаўменна цюкала тады ў галаву: няўжо ёсць такія багацеі, што купляюць іх?

Чаму я ўсё гэта прыгадаў? Каб сваёй выпадковай прычыннасцю да таго часу, пра які апавядаецца ў рамане, да месца падзей, хоць трошкі ды пацвердзіць карпатлівасць таго пошуку, які правёў аўтар, працуючы над ім, таго старання, каб усё ў творы было праўдзіва, дакладна, бо «Дом камуны» — твор, на маю думку, у пэўнай ступені гістарычны і па ім, магчыма, пазнейшыя даследчыкі змогуць атрымаць належнае ўяўленне, што за час быў, у якім нам выпала жыць, якімі былі нашы ідэалы і ўзаемаадносіны, чым кіраваліся ў жыцці, што было вышэй — любоў і спагада, сумленне і чысціня пачуццяў, дабрыня і міласэрнасць, жорсткасць і раўнадушша, якія калечылі душы людзей, рабілі іх глухімі да чалавечага болю, духоўна спустошанымі шукальнікамі прывіднага шчасця?

Эпіграфам да свайго рамана Васіль Ткачоў паставіў словы: «У кожнага дома ёсць свая гісторыя. Яна непарыўна звязана з гісторыяй горада, з гісторыяй краіны». У гэтых словах — уся задума аўтара, яго імкненне з назіральнасцю летапісца адлюстраваць ход падзей, перадаць тую атмасферу, што панавала ў грамадстве на заранку нашай незалежнасці, разняволіўшы думкі, свядомасць і ўчынкі людзей. Як і той Дом камуны, твор густа населены мноствам персанажаў самых розных катэгорый — ад пакрыўджаных жыццём пенсіянераў і людзей творчых прафесій да прадстаўнікоў уладна-партыйнай эліты, якія, страціўшы высокія пасады, хутка пераарыентаваліся, пераселі ў крэслы ў цянётах бізнесу, паспяхова авалодалі навукай «прыхватызацыі», не засталіся пакрыўджанымі, займеўшы статус «новых беларусаў».

Падзеі, што адбываюцца ў горадзе над Сожам і ў яго ваколіцах, нярэдка нагадваюць дэтэктыў. Цікава яшчэ і тое, што многія персанажы твора ўзяты з жыцця, нібы перафатаграфаваны аўтарам з рэальных асоб, нават той жа абласшчаны Бахусам Валодзька — «сімбіёз акцёра і паэта-фантазёра». Лічу, гэты вобраз найбольш удаўся аўтару.

Галоўны герой твора — старажыхар Дома камуны Сцяпан Хамянок. Жыццё не песціла яго: у свой час «за доўгі язык» трапіў на Поўнач, «здабываў у шахце вугаль адбойным малатком». За што, азіраючыся з вяршыні пражытых гадоў, не заўсёды крыўдуе: «Загартаваўся там, няма чаго казаць. Таму і клыпаю ўжо амаль восемдзесят, і чарку калі бяру, то рука не трымціць». Калі з-за аварыйнага стану былога «дома шчаслівай будучыні» аўдавелага старога выселілі з наседжанага кутка, ён усё ж дамогся, каб яму вымеркавалі кватэрку якраз насупраць Дома камуны, з акном на яго. Каб у любы час сутак «мог на белы свет глядзець. І на Дом камуны». Гарвыканкамаўцы спадзяваліся, што ён адмовіцца, бо кватэра была на апошнім, чацвёртым паверсе. «Інвалід жа, без нагі, як ён будзе забірацца ў сваё гняздо, як выходзіць з яго на двор? Не на парашуце ж. Але пралічыліся. Хамянок адразу пагадзіўся, і твар яго свяціўся, быў лагодны, нібы пра такую кватэрку ён толькі і марыў».

Скажыце, а хто з равеснікаў Сцяпана Хамянка не сумуе аб мінулым, аб тым часе, калі ўсе яны апантана будавалі светлае будучае — камунізм? Была вера, была надзея. І людзям таго пакалення няпроста развітвацца з патрачанымі верай і надзеяй… Дом жа камуны — сімвал мінулага… З акна чацвёртага паверха галоўны герой рамана пажадаў глядзець не проста на Дом камуны, а ў сваё мінулае…

Шмат людзей перабывала ў кватэры Хамянка. І знаёмых, і зусім незнаёмых. Адны з Валодзькам «прыходзяць гамузам», і тады тут стаіць гул і лямант, беспераапынку гучаць песні, а другія — тая ж суседка Кацярына Іванаўна — пагаварыць па душах, падзяліцца сваёй бядою, а, бывае, і нейкім праблескам радасці. Ён ні перад кім не зачыняе дзверы, нікога не адпрэчвае, бо прывык, пражыўшы ў Доме камуны дзясяткі гадоў, да пастаяннага людскога віравароту, да суседства, дзе ўсе былі адзін аднаму — як адна сям'я, як радня, асабліва не таіліся ні ў чым. Ён ведае, што ўжо не вернецца ў дом, які змушаны быў пакінуць, але ж хвалюе старога, не выходзіць з галавы думка: хто засе-

ліцца туды, якія людзі прыйдуць нанава абжываць яго, чым дыхаюць яны? А першыя навасёлы, як паведаміў яму Валодзька, ужо з'явіліся ў Доме камуны, але «толькі шумяць пад музыку, а карысці ад іх ніякай: бутэлькі замежныя выносяць раніцай на сметнік, такія ў нас не прымаюць…» Ці прымусяць іх задумацца радкі ў сшытку, пакінутыя Сцяпанам Хамянком: «Калі ёсць на небе Бог, то на зямлі наш горад. Божа, зберажы яго!..»

Проза Васіля Ткачова даўно стала адметнай з'явай у нашай літаратуры. Яна прываблівае любоўю да чалавека, да свайго, зямнога, свежасцю думкі, вобразнасцю, каларытнымі запамінальнымі персанажамі, досціпам народнага гумару, жывой мовай. Не ведаю, як хто, а я яшчэ раз, нібы ўпершыню, з задавальненнем перачытаў аповесці «Участковы і фокуснік» і «Гульня», а таксама многія апавяданні, што раней змяшчаліся ў нашых літаратурных выданнях, а цяпер убачылі свет, сабраныя як добрыя, разважліва-памяркоўныя сябры-суразмоўцы пад дахам новага зборніка «Снукер». У іх пісьменнік з прыроджанай, прысутнай толькі яму, мастацкай хваткай у які ўжо раз паказаў сябе адмысловым майстрам інтрыгі, навізны сюжэта, нечаканых паваротаў у ім, умельствам знайсці такое, што бярэ ў палон і не адпускае ад першай да апошняй старонкі, прасвятляе нейкай патаемнай сімпатыяй да тых, пра каго ён расказвае. Не ўсе яго героі — анёлкі, не ва ўсіх склалася жыццё так, як хацелася б, але ўсе яны — людзі, жывыя людзі, і ва ўсіх свой унутраны свет, свая псіхалогія, свая душа, у якой, нягледзячы на ўсе супярэчнасці, на ўсе выбрыкі лёсу, не згасаюць іскрынкі чалавечнасці, дабрыні і спагаднасці, часам ужо змяльчэлай, прыглухлай ад няўмольнай рэчаіснасці, але — годнай, вартай прыстойнага стаўлення да сваёй асобы.

Засяроджуся толькі на адным апавяданні — «Эмчээсавец». Сур'ёзна захварэў Сцяпан Філімончык — слесар мясцовага завода, гарманіст і спявак. А чаму Эмчээсавец? Жонка прыклала да яго такую мянушку. Суседзі і знаёмыя прынялі яе. Сцяпанам мала калі называюць, больш — Эмчээсаўцам. Ён і не крыўдуе. Бо яно так і ёсць, тут чысцейшая праўда: калі што дзе — адразу да Сцяпана: «Выручай, сусед!..»

Трэба было рабіць Сцяпану аперацыю. Патрабаваліся грошы, якіх у сям'і Філімончыкаў не мелася. Дачуліся суседзі: «Сцяпана трэба ратаваць, трэба!» Як яно вядзецца ў нас, кінуліся збіраць грошы па пад'ездах. Не надта ўзрадавала, як падалося, такая ініцыятыва Кольку — «добрага выпівоху, чалавека-пустацвета». «І задачу вы перада мной паставілі: мне таксама хочацца Сцёпку выручыць, але як? Грошай у мяне… самі ведаеце… А хто пазычыць? Скажу, што на лячэнне Эмчээсаўца, дык не паверацьжа! Зноў, скажуць, прыдумаў каб нажлукціцца…»

Не спатрэбіліся грошы, не прыняла іх ад зборшчыкаў Сцяпанава жонка Антаніна: «Не трэба ўжо грошы. У нас цяпер такія аперацыі робяць за дзяржаўны кошт. Праўда, толькі ў Мінску… А грошы вярніце людзям. І ўсім, хто адгукнуўся на наш боль з вашай, канешне ж, дапамогай, скажыце вялікі дзякуй. Эмчээсавец, калі, дай Божа, усё абыдзецца, будзе добра, таксама падзякуе…

Трэнькнуў званок, Антаніна адчыніла дзверы, і на парозе ўсе ўбачылі Кольку. Ён шырока ўсміхаўся бяззубым ротам, а ў руцэ трымаў перад сабой адной паперкай пяць тысяч.

— Пазычыў на дапамогу Эмчээсаўцу, паверыў новы сусед з першай кватэры. Дай, кажу, пяць тысяч. На тое і на тое. Ён нічога не сказаў, моўчкі вынес і даў. Каб папрасіў дзесяць, ён бы, адчуваю, і дзесяць тысяч не пашкадаваў. Тады б мне хапіла яшчэ і на бутэльку. А не прапіў! Цярэшка, запішы мяне ў свой талмуд… Я ж, верыце ці не, гадзіну назад грошы гэтыя пазычыў… і ўвесь час вагаўся: ці ў краму бегчы за віном, ці аддаць на талаку… Думаеце, лёгка мне было? Гадзіна годам здалася…»

Вобразы, створаныя пісьменнікам, здаецца, сыходзяць са старонак кнігі да чытача, як з падмосткаў тэатральнай сцэны. Яны паўстаюць перад ім — як жывыя рэальныя людзі, ён бачыць іх учынкі, чуе мноства іх маналогаў,

гісторый, у якіх цесна перапляліся трагічнае з камічным, народжанае аўтарскай фантазіяй з рэаліямі сучаснага жыцця-быцця, з горкай праўдаю, з нашай будзённасцю. Нялёгка ім, вяскоўцам і гараджанам, выкручвацца, знаходзіць сябе, праходзіць «адаптацыю» (і сацыяльна-бытавую, і маральна-псіхалагічную), трапіўшы ў палон сённяшніх прывідна-ўсцешных спакус і захапленняў, уяўнага дабрабыту і душэўнай заспакоенасці, калі ад мінулага, якім дагэтуль жылі, застаўся толькі цень, а абрысы заўтрашняга лепшага дня яшчэ слаба праглядаюцца ў прысмужанай далечы невядомай будучыні. Таму і бачым мы іх такімі, якія яны ёсць, у апавяданнях «Тратнік», «Стажок», «Адаптацыя», «Дзень шахцёра», «Дарога», «Кассё», «Рэба», «Свята», «Цывілізацыя», «Едзе сена на калёсах», «Конь бабы Дуні», «Кватэра ў Омску», «Чабаток», «Раб чмяля»…

Шмат прыхільнікаў займела, шмат станоўчых водгукаў у свой час атрымала цікавая, самабытная драматургія Васіля Ткачова. Яго п’есы з поспехам ставіліся (і ставяцца!) на сцэнах многіх прафесійных і народных тэатраў, а таксама ў суседніх рэспубліках, гучалі ў радыёэфіры, паказваліся на тэлебачанні. Не дзіўна, што і ў гэтым жанры пісьменнік застаецца верны свайму мастакоўскаму крэда, выбару душы: з цеплынёй і павагай піша пра сваіх землякоў, пра іх жыццё, парушанае чарнобыльскай бядой, пра нашых сучаснікаў. У кнігу, пра якую ідзе гаворка, аўтар уключыў дзве п’есы — «Снукер» і «Курорт для зяця». Як і ў большасці яго трагікамедыйных твораў, у іх шмат займальных сцэн і дыялогаў, вынаходлівасці і досціпу, жартоўных інтанацый і… аптымізму: спадзявайся на сябе — і ўдача не пройдзе міма.

Як паказала жыццё, крызісы здараюцца не толькі ў эканоміцы, яны балюча адбіваюцца таксама на творчай сферы дзейнасці. Пасля сумнавядомых перабудовачных узрушэнняў многія нашы літаратары ў разгубленасці апусцілі рукі, знізілі актыўнасць, а то і зусім спыніліся на раздарожжы, прымоўклі. На шчасце такога крызіснага заняпаду не адбылося ў творчасці Васіля Ткачова. Ён з ранейшай нястомнасцю працягвае працаваць, не зрэдчас, а пастаянна радуючы чытачоў, прыхільнікаў свайго яскравага таленту арыгінальнымі здабыткамі ў прозе, драматургіі, публіцыстыцы, дзіцячай літаратуры. Выхад новай кнігі — яшчэ адзін важкі доказ гэтаму.

Мікола МІРШЧЫНА

# НАТАТКІ БЕЛАРУСКАГА БІБЛІЯФІЛА

**Міхась КАЗЛОЎСКІ. Пра кніжнікаў і кнігі: нататкі бібліяфіла: эпісталярная спадчына.** Мінск: Кнігазбор, 2010.

Ужо неаднойчы даводзілася выказваць думку пра тое, што нашаму кнігавыданню бракуе літаратуры бібліяфільскай, прысвечанай беларускім кнігазборам, прыватным бібліятэкам. У канцы 1980-х была спроба сфарміраваць гэтую традыцыю. Выдавецтва «Беларусь» падаравала чытачу альманах бібліяфіла «Свіцязь». Тыраж — 14 600 экзэмпляраў. Укладальнік — Л. Казыра. У рэдакцыйную калегію гэтага выдання ўвайшлі Сямён Букчын, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Іван Саламевіч — пісьменнікі, навукоўцы, чыя захопленасць, неабыякавасць у дачыненні да кнігі добра вядомыя. Пад сціплай вокладкай з надпісам на дзвюх мовах — «Свіцязь Свитязь», аформленай графікам Генадзем Мацурам, — 34 артыкулы, нарысы паведамленні ці карэспандэнцыі. Выданне нарадзіла спадзяванне, што і ў Беларусі будзе нешта кшталту маскоўскага штогодніка «Альманах библиофила». І, канешне ж, аўтарскі актыў ужо сфарміраваўся — пісьменнікі Э. Ялугін, С. Букчын, Г. Каханоўскі, А. Мальдзіс, архівісты, вучоныя, бібліёграфы, журналісты, музейшчыкі, краязнаўцы В. Скалабан, Я. Саламевіч, М. Мушынскі, С. Кузняева, У. Мархель, А. Падліпскі і інш. Але, на вялікі жаль, першая ластаўка так і засталася першай. Не ведаю, магчыма, у выдавецтва і была спроба прадоўжыць праект, але ж маем тое, што маем. Дый заўважыць варта наступнае. У апошнія гады многія ініцыятывы не пашыраюцца толькі таму, што яны трымаюцца фактычна на высілках энтузіястаў. Так, відаць, і тут. Самі С. Букчын, Л. Казыра, іх магчымыя паплечнікі не рухаюць справу, то і выдавецтва не дужа рупіцца. Хацелася б у гэтай выснове памыліцца, але ж не атрымліваецца.

Вось і кніга Міхася Казлоўскага «Пра кніжнікаў і кнігі» — гэта не проста плён літаратурнай, кнігазнаўчай работы, а сапраўдны подзвіг ўлюбёнага ў беларускае слова бібліяфіла. Фактычна пад адной вокладкай паяднаны «нататкі бібліяфіла» «Да кніжных скарбаў дакрануся...» і збор эпісталярнай спадчыны «Там, дзе нас няма». Але цэласнасць успрыняцця матэрыялу ад гэтага не парушаецца, кніга ўяўляецца як адно падарожжа ў Храм Кнігі. Маршрутаў, сустрэч асобных у гэтым падарожжы нямала, а вось і асоба бібліяфіла, і яго падсумоўванне ўласных вышукаў — гэта адзіны паслядоўны шлях да спасціжэння кніжнай мудрасці.

Выдавецкая анатацыя так тлумачыць змест, характар зборніка: «Упершыню ў гісторыі Беларусі выходзіць аўтарская кніга, прысвечаная пытанням айчыннага бібліяфільства. На яе старонках распавядаецца пра дзейнасць Беларускага таварыства бібліяфілаў (БТБ), якое існавала на тэрыторыі Савецкай Беларусі ў другой палове 20-х гадоў XX стагоддзя, згадваюцца імёны і кнігі забытых

пісьменнікаў, даецца характарыстыка бібліятэкам і бібліяфілам мінулага. Не засталіся па-за аўтарскай увагай і такія цікавыя і маладаследаваныя тэмы, як гісторыя беларускага экслібрыса, літаратурна-мастацкага перыядычнага друку, прасочваюцца лёсы мастакоў-афарміцеляў, архіваў, музеяў, аўтографаў, вывучаюцца малафарматныя і мініяцюрныя выданні. Асобна, часта невядомыя, старонкі чалавечых узаемадачыненняў раскрываюцца ў багатай эпісталярнай спадчыне вядомых пісьменнікаў і дзеячаў нацыянальнай культуры».

Выправімся ж следам за маладзечанскім бібліяфілам Міхасём Казлоўскім у адмысловае кніжнае падарожжа. Расповед вядзе сапраўдны кніжнік, які сам палюбіў прадмет свайго збіральніцтва, які знайшоў у гэтых прадметах душу. «Вялікі аўстрыйскі пісьменнік і бібліяфіл Стэфан Цвейг, — зазначае аўтар, — гаворачы пра сэнс і прыгажосць рукапісаў, пісаў: «Каб разумець рукапісы, а зразумеўшы, палюбіць іх, каб здзіўляцца ім, прыходзіць ад іх у хваляванне і захапленне, для гэтага нам трэба спачатку навучыцца любіць людзей, жыццёвыя рысы якіх навечна адбіліся ў іх». А хіба гэта не праўда, што ў тых першых кніжках нашых класікаў адбіліся іх жыццёвыя рысы, чуваць стук сэрцаў, гучыць рытм даўно адышоўшага жыцця? Жадаеце адчуць іх?» І ўсе наступныя нарысы, падарожныя кнігазнаўчыя эсэ — гэта ўзнаўленне праз пажоўклыя кніжныя старонкі думак, пачуццяў, сэрцабіцця нашых папярэднікаў.

Міхась Казлоўскі — збіральнік найперш рэдкіх беларускіх кніг. Пра такія знаходкі ён і расказвае, у прыватнасці, у артыкуле «Янка Купала ў выдавецкай дзейнасці Заходняй Беларусі». Першай Купалавай кнігай, што пабачыла свет на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, стаў зборнік вершаў і паэм «Шляхам жыцця» — з віленскага выдавецтва Б. Клецкіна 1923 года. Нагадаем: упершыню купалаўская кніга з гэтай назвай пабачыла свет у Санкт-Пецярбургу ў 1913 годзе. Наступная віленская — паэма «Адвечная песня» (1927). У тым жа годзе ў Заходняй Беларусі выходзіць славутая «Паўлінка». Звяртаючы ўвагу на гэтыя выданні, М. Казлоўскі падрабязна апісвае вядомыя яму факты, расказвае пра тых, хто спрычыніўся да іх. Несумненна, калі будзе перавыдавацца энцыклапедыя «Янка Купала», артыкул маладзечанскага бібліяфіла стане карыснай крыніцазнаўчай базай для дапаўненняў і ўдакладненняў. Дарэчы, у свой час выдатным выдавецкім праектам сталася «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі». Рэдкі даследчык гісторыі і культуры Беларусі ёю не карыстаецца. Дык вось, калі раптам яе будуць перавыдаваць, не лішнім будзе таксама зазірнуць у нататкі маладзечанскага бібліяфіла.

Цікавым падаецца эсэ М. Казлоўскага «Прыжыццёвыя выданні Вацлава Ластоўскага ў маёй бібліятэцы». Расказваючы пра ўнікальныя ў кантэксце беларусікі выданні, М. Казлоўскі нагадвае пра «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ластоўскага. У бібліятэцы маладзечанца яна — з асабістага збору былога рэктара міжваеннага Ковенскага ўніверсітэта імя Вітаўта Вялікага Мікалоюса Біржышкі. Даўно наспела пара ажыццявіць яе факсімільнае перавыданне. Аднойчы спроба такая была, мяркуючы па тэматычным плане выдавецтва «Беларусь» за 2008 год. Але, на вялікі жаль, планы так і засталіся планамі.

Многія бібліяфільскія эсэ з кнігі «Пра кніжнікаў і кнігі» — пра заходнебеларускіх збіральнікаў беларускай літаратуры: Віктара Піліпавіча Казлоўскага, Адольфа Клімовіча, Барыса Пятроўскага, Язэпа Камаеда, Пятра Зяновіча, Яўгена Чараповіча. Імёны іх у большасці сваёй зусім невядомыя ці малавядомыя. Але ўплывы іх на беларускую кніжную культуру дастаткова істотныя. Дзякуючы менавіта такім людзям і існуе сама культура збіраль-

ніцтва кнігі, перадаюцца з пакалення ў пакаленне традыцыі беларускага кніжніцтва.

У «нататках бібліяфіла» Міхась Казлоўскі выяўляе сябе дасведчаным гісторыкам айчыннай кнігі. Артыкулы «Беларускае таварыства бібліяфілаў (БТБ) у БССР», «Рамантычныя вобразы кніжных знакаў», «Нататкі пра мініяцюрныя і некаторыя малафарматныя кнігі» і ўвогуле падаюцца адметнымі міні-манаграфіямі па той ці іншай тэме. Аўтар прыадчыняе заслону часін, паказвае даследчыкам айчыннай культуры, якія грунтоўныя пласты памяці яшчэ варты шырокага ўзнаўлення.

Што да другога раздзела — «Там, дзе нас няма (эпісталярная спадчына)», то ў ім змешчана перапіска Адольфа Клімовіча з Зоськай Верас, лісты ксяндза Чэслава Сіповіча да а. Уладзіслава Чарняўскага, эпісталярыя Юльяна Сергіевіча, адрасаваная Генадзю Каханоўскаму, лісты журналіста і беларускага грамадскага дзеяча Юркі Сянькоўскага. А яшчэ — лісты да Міколы Капыловіча ад Міхася Стральцова і Міхася Вышынскага. Завяршае раздзел зварот да эпісталярыя, звязанага з маладзечанскім настаўнікам і паэтам Вячаславам Міхасёнкам, які апошнія гады жыцця правёў у Слуцку. М. Казлоўскі друкуе лісты Уладзіміра Караткевіча, адрасаваныя Вячаславу Васільевічу. Пісьмы класіка айчыннай літаратуры датаваны 1970—1980 гадамі.

Праца М. Казлоўскага «Пра кніжнікаў і кнігі» — уражлівы прыклад любові і павагі да беларускіх кнігазбіральнікаў, сапраўдны грамадзянскі, паэтычны, узнёслы Гімн Беларускай Кнізе!

Вольга НІКОЛЬСКАЯ

# КАЗКІ ДЛЯ СУЧАСНАГА ШКОЛЬНІКА

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ. Зорны шлях белых гарлачыкаў. Казкі.** Мінск, «Мастацкая літаратура», 2010.

Навамодны тэрмін «фьюжн» выкарыстоўваецца ў розных галінах чалавечай дзейнасці: у музыцы, дызайне, танцах… Ён азначае сплаў, зліццё розных стыляў. Цікава, ці можна выкарыстаць гэты тэрмін у дачыненні да літаратуры, у прыватнасці да кнігі Алеся Карлюкевіча «Зорны шлях белых гарлачыкаў»?

Тут таксама сплаў, але жанравы і стылявы. І адразу скажу, апраўданы. Бо гэтая кніга незвычайная. Яна адорвае цябе цэлым комплексам станоўчых эмоцый: пакідае пачуццё таемнага, радасці, захаплення неабдымным светам нашай прыроды. У кнізе сабраны разнапланавыя казкі. У казцы «Вавёрка піша сачыненне» аўтар адпраўляе чытача ў лес, дзе праз галоўных герояў твора, вавёрку і дзятла, расказвае пра адзін з чароўных куточкаў нашай краіны. «Памылка першакласніцы Святланкі» — сучасная гісторыя пра разумную маленькую дзяўчынку. Казка «Як васількі пра сваю крыўду забыліся» запрашае нас у падарожжа ў мінулае, у той далёкі час, калі людзі былі язычнікамі. Нас, дарослых, для якіх звыклымі з’яўляюцца беларускія народныя казкі, казкі Пушкіна, Андэрсена, такі «фьюжн», або сплаў жанраў і стыляў — падбор казак і герояў пад адной вокладкай па-добраму здзіўляе. Гэта нас, дарослых… А юных чытачоў? Кніга ж разлічана на іх, сучасных школьнікаў, якія жывуць у інфармацыйным грамадстве.

Дык вось, акрамя традыцыйнай павучальнай функцыі, якую нясуць класічныя казкі, у кнізе дамінуе яшчэ адна функцыя — інфармацыйная. Усе казкі непадобныя адна на адну, бо ў кожнай з іх закладзена свая каштоўная інфармацыя. Так, у адной казцы аўтар знаёміць дзяцей з Туркменістанам, у другой расказвае пра вераванні продкаў… Аднак, нягледзячы на шырокую геаграфію сюжэтаў казак, асноўнай «кропкай адліку» для аўтара застаецца наша краіна — «багатая на гісторыю і сучасныя падзеі». Адсюль выяўляецца яшчэ адна асаблівасць і непаўторнасць казак Алеся Карлюкевіча — «радзімазнаўства». Алесь Мікалаевіч — не толькі пісьменнік, а і краязнавец, вандроўнік. Ён ведае нямала цікавых фактаў пра нашу краіну, пра свой край, у якім нарадзіўся (Пухаўшчына), і дзеліцца імі са сваім юным чытачом.

Сучаснасць і пэўная «мадэрновасць» кнігі праяўляецца і ў яе афармленні. Яркая мяккая вокладка робіць яе падобнай на часопіс. У пачатку аўтар расказвае чытачу пра сябе і свае творы, у канцы слова бярэ мастак кнігі Ян Жвірбля. І гэта таксама цікава. Часцей за ўсё постаць мастака ў кнігах адсутнічае. Яго імя і прозвішча мы можам прачытаць толькі напрыканцы кнігі, зрэдку на вокладцы. Тут жа мастак сутворца пісьменніка, ён разам з аўтарам надае кожнаму твору пэўны настрой. На першы погляд, малюнкі Яна Жвірблі могуць падацца занадта экстравагантнымі і не зусім падыходзячымі для дзіцячай кнігі. Але варта толькі прачытаць адну з казак, уважліва ўгледзецца ў ілюстрацыі, як пачынаеш разумець, што малюнкі і тэкст сінкрэтычныя, разам яны ствараюць казачную атмасферу таемнасці і загадкавасці.

Незвычайнае і «казачнае» ў гэтай кнізе ўсё і, найперш, сама назва «Зорны шлях белых гарлачыкаў». Яна трымае

чытача ў напружанні да канца кнігі. Бо менавіта ў апошняй казцы, якая носіць гэтую ж назву, аўтар тлумачыць, якім чынам прыгожыя кветкі апынуліся на небе сярод зорак. Аказваецца, і тут зноў праяўляецца краязнаўчая функцыя казак: раней людзі і буслы сябравалі. «Буслоў у тыя часы вадзілася на дзіва шмат. Бела-чырвоныя прыгажуны былі з людзьмі добрымі суседзямі. Часам птушкі і вяскоўцы ладзілі агульныя святы. Сяляне дапамагалі даўганогім вандроўнікам упрыгожваць буслянкі…» Аднойчы сабраліся палешукі з бусламі на свята Сёмухі. І вось пасля прыемных бясед і вясёлых песень расказаў бусел Янка дзядулю Ладымеру пра свой клопат: «Вы такія дбайныя, руплівыя гаспадары. Агароды вашы кветкамі перапоўнены. А ў нас на сажалцы пуста…»

Загадаў тады мудры Ладымер свайму сыну Кастусю, які з лука страляў трапна, дапамагчы буслам. «Кастусь… падаўся ў пушчанскі гушчар. Разгледзеў Млечны Шлях на небе, выбраў самую вялікую зорку і стрэліў. Пасыпаліся на зямлю знічкі… Раніцаю бусел Янка… паляцеў да сажалкі… Падляцеў бліжэй і здзівіўся кветкам, што разгарнулі свае пялёсткі на шырокіх зялёных лістах…» Гэта былі тыя самыя зоркі-гарлачыкі. Назва ды і сам вобраз кветак надзвычай рамантычныя. Увогуле такіх аўтарскіх вобразаў-метафар у кнізе шмат.

У казцы «Як васількі на сваю крыўду забыліся» А. Карлюкевіч параўновае ўсю расліннасць зямлі з яе валасамі: «І жыта, і вы, васількі, і лён, і грэчка, што суседнія палеткі ля вашай вёскі займалі, і трыпутнік, што на сцежцы проста расце, — усе вы валасы Зямлі. Выпадзе адзін, бядней, халадней ёй стане». А ў казцы Бог восені Жыцень супакойваў васількоў, якія скардзіліся яму на тое, што людзі абыякавыя да яго. «Прыходзіць селянін улетку на поле, радуецца, што роўныя сцябліны ў жыта, што колас багаты яны на сябе ўтрымліваюць… А мы, нашмат прыгажэйшыя, нікому не патрэбныя. То навошта і жыць тады?!.»

Тут аўтар выкарыстоўвае такі прыём літаратуры постмадэрнізму, як інтэртэкст. Аналагічнае пытанне задаваў музыка Хрысту, шукаючы сваё прызначэнне на зямлі, у творы Максіма Багдановіча «Апокрыф». Класік беларускай літаратуры пісаў: «Я ж кажу вам: «Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»

А. Карлюкевіч спасылаецца на Багдановіча нездарма, дзякуючы гэтаму, казка пра васількоў набывае філасофскае гучанне. Інтэртэкст дазваляе чытачу вынесці адсюль адразу некалькі «мараляў». Услед за Багдановічам Алесь Карлюкевіч сцвярджае (і гэта не лішне), што на зямлі ўсё важна: кожная травінка, кожная кветачка, кожная казюрка... За гэтай высновай паўстае яшчэ адна, больш глабальная. Васількі — для аўтара «Апокрыфа» не толькі сімвал Беларусі, але і сімвал творцы. Чалавека, які нясе прыгажосць і дабрыню ў свет сваімі мастацкімі творамі. І яго справа, на думку Багдановіча, не менш значная, чым справа хлебароба, бо менавіта прыгажосць развівае нас духоўна. Жыцень жа ў казцы А. Карлюкевіча паказвае васількам іх значнасць. Людзі пачынаюць заўважаць кветкі і радавацца ім. Пісьменнік наступным чынам вызначае задачу васількоў, падтэкст — творцаў, на зямлі: «Прыгажосць і вера ў будучыню — вось ваша галоўнае прызначэнне…»

Казка «Памылка першакласніцы Святланкі» пачынаецца зусім «не паказачнаму». Першакласнікам задалі напісаць сачыненне пра Туркменістан. Аўтару лепшага твора будзе даручана ганаровая місія — прабегчы на ўрачыстай лінейцы са званочкам. Місія гэта архіважная, бо на лінейцы будзе прысутнічаць пасол Туркменістана. Вучаніца сельскай школы, выдатніца Святланка вырашыла напісаць лепшае сачыненне і перамагчы. Яна звярнулася па дапамогу да свайго старэйшага брата Сяргейкі. Ён добра разбіраецца ў Інтэрнэце, таму паабяцаў сабраць для сястры ўсю інфармацыю пра загадкавую краіну. Аднак хуліган Сяргейка вырашыў пасмяяцца з малечы і сабраў інфармацыю пра зусім іншыя мясціны, сказаўшы, што гэта і ёсць Туркменістан. Света паверыла брату і села

пісаць сачыненне. Але чамусьці справа ішла марудна: то ручка саскочыць убок, то клякса капне… І вось тут пачынаецца казка. З кляксы, што ўпала са Святланчынай ручкі на сшытак, з'яўляецца казачны Пінгвін, менавіта ён паводле інфармацыі Сяргея і ёсць асноўны жыхар Туркменістана. Яго завуць Грэнландкін, і гэта не проста пінгвін, а сапраўдны чараўнік. Дзеля таго, каб дзяўчынка змагла даведацца больш пра Туркменістан, пінгвін дастаўляе яе ў самую вялікую бібліятэку краіны. Дзякуючы гэтаму, а таксама дапамозе дзядулі Бібліяфіла Бібліяфілыча, дзяўчынка піша выдатнае сачыненне. Яна перамагае ў конкурсе і атрымоўвае права прабегчы са званочкам на лінейцы…

Выкарыстанне героямі Інтэрнэта, электроннага блакнота, які Святланцы дорыць дзядуля Бібліяфіл Бібліяфілыч, робяць казку сучаснай і блізкай для школьніка. Самая вялікая бібліятэка ў краіне — гэта, канечне, Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Аднак адсюль вынікае і мараль: нельга спасылацца толькі на чужую дапамогу, Інтэрнэт, неабходна самому імкнуцца да набыцця новых ведаў і часам прыкладаць намаганні, каб атрымаць іх, напрыклад, наведваць біблятэку. Тады веды застануцца, і ўсе сачыненні будуць выдатнымі. Так атрымалася і ў Святланкі. Дзяўчынка пазнаёмілася з паслом, якому вельмі спадабалася яе сачыненне. Дарэчы, Света атрымала яшчэ адзін падарунак: пасол запрасіў яе разам з бацькамі і братам наведаць Туркменістан. Празмернае захапленне школьнікаў Інтэрнэтам, нежаданне чытаць кнігі, наведваць бібліятэкі — праблема актуальная. Дарэчы, менавіта такія сучасныя дзіцячыя праблемы і ўздымае ў большасці сваіх казак Алесь Карлюкевіч.

У казцы «Вавёрка піша сачыненне» галоўныя героі Вавёрка і Дзяцел. Настаўнік Чорны Бусел загадаў ім напісаць сачыненне. Дзяцел Пятрок адразу напісаў пра свой род і тое месца, дзе нарадзіўся. Вавёрка Аленка доўга сумнявалася, пра што ж ёй напісаць, каб гэта было цікава астатнім. Дзяўчынка, а менавіта вобраз сучаснай школьніцы і хаваецца пад аблічам вавёркі, лічыла што расказ пра яе сям'ю і радзіму наўрад ці зацікавіць яе сяброў. «Алёнка, дарэмна ты сумняваешся. І тваё жыццё, і гісторыя тваіх бацькоў і дзядоў — усё гэта вельмі цікава…», — тлумачыць Алёнцы яе сябра хлопчык Пятрок. «Такое сачыненне кожны павінен сам напісаць. Пра свае ваколіцы трэба расказваць. І пра сваю сям'ю, свой род. А хто лепей роднай матулі раскажа пра далёкіх і невядомых табе продкаў?»

У згаданай казцы аўтар падымае праблему забыцця людзьмі сваіх каранёў. На жаль, некаторыя дарослыя самі амаль нічога не ведаюць пра сваіх продкаў, забываюць тыя мясціны, дзе нарадзіліся, што ж казаць пра іх дзяцей. Сёння ў процівавагу працэсу глабалізацыі мы павінны як ніколі захоўваць сваю нацыянальную культуру, і пачынаць кожнаму трэба з захавання сваёй уласнай сямейнай гісторыі.

Кніга «Зорны шлях белых гарлачыкаў» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Казкі XXI стагоддзя». І мне падаецца, менавіта такой і павінна быць сучасная кніга казак для дзяцей: разнапланавай, інфарматыўнай, інтэлектуальнай, звышактуальнай і па-сапраўднаму нашай нацыянальнай, беларускай.

Наталля САВЕТНАЯ

# ГАРАДОК ЛІТАРАТУРНЫ

## «А ты адкулечка, прыяцель?..»[1]

Кіламетрах у дваццаці на захад ад горада Гарадка, што на Віцебшчыне, размясцілася на беразе прыгожага возера вёска з назвай Астраўляны. Востраў Ляны. Паводле падання, калісьці даўным-даўно жыў тут вельмі суровы памешчык. Спадабалася яму дзяўчына Ляна, забраў ён яе ад бацькоў і прывёз да сябе ў маёнтак. Але не скарылася яму Ляна. Угневаны пан загадаў адвезці дзяўчыну на адзін з астравоў і пакінуць яе там адну на пагібель. З тых часоў і стала называцца паселішча на беразе возера Востравам Ляны.

З гістарычных жа крыніц вядома, што ў канцы XIX стагоддзя вёска гэта належала двараніну, адстаўному штаб-ротмістру Васілю Бондараву, і налічвалася ў ёй 287 сялянскіх душ. У 1834 годзе з'явілася на свет немаўля, якое ахрысцілі імем Канстанцін, па бацьку — Васільевіч. А калі ў 1851 годзе прыгонны Васільеў атрымаў вольную (дзіўна, але памешчыкі Бондаравы потым яшчэ доўга апекавалі свайго былога прыгоннага), то прапісаўся ў гарадоцкія мяшчане пад прозвішчам Вераніцын. Так, так! Той самы Вераніцын, які напісаў у Гарадку 15 красавіка 1855 гада знакамітую паэму «Тарас на Парнасе», што стала па-свойму візітнай карткай беларускай культуры і самой Беларусі.

На радзіме паэта, у вёсцы Астраўляны, і каля Гарадоцкага краязнаўчага музея ўсталяваны велізарныя камяні-валуны з памятнымі таблічкамі на іх. Калі чытаеш тэкст са словамі Алега Лойкі: «Паэма стала патрыятычнай песняй, выражэннем любові ды роднага слова, марай аб вялікім будучым беларускай літаратуры, паэтызацыяй узыходжання яе на Парнас», — мімаволі ловіш сябе на думцы, што немагчыма не захапляцца Божымі дарункамі — талентамі, якімі надзелены наш народ і, вядома, мае землякі. Невыпадкова, напэўна, менавіта гарадоцкая зямля падарыла Айчыне адоранага і… сціплага (пры жыцці аўтара паэма неаднаразова выдавалася ананімна!) паэта.

Першыя летапісныя згадванні пра Гарадок адносяцца да 1128 года ў сувязі з ваенным паходам кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча на полацкую зямлю: «В лето 6636. Посла князь Мстислав с братьею своею многи кривичи, четырьмя путями: …Всеволодка из Городка…повеле ити к Изяславу…»

У XIII стагоддзі горад быў разбураны падчас бітвы палачан з літоўскім войскам пад камандаваннем Мінгайлы. Але ў XVI ст. у летапісах зноў згадваецца каменны замак на беразе Гараджанкі, вакол якога знаходзіліся селішчы пад назвай Малы і Вялікі Гарадок. А яшчэ праз стагоддзе горад атрымаў свой герб — велізарны леў на залатым фоне. У 1781 годзе малюнак ільва змяніўся «Пагоняй» на блакітным полі з жоўтымі палосамі і элементамі расійскага герба ў верхняй частцы.

---

[1] Тут і далей у загалоўках прыводзяцца радкі з паэмы Канстанціна Вераніцына «Тарас на Парнасе».

Ганарлівыя, адважныя людзі, улюбёныя ў сваю Радзіму, жылі і жывуць на Гарадокшчыне.

Французы падчас вайны 1812 года сербанулі ліха ад гарадоцкіх партызан пад правадырствам падпалкоўніка С. Напейціна. А падчас Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі раёна дзейнічалі атрады дзевяці партызанскіх брыгад, дзве з якіх («За Савецкую Беларусь» і 2-я Беларуская імя П. К. Панамарэнкі) былі сфарміраваны на Гарадокшчыне. Ля мемарыяла «Хатынь» растуць чатыры сімвалічныя бярозы — кожны чацвёрты загінуў на Беларусі… На Віцебшчыне — кожны трэці… А ў Гарадку — кожны другі! Фашысты масава знішчалі яўрэяў, зверствавалі ў адказ на баявыя партызанскія аперацыі…

Вядомы беларускі паэт Уладзімір Скарынкін, які вырас у гэтым горадзе, перажыў разам з маці жахі фашысцкіх лагераў, страціў бацьку (загінуў на фронце ў 1945 годзе), з непадробным болем пісаў і піша пра той час.

Рускі паэт, легендарны разведчык, партызан, жыццё якога было цесна злучана з Гарадком, Ігар Грыгор’еў сваёй чулай душой успрыняўшы ўвесь трагізм ваенных гадоў невялікага горада, таксама адгукнуўся паэтычным словам:

Да, горы горя — Воробьёвы горы![1]
Они впитали столько слёз и крови,
Тоски и стонов, боли и проклятий,
Что забывать о них живым нельзя…

Не забыты подзвіг народа жыхарамі Гарадка. У цэнтры, на ваенных могілках, збудаваны мемарыяльны комплекс «Неўміручасць». Недалёка ад райвыканкама ўстаноўлены помнік у гонар воінскіх злучэнняў, якія атрымалі назву Гарадоцкіх. Пры ўездзе ў горад з паўночна-заходняга боку, па трасе Санкт-Пецярбург — Адэса ці з Полацкага кірунку, абавязкова ўбачыш помнік воінам-танкістам, што вызвалялі Гарадок ад фашыстаў — танк Т-34…

А яшчэ ў Краязнаўчым музеі Вялікай Айчыннай вайне прысвечана асобная зала. Шмат экспанатаў захоўваюць музеі Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа (стваральнік і кіраўнік — выкладчык гісторыі і філасофіі Людміла Барысаўна Гецэвіч) і школы № 1 (стварала яго старэйшы педагог, гісторык, якая шмат гадоў узначальвала Савет ветэранаў раёна, Любоў Кургановіч).

А яшчэ памяць захоўваецца ў сэрцах ужо нешматлікіх сведкаў вайны і іх шматлікіх (да шчасця!) нашчадкаў…

## «А пад гарой народу многа,
## Як бы кірмаш які кішыць...»

Нібы ў мурашніку ці ў вуллі ідзе, кіпіць добра арганізаванае жыццё ў маім маленькім, дарагім сэрцу Гарадку. А ў летку, у ліпені, горад святкуе дзень нараджэння знакамітага паэта К. Вераніцына. На плошчы, цэнтральных вуліцах, у скверы, ля фантана гучаць музыка, жарты, смех…

На роднай зямлі аўтара сатырычна-гумарыстычнай паэмы і раней народ любіў, ды і цяпер не адмовіцца ад вострага слоўца:

— Сваццявя, дай малака!
— Карова не доіцца.
— Дык тады дай хоць смятаны!

У адной хаце мае землякі смяюцца, а ў другой падхопліваюць:

— Во парсюк у мяне быў: праз парог не пералезе. А як прыйшлі яго калоць, дык ён у дзірачку пад парогам — шусь!

У трэцяй хаце весела паджартоўваюць:

[1] Вераб’ёвы горы ў гады Вялікай Айчыннай вайны — месца масавых расстрэлаў і пакарання смерцю мірных жыхароў і партызан. У 1965 годзе там, недалёка ад раённай бальніцы, устаноўлены помнік — стэла ахвярам фашызму.

— Скажы, Аўдуля, як гэта Лёньку Вольгінага завуць?

— Антонам, кажысь…

Я ж успамінаю, як аднойчы папытала ў маленстве сваю бабулю Еўдакію казку распавесці, і яна, змучаная падвечар працай і шматлікімі клопатамі, з сур'ёзным выразам твару пачала:

— Йшоў бай па сцяне, нёс лапці табе і мне… Баіць ці не?

Я вытарашчыла здзіўленыя вочы і ў прадчуванні чагосьці надзіва цікаўнага (хто такі гэты «бай»? як ён мог ісці па сцяне? чаму лапці нёс мне? адкуль ён нас з бабуляй ведае?) у знак згоды заківала галавой. І пачула далей:

— Йшоў бай па сцяне, баіў казкі табе і мне… Баіць ці не?

— Баіць, баіць, бабуля! — нецярпліва выклікнула я.

— Ну, слухай: йшоў бай па сцяне, нёс лапці табе і мне… Баіць ці не?

Калі гэта ўсё паўтарылася некалькі разоў, і я зразумела, што мяне проста ласкава дураць, то з лёгкім сумам падумала, што таямніцы няўлоўнага бая мне так ніколі і не спазнаць…

Затое я спазнала нешта большае, таму што з бабулінай дапамогай зазірнула ў невычэрпную крыніцу роднай мовы і народнай творчасці. З гэтай крыніцы чэрпалі і з уменнем выкарыстоўвалі слова шматлікія мае таленавітыя землякі.

Пісьменнік і педагог Юзаф Маралеўскі (1777—1845), які пісаў на польскай, лацінскай і рускай мовах, друкаваўся ў часопісах «Полацкі штомесячнік» і «Веснік Еўропы», узначальваў Полацкую акадэмію ў 1816—1818 гг., па некаторых звестках выхадзец з Гарадка.

Вядомы публіцыст, рэдактар, літаратурны крытык Ангел Багдановіч (1860—1907), які сябраваў з пісьменнікам В. Караленкам, узначальваў часопіс «Свет Божы», у склад рэдкалегіі якога ўваходзілі Ф. Бацюшкоў, А. Купрын і інш., высока шанаваў і падтрымліваў І. Буніна, В. Верасаева, Д. Маміна-Сібірака, А. Чэхава, маладых М. Горкага і Л. Андрэева, нарадзіўся і вырас у Гарадку.

У аснову гумарыстычных твораў рускага паэта і перакладчыка Ігната Бяляева ўвайшлі беларускія матэрыялы. Асобныя яго творы перакладзены на беларускую мову Э. Валасевічам і М. Казаковым. А сам І. Бяляеў пераўвасобіў па-руску вершы М. Аўрамчыка, Н. Гілевіча, С. Грахоўскага і інш.

Творы гарадакчаніна Мікалая Воранава друкаваліся не толькі ў беларускіх газетах і часопісе «Маладосць», але і перакладаліся на рускую, украінскую, балгарскую і чувашскую мовы.

Журналіст і пісьменнік Генадзь Шмань пачынаў свой творчы шлях з працы ў газеце «Віцебскі рабочы», а пасля заканчэння Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве ў 1961 годзе выдаў больш як дзясятак кніг вершаў і прозы на беларускай і рускай мовах.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Уладзімір Хазанскі сорак з лішнім гадоў з'яўляўся ўласным карэспандэнтам газеты «Чырвоная змена» па Віцебскай вобласці.

А Аляксандр Сімураў, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, працаваў у газеце «Правда» і напісаў шмат кніг.

Заслужаны дзеяч культуры Беларусі, які ў свой час працаваў намеснікам рэдактара газеты «Зорька», у Дзяржаўным камітэце БССР па друку, у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», Мікалай Філімонаў нарадзіўся ў вёсцы Асеткі Гарадоцкага раёна і пасля заканчэння Віцебскага педагагічнага інстытута выкладаў і быў у мясцовых школах.

Лёсам злучаны з Гарадком заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі, акадэмік, біёлаг і паэт Алесь Вечар. У 30-х гадах мінулага стагоддзя ён выкладаў у Гарадоцкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі.

Паэт Генадзь Дзмітрыеў, які з 1999 года працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», і вядомы журналіст, публіцыст-аналітык, кінасцэнарыст-дакументаліст, пераможца і лаўрэат шматлікіх рэспубліканскіх конкурсаў журналісцкага майстэрства Валерый Драздоў — адзіны карэспандэнт, які прысутнічаў падчас падпісання Белавежскай дамовы ва ўрадавай рэзідэнцыі Віскулі 8 снежня 1991 года, таксама выхадцы з Гарадокшчыны.

Гутарачы з удавой паэта І. Грыгор’ева Дзінай Васільеўнай, я даведалася цікавыя факты з біяграфіі вядомага рускага пісьменніка Фёдара Абрамава, які сябраваў з іх сям’ёй. У канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя Фёдар Аляксандравіч разам з жонкай, літаратурным крытыкам Людмілай Круцікавай-Абрамавай, тыднямі гасцяваў у Гарадку ў бацькоў Дзіны Васільеўны — дырэктара беларускай школы № 1 Васіля Захарава і настаўніцы Вольгі Шалаевай. Спыняліся яны і ў гаспадыні ў вёсцы Бабарыкі. Размяшчаліся, як правіла, на сенавале. Пасля ўдалай рыбалкі, за духмянай юшкай, вяліся доўгія размовы, да якіх прыслухоўваўся і маленькі сын паэта Рыгор, цяпер заслужаны ўрач Расійскай Федэрацыі, доктар медыцынскіх навук, сябра Саюза пісьменнікаў Расіі дыякан Рыгор Грыгор’еў. У Гарадку ён напісаў «Казку пра Алю і Аля» — твор пра барацьбу святла і цемры, дабра і зла і кнігу «Напярэдадні цуду», якія мелі велізарныя тыражы і імгненна разышліся.

А Ф. Абрамаў, напэўна, натхнёны прыгажосцю і жыццёвай энергіяй маладых хваёвых дрэў, пасаджаных жыхарамі горада на Вераб’ёвых гарах, напісаў у 1962 годзе апавяданне «Хваёвыя дзеці»…

## «Ўсе з сабой цягаюць кніжкі…»

Традыцыя правядзення паэтычнага свята нарадзілася падчас юбілейных дат: 175 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Вераніцына, 120 гадоў першай публікацыі паэмы «Тарас на Парнасе» і 70-годдзе паэта і перакладчыка У. Скарынкіна. У 2009 годзе ўпершыню ў гісторыі Гарадка пачаў сваё існаванне і літаратурны клуб «Гарадзянка» пры раённай цэнтральнай бібліятэцы. Нарадзіўся ён па ініцыятыве намесніка дырэктара ЦБС, прыхільніцы паэзіі Вольгі Івановай, а таксама аўтара гэтага артыкула, і аб’яднаў аматараў літаратуры.

У дні свята ў самым рамантычным месцы горада, у скверы ля фантана, збіраюцца прыхільнікі паэтычнага слова і аўтарскай песні. У такія хвіліны думаецца, што сцвярджэнне сяго-таго аб тым, быццам паэзія не патрэбна сёння нікому акрамя паэтаў і што ў наш час народ не любіць і не разумее паэтычнае слова, не любіць чытаць літаратуру, памылковае.

Нядаўна, зазірнуўшы на пошту, убачыла, як мужчына сярэдніх гадоў, са шчасліваззяючымі вачамі, атрымліваў пасылку і пры гэтым без усякага шкадавання расставаўся з прыстойнай сумай грошай, аплачваючы накладны плацёж. Важкі пакет быў абкручаны крыж-накрыж фірмавай ліпкай стужкай з нейкім надпісам. Я мімаволі прыгледзелася і прачытала наступнае: «Клуб аматараў чытання». Выходзіла, что ў пасылцы знаходзіліся кнігі! Шчыра кажучы, я здзівілася…

## У бібліятэк свае справы

Загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Валянціна Сікорская, выдатна валодаючы інфармацыяй, распавяла мне, што ўжо ў далёкім 1909 годзе ў Гарадку існавала папярэдніца цяперашняй бібліятэкі — бібліятэка імя А. С. Пушкіна. На грамадскіх пачатках сачыў за захаванасцю фонду і выдаваў кнігі судовы следчы. Чытачоў было 200 чалавек.

У 1920-х гадах у горадзе і раёне працавала 6 бібліятэк, фонд якіх складаў 5225 кніг. Перад Вялікай Айчыннай вайной было 197 бібліятэк з фондам 74 800 кніг. А цяпер жа ў 32-х бібліятэках 314 571 асобнік бібліятэчных дакументаў, якімі летась карысталіся 16 426 чалавек, пры гэтым кнігавыдача склала 337 254 асобнікі! У выхадныя ў цэнтральнай раённай бібліятэцы выдаюць па абанеменце да двухсот кніг. Гэта не мала…

Мяне зацікавіла: а як жа чытаюць на сяле? Ці чытаюць дзеці? Выявілася, што амаль 80 працэнтаў сельскага насельніцтва і жыхароў аграгарадкоў з'яўляюцца актыўнымі карыстальнікамі бібліятэчных паслуг. Працэнт ахопу дзяцей на сяле здзівіў — 113 працэнтаў! Гэта як жа такое можа быць?

— Усё проста! Прыблізна працэнтаў 95—98 — мясцовыя дзеткі, а астатнія — дзеці, якія прыязджаюць з гарадоў на канікулы да бабуль і дзядуль.

— Якой літаратурай цікавяцца цяпер чытачы? Пенсіянеры? Моладзь?

Адказ на гэта пытанне мне далі бібліятэкары з вялікім вопытам працы Наталля Гушчанка, Надзея Рагачова, Галіна Максімава. Пытаюць усё часцей кнігі… для душы, тыя, у якіх святло і чысціня. Ахвотна чытаюць пра сучаснае жыццё, пра сучасных людзей, цікавяцца… вершамі! Цікава, што жанчыны аддаюць перавагу аўтарам-жанчынам, мужчыны — наадварот. Ім падавай дэтэктыў, фантастыку, гістарычныя кнігі. Адчувальны ўсплёск цікавасці да твораў Пікуля. Чытаюць і рускіх аўтараў, і беларускіх, па-беларуску і па-руску.

— А ці карыстаюцца попытам літаратурна-мастацкія часопісы?

Бібліятэкары адкрылі перада мной сшытак уліку:

— Паглядзіце, пераканайцеся самі! Пяцьдзясят, а то і семдзесят часопісаў у дзень выдаём на рукі. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца «Нёман», усё-такі большасць нашых чытачоў размаўляе па-руску (граніца з Расіяй побач), затым «Полымя» і «Маладосць», з расійскіх выданняў любяць чытаць «Наш современник», «Новый мир», «Октябрь» і іншыя. Гэта толькі на абанеменце, а ёсць жа і чытальная зала.

Ніна Пушкова, гаспадыня яе, у цэнтральнай раённай бібліятэцы працуе з 1976 года і жартаўліва называе сябе «бібліятэчным зубрам». На пытанне: «Ці змяніўся чытацкі попыт за апошні час?» — адказала:

— Вядома, змяніўся. Памятаю часы, калі праблематычна было знайсці вольнае месца ў зале для ўсіх ахвотнікаў скарыстацца нашымі фондамі. Зараз жа камп'ютары ёсць практычна ў кожнай хаце, моладзь актыўна выкарыстоўвае для пошуку неабходнай інфармацыі Інтэрнэт. Але попытам, па-ранейшаму, карыстаюцца падшыўкі розных газет і часопісаў, даведкавая і галіновая літаратура, энцыклапедыі, матэрыялы мінулых гадоў, якія не маглі яшчэ патрапіць у інтэрнэтную сетку. На працягу года паслугамі чытальнай залы карысталіся звыш адной тысячы чалавек, а кнігавыдача складае 20 тысяч асобнікаў. Практыкуем і такія формы працы, як выдача бібліятэчных матэрыялаў для хатняга чытання на ноч ці на некалькі гадзін днём. Праўда, такая паслуга платная.

— Ці маюць доступ да фондаў ЦБС жыхары аддаленых вёсак? — цікаўлюся ў Вольгі Івановай.

— Па мэтавай праграме «Кнігу — у кожнае сяло!» з 2007 года мы арганізавалі працу бібліобуса — бібліятэку на колах, якая абслугоўвае 44 самыя аддаленыя і маланаселеныя вёскі раёна.

— Чым можаце здзівіць, якімі інавацыямі ў арганізацыі бібліятэчнай сеткі ў наш камерцыйны час? — пытаю ў дырэктара ЦБС.

Ада Абрамава ўсміхаецца:

— Ёсць у нас свае знаходкі… А як жа без іх? Нездарма штогод з'яўляемся прызёрамі абласных і рэспубліканскіх конкурсаў.

Цяпер ёсць такое веянне — ствараць бібліятэкі новага тыпу: «Бібліятэка аграгарадка», «Бібліятэка — клуб», прафіляваныя бібліятэкі. Тут у нас поспех.

У аграгарадку «Пальмінка» пры фінансавай падтрымцы абласнога кіравання культуры з 2006 гада працуе «Бібліятэка-школа здаровага ладу жыцця». Узначальвае яе таленавіты чалавек Тамара Краўцова, якая арганізуе шматлікія мерапрыемствы, запрашае чытачоў у трэнажорную залу, прапануе адпачыць ля хатняга кінатэатра ці пагуляць у настольныя гульні.

Віраўлянская бібліятэка (бібліятэкар Ала Якубава) — лепшая па добраўпарадкаванні тэрыторыі, таму і профіль у яе адпаведны — «Школа па добраўпарадкаванні тэрыторыі для насельніцтва».

Халамерская бібліятэка стала цэнтрам фальклору і народных традыцый, а бібліятэкар, яна ж кіраўнік клуба «Вечарына», Таццяна Раева, актыўная іх збіральніца, выдатны баяніст, разам з народным калектывам «Азерыца» (кіраўнік Жана Комава) прадстаўлялі раён на VI адкрытым фестывалі фальклорнага мастацтва імя Вольгі Сяргеевай у г. Усвяты Пскоўскай вобласці (Расія) і чарговы раз вярнуліся пераможцамі.

Ёсць у нас нават «Бібліятэка-цэнтр экалагічных ведаў». У далёкую вёску Рудня шмат гадоў назад не пабаялася паехаць на пастаяннае месца жыхарства бібліятэкар з вышэйшай адукацыяй Людміла Васільева. Вярнулася да састарэлых бацькоў, не змагла іх, бездапаможных, кінуць. Там і дзяцей сваіх нарадзіла і выгадавала, там стала адным з лепшых бібліятэкараў краіны.

— А грошы зарабляць у Гарадоцкай ЦБС навучыліся?

— Памяркуеце самі, — зноў падключылася да размовы Валянціна Сікорская, — у наш час мы прапаноўваем чытачам 31 від платных паслуг, летась атрымалі за гэта 16 мільёнаў 33 тысячы рублёў, у тым ліку 8 мільёнаў 265 тысяч зароблена сельскімі бібліятэкамі…

Зараз жа вернемся да разважанняў пра тое, ці чытаюцца ў наш камп’ютарны час кнігі? А ці магчыма было б атрымаць за прадстаўленыя бібліятэкамі паслугі, напрыклад, тыя ж, вышэйпаказаныя мільёны, калі б не было чытачоў літаратуры?

## «Усё там кніжкі ды газеты…»

Сярод гледачоў і слухачоў на лавачцы ля фантана абавязкова сустрэнеш заўсёдных наведвальнікаў культурных мерапрыемстваў — супрацоўнікаў раённай газеты «Гарадоцкі веснік». Намеснік галоўнага рэдактара Людміла Мукамол, таленавіты ад Бога чалавек, якраз з тых, каго заспець без кнігі ў руцэ складана.

…Маленькая Люда навучылася чытаць самастойна к шасці гадам. Яе маці, работніца Тульскай керамічнай фабрыкі, нават не заўважыла, што дачка не проста малюначкі ў дзіцячых кніжках уважліва разглядае, а паціху збірае з літар і складоў слова. У 10 гадоў Люда да выбраных ёю сказаў з кніжкі японскіх казак і вершаў любіла выдумляць рыфмаваныя радкі, а ў дванаццаць напісала свой першы верш. Вершы яна піша і цяпер, праўда, як прызнаецца, вельмі рэдка. Аднак у рубрыцы «Літаратурная старонка» раённай газеты яе ўпрыгожваннем з’яўляюцца паэтычныя творы менавіта Л. Мукамол.

Скончыла факультэт журналістыкі БДУ, але працаваць па спецыяльнасці шмат гадоў не мела магчымасці, бо выйшла замуж за афіцэра. З-за кахання адмовілася ад выгаднай прапановы перавесціся з трэцяга курса на факультэт міжнароднай журналістыкі МДУ, а выбралі для пераводу з курса ўсяго двух студэнтаў, у тым ліку і яе. Але маладая жонка пакорліва адправілася за сваім суджанным вандраваць з аднаго ваеннага гарадка ў другі, пакуль не спыніліся ў Гарадку раённым.

У 1998 годзе Л. Мукамол стала супрацоўнікам газеты «Гарадоцкі веснік», а з 2004-га нязменны намеснік галоўнага рэдактара. Калі пайшоў на пенсію галоўны, працяглы час выконвала яго абавязкі, але прыняць пасаду адмовілася, саступіла яе маладому і энергічнаму Андрэю Захараву, выпускніку філфака Віцебскага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Людмілу Іванаўну заўсёды прыцягваў і прыцягвае ў працы творчы пачатак, ёй цікавы Чалавек, яго лёс, характар, здольнасці і… Мара. Таму шматлікія матэрыялы, напісаныя Л. Мукамол, цікавыя і адразу прыцягваюць чытацкую ўвагу.

Мікалай Краўцоў — адзін з найстарэйшых супрацоўнікаў «раёнкі», пачынаў фотакарэспандэнтам, ды цяпер не расстаецца з фотаапаратам. Здымае гісторыю…

Пасля заканчэння ў 1976 годзе аддзялення журналістыкі Мінскай вышэйшай партыйнай школы Мікалай Іванавіч шмат гадоў узначальваў газету, перажыў

разам з ёй так званыя гады перабудовы, калі яму давялося аднаму (у рэдакцыі зусім не засталося творчых работнікаў) больш як месяц рабіць усе нумары. Напэўна, ніхто лепш яго не змог бы распавесці гісторыю «раёнкі»:

— Наша газета, па чалавечых мерках, дажыла ўжо да пажылога ўзросту, у сакавіку наступнага года ёй споўніцца 92. Нарадзілася яна ў далёкім 1919 годзе пад назвай «Весткі Гарадоцкага выканаўчага камітэта Рады працоўных і сялянскіх дэпутатаў», але яшчэ сем разоў змяняла сваю назву, у нейкай ступені адлюстроўваючы палітычныя і эканамічныя пераўтварэнні ў жыцці раёна і ўсёй краіны. Па гэтых назвах можна прасачыць гістарычныя вехі Савецкага Саюза: 1930 год — «За сацыялістычнае сяло», 1931 — «Калгасная праўда», 1938 — «Бальшавіцкая праўда», 1956 — «Сталінскі заклік», 1957 — «Прамень камунізму». Як «Гарадоцкі веснік» выходзіць з 1991 года.

Задача невялікага творчага калектыву, які складаецца ўсяго з чатырох чалавек, на сённяшні дзень стала больш складанай: патрабуецца не толькі весткі-навіны паведамляць, але і ўдумліва, разумна аналізаваць падзеі. І старэйшыя, і маладыя журналісты з гэтым спраўляюцца ўмела. Пад кіраўніцтвам маладога рэдактара тэматыка матэрыялаў набывае свежасць і навізну, пільная ўвага надаецца зваротнай сувязі з чытачом. А тэма царкоўна-духоўнага жыцця — па-за часам і па-за ўзростам чытача — цікавая ўсім. Мяне невымоўна цешыць, як непазнавальна змянілася за апошнія гады паліграфічная база — ручны, лінатыпны і фотанабор саступілі месца камп'ютарнаму і афсетнаму друку. Газета выходзіць два разы на тыдзень, яе суботні нумар прыцягвае ўвагу яркімі фарбамі афармлення, з'явілася і электронная версія выдання.

Аднойчы я падумаў, што калі паспрабаваць сабраць усе нумары газеты, амаль 9 тысяч, у адну кнігу, то яна атрымаецца такая, якой на свяце яшчэ і не было!

— Мікалай Іванавіч, за доўгія гады існавання раённая газета, відаць, давала свае старонкі добравядомым, магчыма, нават знакамітым аўтарам?

— Без гэтага не абышлося. Думаю, што кожны будучы літаратар ці журналіст, становячыся «на крыло», спрабуе сябе спачатку на старонках мясцовых газет. Аднойчы, калі я рыхтаваў матэрыялы для юбілейнага нумара і праглядаў гістарычныя дакументы, то выявіў наступны цікавы факт. Беларускі пісьменнік, публіцыст і этнограф Аляксандр Пчолка, у наш час даволі вядомы нашым сучаснікам, з 1918 па 1921 год жыў разам з сям'ёй спачатку ў вёсцы Стары Болецк, што недалёка ад Гарадка, затым у самым горадзе. Працаваў ён у аддзеле народнай адукацыі і з вялікім задавальненнем выступаў перад працоўнымі калектывамі, выкладчыцкімі і вучнёўскімі аўдыторыямі, захоплена распавядаючы пра паходжанне і значэнне народных традыцый, спяваў песні, чытаў свае лепшыя аповеды і вершы, якія высока шанавалі М. Гарэцкі, Я. Карскі, М. Довнар-Запольскі. У 1920 годзе Аляксандр Пчолка быў прызначаны карэспандэнтам Гарадоцкага павятовага аддзялення РОСТА. У гэта ж час ён актыўна друкаваўся і ў нашай газеце...

## «Гляджу я: мусіць, ужо вечар, Бо маладзік на неба ўзлез...»

Даўно скончылася Вераніцынскае свята. Пара і мне завяршаць гэты нарыс пра Гарадокшчыну літаратурную. Пагадзіцеся, што толькі тут і мог нарадзіцца аўтар знакамітай паэмы «Тарас на Парнасе».

*Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.*
*Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.*
*У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.*

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на II паўгоддзе 2011 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6710 руб.
на 3 месяцы — 20 130 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 10 350 руб.
на 3 месяцы — 31 050 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 17 032 руб.
на 3 месяцы — 51 096 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 13 812 руб.
на 3 месяцы — 41 436 руб.

**e-mail: polymya@bk.ru**

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверавай*

Падпісана ў друк 07.07.11 г. Фармат 70×108[1]/[16]. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,91. Тыраж 2894 экз. Заказ 1764.
Кошт нумара ў розніцу 12 500 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.